ВІКТАР ГОВАР

# ПЯЛЁСТАК І КРЫШТАЛЬ



ВІКТАР ГОВАР

# ПЯЛЁСТАК І КРЫШТАЛЬ

Раман



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1990

ББК 84Бел7
Г57

Рэцэнзенты Леў Анінскі,
А. П. Грыцкевіч, доктар гістарычных навук,
Уладзімір Шыцік

Мастак У. А. Бойка

Тяжелый соборный колокол бьет из прошлого. Наш стремительный научный и технический век ощущает его зовущие удары... И наше прошлое — с нами. Не в ущерб движению в будущее, но в развитие и обогащение.

Таково биение мысли и чувства художественно-исторической и публицистическо-искусствоведческой книги Виктора Говора. Автор увлекательно рассказывает об исторических событиях XVII столетия, о жизни и ремесле известных белорусских мастеров того времени.

Г $\frac{4702120201-103}{М 302(03)-90}$ 9—90

ISBN 5-340-00425-2

# КОНІ РЖУЦЬ ЗА СУЛАЙ

●

## Роздум першы

Прамая лінія
адзіна нятворчая лінія.
Адзіная лінія, якая
не спалучаецца з чалавекам.
Прамая лінія сапраўдная
зброя д'ябла.
Яна садзейнічае
разбурэнню чалавечнасці,
вядзе да яе страты.

*Хундартвасар*



## 1

Коні ржуць за Сулай, звініць слава ў Кіеве!..

Праскочылі Сулу. Цяжка сказаць, што за яна. Рака як рака, і мост як мост, і асфальт як асфальт.

Вось ужо Псёл і Харол.

> Дым-дымок ад машын,
> Як дзяўчо маладая.
> Харол-горад другі,
> Харол-рэчка другая.

І тут усё абыклае. І мост, і асфальт, і мернае выццё матора, і шаргаценне шын, і цёплы ветрык у акно, і стрэчныя машыны, што так ляцяць — здаецца, угінаецца сама прастора. Ды і мы з машынай, калі меркаваць па посвісце ветру, імчалі дай божа...

Трэба было прыпыніцца, трэба было засіліць з гэтых старажытных рэк «шаломам» вады, каб «іспіці», як пелася ў вельмі і вельмі даўніх песнях. Але машына неспыняемая істота. Калі кінута чыстая стужка асфальту, ды не зламаўся матор, ды не лёг упоперак дарогі велізарны рэфрыжэратар, яна імчыць і імчыць, быццам разумее, што ў мяне няма ніякага «шалома», а ёсць звычайны крамны кубак, белы, эмаліраваны, і зачарпнуць вады з Сулы ці Харола — гэта яшчэ праблема: ці можна піць яе наогул, бо і Харол-горад другі, і Харол-рэчка другая...

Я — жыхар новай цывілізацыі.

І ўсё ж калі на пару хвілін прыпыняюся збоч магістралі, каб размяць знямелыя ногі — па дарозе з выццём і посвістам праносяцца машыны,— нейкім унутраным імпэтам разумею: яшчэ не ўвесь свет прасякнуты аўта-, урба-, тэле-, радыё-, электратэхнікай. Падаецца,

недзе за дарожнай канавай і лесаахоўнай паласой іншае жыццё. Старажытнае, устойлівае — непахісная апора.

Пакідаю машыну на дарозе і праз канаву, лясочак, поле іду. Прыцішыўся роў асфальту, ужо лётаюць матылі, спяваюць птушкі. Водар. Пах свежага сена. Посвіст кос. І раптам — коні ржуць! Коні ржуць за Сулай! Ля рэчкі-рачулкі табунок стрыножаных коней, і нейкі, пачуўшы незнаёмца, падаў трывожны голас.

А я лёгка, іранічна дэкламаваў радкі, вядомыя са школьных часоў, нібы калыхаў далёкую і немагчымую гісторыю. Але вось яна, Сула, і вось яны, коні, што сапраўды ржуць!

Прабую нагой зямлю, прыціскаю яе, прыгінаю травы, быццам хачу пераканацца, што зямля старажытная і спрадвечная. Тая ж! І тыя пры рэчцы купіны, па якіх бег з палавецкага палону князь Ігар, і той жа лясочак, дзе ён адпачываў. Можа, і коні яго? І хлопчык, што ідзе за імі, не вучань шостага «А» класа, а Ігараў памочнік, мясцовы павадыр, у яго такая ж, як у таго павадыра, лёгкая, расхрыстаная да пупка, белая сарочка і загорнутыя па калені штаны, і ён такі ж босы, і гэтак жа свішча, падманьваючы коней...

А Ігар-князь паскакаў гарнастаем да трыснягу і белым гогалем на ваду. Ускочыў на быстрага каня, а саскочыў з яго шэрым воўкам...

І я чакаю ночы, чакаю расы, чакаю сарочага стракату. Бачу, як нікнуць вечаровыя кветкі і «тужліва прыхілілася дрэва да зямлі».

І соладка ў такой няяснасці — прайшла ці не прайшла гэтая тысяча гадоў з часу северскага князя Ігара? Пад зорным небам, ля рачулкі, побач з коньмі, што ціхутка фыркаюць, ля цяжкіх ад расы халодных начных траў — усё гэтак і было пры Ігару. І я недаўменна пляскаю далонню па жалезных баках сваёй машыны. Яна

не дазваляе азірнуцца назад, імчыць часам невядома куды...

Гляджу на буйныя начныя зоркі, на глыбокае неба і думаю пра нашу людскую хімерычнасць. Мы жывём толькі акрайкам душы. Сёння жыццё складанае і насычанае, дай бог прыспець там, дзе трэба. Будні маюць шмат клопатаў і праблем, гэта засмоктвае, як рух машыны...

Адчуваю, як паміраюць пад калёсамі машыны халодныя росныя травы. Не, я паважаю машыну — магчымасць пажыраць прастору. Аднак мне зараз неспакойна. Машына рвецца ўперад. Можа, заўтра, нават не зразумеўшы, яна адбярэ ў гэтых коней і луг, і дрэвы, і зоркі, і яны не будуць ведаць, каму ржаць...

Так і здарылася на гэтых землях праз колькі часу. Толькі прайшоў тут экспедыцыямі, дамагаючыся ўхапіць, як аказалася, апошнюю тысячагадовую культуру вялікага народа, уздыбіўся «мірны атам» Чарнобыля. Счарнелі лясы, сталі атрутнымі травы, само паветра напоўнілася пахам тлення.

Удвая, утрая шанаванне таму, што яшчэ захавалася, дзе яшчэ пасвяцца табункі пры рэчцы. І дай жа божа неаднойчы ўбачыць тую цудоўную ноч, калі спыняецца бег часу. Ноч у зорках і цяжкіх росных травах. Так, гэта не паўсядзённае, як хлеб, гэта нават залішняе, што раскоша. Але без такога жыць проста немагчыма. Пад гэтым зорным небам пачуваеш сябе не толькі новым, але і вечным.

## 2

Яму не трэба разьбы і іншых упрыгожанняў. Шэрае, амаль чорнае дрэва, гладкія матавыя бакі, плаўныя мяккія лініі. Быццам ракавіна, лісток, рыбіна. Човен такі дасканалы, што, здаецца, выгаблеваны самой пры-

родай, вынайдзены яе шматвекавым разуменнем, калі вызнана лепшае з лепшага.

А рабіў яго сякерай ды цяслом паляшук на далёкіх палескіх азёрах.

Дрэва было старое, такім яго толькі памяталі. Відаць, калісьці тут шумеў лес. Яго высеклі, пакінуўшы гэта дрэва. Яно расло ў растрыбушаных лядах. Магчыма, землі потым узаралі, а праз колькі часу запусцілі пад лес. Асіна расла ды расла, карэнні гналі маладыя парасткі. І вакол зашумеў асіннік. Лес так і звалі: Старая асіна. Чалавек змалку ведаў гэтыя мясціны. У які год ля старой асіны збіраў не толькі кошык — здымаў кашулю, завязваў хахол і набіваў моцнымі маладымі чырвонагаловікамі.

А потым чалавек прыйшоў з сякераю. Спатрэбіўся човен — дабірацца да вялікага горада, каб можна было пакласці і падстрэленага вепрука, і дзесятак ліпавак з мёдам, і колькі авечак і мяхоў зерня.

Асіна расла ля пратокі, што ішла да возера, вагамі камель можна было пасунуць да вады — так што, шкадуй не шкадуй, а старую асіну даводзілася секчы.

Чалавек абушком сякеры лёгка стукнуў па гладкім зеленакорым ствале. Удар увайшоў у дрэва і зазвінеў усярэдзіне. «Моцнае дрэва, пругкае, як струна»,— вызначыў чалавек. Дрэва роўна, высока і весела гуло трапяткім лісцем, не разумеючы, што побач стаіць чалавек з сякераю. Чалавек палашчыў шурпатай далонню гладкую кару, потым абышоў дрэва, яшчэ раз глянуў на далёкае неспакойнае лісце, перахрысціў дрэва і ўздыхнуў. «Шкада цябе, такога дрэва,— сказаў ён услых,— прабач мне, але човен будзе не горшы».

І вострае лязо сякеры ўвайшло ў белае, як цела, дрэва.

Не, у чалавека не было дакору. Так, ён шкадаваў дрэва, як свінню, карову, птушку, як усялякага дзікага

звера і матыля, як жыта, якое патрэбна жаць, і траву, якую патрэбна касіць. Але ён думаў, што існуе завядзёнка на зямлі, і калі трэба касіць, то трэба касіць, а калі рэзаць ці секчы, то таксама патрэбна. І старая асіна ўваходзіла ў гэты кругазварот жыцця.

Чалавек з адмашкай і з усёй моцай кідаў у белую ззяючую пастку падрубу вострае лязо сякеры.

Ён і раней думаў пра дзіўныя зямныя законы. Чаму яны такія? Лічыў, што не ўсё правільна. Узяць бы гэтую асіну: невядома, ці прыняла крыж яе душа? Ці не адпомсціць чалавеку, калі будзе чоўнам? Бывалі такія выпадкі — човен раптам без дай прычыны пераварочваўся, гінула дабро і сам гаспадар. Таму чалавек, адпачываючы, клаў на гладкую кару далонь, нібыта ўлагоджваючы дрэва, шаптаў добрыя словы.

Дрэва, мяркуючы па падрубе, было значна таўсцейшае, чым падалося, чалавек доўга сек да стрыжня. Часам у асін сярэдзіна трухлявая — такое дзівотнае дрэва. У вадзе доўга не гніе, а жывое — дуплістае. Аднак у гэтага волата зялёная кара, а такія асіны, як заўважылі даўно, не трухлявеюць. Слава богу, там, ля асяродка, сякера зазвінела і адскочыла, што ад дуба.

Потым чалавек зрабіў падсечку збоку ад ветру, увесь час слухаў, ці не пачало дрэва пастрэльваць. О, ёсць, ёсць... Чалавек адышоў, узняў пагляд да неба. Дрэва дрыжэла, нібы чула смерць. Чалавеку сталася ніякавата, душа дрэва скардзілася. «Човен будзе не горшы,— супакойваў сябе і дрэва чалавек.— Добры будзе човен. Нават другі выйдзе — па рыбу хадзіць. Добрае дрэва, прабач мне, добры будзе човен».

Дрэва крыху нахілілася — з неахвотаю, развітваючыся з вышынёй, і ўдало ў зямлю, што пярун — водгулле рэха пайшло гуляць па навакольных гаях.

Дрэва ціха ляжала на зямлі, а лісце трымцела, жывое. Чалавек са здзіўленнем некаторы час глядзеў на

зваленага асілка, потым крокамі вымераў даўжыню чоўна, што павінен быць на два крокі даўжэйшы за самы вялікі човен на вёсцы.

Часаць давялося на беразе возера — на такі велізарны камель не знайшлося воза. Выкацілі вагамі на пясок, і чалавек амаль адразу ўзяўся за сякеру — лацвей часаць сырое. Закругліць насы — не так цяжка, галоўнае — выбраць сярэдзіну. Чалавек працаваў паўкруглым цяслом ад золку да золку, хутка побач вырасла белая гара з трэсак. Прыходзілі людзі, дзівіліся велізарнаму камлю, таўкліся дзеці, раскрывалі раты, назіраючы, як чалавек лоўка працаваў цяслом. Але работа з кожным днём прымаруджвалася. Сценкі чоўна танчэлі, і іх нельга было залішне счэсваць, бо такому чоўну нядоўгі век, але і занадта грубымі нельга было пакідаць — човен не рассунеш ушыркі нават пры вельмі моцным запарванні, сценкі з месца не зрушацца альбо якая трэсне — уся работа кату пад хвост. Чалавек працаваў надзвычай пільна. Ён не свідраваў на таўшчыню сценак чоўна дзірачкі, каб ведаць, да якога месца часаць, ён прызвычаіўся па гуку цясла вызначаць, ці многа яшчэ выбіраць. А то пастукваў костачкамі пальцаў з сярэдзіны чоўна, прыставіўшы звонку далонь, і па ледзь улоўным дрыгценні вызначаў таўшчыню. О, то была амаль ювелірная работа!

Нарэшце чалавеку пачало здавацца, што човен нагадвае дрэва, старую асіну, яе зеленакоры ствол, роўны і бліскучы.

Старанна выгаблевана сярэдзіна, бездакорна ачэсана ўсё знадворку.

Потым пару гадоў човен ляжаў пад паветкай і завяльваўся, што кумпяк, ён нібыта цвярдзеў, набываючы будучую лёгкасць і звонкасць. Пасля яго прытапілі ў возеры, накідаўшы камення, і, нарэшце, прыступілі да галоўнага пераўтварэння. Паставілі човен на козлы,

налілі ў яго ваду, распалілі пад ім ва ўсю даўжыню негарачае вогнішча і пачалі кідаць у яго сярэдзіну велізарныя напаленыя камяні так, што вада віравала.

Насы пачалі падымацца ўгору. Адну за другой чалавек убіваў яловыя лапы-распоркі, гнуткія і спружынныя, рассоўваючы ўшыркі гарачыя распараныя бакі. З раўнюткага ствала ўзнікалі абрысы чоўна-прыгажуна. Раней, робячы гэтую работу, чалавек заміраў сэрцам. Магчыма, удар будзе апошні, човен коратка стрэліць, і бок адваліцца. Але потым чалавек навучыўся разумець кожнае сваё намаганне, і зараз ён так дакладна і далікатна біў, каб чоўну не было занадта цяжка, але каб ён наспружыньваўся, што сталёвая мышца, бо толькі ў рабоце мышца становіцца моцнай і пругкай. Човен меў свой гонар. Ён рассоўваўся нават з лёгкасцю. Майстар адышоў убок і глянуў. «Які човен! Велькі, прыгожы. Ото добра будзе таму дрэву быць такім чоўнам!»

А з меншай калоды выйшаў маленькі човен, лёгкі, спрытны, паляўнічы. Яго можна проста ўзяць пад паху і шыбаваць да ракі. Праўда, ён не такі ўстойлівы. Звычайна яго трымаюць у каленях. Каленямі становішся на дно, падкладаеш для сядзення дошчачку і трымаеш гэтую хісткую лёгкую шкарлупінку ў каленях. Крыху больш пацісне́ш правай нагой — човен управа хіліцца, да самай вады, з перапуду — на левую, і ён улева. Скача, бы п'яны. А бывалі выпадкі: прыспіць хто на мінуту — адразу ляціць у ваду. На такім чоўне патрэбен спрыт, каб ён ішоў роўна, каб вясло, якім грабуць з аднаго боку, мела строга вызначаную лінію руху — недалёка ад чоўна, бо ён адразу павернецца назад, і не занадта блізка, бо паляціш у ваду. А ў канцы грабка вясло трэба плаўна павярнуць і крыху, ледзь заўважна, адштурхнуцца ўбок для роўнасці ходу. О, гэта цэлае мастацтва ісці на такім чоўне. Але якую незвычайную асалоду спазнаеш, калі раптам адчуеш, што тваё цела

злілося, стала адзіным з гэтай капрызнай, мілай і такой паслухмянай істотай. Бы лебедзь, слізгоча па спакойнай шырокай вадзе. Ідзе нячутна, нават не зморшчыцца воднае люстэрка. Быццам лунае над ім — у нейкім векавым зачараваным сне. Стаяць ціхія бязлістыя дрэвы па пояс у вадзе, пад кустамі дрэмлюць чорныя велізарныя шчупакі, белыя воблачкі адбіваюцца на шырокім блакіце...

## 3

Прагляну́ў дух, высокі і дасканалы, і майстар са здзіўленнем і павагай узіраецца ў высокі дух.

Залатая і ззяючая прастора ракатала магутным басам, нізкім, густым, здавалася, рокат выпраменьвалі сцены, падлога, шкло, фрэскі, быццам гаварыла сама зямля — гук грозны, салодкі, урачысты, што цяжкія княжацкія мяды. І з яго, нізкага і магутнага, нечакана лёгка, як птушкі, узняліся стромкія жаночыя галасы, запоўнілі ўвесь купал, дзе ў яркіх сонечных промнях хадзіў блакітны дымок...

Зноў паглядзеў на яго і пачаў спакваля спасцігаць няўлоўнае, што схавана ў нетрах матэрыяльнага знаку. Так, высокае, але з зямнога — раптам нечакана звонка пайшло ў сіняву. Дакладна так...

Васьміканцавы крыж. Па контуры — «обнізь» з перлаў, там-сям ззяюць буйныя самацветы, ярка гарыць пазалота, і на ёй яшчэ больш ярка ўспыхваюць эмалі надзвычай чыстых тонаў — сінія, чырвоныя, зялёныя, белыя, з найтанчэйшымі залатымі жылкамі, густым, згарманізаваным рытмам, з якога раптам праяўляюцца фігуры людзей, мудрагелістыя прыгожыя арнаменты. Можна ўзяць павелічальнае шкло і ўзіраннем у драбнейшае пераканацца, што гэта немагчыма тонкая і дакладная работа, нават прыдзірлівае ўгляданне не вы-

яўляе хібаў, але раптам адкрываеш яшчэ адзін свет гэтага прадмета — яго схаваную манументальнасць, яго касмічныя памеры...

Але сутнасць застаецца недзе ўсярэдзіне: над, пад, яна не вынікае з простага апісання, адчуваеш, ёсць вялікая чалавечая сутнасць — як паэзія — няўлоўная. За многа стагоддзяў гэтае залатое, срэбрапазалочанае, са здзіўляючымі эмалевымі драбніцамі дзіва авеялася легендамі і паданнямі, яно нібыта безупынна ўбірала ў сябе тысячы людскіх трагедый і трыумфаў, гарачыя людскія просьбы і пакаянні, яно глынала кожны прамень сонца, што падаў на яго, бляск вясёлкі, узыход вясновых парасткаў, буйнае жніво. Яно стала сімвалам, што ледзь-ледзь утрымлівае ў сабе лёс цэлага краю. Але гэта быў знак не толькі эпічнай паэзіі народа — сама паэзія, што вылучала паэтычнае рэчыва, дзякуючы не толькі мінулай славе, а і таму... Гэта цяжка вызначыць. Можа, паспрабаваць зразумець гісторыю яго стварэння вялікім майстрам.

Магчыма, ён, вялікі майстар, быў худы, сівы, невялікага росту, з калючымі і з'едлівымі вачыма. Калючы і ўедлівы праўдалюб, рамантык, паэт і вялікі працаўнік. Паглядзіце на яго рукі. Пальцы счарнелі ад жару, ад ядавітай ртутнай пары, іх скруціў рэўматызм, яны рухаюцца цяжка. Але якая воля гэтага чалавека! Яго пальцы артыстычна дакладныя і гнуткія, чаму ён сам дзівіцца.

Ён доўга расцірае ў парашок кавалкі шклопадобнай эмалі, адмучвае, і зноў бясконца рухаецца агатавы таўкачык. Па-аптэкарску чыстая работа, сюды не можа трапіць наймалейшая парушынка, з чаго эмаль губляе чысціню тону, яна павінна быць накшталт залатой зарніцы, яркай вясновай зеляніны, блакіту неба.

У бычыным пузыры ён б'е і плюшчыць залатую пласціну, доўга, карпатліва, ператвараючы яе ў найтанчэйшы ліст, потым наразае з яго амаль нябачныя вокам стужкі. Ён растварае ў ртуці залаты пыл і стружку — робіць залатую амальгаму. Ён плавіць у тыглі на вуголлях горна срэбра і атрымоўвае чорны злітак, такі несамавіты, што каменьчык, доўга куе яго, зноў і зноў кідае ў гарачыню, каб адпусціць метал, што стаў пругкім. Усё гэта нават не словы, а толькі літары, знакі будучай паэмы. Нязгаснае святло яшчэ не вылучаецца, але майстар бачыць яго.

Потым надыходзіць асаблівае імгненне. Ён рыхтуецца да яго, як да свята. Вялікі стол чыста прыбраны. На ім расстаўлены, раскладзены будучыя светлазары. Яшчэ зямное, прах. І ён, майстар, павінен парадзіць з гэтага дух. Ён, як заўжды, замірае на хвіліну, быццам не могучы адразу асіліць вялікую дзею Пераўтварэння. Ён сядзіць над чыстым сталом, над пласцінамі, парашкамі, разцамі, флаконамі. І падмайстры, і яго жонка, і сыны разумеюць: зараз нельга трывожыць майстра, магчыма, ён гаворыць з вышэйшымі сіламі сваёй душы, з усім мінулым і будучым свайго народа, краю, гэтая размова такая ж значная, як і абарона айчыны, і ўзвышэнне гарадоў роднай зямлі.

Майстар у спадчыну ад бацькі і дзеда разумее душу дрэва і каменя, жывы спеў лесу і воблака, ён ведае, пра што гавораць журавы, адлятаючы ў вырай, ён сябруе са шматлікімі духамі — дамавымі, багіннікамі, вадзянікамі і іншымі, ён паважае і новых княжацкіх багоў, што прыйшлі з Царграда, і гэткіх незразумелых для народа — там вучоная кніжная мудрагелістасць, гэта падабаецца майстру, ён імкнецца выказаць і гэта...

І, нарэшце, узнімаецца рука вялікага майстра, нібыта неахвотна, нібыта баючыся, і кранае залатую, кутую ў бычыным пузыры, пласціну, і яго скручаныя рэўма-

тызмам пальцы раптам — ён адчувае гэта з недаўменнем і недаверам — становяцца незвычайна чуллівымі. І яны самі разумеюць тыя таямнічыя контуры і лікі, якія павінны праявіцца на гэтых пласцінах. Майстар ахоплены нецярплівасцю і парывам. Але ён ведае, нельга даваць волю пачуццям, іх трэба, як гарачага каня, трымаць у кілзах і шпорах. Вялікае нараджаецца паміж ільдом і агнём...

Яго рукі выкладваюць ледзь бачныя простым вокам стужачкі-перагародкі. У ход ідзе залатая ртутная амальгама, асцярожны жар горна — найтанчэйшыя перагародкі трывала прыхоплены да залатой пласціны — намагчымая тэхнічная дасканаласць — такое не змогуць паўтарыць лепшыя ювеліры праз якія сто гадоў: гэта сама мастацкая дасканаласць. І потым ідзе прыгатаванне знакамітых чысцейшых, яснейшых эмаляў. З якой пашанай і чуллівасцю рухаюцца яго пальцы, што ўносяць ледзь бачныя дробачкі воглых эмаляў у вузкія адтуліны перагародак! Майстар запаўняе эмалямі контуры. Бялёсыя непрыгожыя колеры, высыхаючы, робяцца яшчэ больш бялёсымі і непрыгожымі. Нецярплівасць ахінае майстра, яму карціць адразу ж, не чакаючы, покуль высахнуць эмалі, будуць запоўнены контуры і сцішыцца гарачыня горна, кінуць гэтыя пласціны ў агонь, каб хутчэй усё праяснілася, праглянула тое вялікае і незямное. Але рукі яго нетаропкія і асцярожныя, ім невядомы хістанні і нецярплівасць, гэта рукі майстра. Ён сам ведае пра гэта, ён лагодна ўсміхаецца сваім рукам, ён будзе такі ж цярплівы, як і яго рукі...

Прагарэў горан, майстар уносіць у яго пласціну — павольнае награванне — майстар калыхнуў мяхі — знікаюць бялёсыя колеры, ператвараючыся ў жоўта-аранжавыя, святлавыпраменьваючыя. Магчыма, менавіта зараз у гарачыні горна, у праменным залатым святле адбываецца цуд пераўтварэння зямнога ў дух — у вы-

сокае, што ідзе ў сінь. Магчыма, так думае майстар, сын бацькі, унук дзеда, якія дакладна гэтак жа, спалучаючы лёд і полымя, нібы перуны, кавалі метал.

Майстар вымае пласціну, кладзе на плінфу, на край горна, чакае. Ва ўрачыстай паставе. У яго чаканні страх і трывога, хоць прайшло гэтулькі гадоў і гэтулькі разоў пасля жоўтага выпраменьвання ён вымаў пласціну і клаў на край горна, на плінфу.

Не, такое стварыў не ён!

Дух высокі і дасканалы.

4

Сюды падплывалі чаўны, збіраючыся на штогадовы веснавы кірмаш, а ў гэтым саборы ляжаў дзівосны эмалевы крыж знакамітага беларускага ювеліра Лазара Богшы.

Унізе, па бясконцых заліўных лугах, ляцеў навальнічны вецер — тугі, як сцяна. Ён рабаціў ваду шырокай старажытнай рэчкі, па якой плылі велізарныя рыжыя самаходныя баржы. Яны плылі павольна, няўклюдна, здавалася, яны плывуць вось так з даўніх часоў — ад дрымотных пушчаў, населеных калматымі зубрамі і чорнымі мядзведзямі.

І ад гэтага сабора.

Сабор стаіць высока над рэчкай, над стромай, і вецер з грымотай пранізвае яго. Роў, што ад іерыхонскай трубы. З павагай падышоў бліжэй. Тут пачыналіся камяністыя ўзгоркі — ад сцянных абвалаў. Але галоўныя сцены і скляпенні сабора сталі. Яны шчэрыліся пасткамі пячор. Праходзіў праз пячоры, лазіў сцяжынкамі ўнутры сцен. Гэта было семнаццатае стагоддзе. Яно было зроблена як мае быць. Праломы ў сце-

нах дазвалялі чытаць гісторыю стварэння сабора. Яго доўгае жыццё. Зграбны і магутны барочны выгіб, што праглядваўся знадворку, ішоў, выпіраў проста з тоўшчы сцен. Зноў і зноў пальцамі абмацваў сцяну. Метр, другі, трэці... Няўлоўныя змены, і праступае магутны барочны выгіб, ужо не матэрыя — дух!

Дзе і як такое творыцца? Гэта падобна ўзлёту. І ўвесь сабор, нягледзячы на агромністую таўшчыню сцен, з'ява не столькі матэрыяльная. Гэта — як песня.

Проста на вас глядзіць бард. З-пад ілба, цяжкім паглядам, у якім ёсць нешта бясконца добрае. Правай рукой ён абхапіў грыф гітары, прамымі пальцамі левай ледзь кранаецца струн. Жорсткія вертыкалі і гарызанталі рук, грыфа, струн, носа, рота, вачэй. Фігурны геаметрычны выраз верхняй часткі рэзанатара гітары яднае гарызанталі і вертыкалі, уносіць нешта артыстычна тонкае. Ікона? Так глядзяць на нас святыя сярэднявечча, суровыя, што захавалі чысціню і святасць у страшэнным і жорсткім свеце.

А словы яго песень прамыя, як і яго выклікі, надрыўныя, голас яго асіп ад крыку, якім ён хоча перакрычаць не роў вадаспаду, не лямант машын, а шаленства натоўпу. Ён кідаў ім хрыплым голасам простыя жыццёвыя ісціны, яны яго слухалі і шанавалі, як святога.

Ён стаў міфам. Міфічны фатограф з далёкага кантынента склаў, зляпіў гэты міфічны партрэт міфічнага чалавека, быццам завяршыў, змадэляваў цэлую эпоху.

А яны ўпарта клалі цагліну на цагліну, замацоўваючы ўсё старой вытрыманай вапнай, покуль відавочна не праступаў выгіб. Той дух, які не бяруць ні бомбы, ні час. Ён, як скала, хістаецца і стаіць.

Зграбны барочны выгіб сабора амаль дакладна паўтарае выгіб рэзанатара гітары...

Пах... Крыху прыцішыўся вецер, і раптам я чую за-

старэлы, ледзь прыкметны пах сернага смуроду. Некалі, відаць, смуродзіла як мае быць. Барочны выгіб абвеяны серным духам. Але выгіб выстаяў.

Прыслухоўваюся да сярністага паху і лажу па скальных гарах сабора. Сцяжынка то ўздымае высока ў неба, да шалёнага ветру, то вядзе ў такія глыбокія сутарэнні, што робіцца млосна, як у магіле. Тут усё на гранічным напружанні. Высока ў неба, глыбока ў зямлю. Яркае святло і абсалютная цемрадзь. Шаленства ветру і магільная цішыня. Няўклюдная таўшчыня сцяны і зграбны барочны выгіб.

Здаецца, увесь час смяюцца каля мяне, а я не магу зразумець, што і як — і сам з сябе смяюся. Мне не прыкра, а весела. Іду, напрыклад, уздоўж таўшчэзнай сцяны і бачу дзірку, залажу ў яе, іду ўнутры сцяны са скупым святлом, што ледзь прабіваецца з маленькіх адтулін. Само па сабе гэта нязвыкла — ісці ў сцяне, ды так доўга, так заблытана, ход — ледзь прасунуцца, каменныя ступені — уверх, уніз, раптам — пляцовачка, і сцяжынка разыходзіцца на дзве ці тры, ды яшчэ каморка — усё ў гэтай сцяне! А дзе праходзіць дарога — невядома. Прыглядаешся праз якую адтуліну — то дзіва: упоравень з зямлёй! Нікуды і не прыйшоў, у тую ж дзірку выйшаў, што і ўвайшоў... Стаіш, як балда, ля гэтай дзіркі, а потым як зарагочаш!

Во-во, не хапала толькі гэтага...

Ідучы па алтары сабора, выпадкова задраў галаву і праз вялікую адтуліну ў барабане на аголена сінім небе, па якім зрэдку імчалі раздрыганыя воблачкі, убачыў дзве істоты. Яны існавалі адасоблена ад шалёнага ветру і ўсяго зямнога. Плылі самі па сабе, нетаропка, іх доўгае адзенне мякка гойдалася, людзі нават не ляцелі — неяк струменілі. То былі закаханыя. Стаяў колькі імгненняў нерухома, задраўшы галаву, потым выбраўся скрозь пралом на вуліцу: глянуць на барочны

выгіб — нешта падалося... Усё правільна! Гэтыя двое азначаны. Іх рух, мроістасць. Так, у гэтым выгібе ёсць жаноцкае...

— Бо-о-ом! — густы і магутны бас звона.

У саборы семнаццатага стагоддзя ўладарыць Фрося. Не Ефрасіння Полацкая. У той сабор быў, што белая бярозка. Невялічкі, утульны, свойскі і вельмі-вельмі цнатлівы. А сабор семнаццатага — гэта Фрося. Паўната, нават звышдабротнасць, звышбагацце — жаноцкая раскоша форм — шчадроты невымернага пачуцця. Ніколі такога не было. Былі саборы, што мужыкі — каржакаватыя, грубыя, моцныя. Былі саборы вытанчана-манерныя. Рацыяналістычна-сухія. Былі кволыя, летуценныя. Але не такія.

— Бо-о-ом!

Прабілася на свет божы невычэрпнае буйства плоці.

5

А стаяў жа, магчыма, на месцы гэтага сабора невялікі дамок, урослы ў зямлю, мураваны, з маленькімі акенцамі, і жыў у ім, ну, напрыклад, Міколка — маленькі, шчупленькі, гаротны чалавечак, жыў адзін як перст, на ўвесь дом і цэлы свет. І сталася яму так млосна...

Углядаюся ў абломак зялёнай рэльефнай кафлі. Яе толькі што знайшлі ў шурфе ля сцяны сабора. Інжынер-рэстаўратар працёр пальцамі бліскучую паверхню, усміхнуўся і працягнуў плітку. На ёй рэльеф фантастычнага звера. Ён весела скача сярод рэдкіх травінак. У паглыбленнях — чорная вільготная глеба. І няма трох стагоддзяў, што адлучаюць нас ад мінулага. Вядомымі і зразумелымі становяцца звычкі і думкі людзей, іх страсці, словы, рухі. Мінулае захавалася на плітцы і

зараз выпраменьваецца. І справа не толькі ў бляску, рэльефе, колеры, паху пліткі, тут ёсць яшчэ нешта — немагчыма вызначыць словам — невідочнае і адчувальнае. Ловіш гэта зменлівае, няпэўнае і бачыш мінулую рэальнасць...

Канечне, я рыўся ў архівах, праглядаў шматтомныя зборы актаў і юрыдычных матэрыялаў, летапісы, праз усё імкнуўся зразумець душу чалавека той эпохі. Але і тагачасны бюракратызм так прысушваў жыцце... Не хапала нейкіх невялічкіх дробачак жывога мінулага. І я чытаю плітку. Бачу біяду.

Зусім нядаўна Міколкаў дом быў густа населены. На агародах дыміліся горны, у хляве рохкалі шматпудовыя парсюкі, запрэжаны стаеннік вёз бацьку ў далёкі шлях, адвячоркам у іх двор пёр цэлы статак кароў, коз, коней, авечак, пад бясконцымі паветкамі — паляніцы дроў, гліна, кафлі, калёсы, вазкі, чаўны, невады. І сталася так, што ўсё пайшло прахам літаральна за год — нейк змарнела, счарнела, згінула. Дровы парассыпаліся, невады пагнілі, паветкі забурыліся, авечак забралі салдаты, каровы сышлі, дом пакасіўся і ўрос у зямлю, а людзі...

Застаўся адзін казёл, стары, велізарны, лупаты, разбэшчаны. Часам яго не было некалькі дзён, а часам ён і ўдзень і ўноч хадзіў па сядзібе, нешта шукаючы, вынюхваючы. Міколка баяўся казла — не чапаў яго. І без казла было моташна.

Міколкам канчаўся род.

Самога яго даядалі клапы з прусакамі. Іх з'явілася несусветная процьма. Яны ішлі цэлымі табунамі, ад іх цямнела столь, што дождж, сыпаліся яны на ложак. Яны елі Міколку і елі муку, грызлі стары пыльны аксаміт і вапну сцен. І ўноч і ўдзень увесь дом і пляц шапа-

целі, пстрыкалі, пляскалі, войкалі. А то яшчэ наўзрыд крычала немаўлятка, а можа, кошка, якую дзяруць сабакі, ці завывала нешта жалобнае — доўга, бы хто паміраў. Асабліва страшна было ўначы, калі заслепленаму Міколку чуўся дзікі крык.

Канаў Міколка.

Нават маскалі, якія стаялі нядаўна войскам пад горадам, не схацелі браць яго ў палон, хоць ён даказваў вусатаму начальніку, што ён лепшы з лепшых майстроў па кафлі — цаніннік, нават кафлі аднойчы прывалок — у надзеі, што хоць хто-небудзь з салдат, няхай самы лядашчы, возьме ў палон. Яго моўчкі слухалі, а потым неўзаметку знікалі, і ён, што дурань, стаяў са сваімі кафлямі-львамі...

Зноў вяртаўся ў сваю хату, на якую абрушылася боскае насланнё. Ён ужо даўно не мясіў гліну, не рабіў кафлю, жыў тым, што цягнуў на продаж да старога Янкеля нейкае рыззё — хапала толькі на кавалачак хлеба. Часамі стаяў пануры пад шынком у надзеі, што нехта паднясе чарачку, дасць кавалак вяндліны. Стаяў, як жабрак, у лахманах, нячэсаны, нямыты. Было так горка, што аднойчы пайшоў тапіцца: прывязаў за шыю вялікі камень — той павалок у вір, Міколка тузануўся, камень адарваўся, і Міколка са страхам пабоўтаўся ў ледзяной вадзе да берага. Калі вылез з вады, з адчаю заплакаў, але ніхто не мог сказаць, то былі слёзы ці цякла рачная вада...

Божа мой, божа, і памерці няможна!

Па начах, калі яго даядалі клапы з прусакамі, ён ужо не бараніўся, ляжаў нерухома, з нейкай злоснай радасцю аддаючы сябе крывапіўцам. Раз-пораз перад ім уставалі мінулыя жахі. То на яго насоўваўся рагаты бык з налітымі крывёю вачыма, то выстаўляла клыкасты лыч свіння, то трос барадою казёл, то скакалі дзікія буланыя жарабцы. Звяры ўпадалі ў д'ябальскі та-

нец, пачыналася такая віхура — Міколка тросся што асінавы ліст, не могучы спыніць весялосці. Прасіў-маліў бога, каб той даў яму смерць. Хоць куды, хоць у пекла, толькі не так. Ён не хацеў нічога ўспамінаць, але яно само лезла, адно жахлівей за другое.

— Во-оо-ох! — сатанела плошча людскім выкрыкам.

І яго Варвара, яго жонка, якую ён так кахаў, закалацілa ў паветры нагамі і ўмомант сціхла, паказаўшы яму язык і вытарашчыўшы на яго нерухомыя вочы.

— Во-ох! — у жаху крыкнуў Міколка і не мог адвесці позірку ад блакітных вачэй сваёй жонкі. Яна была прыгожая і ўраз зрабілася іншай — страшэннай, быццам з таго свету, і глядзела яна не з жалобай, не з дакорам, а так, быццам тое, што засталося на зямлі, не варта ўвагі, так, нейкая бязглуздзіца і нікчэмнасць. І нішто зямное не магло яе насцігнуць і ўразіць. Ён за ёй гнаўся, ну, думаў, нарэшце яна стане яго, а яна быццам чакала гэтага імгнення, каб зусім сысці ад Міколкі....

— Во-ох! — і абарвалася Міколкава жыццё, яно знікла, стала бессэнсоўным, адляцела разам з паглядам тых блакітных вачэй. І куды яна глядзела? — думаў Міколка. Не на яго. Неяк праз яго ў другі свет. Быццам ён пустое месца...

Лепш бы яна і зараз хадзіла да таго ўдаўца. Але ён разумеў, што іначай і быць не магло. Гэта боскае насланнё — на ўвесь яго род і на яго таксама. Ці то грэх хто вялікі зрабіў? Так горка было Міколку, калі ён агледзеў, што жонка не да сястры хворай хадзіла, а да крываротага ўдаўца, у якога процьма дзяцей. Што яна ў ім знайшла? Міколка адвячоркам прасачыў, як Варвара выходзіла з дому сястры, насунуўшы хустку на самыя вочы, у сестрынай світцы. Ён пайшоў за ёй, яна нырнула ў двор гэтага Сцяпанчыка. Не хата — халу-

па ў яго была, напаўзямлянка, крытая саломай, абымшэлая, з маленькімі акенцамі. А сам Сцяпанчык такі лядашчы, крывароты, нехта выбіў яму скіўіцу яшчэ ў маладосці, быў ён фурманам, вазіў што каму трэба, такі гаротны чалавек. А Міколка ў той час быў зухаваты, насіў суконны жупан, шапку з аксамітам — што той шляхціч.

Бядоты навалiліся на іх сям'ю. Бацька ездзіў у госці да швагера, там, відаць, здорава набраўся, яго ўскінулі на воз, ён яшчэ, як казалі, узяў у рукі лейцы і крыкнуў на свайго стаенніка. Конь адзін прыйшоў уначы. Іржаў пад варотамі, біў капытом. Маці ўпусціла ў двор, распрэгла. На возе нікога не было. Маці вылаялася і пайшла спаць. А раніцой нехта ехаў і пастукаў пугаю ў акно:

— Ці не ваш там ляжыць ля лесу?

Маці пабегла. Бацьку проста пры дарозе ноччу разарвалі здзічэлыя свінні. Ён яшчэ стагнаў, але так і не апрытомнеў. Доўга шукалі тых свіней. Знайшлі і на плошчы, пры людзях, адсеклі ім галовы; чалавек з ратушы пастанову зачытаў, што свінні за прычыненне смерці чалавеку прыгаворваюцца да адсячэння галавы. Маці нядоўга пасля гэтага працягнула. Неяк пачала хварэць, счарнела ўся — пайшла ўслед за бацькам. А брат крыху раней недарэчна загінуў — з быком скірызаваўся. Быў п'янаваты і палез да гэтага быка. Бык быў рахманы, нікога ніколі не чапаў, пасвіўся заўсёды з каровамі. А тут нешта на яго найшло. І ўдарыў брата рогам усяго толькі раз. Трапіў у жывот, прапароў. Брат памёр у страшэнных муках. Як брат завёўся з быком — многія бачылі. І жонка брата. Калі палез да быка, яна ўсё лаялася: «Во набраўся, вочы заліў, каб ты смалы напіўся!» Калі бык тыкнуў рогам у жывот, яна, жорсткая, нават не войкнула. А потым забрала з хаты дваіх дзяцей і пайшла да бацькі.

У дзеда таксама жудасная была смерць. Яго коні затапталі. Жарабцы імчалі, звар'яцелыя, збілі з ног, і проста па ім прабег цэлы табун. Адно месіва засталося. Сабралі, што можна было, у труну.

Гэты вар'яцкі табун не чапалі. Было на ім праклянце, але коней не пакаралі. Той табун магнацкі быў, тым вар'ятам рады не дасі. А быка на плошчы пакаралі, адсеклі галаву, разы са тры секлі, пакуль адсеклі, шырокая сякера была ў ката і вострая, і сам ён чалавек дужы, але за раз не мог адсекчы. Маці дык не пайшла. «Што той бык,— кажа,— мёртвага з магілы не вернеш».

А з жонкай у Міколкі колькі гадоў былі свары. Дзяцей ім бог не даў. Была двойня, але памерла. І ўсё. Бясплодная была Варвара. А ён яе баяўся і кахаў. Моцна, відаць, кахаў. Бо калі ўбачыў, што яна да Сцяпанчыка завярнула — неяк асеў і не мог з месца скрануцца. Цэлую ноч праседзеў пад плотам. Ноччу ўбачыў зоркі і да раніцы, покуль зоркі не пачалі тлець, праседзеў. Усю ноч думаў: хутка пойдзе туды, няма чаго больш на зямлі рабіць. А як пачало брацца на відно, устаў Міколка і пайшоў куды вочы глядзяць — зорак ужо не было і развітвацца не было з кім. Развітаўся — і ўсё. Вольны стаў чалавек. Усё яму цяпер было дазволена. Тыдзень недзе валачыўся, па шынках лазіў, гарэлку піў цэлымі кубкамі — не брала. А потым пайшоў да ратушы і заявіў на жонку. Разам са служкамі жонку і застукалі ў Сцяпанчыка. Зрабілі адпаведны запіс у ратушных кнігах. Варвара не плакала, не маліла, толькі зыркала на яго сваімі блакітнымі вачыма.

— Ты думаеш, з горада пабягу? Не, няхай казняць, няхай. Што ён крываbooты, то думаеш, не чалавек? Ды ён дзесяці такіх, як ты, варты. І пайду — няхай удавяць. Затое я чалавека добрага зведала...

Потым прыйшлі служкі і забралі Варвару. Міколка нават радаваўся, што дапёк яе. Яна спалохалася, як

прыйшлі. То ж паміраць трэба. Так і павялі. А яна яго не пракляла, толькі сказала: «Жыві доўга, Міколка...» І лагодна глянула на яго блакітнымі вачыма. Калі пайшла, яна стала ўжо нетутэйшая, як святая — з таго жыцця, дзе зоркі свецяць.

Каля Міколкі пад шынком ужо лётала дзятва, ужо тузалі яго за лахманы, нехта кінуў камень. Міколка нічога не чуў. Што яму свет, калі ён даўно недзе там, толькі чамусьці не прыбірае яго бог ці д'ябал; відаць, поўнай чарай трэба выпіць мукі і здзекі. Дык пі іх, пі! Калі камень трапіў у спіну, Міколка не зварухнуўся, неяк соладка адгукнулася цела. Яшчэ і яшчэ! Камяні ляцелі і білі яго. Людзі не баранілі, стаялі і глядзелі, як здзекуюцца з чалавека, а нехта рагатаў, калі камень асабліва смачна плёскаў па целе. І ўсё ж знайшоўся спагадлівы дзядзька і разагнаў дуроную дзятву. На твары Міколкі не мукі былі, а дураслівая шчаслівая ўсмешка. Ён не выходзіў з нірваны, стаяў на адным месцы. А той дзядзька прынёс кубак гарэлкі: пі, небарака! Толькі тады зварухнуўся Міколка, азваўся на кубак, узяў яго дрыжачымі рукамі і доўга і соладка піў...

## 6

Невыноснае заглыбленне ў далёкае сярэднявечча...

Адвёў погляд ад зялёнай рэльефнай пліткі, з палёгкай уздыхнуў і азірнуўся. Вецер суняўся, дажджы прамылі свет, шэры гмах сабора ў яркім гарачым сонцы дыхаў парай. Буйства плоці!

Як на плітцы.

Нягеглы смешны звер, параджэнне нястрыманай хваравітай фантазіі. Сабачае тулава, морда тонкая, як даўгая дзюба, са смешнай пампушкай на кончыку носа, з празмерна даўгім і звілістым языком — звер нібыта курыць люльку. Ногі птушыныя, кіпцюрастыя, як у ар-

лоў, адну лапу звер узняў — у жэсце адарацыі. І ўсё жывое, сур'ёзнае...

Чалавек выбіраўся з такога. І выбраўся! Сабор за гэта сведчыць. Бушаванне хваравітай фантазіі перароблена на трыумф жыццёвай плоці.

Што ж было далей?

Гэты чырвоны певень...

Углядаючыся ў плітку, раптам пабачыў яшчэ адну дзею.

Ніхто не ведае, адкуль з'явіўся чырвоны певень, толькі ўбачылі, як на Міколкавым пляцы ён змагаецца з казлом. Што за бойка! Певень распушыў чырвонае пер'е, хлопае крыламі, шматае кіпцюрамі, дзяўбе дзюбаю, трасе чырвоным грэбнем. Ён налятае на казла, здаецца, адразу з усіх бакоў, і бушуе, што полымя. Казёл спачатку наставіў на пеўня рогі ды ўдарыў пярэднім капытом: адчапіся, назола-птаха! Але калі певень здорава падрапаў казліную пысу, казёл раззлаваўся, апусціў рогі і кінуўся на пеўня, але як ні скочыць, то ў дрэва ці камень храбуснецца ці ў яму зваліцца, а то проста праляціць да самага паркана, так што людзі, якія назіралі за бойкай, разбягаліся хто куды. Урэшце казёл разгублена спыніўся, нават, казалі, вочы заплюшчыў — ад знямогі ці ганьбы, і як кінецца наўцёкі. Ужо адвячорак быў. А біцца яны пачалі на ранішнім золку. Толькі тут людзі звярнулі ўвагу на вараннё, што тысячамі насілася над горадам — на чырвоным небе. Тыя так лямантавалі, так біліся ў нейкіх сутаргах — было жудасна глядзець. І ляцелі, ляцелі за горад, потым некаторыя вярталіся, але не маглі нечага адолець — зноў цягнуліся за горад, быццам нехта іх туды выдзімаў.

А хто ездзіў на наступны дзень за горад, вярталіся ўзбуджаныя і расказвалі неверагоднае. І луг, і лес, і поле літаральна па калені закідана вараннём. Набегла

ліс, ваўкоў, сабак, рысяў — процьма, а дзе-нідзе бачылі і калматых мядзведзяў. Толькі пух ляціць, нават сонца засціць... Бабы паўлета хадзілі і збіралі гэты пух, панабівалі пярын, падушак — не толькі на дачок хапіла, кажуць, Нямеччына зараз спіць на вароніным пуху.

І яшчэ адна дзея датычыла Міколкі.

Мабыць, ён і пра бойку пеўня з казлом нічога не ведаў. Цягаўся, як заўжды, па горадзе, стаяў пад шынком, пад вечар валокся дахаты. І тут яго перапыніла Фрося. Дзеўка яна была што трэба, неабдымная, як печка, і сэрцаспагадная. Прывячала кожнага шалудзівага ката. Яна стаяла ля веснічак і з лянотай лузгала сланечнік, які з'явіцца толькі праз два стагоддзі, усміхалася нечаму прыемнаму.

— Пастой, пастой, чалавеча,— сказала яна пяшчотным голасам — галасок яе быў ласкавы, тонкі, здаецца, гаварыла кволая дзяўчынка.

Міколка прыпыніўся. Яму было ўсё адно: стаяць ці ісці. І ісці не было куды, і стаяць не было як.

— О, які ты счарнелы,— гаварыла ласкава Фрося,— зусім змарнелы, забыты. Ідзі хоць пакармлю крыху.

Міколка пайшоў за ёю ў двор. Фрося вынесла добрую лусту хлеба з кавалкам сала, а потым глянула на Міколку і прынесла стопку гарэлкі. Міколка далікатна браў, не разумеючы, як яна не гідзіцца і ці будзе хто піць пасля яго з гэтай стопкі. Але яму было ўсё адно. Фрося стаяла перад ім. Ён не мог узняць на яе вачэй, глядзеў на яе босыя ногі, што выглядвалі з-пад даўгой сарочкі. І раптам яго ўразіла, што гэта ногі яго Варвары. Ён задрыжэў, закалаціўся, хацеў некуды бегчы, але не змог, толькі слёзы ручаём пацяклі па яго мурзатых шчоках.

— Ну чаго ты, чалавеча,— ласкава сказала Фрося і пагладзіла яго па галаве — па нямытых і нячэсаных

валасах: памяло ў ведзьмы і то лепшае.— О, небарака, няшчасны, хай бог даруе табе, хай бог...— яна гладзіла яго па валасах, покуль не перасталі плыць з яго вачэй слёзы. А потым раптам сказала весялейшым галасам: — Слухай, чалавеча, а што, калі я цябе ў лазні вымыю? Ану, ідзі за мной!

І павяла на агароды. Быў адвячорак пад нядзелю. Лазня была ўжо выпалена, вада ў балеі і бочкі наношана. Да работы была вельмі здатная Фрося. Лазню напаліць ды вады нанасіць — для яе было проста забаўкай.

Міколка, нічога не разумеючы, пайшоў за Фросяй: раз сказалі — рабіць. Толькі калі Фрося зайшла ў сенцы, ён ніяк не мог пераступіць парог.

— Ды ідзі ты, ідзі,— сказала Фрося, узяла яго за руку і перавяла цераз парог. Гэты дотык да рукі зноў абудзіў нешта ў Міколкавых успамінах, зноў па яго шчоках пацяклі слёзы. Але Фрося ўжо завіхалася ў лазні і не заўважыла гэта. Яна выцягнула з печкі каменкі дымныя галавешкі, заліла вадой — з адчыненай лазні паваліў густы белы дым, потым, засіліўшы коўшыкам вады, пляснула на камяні. Лютая пàра падскочыла над каменкай, разышлася, што выбух, умомант выгнаўшы дым. Стала горача, суха і лёгка дыхаць. Нахіліўшыся пад нізкім вершнікам, яна выйшла ў сенцы.

— О, бедалага,— сказала яна спагадліва, убачыўшы слёзы.— Ну, давай распранайся, будзьма змываць тваю каросту.

Міколка стаяў і не рухаўся, мабыць, ён забыўся, як гэта робіцца. Фрося пачала распранаць яго — ды што там распранаць: усё злазіла само з худых плеч, дзірка на дзірцы, стлеўшае.

— Бедалага, бедалага...

Міколка стаяў голы, але і цяпер яму было ўсё роўна, нават і думкі не было, каб пры жанчыне сорам пры-

крыць. Яму здавалася, ён маленькі і маці збіраецца яго мыць.

Фрося падхапіла за падол белую старую сарочку, уздзёрла рукі і ўмомант стала голай — цела было тугое і белае, як вясновая кіпень яблыневых кветак. Яна ўзяла Міколку за руку і ўвяла ў моцны і сухі дух лазні, добра зачыніўшы дзверы, каб не выпускаць спякотную гарачыню. «Відаць, болей не трэба даваць пары,— падумала яна,— бо самлее бедалага». Яна паклала Міколку на палок, каб у пары адкарэла яго цела, і пасцёбала бярозавым венікам, потым пачала націраць яго: спачатку мыльнай глебай, што капàла пад рэчкай, а змыўшы — травой-мыльнянкай. Потым зноў пасцёбала венікам, але нядоўга і нямнога, бо баялася, што той самлее. Сцягнуўшы Міколку на ніжні палок, дзе была прахалода, сама пачала парыцца і мыцца. Яна кінула на каменку шчэ колькі коўшыкаў, і ў лазні стала такая густая гарачыня, што якому б чалавеку дух заняло, але Фрося забралася на верхні палок, раскінула рукі-ногі і аддалася лагоднасці. У шызым моцным параванні мякчэлі, здаецца, косці. Яна паляжала так крыху, потым доўга з асалодай сцёбалася венікам, паварочваючыся з боку на бок так, што трашчалі палкі.

— Ну, хопіць табе вылёжвацца,— пачула яна над вухам густы хрыплы бас: то гаварыў яе бацька, ён таксама прыйшоў парыцца. Быў ён чалавек агромністы, дужы, рукі і ногі — што бярвенні.— А то хто ляжыць?

— Міколка. Ну, той бедалага. Закарэў зусім.

— О, дзеўка, патрэбны табе гэтыя шалудзівыя псы. Ну злазь і забірай сваю каросту.

Бацька даваў такую пару, што і Фрося не магла трываць. Яна выцягнула напаўсвядомага Міколку ў сенцы і пасадзіла на ўслон.

— Ачуняй крыху, а я знайду якую адзежу.

Яна выцерлася кавалкам старога палатна, накінула

сарочку, схадзіла ў хату і надзела на Міколку тоўстую зрэбную кашулю.

— Насі на здароўе. А дахаты не ідзі, і не дойдзеш. Спі тут, во табе кажушок накрыцца.

## 7

У далёкі і багаты горад спачатку Прыпяццю, а потым Дняпром прыплыла чарада палескіх чаўноў. Наперадзе ішоў велізарны човен — граблі ў тры вяслы, ён быў завалены рознымі прыпасамі. Калі прыстаў да берага, сабраўся натоўп. Нават мацалі гэты човен, ніхто даць веры не мог, што зроблены ён з аднаго дрэва — такі вялікі і лёгкі, не тое што цяжкія стругі і баркі.

І тут жа знайшліся купцы, давалі за човен шалёныя грошы. Гаспадар чоўна ўспомніў старую асіну, яе гладкі зялёны ствол, глянуў на чорнае матавае дрэва, і яму падалося, што прадаць яго — усё роўна што прадаць Палессе.

— Не,— сказаў ён з абурэннем,— такога не будзе!

Вясновы кірмаш бушаваў.

Палешукоў, што прывыклі да адзіноцтва балот і пясчаных выспаў, вавілонскае стоўпатварэнне ашаламіла, нібы бушаванне магутнай прыроднай стыхіі — навальніцы з перунамі і маланкамі. Таму баюся, што чалавек, які здолеў па-мастацку вычасаць велізарны човен, але ніколі ў жыцці не бываў у такім агромністым горадзе, дасць нам праўдзівую і падрабязную інфармацыю пра гэты кірмаш. Пазнаёмімся яшчэ з адным чалавекам, магчыма, далёкім нашчадкам таго вялікага майстра, чые перагародкавыя эмалі — святыня гэтага горада.

Назавём яго Карпам.

У архівах сярод златакавалёў такое імя сустракаецца.

Ён амаль юнак, але ўжо вядомы майстар. Вярнуў-

ся ў свой вольны горад не так даўно — быў у вандроўцы, хадзіў шліфаваць майстэрства, як было заведзена. Кожны падмайстар павінен аднойчы рушыць у вандроўку, без такога ў майстры не прымуць.

Карп хадзіў у Нямеччыну — Нюрнберг, Аўсбург.

Карп хлопец статны, прыгожы. Яму вельмі пасуюць польскія ўбранні. На ім тонкага сукна цёмна-зялёны кунтуш кракаўскага крою, зашпілены, як модна было ў той час, на шматлікія гузікі толькі на грудзях, з-пад кунтуша відаць узорысты жупан, на галаве аксамітавая шапка з собалем, на нагах боты светла-карычневага колеру з шырокімі халявамі, збоку вісіць дзедава шабля ў срэбраных ножнах, ён не захацеў чапляць нямецкую шпагу, якую прывёз — людзі засмяялі б за такі тонкі хлысцік. Твар яго белы, валасы чорныя, крыху ўюцца, бародка клінком, вусікі невялічкія. Нетаропка ён узыходзіць па мураве адхону, узбіраецца вышчарбленымі ступенямі на крапасную сцяну. Дрэвы ўжо зазелянелі, але яшчэ халаднавата, вясна зацяжная, са снегам, у цёмных кутках каменнай лесвіцы ляжаць ледзяныя нацёкі. Вось і зубцы. Тут вецер даволі моцны.

Далёка відаць. Унізе да крэпасці падыходзіць рэчка, шырыня вясновых вод неймаверная, вада ідзе за гарызонт, што мора. Бліжэй да крэпасці і горада рэчка забіта чоўнамі, стругамі, баркамі, а вунь нямецкія караблі пад ветразямі. Здалёк ідуць і ідуць новыя судны. Такога ён яшчэ ніколі не бачыў.

Злева ад рэчкі — Ніжні горад. Там затоплены лагчыны, некаторыя хаты ў вадзе па вокны. Вырас горад. Дабудавалі Рыначную плошчу. Па цэнтры — ратуша з высокай вежай, вакол чатырохкутнікам прыгожыя трохпавярховыя дамы, шчыльна адзін да аднаго. Непадалёк — велізарнейшы катлаван, з якога выглядваюць муры: будуюць сабор. На пляцах многа новых драўляных дамоў — толькі летась пастаўлены. Летась Ніж-

ні горад, казалі, гарэў — двума палосамі, як дзьмуў вецер. За лета пагарэльцы адбудаваліся, увабраліся ў новыя хаты. Багаты горад. Во, тыя дамы, што на Рыначнай плошчы — самых-самых багацеяў, многіх Карп ведае, у кожнага такія багацці, што хоць заўтра яны маглі б купіць увесь верхні горад разам з княжацкім палацам, разам з вёскамі і землямі.

Унізе, пачынаючы ад крапасной сцяны, уздоўж усяго берага да самага гарызонту бушуе кірмаш. Адтуль ляціць моцны гул людской гаворкі, конскага ржання, сабачага брэху, рыкання звяроў. Хлапчукамі яны цэлымі днямі лазілі па кірмашы. Ён збіраў купцоў з усіх зямель. У Немцах, калі Карп называў свой горад, людзі ажыўляліся: гут, гут, значыць, добры кірмаш! Даўней немцы прыязджалі ў смешных кароткіх пузатых парточках, на іх былі шыкарныя шырокія шаўбе з шалевымі каўнярамі, на галовах замест шапак агромністыя барэты, што кляліся амаль на плечы. Нават арабы былі прасцейшыя. Звычайна яны прыязджалі на вярблюдах, насілі дарагія аксамітавыя каптаны, павязаныя цурбанамі; маленькія, чорненькія, шчупленькія, яны нагадвалі магаў з балаганаў. Вунь штук пяць гэтых пярэстых шатроў. Адтуль час ад часу чуўся то дружны рогат, то шматгалосы крык здзіўлення. І недзе ходзяць цэлымі натоўпамі страшэнныя чорнабародыя цыганы з плоймамі абарваных галапузых цыганят і квяцістымі кабетамі. Снуюць туды-сюды фурманкі, коннікі, дзятва. Па ўсіх вуліцах, дварах густа стаяць вазы з выпражанымі коньмі, узнятымі ўгору аглоблямі, вазы стаяць пад самымі вокнамі. Пад навесамі з рагожы, зрэбніцы, палатна і проста з вазоў гандлююць усім, чаго толькі не прыдумаеш. Дзівы з усяго свету. Шкуры сабалёў і львоў (нават жывы леў быў аднойчы), персідскія кілімы і сінія азіяцкія пярэстыя місы, залатыя кубкі з Балгар і Немцаў, аксаміты і кармазіны з

Влохаў, палотны з Копыля і Шклова, мёд, дзёгаць, жалеза, вугаль, рэпа, дудачкі, лыжкі, іконы, кнігі. Татары прадаюць рабынь — худзенькіх палахлівых дзяўчат з велізарнымі чорнымі вачыма. На ланцугах равуць мядзведзі. Ідзе бажба і рукабіцце, купцы крычаць, плююцца, ганьбуюць і хваляць тавары, п'юць магарыч, гневаюцца, смяюцца. Вавілонскае стоўпатварэнне!

Толькі што хадзіў там з дружбакамі — усе ў дарагім убранні, пры шаблях, насустрач ім выбягалі з-за лавак купцы і купчыкі, іх клікалі на балаганы і каруселі.

— Шаноўныя, яснавяльможныя! — чулася з усіх бакоў. Разгортваліся штукі шоўку, сукна, аксаміту, блішчэлі залатыя шаблі і кубкі.

А на падыходзе да галоўных варот Верхняга горада стаяў такі гвалт, быццам крэпасць штурмуюць. Знізу бесперапынна ішлі цяжкія вазы. Везлі бочкі, парсюкоў, дровы, скуры, лыка, мяхі з зернем і мукой, нейкія жалезныя прэнты, медны посуд, вялікія цюкі ў рагожах. Кутыя жалезам калёсы гулка барабанілі па бруку і бярвеннях пад'ёмнага моста, што вісеў на таўшчэзных ланцугах.

— Но-о-о! — крычалі фурманы, подбегам паспяваючы за коньмі, паганяючы іх пугамі. Коні тужыліся, дробна пераступалі нагамі, нервова калаціліся ад вар'яцкай брукаванай дарогі.

О, гэта не тое, што нямецкае бюргерства, саліднае і правільнае!..

Карп сам дакладна не можа сказаць, чаму ў ім не заціхае незадаволенасць. Яго жыццё здаецца яму залішне звычайным, і ён чакае нейкай бліскавіцы-маланкі, што ацяпліла і апаліла б яго сэрца-душу.

Нядаўна яго прынялі ў цэх златакавалёў. Гэта спадчынны занятак. Яшчэ дзяды Карпа заняліся златакавальствам. За час вандроўкі бацькі не стала. Май-

стэрню Карп знайшоў у поўным парадку. Маці вяла ўсё даволі рашуча і разумна, працавалі падмайстры, вучні, ніводны заказчык не застаўся незадаволены. Карп адразу ж зрабіў шэдэўры на званне майстра — кубак і пячатку-пярсцёнак, і гэтак віртуозна, што старыя сівабародыя кавалі доўга прыглядваліся, хіталі галовамі і ўскідвалі на Карпа недаверлівы пагляд.

Прыйшла ў Карпаў дом і маладая гаспадыня — Ядвіга, уроджаная шляхцянка. З Ядвісяй яны былі заручоны яшчэ да адыходу Карпа ў вандроўку. Тады яна была жвавая, смяшлівая дзяўчынка. Яе спецыяльна прывезлі ад бенедыктынак, з манастыра, дзе яна жыла. Яна так узрадавалася свабодзе, што нават заручыны з Карпам, якога яна паважала як старэйшага і крыху пабойвалася, сталі для яе гульнёй у жаніха і нявесту. Яна і не зразумела, што яе «прапілі» на ўсё жыццё, як толькі адпусцілі з-за застолля, пабегла да таварак скакаць у свае гульні. За некалькі гадоў яна падрасла, пасталела, але па-ранейшаму была жвавай, з вясёлымі смяшлівымі карымі вачыма, танкагубым ротам, які так артыстычна вымаўляў польскія «ц» і «ш». Карпу гэта падаецца мілым. Шчыра кажучы, адзін пагляд у гэтыя хітраватыя вясёлыя вочкі п'яніў Карпа — ён смерць не любіў апушчаных, плаксівых куточкаў рота, выразу жалобы, пакорнасці. І ўсё ж не каханне, не шчаслівае сямейнае жыццё здавалася яму галоўным. Можа, для жанчыны гэта і дастаткова, яна жыве дзецьмі, размовамі са сваімі таваркамі, няхітрымі забаўкамі на святах. Але мужчына павінен мець свой занятак. Справа не ў тым, каб зарабляць грошы — гэта немалаважна, але ёсць яшчэ мужчынскі занятак, чым улагоджваецца нейкае пачуццё адказнасці перад светам і богам.

Аднойчы прыйдзе маланка. Прыйдзе!

Карп стаяў на высокай крапаснай сцяне ў шырачэзных разлогах роднай зямлі. Твар ахалоджваў вясновы

вецер, дрэвы гойдалі зялёным убраннем. Вясна набірала сілу, каб, адолеўшы апошнія прыпыны, стаць пышным, буйным летам. Наваколле ўтрымлівала велізарную моц. Землі, воды, паветра магутна трымцелі. Карп літаральна целам адчуваў гэта. Яшчэ, яшчэ крыху...

## 8

І акурат у той жа час, хвіліна ў хвіліну, гэта трымценне адчулі будаўнікі сабора.

Сабор пачалі ставіць летась на тым самым Міколкавым пляцы, дзе чырвоны певень перамог казла. Ці то спецыяльна месца выбралі — на добрым знаку, ці выпадкова: гарадскі пісар пан Тыняноўскі не адзначыў, проста паведаміў, што праваслаўнае брацтва горада заклала на Міколкавым пляцы гарадскі сабор. За мінулае лета выкапалі велізарную яму-катлаван, урачыста заклалі першы камень, палажыўшы пад яго даволі вялікі залаты злітак, як мае быць асвяцілі будоўлю.

І хоць ужо канчалі рабіць скляпенні сутарэнняў, усё ішло не так, як трэба. Ніхто не мог сказаць чаму. Нейкія бядоты напатыкалі будоўлю. То сцяна раптам абваліцца, насмерць прыдушыўшы чалавека, то нехта трапіць у яму з вапнай і жыўцом згарыць, хто нагу пакалечыць, хто руку.

І вось у травені — халаднавата яшчэ было — яна прыйшла, стала. Во табе!

Была яна, Фрося, дачкой мясніка, так, так, тая Фрося, што адмыла Міколку. Мяснік жыў непадалёку, ён абяцаўся карміць у полудзень муляроў. Звычайна ежу прыносіў парабак, але той ці збег куды, ці адлучыўся, і ежу у двух драўляных вёдрах на каромысле прынесла Фрося. Яна прайшла між штабеляў цэглы, бярвенняў, дошак, паўз ямы з вапнай пад паветку, дзе быў збіты з дошак даўгі стол, паставіла вёдры на край стала і вый-

шла на адкрытае месца, на самы край катлавана, каб бачылі, што яна прынесла ежу. Муляры і іх падручныя калупаліся хто дзе па велізарнай будоўлі. Хто цэглу клаў, хто падносіў вапну, хто ставіў рыштаванні. Але быццам нейкі ветрык праляцеў над будоўляй. Ніхто не разумеў, што здарылася, але ўсе нервова аглядваліся, нарэшце бачылі на краі стромы постаць Фросі, і так, з кельмай, сякерай ці скрыняй заміралі, нават не паспеўшы выпрастаць спіну, апусціць руку, якой выцiралі пот з ілба. Нават старац Арсеній, галоўны дойлід, суровы паважаны чалавек, які ў гэты час пільна ўглядаўся ў свае скруткі з адмаляванымі на іх скляпеннямі і вежамі, нават ён сумеўся, прыўзняў галаву, павярнуў туды-сюды, убачыў Фросю і застыў, не паспеўшы выпрастацца. Толькі адзін крык здзіўлення і захаплення і пачуўся, нібы то гукнула сама будоўля:

— Ого-го!

Нельга перадаць дакладна прычыну гэтага немага здзіўлення. Можна напомніць, што Фрося была кабета як мае быць, высокая, шырокая ў касцях і з такімі велічнымі формамі, якія не магла схаваць белая світка, што ўздзета была на белую льняную сарочку з тонкімі чырвонымі палосамі на грудзях і падоле і тонкім чырвоным паяском.

Для параўнання можна было б азірунцца на карціны Рубенса, які з асалодай малюе пышнацелую плоць, часам на яго палотнах цэлая вакханалія з вальяжных кабет, крутазадых коней, магутных мужчынскіх торсаў — усё ў несціханай кругаверці і смачнасці жыцця. А можна аддаліцца яшчэ на дваццаць тысяч гадоў — у палеаліт, зару чалавечага жыцця, і вас уразяць высечаныя з каменя і косці фігуры тагачасных Венер, што пышнатою форм сваіх абдымаюць і ўбіраюць у сябе ўвесь акаляючы сусвет.

Такая была і Фрося — і не на карціне, не ў камені.

Яна не ведала ні пра Рубенса, ні пра палеаліт, жыла сабе, ды ўсё, як дрэвы, трава, хмары. Што ёй даспадобы, то ўхваляла, прыхіляла, а што не, то проста не заўважала. Калі ж быць справядлівым, то ёй мала што не падабалася з нашага зямнога. Падабаліся ёй не толькі дрэвы і хмары, але дровы і дождж, сівабародыя мудрыя старыя і ліхаманкавыя вясёлыя мужыкі, дзеці-немаўляткі, што брыкаліся ў ночвах, расплёскваючы ваду, і тонкія манерныя паннíчкі ў атласах і перлах. Ёй даспадобы быў і гэты катлаван, з якога выглядвалі скляпенні глухіх сутарэнняў, і муляры, што спыніліся ў нечарэчных постацях. І тым болей даспадобы была самой сабе яна ў белай сарочцы, што толькі прыкрывала, але не магла схаваць гэтыя гудучыя, як звон, жаночыя ўсеабдымныя раскошы.

І тут так моцна гаркнуў сваё «кукарэку» чырвоны певень, што хіснулася само паветра, задрыжэла зямля. Сусвет трымцеў!

Муляры не столькі пазіралі на Фросю, аглядалі яе, колькі далучаліся, пранізваліся магутным трымценнем. Можа, па-навуковаму, гэта быў нейкі парамагнітны рэзананс, магчыма, асаблівыя хвалі з космасу, магчыма, хвалі, што выпраменьваў магутны чалавечы дух, пра якія сённяшняя навука яшчэ не ведае, занятая толькі аналітычным разлажэннем сусвету. Словам, нешта ў душы і целе здрыганулася і паляцела...

Старац Арсеній разгублена агледзеў будоўлю, быццам упершыню ўбачыў, і зрабіў тое, чаму ён сам дзіваваўся, асабліва потым, як усё заспакоілася ад незнаёмага землятрусу. Рукі яго міжволі зарухаліся, ён разгарнуў скрутак папер, паклаў на мур — усё з нейкім здзіўленнем, быццам рабіў не ён, а нехта іншы, доўга ўглядаўся ў абрысы сцен і купалаў, потым узняў галаву да неба, нешта чытаючы на ім, у тым жа самнамбулічным задуменні перагарнуў ліст на чысты бок, выцяг-

нуў з кішэні вугалёк, які там заўсёды насіў, і пачаў вымалёўваць абрысы сабора. Плаўна і лёгка ішоў вугалёк, і формы царквы поўніліся незразумелай сілай. Пярэднi франтон пачаў нагадваць пакатыя плечы, ён вяршыў шмат'ярусную магутную прамавугольную постаць, але плоскасць, нягледзячы на сваю моц, падалася старцу занадта прэснай, і ён прарэзаў яе знізу галоўным высокім уваходам з пышным парталам. А зверху, па баках франтона, старцава рука ў задуменні адмалявала два вялікія купалы, падобныя на пышныя жаночыя грудзі — старац быццам адчуў іх пад белай Фросінай сарочкай, вялікія, як цудоўныя крутыя пагоркі, і там, дзе ўзвышшы, тыкнуў, што ружы, што саскі, мудрагелістыя крыжы — у славу Хрыста. Хай бог даруе старцу не зусім дакладнае веданне анатоміі! А зрэшты, можа, не так памыліўся старац, як практычная анатомія? Старац — вялікі мастак, і ён не мог не ўзвысіць вышэй за ўсё тое, што ўскарміла на зорным небе Млечны Шлях, а на зямлі — жыццё. А галоўны купал, што быў раней на тонкім барабане, ён зрабіў больш раскошны, разьбярны і пасадзіў на таўшчэзны барабан, што на тую Фросіну талію. О, тут царква стала як мае быць! І аднаго пагляду на яе было досыць, каб бясплодныя кабеты, нібы ад Святога Духа, адразу станавіліся цяжарнымі, а хворыя, што не ўстаюць дзесяцігоддзі, раптам узнімаліся і пачыналі скакаць. А сабор быў жа толькі адмаляваны вугальком, няпэўнымі лініямі, старац яшчэ там-сям наводзіў на ім штрыхі, удакладняючы дэталі, прафіліруючы парталы, ліштвы, карнізы, дзе-нідзе на сабор садзіліся каменныя пачвары, якія павінны адводзіць навальнічныя воды, каўтаць пыл, што ўзнімаецца ад шматлікіх веснавых абозаў, ахоўваць крыжы ад ластавак і варон.

Муляры тым часам мала-памалу ўзяліся за работу. Пачуліся вясёлыя воклікі, кельмы зазвінелі аб моцную,

як крэмень, цэглу, а цяжкія цагліны, нібы самі, нібы чырвоныя матылі, клаліся ў мур паўкружжамі апсід, вінтавымі лесвіцамі, калонамі, сценамі.

То адзін, то другі муляр падыходзіў да старца, цераз ягонае плячо заглядваў у ліст і задаволена адыходзіў.

Ай ды манах!

Хто б мог падумаць, што менавіта ён так трапна, паўнаважна, нават няўрымсліва спазнае і пераўвасобіць няяснае і грандыёзнае, падобнае землятрусу! Зараз ужо не верылася, што тут, на строме, з'явілася, як нязнанае відовішча, Фрося, дачка мясніка, што ад яе ішло, бы вецер, трымценне і паветра, і гэтых сутарэнняў, і кельмаў, і рук. Нервова смяяліся і перакідваліся моцнымі словамі муляры, быццам хацелі забыцца на недарэчнае і нязнанае, што п'яніла, як добрая кварта гарэлкі, што таіла ў сабе трапяткое адчуванне асалоды, цягнула ўладна і бездакорна.

А манах, драпнуўшы апошні штрых, які завяршыў дасканаласць гэтага буйства і ўсеабдымнасці, неяк апаў, быццам паменшаў. Яму сталася вельмі холадна. Ён насунуў на галаву чорны капюшон. Але ніхто не смяяўся, не кпіў з яго. Цяжкія крамянёвыя цагліны ляталі ў нейкім зачараванні, што матылі над свежай вясновай травой. Недзе раз-пораз крычаў певень.

Старац слухаў музыку кельмаў.

Многа камяніц адбудаваў ён за сваё жыццё. Некалі і ён быў маладым і вясёлым, і вось гэтак жа весела і няўрымсліва звінела яго кельма. Ой, шмат дарог выхадзілі яго ногі! Быў ён і ў Вільні, і ў Кракаве, і ў Супраслі, і ў Гродні, і ў Полацку. Арцеллю ставілі яны камяніцы, прыгажэйшыя за якія не адшукаеш ні ў адной зямлі. За свой доўгі век ён навучыўся выкладваць такія шырачэзныя скляпенні, што пад імі можна гарцаваць на жарабцах. Ён умеў паставіць на парусы шырокі

барабан з купалам, завяршыць васьмярык стройным шпілем. Ён знаў, як высекчы з каменя святога Пятра, Багародзіцу і рымскую пачвару. Ён ведаў, як ляўкасіць і залаціць дрэва, як лепей класці тынкоўку для фрэскі, як церці фарбы, змешваць іх, наносіць на воглыя сцэны, каб колер быў моцны і звонкі, ён ведаў, як пракласці ў сценах патаемныя хады і як абудзіць у сценах святасць. Гэтулькі многа ведаў старац Арсеній — яму здавалася, яго цела стала цяжкім, як свінец. Можа, і ад гэтага ён пачаў хадзіць цяжкой нетаропкай хадою, глядзець такім паглядам, што бывае толькі ў горнага каменя марыёна. Ён быў суровы, пануры, без весялосці. Не раз у сваёй цёмнай келлі старац уздыхаў па добрых мінулых бестурботных часінах. Яны не вярталіся. І гэта была дзікая недарэчнасць, хоць ён і ведаў і паўтараў увесь час словы Эклізіяста: у многай мудрасці многа журбы, і хто памнажае веды — памнажае скруху. Ён імкнуўся зміырыцца і не мог. Нават невядома, чаму адбываўся гэты бунт, падобны на ерась. Ён дакараў сябе, гадзінамі маліўся Міколу-цудадзею, але душа яго клікала і клікала верхні, буйны, вясёлы ўзлёт, што ўскрыліў бы над свінцовай важкасцю яго цела.

Брацтва папрасіла яго адбудаваць найвялікшы гарадскі сабор. Ён намаляваў тое, што, на яго думку, павінна было б задаволіць людзей. Але і сам бачыў, што сабор выйшаў хілаваты, непародзісты. Не было ў ім нейкай моцы, што ў той час кожны адчуваў у сабе. Брацтва не вельмі хваліла яго сабор, зацвердзілі моўчкі, бы хавалі каго.

Ужо знеслі Міколкаў дом, ужо выкапалі велізарны катлаван, ужо рабілі скляпенні сутарэнняў, паклалі ўжо першыя цагліны надземнага будынка, а старац Арсеній лавіў і не мог злавіць тое, чым усё было насычана-перанасычана. Яно перла з бруку вуліц і з дамоў, з купецкіх абозаў і з барадатых вахлакоў-мужыкоў, з

друкаваных кніг і ерасяў новахрышчэнцаў, нават з кожнага жэста кожнага чалавека, з яго пагляду, слова, яго ўсмешкі, кпінаў, нават сну, нават смерці. Такі быў час. Але старцу марыліся мінулыя саборы. Гэта сама дасканаласць — саборы Полацка, Гродні, Нясвіжа, Супрасля. Яны выпраменьваюць нейкае нетутэйшае святло. Нават не заплюшчваючы вачэй, ён бачыў дзівотныя збудаванні. Часцей за ўсё адчуваў пяшчотны подых вясны, што зыходзіў ад Маламажэйкаўскай царквы. Гадоў сорак прайшло, як быў ля яе, але і зараз яна мроіцца яму садам у белым кіпені кветак, нявестай у лёгкім уборы. Усё жыццё ён цягнуўся да яе, могся зрабіць гэтак жа летуценна. Па чатырох кутах — круглыя стройныя вежы, на пярэднім фасадзе — ніводнага акна, але прыгожыя разнастайныя нішы надаюць такую лёгкасць і празрыстасць — бесклапотнае дзяўчо: не спрацавана, не збедавана... І мучыўся старац, імкнучыся прывесці гэтае дзяўчо на дзікі і раз'юшаны кірмаш, што збіраўся ля шырокай ракі. А калі нарэшце прывёў — гэта была Фрося... Старац гатовы быў заплакаць з адчаю, кінуцца на зямлю і ляжаць ціха, як у магіле. Хто ж ведаў, хто чакаў? «Дзіва,— падумаў раптам старац,— у мяне не хапіла розуму ўсвядоміць, што дзяўчыны з цягам часу становяцца кабетамі».

Гэтая простая і глыбокая, як само жыццё, думка ацяпліла старцаў твар слабай усмешкай. І яму здалося, што ён пачаў кахаць гэтую новую плоць. Менавіта такое ён чакае ўсё жыццё, менавіта гэта — яго мара, імкненне. Ён угадваў у цяжкаважкасці і ўсеабдымнасці рысы летуценнай маламажэйкаўскай дзяўчыны, што ўразіла яго ў юнацтве, як кволасць, тонкасць, безабароннасць. І хоць у новым саборы ўсё трымцела раз'юшанасцю, смеласцю, старац, у адрозненне ад іншых — мудры чалавек, ведаў, што пяшчотнасць і цнатлівасць ніколі не могуць пакінуць жыццё. Разгул — з'ява ча-

совая, гэта — як хвароба, трэба перацярпець... І зноў яму раптам падумалася: а ці ж гэта разгул? Хто так давёў? Гэта проста жыццё — поўнай чарай, найвялікшая і найглыбейшая яго праява, зеніт жыцця. Чаму ж за гэта дакараць, навошта гэтага пазбягаць? І яму стала так лёгка. Разумнымі сілагізмамі ён абяліў і вызваліў з глыбіні душы патаемнае і дарагое пачуццё кахання здаровай і моцнай плоці, да чаго, магчыма, імкнуўся ўсё жыццё, але стыдаваўся, саромеўся, лічыў грахом. Цяпер бачыць: граху ў гэтым не болей, чым у светлым гудзенні меданоснай пчалы.

Старац адкінуў з галавы капюшон і выпрастаўся. Гэта быў новы чалавек. Куды зніклі яго суровасць, цяжкасць, задуменнасць. Пагляд быў ясны, стромкі, лёгка пранізваў акаляючы сусвет...

## 9

...І таго казла, што стаяў на тым самым месцы, дзе нядаўна была Фрося. Казёл быў вялікі і страшэнны. Руды, з даўгой поўсцю, даўгой барадой, пукатымі жоўтымі вачыма з прамавугольнымі чорнымі зрэнкамі і таўшчэзнымі крутымі рагамі. Казёл задуменна глядзеў на будоўлю і нешта таропка жаваў, нейкае бадыллё. Старац здзівіўся яго агромністасці і таму, што той стаяў дакладна на Фросіным месцы. Старац невысока падняў руку і налажыў на казла хрэст. Той заёрзаў, стукнуў пару разоў капытом — нядобра яму сталася, і знік, пакінуўшы воблачка сернага смуроду. Старац прынюхаўся: ото, відаць, са знаці...

Муляры і падручныя са смехам і жартам пакідалі работу і ішлі да Фросі пад паветку, дзе яна ўжо налівала ў драўляныя каўшы верашчаку. І кожны не мог адысці, каб хоць злёгку не дакрануцца да Фросі. Яна

адмахвалася ляніва, як ад мух. Хутка ўсе смачна сёрбалі, крычалі, рагаталі — ніколі не было пад паветкай такой весялосці.

Толькі старац не пайшоў, стаяў на ранейшым месцы і раздумваў, што ўсё гэта магло азначаць. Але доўга думаць яму не давялося, бо ён убачыў перад сабою немца. І адкуль той падышоў, адкуль з'явіўся?.. Быў ён у даўгой з пышнымі буфамі шаўбе, велізарным плоскім барэце, панчохах і пантофлях, у адной руцэ трымаў невялічкі, акуты прасечным жалезам куфэрачак, круглы твар быў чыста паголены, валасы даўгія клаліся на плечы. Немец ветліва ўсміхаўся, паказваючы белыя зубы, і кланяўся, кланяўся.

— Гер дойлід, гер дойлід! Маё найвялікшае шанаванне! Слава, вялікі гер дойлід! Чуў я ў далёкіх землях пра вашу славу, чуў, што будуеце зараз найвялікшы сабор, які яшчэ ніхто не будаваў. О, гер дойлід, я да вашых паслуг. Я таксама дойлід. Я знаю матэматычную магію і разгадваю кабалістычныя знакі. Я магу разлічыць, якой таўшчыні павінна быць калона, сцяна, скляпенне. Я магу правесці такую дакладна прамую лінію, што пазайздросціць сам Гасподзь. О, гер дойлід, я да вашых паслуг! Я хачу навучыцца ў вас вашаму таленту, а за гэта вы можаце выкарыстоўваць мяне як простага рахункавода. У вас яго няма, я даведаўся ўжо. Мы можам заключыць такі кантракт. О, гер дойлід, гэта да вашай выгоды. О, я губляю на гэтым кантракце трыста залатых талераў. О, гер дойлід, хоць зараз я магу паказаць, чаго я варты. Што гэта ў вас?

І немец ветліва, нават падлізліва, узяў у рукі ліст, на якім вугальком, няпэўнымі лініямі, быў адмаляваны цудадзейны сабор.

— О, гер дойлід, о, гер дойлід! Якая раскоша! Якая паўната і багацце форм! Але ммых! — Гэта асаблівае мычанне азначала, што сабору нечага не стае — вель-

мі важнага.— Я знаў, вам патрэбен такі чалавек, як я. Тут крышачку неабходна паправіць, матэматычна разлічыць, ужыць цыркуль і лінейку. О, гер дойлід! Цыркуль і лінейка — наш бог!

Немец вельмі спрытна дастаў са свайго куфэрка цыркуль і лінейку і, прыстаўляючы лінейку то да адной лініі малюнка, то да другой, паказваў старцу, што ўсе лініі ў яго пукатыя — яны былі пукатыя то знізу, то зверху, то пасярэдзіне. А калі немец пачаў правяраць скляпенні, купалы, падпружжы па цыркулі, то ўсё аказалася нейкім скасабочаным.

Старац Арсеній яшчэ не вымавіў ніводнага слова, спачатку ён са здзіўленнем пазіраў на немца, са здзіўленнем слухаў яго гутарку, потым з яшчэ большым здзіўленнем бачыў, што ўсе простыя лініі на яго малюнку пукатыя, а купалы і скляпенні — скасабочаныя. Ён доўга не мог зразумець, як гэта атрымалася. Немец мельцяшыў над малюнкам, гэта не давала магчымасці засяродзіцца.

— Паважаны гер дойлід,— сказаў спакойна старац,— я разумею вас. Прашу ў вас адну хвілінку на роздум. Вы нічога не паказваеце, а я гляджу.

Немец адышоў і пачціва, з угодлівай усмешкай, стаў побач. Старац не адразу агледзеў малюнак. Спачатку ён глядзеў пад ногі, потым пад паветку, дзе палуднавала яго буйная арцель, на дрэвы, на неба, а потым ужо глянуў на малюнак. Сабор і сапраўды быў магутны і цудадзейны — старац не мог адшукаць на ім ніводнай пукатай лініі, ніводнага скасабочанага купала. Праўда, тая лінія, што немец хваліў як адзіна правільную, падалася старцу крывой, ён проста не дагледзеў яе першы раз. І старац вугальком адмаляваў яе так, каб яна здавалася роўнай і стромкай.

Немец выпучыў вочы і разгублена, нават са страхам, сказаў:

— О, гер дойлід! Што вы робіце!

Старац усміхнуўся.

— Відаць, не цыркуль і лінейка бог, паважаны гер дойлід. Я не ведаю, што тут бог, але дакладна ведаю, што не цыркуль і лінейка. Яны хлусяць. Не верце ім, паважаны гер дойлід!

Немец яшчэ больш выпучыў зрэнкі, узняў угору рукі. У адной руцэ ў яго быў цыркуль, у другой — лінейка. Ён стаў, як укрыжаваны Хрыстос.

— Мы народ добразычлівы,— гаварыў старац.— Калі хочаце вучыцца ў нас — вучыцеся, мы не забараняем. Але ваша бухгалтэрыя нам не да ладу, паважаны гер дойлід. Бачу, вы не можаце зразумець і пераканацца? Так, гер дойлід? Ну што ж, можам паспрачацца. Тут, на пляцы, ёсць у нас крыніца, дык над ёй трэба каплічку адбудаваць. Як, гер дойлід?

— О, гут, гут,— сказаў немец.— Я вельмі ўдзячны вам. Будзьце ўпэўнены, я такую каплічку выбудую — ваша зямля яшчэ ніколі не бачыла. О, гер дойлід, будзьце ўпэўнены,— і немец зноў ветліва заўсміхаўся, шчэрачы белыя роўныя зубы.

## 10

Толькі немца не хапала...

Але што я магу? Так гаворыць сабор.

Я толькі слаба хапаю з таго, што ён засяродзіў. Такая таўстасценная магутнасць, трэба сказаць, нямала ўвабрала ў сябе, як тоўсты манах добрага піва. Сядзіць, смакуе. Губы, тлустыя ад тоўстай авечай нагі, вочкі, заплыўшыя, хітра блішчаць. Піва са склепа, на вуліцы нечуваная гарачыня, а сядзець у цемнаватым шынку з ніскай закопчанай столлю ды пацягваць халоднае піва...

З прасвятленнямі трэба спяшацца — вакол сабора пачалі ўзводзіць рыштаванні, хутка пачнецца рамонт, замуруюць шматлікія шчарбіны і праломы, а мне здаецца, менавіта праз іх сочацца да мяне старажытныя весткі. І зразумелым становіцца, як узрастала гэтая магутная, плоцкая, насмешлівая і святая сістэма. І не столькі бясконцай егіпецкай працай цягне ад гэтага збудавання...

Во, муляр прыехаў.

Прыйшла велізарная машына, аўтакранам знялі цэглу на паддонах, скінулі жалезныя ночвы, вушаты, розны струмант. Муляр пайшоў аглядаць пралом. Кінуў вокам здалёк, падышоў бліжэй, залез усярэдзіну, нават сеў там, цмокаў языком, круціў галавой, доўга лаяўся з прарабам, пахмурна падняўся, дакурыў цыгарэтку, сплюнуў і пайшоў.

А божа, як кажуць: я вам нараблю!..

Але назаўтра мне было сорамна за такую іронію. І мне падалося, што гэта іншы чалавек. У ім была зухаватасць, бесклапотнасць, лёгкасць, што знойдзеш толькі ў майстра вышэйшага класа. Рыба ў вадзе, воблака ў небе. Імгненныя зграбныя рухі, нібыта гранне. Кельма — у раствор, пляск на гарызанталь сцяны, імклівае хвалепадобнае разраўноўванне. Цэгла ў руцэ, пляск раствору на вузкае рабро, хлоп на месца да такой жа цагліны — новай, старой: усё адно; у руцэ — новая цагліна, пляск раствору, хлоп на месца. Новая велькапамерная цэгла ідзе ўпоруч са старой, зліваецца ў адзіную магутную структуру — барочны выгіб набывае пранізлівую акрэсленасць. Нібы песня рвецца з-пад гітарных узрыдаў. Як было і тады, трыста гадоў назад...

Неспазнана!

Я сам майстар. Я магу выкаваць срэбную і залатую ружу, магу пусціць па тонкіх срэбраных лістках трапяткія жылкі, магу выгнуць лісткі вольным прымхлівым рухам.

Не ведаю, шчыра кажу: не ведаю. Я не ведаю, як гэта выходзіць! Так было і ў старых майстроў, і для мяне загадка і дзіва, як гэта робіцца...

Пастукваюць бёрды кроснаў.

— Гаспадыня дома? — крычыш ад парога.

Стук змаўкае, у пакой уваходзіць жанчына ў цёмнай дамашняй вопратцы.

— Дзень добры, а вы хто будзеце?

— Ды вось шукаем, хто прыгажэйшыя дываны ды рушнікі робіць. Узоры хочам глядзець. Мастакі.

Усё зразумела, калі мастакі, яшчэ дадасць, калі зойдзе суседка:

— Мастакі, узоры здымаюць. Па тэлевізары паказваць будуць.

— Ай-яй, во дажыліся, чэсць якая. Гэтыя трапкі.

— Ідземце, пакажу сваё пракляцце.

І мы ідзём у бакавы пакойчык, у які ледзь уціснулася таўшчэзная рама кроснаў. З аднаго боку ніткі, навітыя на калоду — навой, а з другога — тканіна з узорам. Белае поле, і па ім рэдка — буйныя салатавыя ромбы з грабянцовымі бакамі. Жанчына залазіць туды, усярэдзіну, сядае на лавачку, пакрысе рухае рукамі, нагамі, нават, здаецца, языком і раптам робіць «ашаламляльную стойку»: рука дакладна кідае чаўнок, ніты імкліва ідуць — уверх-уніз. Амаль адначасова зрываюцца бёрды — тук-тук! Чаўнок, ужо іншы, з салатавай ніткай, ляціць у пастку нітак, зноў няўлоўна хуткі рух нітоў, ужо другіх — уверх-уніз. Бёрды — тук-тук! Ляціць чаўнок, рухаюцца ніты. Ва ўсю шырыню тка-

ніны растуць салатавыя ромбы, быццам точаныя сучасным дызайнерам, якому даспадобы адшліфаваныя ідэальныя формы. Гляджу зачаравана на гэты цуд узнікнення з небыцця, з простых струн-нітак. І глядзіць суседка, таксама ткачыха, глядзіць нават са здзіўленнем, хоць сама будзе дакладна так, седзячы ў гэтай навіва простай канструкцыі, здабываць, быццам музыка, поліфанію разнастайных узораў.

Стоп!

Ледзь утрымліваешся на месцы. Машына клюнула носам, а калі выйшаў — ірванула і знікла ў клубах пылу. Яшчэ з хвіліну гойдае цябе тое шалёнае жыццё, ачмурэла глядзіш перад сабой. І раптам адчуваеш — вшчодра прыпякае летняе сонца. Па небе плывуць воблачкі, белыя, такія ж, як у дзяцінстве. Чуеш вільготны, цяжкі і прыемны пах густой травы ля сцяжынкі. Падыходзіць пажылы чалавек, крыху падазрона глядзіць, а даведаўшыся, што ты цікавішся, як гэта гаршкі робяцца, з нейкай радасцю, нават хваляваннем вядзе ў хату, да гумна, дзе ляжаць горы гаршкоў, да вялікай печы-горна. А потым, нібы ты яго вучань, пачынае тут жа вымешваць гліну — спачатку босымі нагамі на падлозе ў вялікай кухні, якая адначасова і майстэрня, над табой дзесяткі белаватых гарлачоў, жбаноў, місак, яны сохнуць на даўгіх дошках, чакаючы абпалу. Босыя ногі з падкатанымі калашынамі хутка пераступаюць дробным крокам, спачатку ў адзін бок, потым назад, пакідаючы глыбокія ямкі. Даўгі гэты нязвыклы танец, чалавек яшчэ моцны, дарма што яму пад семдзесят. Па твары струменіць пот.

— Не тая ўжо сіла,— апраўдваецца.— Ганчар, як каваль, сілу павінен мець. А я пажыў, многа чаго бачыў...

У цяжкіх маршчынах старога ганчара нерухома ляжала мінулае жыццё — нараджэнне дзяцей і смерць блізкіх, скупыя радасці і нецярплівасць да крыўд. І самае апошняе, што развярэдзіў я сваім прыходам. Ён ведае, я не застануся тут, не сяду на многія гады за ганчарны круг, каб круціць удвух — весялей. І ўсё ж не можа паспытаць яшчэ адзін шанец, няхай і марны...

І вось майстар за кругам. Ён уладжваецца за ім нават з нейкай урачыстасцю. Лава ў тым месцы, дзе ён сядзіць, крыху заглыблена і адпаліравалася да бляску, яна вышэй за звычайнае крэсла, бо ногі майстра, зноў босыя, не павінны датыкацца да ніжняга масіўнага махавіка, на адным вале з якім знаходзіцца зверху невялікі ганчарны круг. Мяккі дотык да махавіка пальцаў ног — круг з напляснутым на яго кавалкам гліны пачынае рух. Шпарчэй, шпарчэй. Майстар акунае рукі ў ваду — яны становяцца бліскуча-карычневыя, дакранаецца да кавалка гліны, акругляе яго, зноў мачае рукі ў ваду, і тады пачынаецца здзіўляючае. Няма ніякай гліны. У руках майстра дзівосная жывая істота, яна паслухмяна лашчыцца да яго пальцаў. Вось ён, жывы круг, падаўся ў бакі, па ім прабягае зверху ўніз вострая хваля, пашыраючы яго. Яшчэ адна хваля — да сярэдзіны, змякчылася, акруглілася, набыла прыгожы абрыс. Гарлавіна раптам звузілася, верхні венчык адвярнуўся. Гляк! Круг спыняецца, майстар наклейвае ручку, падразае гляк знізу тонкім дроцікам, ласкава ахоплівае далонямі, здымае і ставіць на дошку.

Адкуль гэтыя чыстыя, дакладныя, вытанчаныя формы, адпрацаваныя да высокага артыстызму рухі, прыёмы?

— Раней тут стаяў другі ганчарны круг. З братам рабілі. А ганчары па нашай вуліцы праз аднаго жылі. Кожны меў свой горан. Некалі на кірмаш збярэцца цэлы абоз, фурманак з дзесяць...

У вачах майстра летуценная цеплыня. І да гэтага часу вабіць яго рамантыка дарог. Не, не на машыне, што грукоча, узнімае воблака пылу — нават не разгледзіш ні дрэва, ні вёскі, ні поля. Паволі крочылі коні па звілістай ціхай дарозе, рыпалі поўныя вазы, ухутаныя посцілкамі, духмяна кружылі галаву маладыя сасновыя лясочкі. Калі праязджалі, людзі спынялі на хвіліну работу: «Ганчары едуць». А ноччу, калі прачыналіся, бачылі над сабой зоркі, побач мірна пасвіліся коні, гарэла спакваля невялічкае вогнішча.

Ціха, амаль нячутна круціцца ганчарны круг.

Мы ходзім разам з хударлявым мясцовым археолагам па музеі. Пінск. Гэта глыбінка Палесся, самы цэнтр гладкай, як стол, раўніны з балотамі, азёрамі, бясконцымі разаранымі гонамі былых балот. Археолаг уедлівы, як і павінна быць археолагу, вочы яго прыжмураныя, бровы вузкія, сівыя, стырчаць. Ды і завуць яго гістарычна: Боян. Ён беражліва, нават пяшчотна перабірае чорныя чарапкі старажытнага посуду, некаторыя затрымліваюцца ў яго руцэ, ён паварочвае іх у профіль, разглядвае вонкавыя, унутраныя бакі, ускідвае час ад часу тонкія бровы. Ён забыўся на мяне, ён заглыбіўся ў мінулае. Калі такі чарапок трапляе пад музейнае шкло, ён замірае. Але калі да яго датыкаюцца чалавечы пагляд, рука, якія працягваюць тысячы мінулых дотыкаў, пaглядаў, чарапок набывае рух, адчуваеш яго занатоўванне — адбітак на ім людскіх страсцей і падзей.

— Дзве тысячы гадоў,— гаворыць археолаг нібы сам з сабой.— Гэта наша кераміка, славянская, нашых прамых продкаў. Кераміка ручнога прыгатавання, потым кружальнага, але формы, формы. Амаль без змены, адно ў адно — дзве тысячы гадоў!

Стары ганчар круціць вытанчаныя, зграбныя формы бесперапынна вось ужо дзве тысячы гадоў запар. Дзяржавы ўтвараліся, гінулі і зноў узвышаліся. А стары ганчар са сваім народам жыў бессмяротна, як і вечная, невынішчальная наша зямля. Ён перажываў чуму, няшчасці, неўраджаі, войны. Вяртаўся з далёкіх паходаў, скідаў з сябе цяжкую кальчугу, здымаў плецены ля са скур пасталы і ўрачыста, быццам на трон, усаджваўся за ганчарны варштат. Мяккі дотык пальцаў ног да масіўнага драўлянага махавіка, круг з напляснутай на яго глінай пачынае круціцца.

Хоць бы пустка кругом была — счарнелыя лясы, выпаленыя вёскі, спустошаныя гарады, галодныя апухлыя людзі, што ядуць кару з невялікім дамесам мукі.

Круціцца ганчарны круг.<br>
Круціцца, што вось зямная.<br>
Круціцца, як пульс жыцця —<br>
Новы пульс цяжарнай кабеты.<br>
Логас і Хаос. Пялёстак і крышталь.

Змаганне... Пачалося яно, мабыць, тады, калі ўзнікла першая цывілізацыя. У пойме Тыгра і Еўфрата людзі, будуючы першыя арашальныя каналы, нацягнулі вяроўку. Магчыма, ідэальна прамая лінія зачаравала вока. Яна здавалася нетутэйшай немагчымасцю, бо была на зямлі такой рэдкай. Толькі крышталь валодаў гэткай жа правільнасцю і дакладнасцю. І яго пачалі лічыць каштоўнасцю. У іншыя эпохі ўсё самае дасканалае вымяралі тым, як яно набліжалася да крышталю.

Магія лічбаў і ліній зарадзіла ў чалавеку даследчую цікаўнасць і ператварылася ў рэшце рэшт у навуку і тэхніку нашай цывілізацыі.

Слава магічнаму крышталю!

Але сёння мы з трывогай і разгубленасцю выявілі, што магічны крышталь любое жыццё, якое набліжаецца да яго, крышталізуе і змярцвляе. Прырода ўжо

на ўзроўні клеткі выпрацоўвае няправільнасці і несупадзенні з крышталём. Кветка, каб не быць злоўленай прыгажосцю крышталёвага шасцікутніка, раскрывае толькі пяць пялёстак, ды і ў гэтых пяці шукае асіметрыю. Кожны ліст дрэва, нягледзячы на пэўную падобнасць, мае свой малюнак, што імкнецца адысці ад простай лініі і нават падобнасці.

Не так усё проста на нашай зямлі!

Чым болей углядаюся ў сабор, імкнучыся ўлавіць яго складаную апошнюю сутнасць, тым больш мне здаецца, што метры для нас былі толькі для таго, каб, ведаючы іх, адыходзіць ад іх магчыма найдалей! Сабор з сілай вырываецца з-пад нейкіх крышталёвых забарон — з палемікай, завастрэннем. Ён нават падкрэслівае гэты жывы пачатак — насупор!

Бароўкаўся пялёстак з крышталём...

Здавалася, чаго яшчэ крышталю не стае — вунь колькі абшараў на зямлі і нябёсах! Чаму ж ён убіўся ў наш горад?!
Сумную аповесць расказаў сабор.
Раптам горад пачаў гібець.

## 11

Шчэ чырвоны певень не паспеў дакукарэкаць, казёл толькі ўздымаўся на строму перад катлаванам, а ў горад вярнуліся вароны. Яны не ляцелі нахабнай зграяй, а прабіраліся па адной, нейкімі завуголлямі і потым адразу паселі на дрэвах вакол сабора. Ужо з лямантам,

спрэчкамі. І пачалі рабіць гнёзды. Пападбіралі ў горадзе ўсе галінкі, трэскі, расцягвалі плятні, шчапалі калы. Іх было так многа, што сабакі баяліся падыходзіць, пазабіваліся ў кануры, у падполле. І за які тыдзень у горадзе не засталося ні кала ні двара.

А тут яшчэ выйшаў нядобры знак: за гарадскім валам, на Шклоўскай вуліцы, Шэйна, дачка Вульфава — арандатара з Чашнікаў, жонка Аліка Габрыеловіча, нарадзіла некага нечалавечай постаці, накшталт мядзведзя, касматага і з пазурамі.

Гарадскі пісар пан Тыняноўскі шмат нядобрага запісаў у тыя часіны ў сваёй тоўстай кнізе.

«З боскага дапушчэння на Украіне, за Дняпром, і на Поўначы, таксама на Палессі, каля Слуцка, на Чорнай Русі, саранча, адвеку пра якую мала чулі, такой моцы была, што нападала на збожжа, траву і ўсё з'ядала — не было чаго жаць і касіць».

«У тое ж лета, у час моцнай гарачыні пан Бог наведаў Ніжні горад агнём, пагарэлі дамы і крамы. Панамар Яўхім забыў патушыць у царкве Святога Духа свечкі, ад чаго драўляная царква начыста згарэла з усім начыннем, званы растапіліся, нібы свечкі, нічога не засталося, ад яе і горад гарэў. А панамар уцёк з горада, бо быў бы сам спалены».

«У тое ж лета, магчыма, як кажуць, з волі д'ябла Сапсая, што з-пад туркаў, наступілі такія страхі. Так, у Кароне Польскай і Велькім княстве Літоўскім і розных краях і гарадах і ў нашым горадзе нехта піша граматы чырвоным па касцёлах і цэрквах — так высока па сценах, на колькі сажняў ад падлогі, знаходзяць граматы і ў скрынях за замкамі. Але ніхто гэтых грамат прачытаць не можа. Таксама авечкі пастрыжаны ў тых людзей, што нікога не баяцца, а пасля таго і бароды ім стрыжаны, а нявестам стыдлівыя лонкі пастрыжаны».

«Таго ж году, праз пяць пятніц ад Вялікадня, перуны страшэнныя панавалі, пад вёскай Гарадзец быдла рагатага штук 113 забілі, я гэта на ўласныя вочы бачыў».

«У маі і ліпені ў Быхаве чараўнікоў з дзесяць спалілі, а астатнія ўцяклі на Украіну».

І шмат чаго іншага пісаў у сваіх тоўстых кнігах паважаны пан Тыняноўскі. Гэтыя гісторыі займаюць у яго многа старонак дарагой паперы, зробленай пад Слонімам. Сумная аповесць пра тое, як, здаецца, без аніякай прычыны пачаў гібець горад. Навала за навалай, бядота за бядотай, няшчасце за няшчасцем.

## 12

Цяпер Міколка ні на крок не мог адысці ад Карпа. Бо, нарэшце, тая тайна, з-за якой загінуў род Міколкі, праяснілася.

Міколку яшчэ пазалетась старац Арсеній са спачування ўзяў у арцель. Міколка быў на сёмым небе. Гэта давала нейкі прытулак душы. Ён гатоў быў працаваць абы-кім, толькі б на будоўлі сабора. Міколка перасяліўся ў пакінутую рамізнікам хату, які сышоў у Масковію. Вясной саджаў агарод. І хоць дом быў маленькі, падслепаваты, але месца хапала. Міколка быў вельмі задаволены і, можна сказаць, стаў шчаслівым чалавекам. Уставаў на золку, з'ядаў кавалак чорнага хлеба з цыбулінай ці рэпнае варыва і ішоў на будоўлю. Ён адужаў і проста адчуваў, як яго рукі становяцца моцнымі і ва ўсё цела вяртаецца жыццё. Хадзіў ён у тоўстай зрэбнай сарочцы, падараванай Фросяй, у такіх жа моцных партках, улетку ніколі не абуваўся, як і ўсе іншыя, ногі яго задубелі, што конскія капыты.

А тайна адкрылася, калі рушылі яго дом. Ён таксама быў пры гэтым, разам з іншымі ламаў сцены — яны

былі такой мацнаты, што даводзілася біць адтуліны, уганяць у іх дубовыя кліны і паліваць вадой, толькі так можна было разарваць сцяну. На доўгі век будаваўся прадзед! Але Міколка не шкадаваў дома. Ды яму падавалася: то наогул нешта рушаць, а не яго дом. Міколка нікому не казаў, што нешта стогне і плача ў яго хаце, але ведаў дакладна, дзе жылі гэтыя прывіды. Калі дайшла чарга да той часткі дома, ён занепакоіўся, аднекваўся, браўся за іншыя работы. Але нічога асаблівага не здарылася. Толькі аднойчы, калі адвярнулі глыбу, адкрылася патаемнае сховішча, а ў ім быў просты медны кубак, увесь счарнелы, пазелянелы. Людзі дзіваваліся, шукалі золата, але больш нічога не было. Кубак прынеслі Міколку, той доўга разглядаў і заўважыў на ім драпінкі — крыху пацёр зямлёю, угледзеўся ў лініі і самлеў. Гэта быў кубак з вядомай вершаванай гераічнай балады — яе ведалі ўсе ў горадзе: колькі разоў на ўрачыстасцях баладу чыталі на Рыначнай плошчы перад натоўпам. На самой ратушы, над галоўным уваходам, пад вежай быў высечаны з камня гэты кубак, а на ім арол, які распасцірае крылы, рыхтуючыся ўзляцець. Гэты арол быў у гарадскім гербе, як знак гарадской вальносці, быў на гарадской пячатцы. Але тут, на кубку, з арлом тварылася нешта страшэннае: ён гарэў ва ўласным гняздзе, полымя шугала з усіх бакоў, вышэй арла, і ўжо гарэлі ягоныя крылы. Міколка павярнуў кубак другім бокам і ўбачыў у хітраспляценнях ліній травы, кветкі, звяроў, калі ж пачаў разбіраць, што надрапана, яму стала жудасна — там былі морды ўсіх звяроў, з-за якіх загінуў яго род.

Міколка стаяў збялелы і не мог выпусціць з рук кубак. Ля яго сабраліся людзі, яны таксама разглядзелі кубак і зразумелі, што за ён, чаму быў замураваны ў гэтым доме, чаму на дом сталася насланнё.

Кубак аддалі старцу Арсенію, і той аднёс у ратушу.

Гарадскі пісар, паважаны пан Тыняноўскі, урачыста занёс гэтую падзею, усяленне кубка ў ратушу, у свае тоўстыя кнігі, коратка пераказаўшы старое паданне.

«У тым жа леце ў доме цанінніка Міколкі, на пляцы якога ставяць сабор, знойдзены ў сцяне вядомы кубак, што згінуў век таму назад. Прадзед Міколкі замураваў гэты кубак у сцяну, каб пазбавіць сябе ад нянавісці людзей. З-за гэтага кубка загінуў лепшы чалавек горада златакаваль Яўген Корзун, першы гарадскі стараста, каго людзі нашага горада абралі тады, дабіваючыся гарадской вальносці. Людзі горада кляліся, што адпомсцяць таму, з-за каго загінуў першы стараста нашага горада. Цяпер вядома, чый гэта род, але на род было боскае насланнё, і ён амаль увесь загінуў, акрамя блажэннага Міколкі. Лепшыя людзі горада думалі і вырашылі: прасіць, каб кару Міколку вынес адзін з роду Корзунаў, а менавіта: паважаны златакаваль Карп Корзун. Будзе на тое боская воля. Амінь».

Карп Корзун адмовіў у кары.

Міколка не мог адысці ад Карпа ні на крок. Ён пазіраў на яго са страхам, бо той мог, меў права падысці да Міколкі і зрабіць, што яму хочацца: выбіць вока, адсекчы руку, а то і забіць. Скажа, напрыклад: «Пакладзі руку на пень», і Міколка пакладзе, не кажучы ні слова, а Карп сваёй шабляй адсячэ. Карп гнаў Міколку, часам сердаваўся, а часам і не заўважаў. Вось як зараз.

Зноў была ранняя халодная вясна і зноў ад шырокай, што мора, ракі павяваў ледзяны ветрык. Карп з сябрамі стаяў на крапаснай сцяне.

Быў тут Пятрок-паэт, малады збяднелы шляхціч, тонкі і бледны чалавек у простым бедным адзенні. Быў стары лацініст Андрэй Быхавец — з даўгой сівой барадой. Яго ў горадзе лічылі чарнакніжнікам. На ім паверх старэнькага жупанчыка быў шырачэзны і даўгі плашч,

некалі чорны, ён выгараў на сонцы і стаў шызым, такія старамодныя плашчы ўжо ніхто не насіў. Быў тут іканапісец Афанасій Пігарэвіч, падобна лаціністу, гэткі ж непрактычны, у хаце яго было так гола, што, кажуць, царкоўная мыш пабегла ад яго назад у царкву. Ну, а маляр Пётр Яўсеевіч з Галынца, гэты попік, жыў, як і іншыя майстры-жывапісцы — еў хлеб ад выпадку да выпадку.

Ні ў каго не было ні багаццяў, ні нашчадкаў. Жылі яны, як салдаты.

Што звяло і прывяло іх на самы верх крапаснай сцяны, Міколка мог здагадацца: яны азіралі Радзіму. Так, так, не болей, не меней. Гэтыя не з тых пітух, што ад раніцы стаяць пад шынком, каб заліць ясны розум салодкім туманам небыцця. І розум, і пачуцці гэтых людзей ясныя, вострыя, менавіта яны плятуць дзівосныя філасофскія думкі, менавіта яны складаюць узнёслыя оды, гераічныя драмы, што потым так пафасна чытаюць на Рыначнай плошчы перад народам школяры і акторы, менавіта яны славяць чалавека і Госпада.

«Каго ўжо тут славіць»,— думаў Міколка.

«Каго ўжо тут славіць»,— думалі і гэтыя людзі, і шырокія прасторы.

Жудасна чарнеюць пагарэлыя сядзібы, не менш паўгорада выгарала ад той царквы Святога Духа. Але людзі не думалі адбудоўвацца, цэлымі сем'ямі, паклаўшы на воз уцалелы скарб, яны сыходзілі з горада. Большасць пацягнулася ў бок маскоўскага цара, некаторыя падаліся на Украіну. Адыходзілі моўчкі, з нейкай злосцю, нават не азірнуўшыся на родныя мясціны, дзе жылі іх дзяды і прадзеды, бы заклінаді закляцце.

Ніхто нідзе не цюкае сякерай.

І толькі пасярэдзіне горада, дакладней, пасярод чорных папялішчаў, стаіць і расце агромністы мур сабора, быццам гэта драпежны звер, які з'еў, скаўтаў горад. Не, горад яшчэ да канца не памёр, але ў паветры пах усеабдымнай скрухі, развалу, разбэшчанасці, цягне смуродам — нядобрым, казліным, серным. Не ціха згасае горад, а ў нейкім шаленстве, як жыў яшчэ зусім нядаўна.

— Я напісаў Слова,— сказаў Пятрок-паэт.

Некалі ён вучыўся ў Кракаве, Падуі, яго вершы чытаў і хваліў Ян Морштын, найвялікшы паэт Кароны, вершы яго хадзілі ў рукапісах. Вашчанкі, друкары абяцалі адціснуць кнігу, але да гэтага часу неяк усё цягнецца. Друкуюць толькі царкоўныя пісанні, і, відаць, доўга так будзе, некаму гэта да выгоды. Паэт быў з небагатай сям'і збяднелых шляхцічаў. Зараз там адбылося нешта страшэннае. Яны не маглі звесці канцы з канцамі, бацька Петрака рашыў паспытаць шчасця ў гандлі. Пазычыў досыць вялікую суму грошай, а ў заклад паставіў свой пляц, дом, сваю галаву, жонку, малых дзяцей. Накупіў розных тавараў — ботаў, сукнаў, палатна, наняў пяць фурманак і паехаў у Масковію. Але праз колькі дзён вярнуўся абарваны, счарнелы. Тут жа, непадалёку ад горада, нейкія людзі яго дачыста абабралі, казаў, што пазнаў аднаго купца з горада — але хто дакажа? Відаць, сачылі за канкурэнтам, які без дазволу цэха гандляроў паехаў з таварамі. А скора ўсё чыста апісалі, адабралі і ўсю сям'ю звезлі некуды на вёску, зрабілі прыгоннымі. Пятрок напісаў слёзны ліст да свайго мецэната ў Кракаў, прафесара Владыслава Сакольскага, але, відаць, дарэмна, той такая ж галыцьба.

А сябры таксама не могуць даць на выкуп вялікіх грошай. Карпава жонка, якая здавалася такой мілай

жвавай козачкай... Няма ўжо ў Карпа маёнтка, маёнтка жонкі, закладзены залатыя рэчы. Карп наняў яшчэ некалькі падмайстраў і сам робіць, як звар'яцелы, але ўсе вялікія грошы ідуць, як у тую бочку без дна. Ядвіся, знатная пані, яна не лічыцца з выдаткамі, купляе дарагія ўбранні, футры, ходзіць толькі ў атласах і аксамітах, упрыгожыла стары Карпаў дом, што палац, над уваходам прыляпіла гербы. Час ад часу збіраецца абранае грамадства яснавяльможных, цалуюць ручкі, ходзяць так манерна і высакародна, як буслы на балоце, а ўп'юцца — на дзікуноў падобныя, лямантуюць, лезуць да чужых жанок пад падолы — а тым, відаць, прыемна, разбрыдаюцца па пакоях, мілуюцца імпэтна. Карп нічога не можа змяніць. Спачатку яму падабалася свецкае жыццё і яна, Ядвіся, уроджаная шляхцянка. але скора ўсё стала гадлівым, непрыстойным, «яснавяльможныя» паводзяць сябе, быццам заўтра канец свету і трэба паспытаць магчымыя і немагчымыя асалоды. Карп са страхам думае, што Ядвіся набрала ў крэдытораў грошай так многа, што не хопіць усёй іх маёмасці, каб разлічыцца. То адзін, то другі крэдытор прыходзіць да Карпа, прыносіць Ядвісіны паперкі з неймавернымі сумамі. Карп, што можа — плоціць, а часцей просіць крыху пачакаць, покуль набягуць грошы. Крэдыторы пільна сочаць за іх домам, у апошні час перасталі даваць Ядвісе грошы, яна накідваецца на Карпа, калоціцца, быццам яе рэжуць, папракае яго, абзывае жабраком, скупцом. А зараз яна жыве ў замку, у намесніка, рэдка калі заглядвае дахаты, так што крэдыторы могуць вось-вось сабрацца і пусціць Карпа па свеце жабраком...

О, Радзіма!

Яны толькі што вярнуліся з кірмашу. Той такі ж буйны і раз'юшаны, як і раней. Прадаць, прадаць, прадаць!.. Немагчыма прайсці, на іх накінуўся натоўп

купцоў, савалі футры, аксаміт, парчу, збрую, шаблі, блакітныя місы, залатыя кубкі. Хлопцы адбіваліся, як ад варожага войска.

Потым убачылі велізарны агонь, у ім гарэлі сабаліныя шкуры — курчыліся, што жывыя, скручваліся, успыхвалі і гарэлі. Валіў чорны смуродны дым. Купец, што звар'яцелы, бегаў вакол, нейкі маскаль, ён нават не лямантаваў у жаху, што гэтулькі дабра загубілі — сам кідаўся ў агонь, бы хацеў згарэць, а яго адцягвалі. Можа, таксама заклаў жонку і дзяцей, а цяпер давядзецца ўсім ісці ў кабалу — з-за яго нездагадлівасці, сквапнасці. Двое служкаў горада стаялі тут жа з абыякавымі святымі і жорсткімі тварамі. Сама справядлівасць чыталася ў гэтых зялёных вачах, грымасах ратоў. Непадкупнасць. Але людзі спачувалі купцу, а не служкам, яны накінуліся б на служкаў, каб не міліцаі, што стаялі за служкамі. Яшчэ з дзіцячых гадоў Карп памятае, як на кірмашах час ад часу палілі тавары, людзі ведалі, што вінаваты купец, які прывёз нягодны тавар, купца гэтага ненавідзелі, і ён збягаў ад людскога гневу. А гэты бедалага-маскаль не здагадаўся даць служкам у лапу, а можа, мала даў, пачаў задзірацца. Служкі з кожнага рвуць, колькі ўварвуць, за такое даходнае месца ў ратушу плацяць вялікія грошы — грошы дзеляць між сабой бурмістры і радцы... Тыя, лепшыя людзі горада, таксама змагаюцца між сабой, каб трапіць на даходныя пасады бурмістраў і радцаў.

Собалі гарэлі, натоўп большаў, чуліся незадаволеныя галасы, усклікі. Служкі спачатку высакамерна абразалі:

— Хто гэта крычыць? Знявага ўлады! Склепа панюхаеш!

Натоўп дзічэў, і служкі пачалі нервова азірацца. Іх міліцаі мала-памалу неўзаметку разышліся, у служ-

каў паляцелі камені, і яны, што каты, некуды шмыгнулі ў кірмашовую гушчу...

Кірмашу няма больш у горадзе. Яшчэ летась нехта з сяброў заўважыў, што кірмаш сплывае. Бо ўжо тады ён адкачаваў за гарадскі вал, выцекшы з вуліц. З жарту пасмяяліся. Але сёлета кірмаш размясціўся далёка ўніз па рацэ — адсюль ледзь відаць, удалечыні ўюцца дымкі, што стан варожага войска. А ў горадзе ціха.

О, Радзіма!

На сядзібах ні кала ні двара, хаты пакасіліся, зрубы пападгнівалі, вокны павыбіваны, дахі цякуць, на гародах адно бадыллё, пераваліся каровы, коні і авечкі, а гаспадары сядзяць на завалінках, рэжуцца ў модныя французскія карты, цэдзяць гарэлку. Скажы што каму, пажуры за паркан ці хату, тут жа цябе змяшаюць з дзярмом і давядуць, што яны, а не ты, чалавекі. Пакрыўдзяцца да глыбіні душы і пачнуць цябе ж дакараць, што ты нічога не разумееш у іх жыцці, што ты сам дзівак з дзівакоў, ды яшчэ прыяцелю свайму мігнуць, ля скроні пальцам пакруцяць — той не чалавек, хто не вып'е кубак гарэлкі з сябрамі, хто пагарджае сяброўскай бяседай, хто не заспявае разам з сябрам песню; некампанейскі чалавек — наогул не чалавек, а так, цягамоціна нейкая. Што ў тым паркане ці агародзе? Ну, няхай бадыллё! Галоўнае, каб былі сябры, было прыемна, былі песні, была весялосць. Што яшчэ чалавеку трэба?

О, Радзіма!

— О, Радзіма мая маркотная,— гаварыў Пятрок-паэт счарнелым голасам, ён гаварыў ля самага неба, на высокай крапаснай сцяне, маўклівым і журботным сябрам, якія думалі цяжкую думу аб Радзіме. Дзьмуў ад шырокай, што мора, ракі халодны вецер, неба было шызае, мёртвае, стругі, чаўны, баркі праскоквалі паўз горад, каб хутчэй адысці ад яго, як ад зачумленага.

## 13

А вольнага горада, можна сказаць, ужо не было.

Хоць магістрат існаваў і правіў, але, здавалася, ён не разумеў і зразумець не хацеў, што вольны горад памёр. Служкі, як і раней, ішлі ад раніцы да ратушы, там пісалі свае загады і пастановы, якія, з прычыны таго што пад юрысдыкцыяй магістрата не засталося ніводнага радавога гараджаніна, перасылалі з аднаго пакоя ў другі; там, куды трапляла паперка, належным чынам рэагавалі — узбураліся альбо пагаджаліся, пісалі адказ, укладваючы ў гэтую справу ўвесь свой талент, усю сілу душы. Так што цікавасць была, служкі хадзілі ў ратушу не проста адседзець за грошы свае гадзіны, а сапраўды служыць. Нікога не бянтэжыла, што па-за ратушай няма вольнага горада. Гэта спачатку, па недаглядзе, такое здаралася: слалі паперкі, але не было ніякіх адказаў, ніхто не прыходзіў. Спецыяльныя служкі, пасланыя ў горад для высвятлення, знаходзілі, што паперкі альбо прыбывалі на чорныя папялішчы і ўсцілалі там зямлю белымі галубамі, альбо траплялі да людзей, якія, праўда, зусім нядаўна належалі да горада, але цяпер перайшлі да князя, памяняўшы галаднаватую свабоду на княжацкі нявольны хлеб і, такім чынам, да ратушы ўжо не мелі адносін, а паперкамі з ратушы часцей за ўсё аклейвалі знутры века скрыні, бо гэта было надзвычай прыгожа і практычна — паперкі з арламі, пячаткамі, заліхвацкімі росчыркамі пісараў і такім спецыфічным пахам, што ніколі не заводзіліся ні клапы, ні прусакі, ні шашалі.

Ратуша стала ізаляванай замкнутай сістэмай, паперкі ці якія іншыя дзеі ў іншую сістэму, якая называлася Ніжнім горадам, прасочваліся толькі зрэдку, як гэта было, напрыклад, у вядомай гісторыі пеўнепакарання.

Людзі горада былі незадаволены дзеяннямі ратушы. Бурмістры і радцы адкрыта нажываліся на бядотах людзей. Рабавалі купцоў, куплялі дзяцей і аддавалі іх у прыгон. Былі ў іх асобныя дамы, дзе для забаўкі мужчын трымалі прыгожых дзяўчат, калі тыя бунтавалі, таксама прадавалі магнатам. Хто скажа слова супроць — будзе знойдзены мёртвым: былі ў іх спецыяльныя забойцы, якія хоць матку родную прырэжуць. А тут гэты певень. Той велізарны, чырвоны. Калі што дзе нядобрае замыслялася, ён бегаў вакол і крычаў. І людзі бачылі, як тых дзяўчат адводзілі ў магнацкі замак і як нажамі людзей забівалі. Таму чырвонага пеўня ратушныя служкі люта ненавідзелі, не раз хапалі яго, але певень невядомым чынам знікаў. І ўсё ж аднойчы яго злапалі. Гэта было ўдзень, на людзях, і яго не маглі забіць проста так, павалаклі ў ратушу, у сутарэнні, а потым публічна судзілі. Людзі думалі, у чым могуць абвінаваціць пеўня? І што ж вы думаеце, знайшлі нейкіх кніжнікаў, і тыя пачалі разводзіць такую філасофію... Адзін кажа, што гэта, маўляў, не певень, а казёл, што гэта жывёліна мае, як казёл, бараду і трасе ёй, мае рогі і казліныя вочы, а калі ў яго дзве нагі, то дзве другія ён не хоча паказваць, каб усе думалі, што гэта певень. Другі даводзіў, што гэта казёл, які пераварнуўся ў пеўня, і калі гэту жывёліну секчы і прымушаць, яна сама пяройдзе ў сваю першую іпастась. Трэці на аснове паказанняў першых двух сведкаў даказваў, што раз чалавеку падалося, што гэта казёл, значыць, гэта жывёліна і мае такую сутнасць, бо чалавек угледзеў яе глыбокім філасофічным зрокам, які ніколі не можа памыліцца. І задача суддзяў аднесціся да гэтага сцверджання з усёй увагай, бо такія ўнутраныя прасвятленні больш каштоўныя, чым просты звычайны пагляд. Чацвёрты сведка шчыра прызнаўся, што яму ўсё адно, які выгляд мае падсудны, галоўнае, што гэта

нячыстае і разбэшчанае стварэнне, яно нападае на дзяцей — аднаго нават ледзь не забіла (ён сам бачыў), кідаецца на ўсіх жанчын — хоча гвалціць; яно гадзіць, яно дзяўбецца, плюецца... І яшчэ, і яшчэ, і яшчэ...

Людзі толькі лыпалі вачыма. Яны думалі: навошта і ад каго бараніць праўду, яна сама за сябе стаіць, гэта відавочна, як зямля, хмары... Спачатку людзі смяяліся, потым слухалі і ўрэшце многія паверылі, што гэта не певень, а казёл.

Сведкі кляліся на Бібліі, узняўшы ўгору два пальцы ў знак пашаны вялікай Троіцы, і самі былі ўпэўнены, што яны праўдзівыя сведкі, бо абапіраліся на найяснейшы і найглыбейшы ўнутраны зрок...

Прасвятленне наступіла потым, калі кат на памосце сек пеўню галаву. Ён дасць сваёй шырокай сякерай — тая аж у плаху ўвойдзе, а пеўню хоць бы што, пазірае, лежачы на баку, на ката адным вокам ды пасмейваецца, а на сякеры — шчарбіна акурат на пеўневу шыю. Усю сякеру кат вышчарбіў, няма ўжо чым секчы, пот з яго градам цячэ, стаў чырвоны, бы сам увесь крывёю заліты, глядзіць у здзіўленні на шчарбатую сякеру. Певень спакойна ўстаў, быццам і ненавязаны быў, прайшоўся па пласе ды як кукарэкне! Кат як стаяў, так і зваліўся мёртвы — сэрца не вытрымала, разарвалася. Лямант узняўся страшэнны. Народ закідаў суддзяў каменнямі. А куды певень знік у час гэтай сумятні — ніхто не бачыў.

Пасля такой ганьбы афіцыйная ўлада горада з ратушы носа не паказвала. Але сама ратушная сістэма была ўжо досыць развітая, магла жыць і без горада. Па буднях служкі падкалвалі адзін аднаго рознымі хітрымі паперкамі, па святах — маліліся, пілі гарэлку, у дні імянін і знамянальных гарадскіх падзей віншавалі бурмістраў і радцаў, рабілі ўрачыстыя банкеты з заморскімі вінамі і заморскімі прысмакамі, узнагароджвалі

адзін аднаго ўрачыстымі памятнымі эмблемамі і знакамі пашаны, што па іх заказе рабілі з золата, срэбра і каштоўнага каменю лепшыя майстры. Абавязкова на гэтых урачыстасцях былі і танцы з «кохмяне», гэта значыць, з голымі дзяўчатамі — з таго самага дома, куды прыемна зайсці мужчынам. Дзяўчат навучыў скакаць па-замежнаму адзін француз, і яны так трэслі бёдрамі і грудзямі, што нават старыя і паважаныя бурмістры і радцы запаляліся і тут жа цягнулі дзяўчат у кабінеты. На гэтыя ўрачыстасці запрашалі і Петрака-паэта. Яму заказвалі пісаць урачыстыя оды, ён складаў іх, хоць яму было і агідна, але з галадухі што не зробіш! Прыходзіў на тыя пышныя банкеты, яго апраналі ў залаты жупан, у шытыя золатам боты, ён урачыста чытаў оду, потым, выпіўшы кубак заморскага віна, што яму падносілі, ішоў у пакойчык, дзе з яго ўсё здымалі, ён зноў апранаў лахманы, у якіх ні адзін сабака з ратушы яго не пазнаваў, і вяртаўся ў каморку лацініста, дзе ён жыў, заціснуўшы ў кулаку колькі грошаў.

Словам, магістрат правіў, як у лепшыя гады, калі горад быў багаты і шматлюдны. Нішто ў яго звычках і ўстанаўленнях не змянілася, адзінае, што можна адзначыць як пэўнае развіццё — гэта ўнясенне ва ўсе справы большай урачыстасці і цырымоннасці...

Асаблівым гонарам магістрата было выбудоўванне сабора. Па гэтым пытанні прымаліся пастановы, дэкрэты, хоць, па сакрэту кажучы, магістрат выдзеліў на сабор столькі грошай, што іх хапіла роўна на адну тысячу дзвесце пяцьдзесят тры літоўскія цагліны, што аддалі немцу на каплічку. І ўсё ж ратуша лічыла, што гэтыя цагліны даюць ёй права накіроўваць ход важнейшай падзеі эпохі. У разгорнутых пастановах гаварылася пра тое, як эканоміць цэглу і вапну, якім слоем класці вапну, якой яна павінна быць гушчыні, і колькі трэба падліваць у яе малака і якога, і менавіта

ад якіх кароў. Так прыгожа і дакладна распісвалі, што, на іх думку, сабор павінен быў бы даўно стаяць. Таму, калі служкі спецыяльнай камісіяй з'яўляліся на будоўлі, па-першае, дзівіліся, што сабор яшчэ будуецца, па-другое, даўшы добры наганяй мулярам і старцу Арсенію, яны пачыналі вучыць муляроў, як правільна, навукова класці цэглу ў мур, як трэба растапырваць пальцы, каб ямчэй браць цагліну і інш., і інш. Спачатку муляры збянтэжана слухалі, імкнуліся рабіць так, як ім казалі, але было нязручна, сцены скасабочваліся, развальваліся. Муляры хутка пааббіваліся, перасталі звяртаць увагу на ўказы, рабілі так, як змалку іх вучылі майстры сваёй справы. Так што сабор рос і дужэў не дзякуючы магістрацкім клопатам, а насуперак яго ўказам і дэкрэтам.

Ну ды бог з імі, гэтымі служкамі. Не першы і не апошні век такое. Вунь — работа чакае!

З высокай крапасной сцяны Верхняга горада сябры пазіралі на велізарны гмах сабора.

Ото! Работа чакала знатная. І хоць яшчэ не было купалоў, што выпускае матэрыя, каб ямчэй убіраць дух, не было празрыстых праразных крыжоў, праз якія зямное перацякае ў нябеснае, а нябеснае ў зямное, не стаялі ў нішах святыя, ад рэзкіх рухаў якіх складкі віхурацца, што ад навальніцы, а цяжкія сцены становяцца лёгкімі, што воблака,— дык на тое яны майстры бачыць нябачнае і так вынайсці, каб нябачнае стала явай. Што ім да таго, што дома няма кавалка хлеба і ласкавай жанчыны, што іх шматае нікчэмны служка з ратушы, што марозіць мароз ці сячэ буйны дождж. О, якія дробязі!

Яны належаць сабору.

І Міколка адчуваў гэтую высокую прыналежнасць. Можа, менавіта таму яго рука сама сабой цягнулася пад Карпаву шаблю. З самага пачатку было вядома, што

арол згарыць ва ўласным гняздзе. І, можа, не таму было насланнё на Міколкаў род, што з-за гэтага кубка загінуў у княжацкіх сутарэннях прадзед Карпа, першы стараста вольнага горада, а з-за таго, што прадзед Міколкі схаваў гэты кубак і людзі не спазналі ўсю праўду — што іх чакае. А цяпер той кубак, кажуць, знеслі ў сутарэнні, замкнулі ў жалезным куфры, каб ні адна душа не магла ўсумніцца, што арол велічна і горда ўзлятае, як то даводзіць гарадскі герб, як то даводзяць сваімі ганарыстымі паставамі бурмістры і радцы.

Арол узлятае!

## 14

Як гэты сабор на чорных папялішчах...

Рос і дужэў сабор. Праўду сказаць, ніхто зразумець не мог, як гэта адбывалася. Здаецца, кожны рабіў не такое ўжо важнае. Ну, што там цвік у рыштаванні ўбіць ці пакласці цагліну на вапну. І хлопчык зробіць. Ды і будаўнікоў у апошні час паменшала. Хто збег, хто памёр. Харчы сталі такія, што не падсілкуешся як трэба. Насіла Фрося, як і раней, па два вядры, але ўжо не верашчакі, а нейкай пустой баланды з рэпай і сачавіцай — хоць бадылле жуй, як той казёл. Усе схуднелі, але, як ні дзіва, лёталі што чэрці па хісткіх мастках і рыштаваннях. Знізу глядзець, здаецца, на самае неба вядуць гэтыя драбнічкі, людзі сігаюць наверсе, што па воблаку — у паветры лунаюць. Там, у горадзе, муляр мог быць апошнім пітухом, што чакае не дачакаецца, калі адчыняцца дзверы шынка, на яго сядзібе часам не было ні кала ні двара, спаў ён у нейкай будцы, а калі трапляў на будоўлю сабора, здаецца, інакшала яго душа. Людзі дзівавапіся самім сабе і нават не верылі, што гэта яны. І не на ваўка ці ластаўку мяняліся — для гэтых мясцін такая справа была б звычайная: дастатко-

ва знайсці асінавы пень, на які не паклалі крыжа, калі рубілі дрэва. Узяўся за край пня зубамі, перакуліўся — і ўсё табе, ты ўжо яшчарка ці ластаўка. З ваўком больш складана, але таксама можна. За асінавы пень ставяць яшчэ сем нажоў, праз пень і нажы трэба тройчы куляцца. Людзі-пярэваратні звычайна добрыя, але хутка старацца. А тут не куляліся, а адразу рабіліся іншымі. І не тое каб чалавек станавіўся гжэчны, высакародны, але ўсялялася ў яго нейкая буйная весялосць, ліхасць, спорасць. У саборы і каля сабора, здаецца, усё віхурылася. Толькі стаўпы і сцены былі непахіснымі апорамі, уздымаліся яны быццам з бяздонных глыбінь, можа, з самога пекла, дзе сядзеў стары Люцыфар, і ўсё раслі і раслі ў нейкай упартай надзеі спазнаць неба, а можа, і самога Бога.

З таго дня, як на будоўлі з'явілася Фрося, абвалы і іншыя здарэнні ўціхлі. Былі, праўда, два выпадкі, калі людзі пайшлі паспытаць, як выкладзены ў сценах патаемныя хады,— і абодва зніклі. Адзін праз тыдзень знайшоўся. Апынуўся аж у Быхаве, што вёрст за семдзесят ад горада, з ратушы выйшаў, з сутарэнняў. Казаў, ішоў, ішоў, заблудзіўся, а там жа цемнавата, куды ісці — не ведае, крычаў — ніякага знаку. То ішоў, то спаў, ужо сам дакладна не мог вызначыць, што ява, што сасніў. І д'ябла бачыў, і анёлаў, сам Гасподзь з-за хмары пагляннуў, ручкай памахаў. А другі чалавек так і знік. Хто ведае, можа, у Смаленску дзе выйшаў, а можа, у Кракаве.

Фрося адчувала сябе няёмка. Яна там, на тых патаемных лесвіцах, ніколі не была. Такі недагляд! Далікатная справа, што ні кажы! Ніхто ніколі не пакпіў з гэтай дзяўчыны, быццам яна не была звычайная і грахоўная, а адзначаная боскай мілосцю — усё, да чаго яна дакранадася, станавілася асвячоным, нават сам муляр адчуваў абнаўленне і прыліў сіл. Ужо адно тое,

што Фрося заходзіла ў сабор, уносіла ўзрушэнне, здаецца, рыштаванні спявалі, сцены падцягвалі магутнымі і нізкімі басамі. Фросін смех звінеў то ў паўднёвай, то ў паўночнай апсідзе, то ў паўднёвым, то ў паўночным трансепце, то ў рызніцы, то недзе высока наверсе, ля самага неба, над стаўпом. Белае, што вапна, цела, сярод чырвонай цэглы і вялікіх карыт са стогадовай вапнай было самой дасканаласцю, тым вобразам, будучым, што ўзнікала з гэтага будаўнічага хаосу.

Старцу Арсенію не раз падавалася, што ён бачыў Фросю, у нейкай нерашучасці і з заміраннем сэрца, калі нікога не было, ён падыходзіў і аглядаў, але то сапраўды была вапна, і ён дзіваваўся, што так недарэчна памыляецца. Не, не! І смех яе чуў звонкі, яна быццам зманьвала яго. І ён зноў, што самнамбула, сам таго не жадаючы, ішоў у той бок... І ўсё ж яна была недзе тут. Тут! Ён дакладна ведае. Толькі, можа, яшчэ не да часу, не да ладу сустрэцца з ёй. У кожным стаўпе яна была, і ў сценах, скляпеннях, яна была і цэглай, і вапнай, і муляром, што клаў у мур гэтую цэглу. Старац падыходзіў да сцяны, да стаўпа, быццам правяраючы, аглядаючы, як зроблена, дакранаўся і лашчыў, лашчыў...

У старцавай душы, не змiраючы, жыло пачуццё нейкай авантурнай рызыкі. Даўно, даўно ўжо трэба было спыніць гонку сцен і стаўпоў угору, час было ставіць парусы і скляпенні. Толькі нявопытнаму зроку сцены і стаўпы падаваліся непахіснымі. Калі акуратны немец, што будаваў непадалёк капліцку, заходзіў, як заўжды, адвячоркам, каб перакінуцца парай слоў са сваім калегам старцам Арсеніем, ён усё з большым страхам глядзеў угору. Спачатку ён маўчаў, але аднойчы не вытрымаў і, ветліва спытаўшы дазволу ў старца Арсенія, палез па драбнічках наверх, у яго руках быў адвес з даўгім шнурам і ватэрпас, якім вымяраюць дакладнасць гарызонту. Ён спускаў адвес ад розных мяс-

цін сцен і стаўпоў і з самога верху, прыкладваў то там то сям узровень, спачатку недаверліва круціў галавой, зноў і зноў пускаў у ход струманты, а потым паверыў метрам: сцены па яго вымярэннях вельмі моцна нахіліліся ў сярэдзіну сабора, стаўпы таксама падаліся — кожны ў свой бок. Усё было такім няўстойлівым — восьвось павінна было з грымотай абваліцца; там, на Нямеччыне, усё даўно ляжала б у руінах, прыдушыўшы з дзесятак муляроў. Зразумеўшы гэта, немец малпай вельмі хутка апынуўся ўнізе ля старца Арсенія. Белы, што вапна, ён стаяў перад старцам, зубы яго клацалі. Старац не ўсміхаўся — па немцу ён хацеў зразумець ступень сваёй рызыкі: раз той яшчэ не зваліўся кулём, а збег па драбніцах — можна жыць. І старац загадваў гнаць і гнаць угору сцены і стаўпы. Толькі тады, калі стаўпы пачалі раскачвацца нават ад дотыку рукі, выбудавалі з бярвенняў і дошак паўкружжы, на якія павінны легчы падпружжы парусоў, скляпенні ў трансептах і нефах.

Цяпер немец толькі здалёк аглядаў сабор, не маючы смеласці зайсці ўсярэдзіну, ён нават спыніў будаўніцтва каплічкі і ад самага ранку ўтаропліваў зрок на верх сабора, дзе тварылася тое, што ні ў якім разе не магло тварыцца: муляры спакойна выкладвалі скляпенні. Там амаль пастаянна быў старац Арсеній. Ён нешта казаў мулярам, і тыя клалі цагліны то так, то гэтак, то больш у адно месца скляпення, то ў другое. Немец разумеў, што гэта, менавіта гэта і ёсць той незразумелы славянскі геній, які так уражвае сваёй нязвыкласцю, смеласцю і праўдай. Аналітычная цікаўнасць немца была мацнейшая за страх, і аднойчы ён усё ж узняўся па хісткіх мастках да муляроў, што выкладвалі скляпенні, стаў побач са старцам — быццам гэта было самае бяспечнае месца. Муляры рабілі спорна — добрыя былі муляры, але нічога незвычайнага

яны не рабілі, адзінае, што заўважыў немец: яны зноў рабілі **няправільна!** Па-першае, скляпенні не ўтваралі паўкружжы, як павінна быць, а былі залішне стромкімі, па-другое, яны былі значна вузейшыя, чым патрэбна, а па-трэцяе, у некаторых мясцінах занадта танюсенькія — у чвэрць цэглы! Такое немец нідзе не бачыў, такое наогул не магло існаваць, бо такога і быць не магло! Калі б пра такое расказалі гер дойліду, ён проста пасмяяўся з дзікуна. А тут дойлід-немец сам бачыў, і сам сабе паціху ён стаў мармытаць праклёны, што чуў ад муляроў: каб мае зрэнкі павылазілі, каб іх смалой пазалівала, каб іх качкі стапталі, каб іх у яму завярнула, а каб ты здароў быў!.. Немец на страх забыўся — пайшоў лазіць па ўсіх скляпеннях, мацаць рукамі, прыстаўляць лінейку, круціць цыркулем, пускаць адвес. З рота нават языкываліўся, што ў таго дурня. І вось так, з пукатымі вачыма і высунутым языком, ён падышоў да старца Арсенія.

— Забіце мяне, гер дойлід, бо я ў непрытомнасці трызню. Розум мой памяшаўся, забіце мяне, кажу вам! Я не магу нікім быць, акрамя як дойлідам. А тут зразумеў, што я вар'ят. Не магло ж такога стацца, што і ты, паважаны гер дойлід, і ўсе гэтыя муляры з'ехалі з глузду, што вы робіце такое вар'яцкае!..

Старац сурова, ясна і спачувальна глядзеў на немца.

— Супакойцеся, гер дойлід. Мы не вар'яцкае робім, а боскае. Але каб ты папытаў мяне адкрыць сакрэт, як гэта робіцца і чаму я так раблю, я не адказаў бы дакладна, бо, прызнацца, і сам не зусім ведаю,— старац гаварыў ціха, амаль шэптам.— Мяне вядзе нейкая сіла — магутная і грозная. Грэкі гаварылі, што ёсць такія істоты: крылатыя геніі, а ў наш час кажуць, што можа гарэць у чалавеку боская іскра. Прызнацца, іскра гарыць, але толькі зрэдку прабіваецца да мяне, што маланка, усеагульнае азарэнне і тут жа знікае, і я

зноў дакладна не ведаю, што з усяго гэтага будзе. Я злуюся на таго Верхняга, які мной кіравацъ кіруе, але не тлумачыць да канца, куды і навошта вядзе. І, прызнацца, баюся, што гэты Верхні забудзе аднойчы спусціць маланку, якая дазваляе потым хоць вобмацкам, а рабіць. І ўсё гэта, што ты бачыш, не здолее сабрацца ў адзінства сабора. Але покуль бог мілуе. Будзем спадзявацца і на далейшы шчаслівы лёс.

Але такое шчырае прызнанне старца Арсенія не толькі не супакоіла немца — ён узбурыўся яшчэ больш. З усяго ён зразумеў адно: і сам ён вар'ят, і старац Арсеній вар'ят, і ўвесь сабор вар'ят. Ён узвёў вочы ўгору, дзе за воблакам сядзеў на хмары чэсны, спакойны, добразычлівы і прыстойны нямецкі бог, і пачаў доўга-доўга хрысціцца і шаптаць малітвы.

Хто ведае, можа, дапамагла шчырая нямецкая малітва, але хутчэй за ўсё розум старца Арсенія быў яшчэ раз прарэзаны маланкавым ззяннем, і ён на вельмі кароткае імгненне ўбачыў, як хіснуліся сцены, слупы, скляпенні, калі падсеклі мачты-бярвенні, на якіх трымаліся рыштаванні, што падпіралі паўкружжы скляпенняў.

Хіснуўся ўвесь сабор, затрашчалі, загрымцелі, разбураючыся і валячыся ўніз, хісткія масткі і драбнічкі, пыл узняўся такі, што было цёмна, як уначы. Усе анямелі.

І адразу стала ціха-ціха, толькі дзе-нідзе пастрэльвала, усаджваючыся на сваё месца, якое скляпенне ці адлятала дошка і валілася ўніз.

Калі крыху развіднела, пачуўся дружны рогат. Муляры, што рубілі мачты, стаялі, абсыпаныя белай вапнай, нябеснымі анёламі.

Скляпенні аселі, сціснуліся, дзе трэба распрасталіся, акругліўшыся, рассунуліся сцены сабора, сталі роўна і стромка слупы. Усё напружылася і зазвінела.

Гэтая гісторыя будаўніцтва сабора можа падацца на першы погляд неверагоднай. Але паслухайце, што гавораць сёння людзі, якія аднаўляюць старыя збудаванні:

«Калі пачалася рэстаўрацыя помніка і пытанне зайшло пра капітальны рамонт і ўзмацненне канструкцый, адзін дастаткова вопытны інжынер з ГалоўАПУ сказаў, што такую канструкцыю ён не дазволіць, бо яна не адпавядае сучасным нормам трываласці. І нават наведаўшы аб'ект, ён так і не змог зразумець, якім чынам гэты будынак каля чвэрці тысячагоддзя стаіць і нават не пахіснуўся ў час вайны, хоць скаланаўся ад суседства з фашысцкім дзотам».

Незразумелы славянскі геній.

## 15

Доўгая простая дарога прасечана скрозь Палессе на поўдзень. Збоч дарогі ў глыбокай канаве цячэ рыжая балотная вада. Потым нас закалыхваюць калдобіны. Скрозь рэдкі лес паказаліся хаты. Тонеж. Улятаем на ўсюдыходзе на шырокую, прамую, як і дарога, вясковую вуліцу.

Лета. Цяплынь. Сена састагавалі, жаць яшчэ не пачыналі.

Пад дрэвам, ля плота, на лавачцы жанчыны. У народных касцюмах. Вышытыя кабаты, белыя фартухі, спадніцы з гарызантальнымі рознакаляровымі стужкамі. Ды нікуды не збіраліся, проста сёння нядзеля. Як звычайна, адпачываюць, вядуць бяседу. Прыстройваюся са сваёй сумкай з магнітафонам. Вось яны, гэтыя размовы — амаль без змен спісваю з магнітафоннай стужкі.

— Тут царква стаяла, драўляная, харошая. І тут

немец спаліў трыста душ. Нешта двесці дзевяноста сем. І вёска гарэла. Уся-ўся спалена, нават бервяна не было — нідзе нічога, чыста, гола.

— І ўсё пасля вайны адбудавалі?

— Усё пасля вайны паставілі.

— Хаты такія вялікія ў вас.

— Пасля вайны. А царква была ў нас прыгожая. Ой, прыгожая! Даўно яе будавалі, яшчэ малая была. І сагналі туды гэтых людзей і ўсіх пабілі. Я, праўда, не была, як закопвалі, не была дома, а вось мая сваха была.

— Немцы доўга стаялі ў вас?

— Доўга былі.

— У такіх лясах гарнізон быў?

— У-у! Хадзілі па лесе. Мы раніцой усталі, хацелі ў другое месца пераязджаць. Адсюль, можа, кіламетраў дванаццаць, а можа, і больш. У лясу, у гушчы такой, такія волакі, балоты! Толькі ўсталі, хацелі яшчэ пераязджаць некуды. Ох, мамо мая! Калі ж выйшлі — ужо едуць...

— І куды вы? Уцякаць?

— А куды мы? У нас два мужчыны пабеглі ўцякаць, то мужчыны ўцяклі, праўда, а жанчыну забілі. І двое, не, трое дзяцей тады забілі, хлопчыкаў гадоў па шэсць. А як паймалі — пагналі ў сяло. Сказалі: «У сёла і на Тураў». Забралі ўсіх людзей на Тураў, ну ехалі праз лес, адправілі тых людзей з паліцаямі, і як сталі ехаць — хто куды. У лес, убок паўцякалі. А тых, хто быў тут... Некаторыя старыя кажуць: «Хто мяне будзе біць? Я з дзецьмі, куды я ўцяку? Мяне будуць біць? За што мяне будуць біць? Мужчын б'юць, партызан. А нас за што будуць біць?» Ды так пабілі іх немцы. Па дваццаць, па васемнаццаць, па дванаццаць гадоў каму было. У царкву забралі ўсіх і пабілі. Адзін хлопчык уцёк. Была гэта яма на бульбу, ён у гэту яму ўпаў, саломка

яшчэ там была, той саломкай накрыўся, так і застаўся. То мой брат дваюрадны. А тых усіх забілі. А бацьку гэтага хлопчыка на фронце забілі, а маці тут забілі. Ён і застаўся сам адзін...

Звычайная наша эпоха.

І я па-іншаму гляджу на гэтыя зробленыя шоўкам арнаменты. У іх столькі жыцця. Яны ўзніклі наперакор жахам нашай эпохі. Выклік змроку. Яркія, прыгожыя аж немагчыма. І з адчуваннем вечнасці. Рэчы гэтыя маюць належную вагу. Так, гэта ручнік. Вытканы з адбеленага і неадбеленага льну мудрагелістым перапляценнем нітак, як тчэцца толькі залатая парча, ён набывае важкасць, прахалоду і прыгажосць сапраўднай залатой парчы. Яе, гэту вечнасць, матэрыяльна адчуваеш.

— Калісь у школе не вучыліся, за худобку ды пагнаў. Калісь заслеплена, а бацька збудзіць: паганяй кароўку пасвіць. Шчэ і сонейка не прарэзалася. А як запяе жанчына ў лесе ці на полі,— жанчына гаворыць праніклівым голасам,— кінеш усё, стаіш і слухаеш. Так, як зязюля куе...

Цяжка, амаль немагчыма перадаць тон, якім выказваецца гэта «Як зязюля куе».

— А навошта далека гаварыць? — гэта ўклінъваецца голас больш малады, энергічны.— Ваш брат пайшоў на сенажаць. Хай бы на дудку зайграў. Любога танца зайграе, любую песню заспявае.

— О-о-о! — гэта зноў той жа замілаваны голас.— Так хараша грае. Каб вы толькі пачулі! Так ладна-ладна. Раніцой кароў выганялі...

На гэтых ручніках і адзеннях нават не каштоўныя эмалі. Гэтаму няма цаны. Гэта сама любоў. Любоў, перакладзеная на колер. Ігра жалейкі на досвітку, калі сонейка не прарэзалася, дзіўная песня за лесам, якая, нібы зязюля, куе, ранішнія травы ў росах.

Ці ж можа крышталь адужаць такое — нават самы правільны і нават самы-самы жорсткі?

Дарога вядзе з вёскі ў вёску. Слава богу, іх яшчэ тысячы на нашым абшары.

Ён стаяў сярод двара ў Огава, усё на тым жа Палессі, яшчэ не раскрыты, здабыты намі з хаты, і на шэрай зямлі падворка, на фоне простых бярвенняў сцяны, сярод пярэстых курэй і прыгажуна-пеўня, ён быў нібы прыхаднем з казкі, з нейкай пушкінскай, дзе жывуць цары Гвідоны, залатыя рыбкі і ходзіць ля лукамор'я кот вучоны. О, можа, гэта ён? Вялікі пушысты кот нетаропка, важна прайшоў паўз нашу скрыню, нават не зірнуўшы на нас. А ён жа мог, нават не павярнуўшы галавы ў наш бок, сказаць: «Куфэрачкі фатаграфуеце? І ёсць ахвота валачыць гэты цяжар туды-сюды!»

Я трымаў у руках апарат і глядзеў, як ён важна ішоў, так не сказаўшы ні слова, што было не зусім натуральна... А я шчоўкаў: агульны выгляд — зверху, знізу; ракурс, буйныя планы. Яшчэ і яшчэ раз...

А яна, Лідзія Іванаўна Доўгер, гаварыла:

— Ужо вяселле пачыналася, а мне гэтую скрыню прывезлі, белую, толькі ад майстра. Гавораць, хутчэй, хутчэй, нявесту саджаць трэба...

У яе твар тыповай паляшучкі. Высокі рэльефны лоб, карыя жывыя вочы, тонкія губы, па якіх гуляе гумарыстычная ўсмешка.

Зразумела, усё так, нявеста не магла б сядзець на голых дошках — якая яна пасля гэтага княгіня? Яна ў белым, пяшчотная, тонкая, бы лебедзь, ахутаная лёгкай паветранай фатой, валасы апавіты пушыстай зялёнай «ёлачкай», што вырошчваюць спецыяльна ў вазо-

нах для вяселляў. І лепшыя «траўных спраў майстры» працуюць над упрыгожаннем княжацкіх куфраў.

Ледзь схапіла белая фарба, Лідзія Іванаўна пакрыла зверху зялёнай і адразу ж па сырой навяла гумавым грабеньчыкам хвалі і палосы — там, дзе прайшлі зубчыкі грабянца, з-пад зялёнай фарбы праступіла белая. Так стварыліся рамкі. Нават яны адны раптам зрабілі ўражанне рэчы каштоўнай. А потым Лідзія Іванаўна кінула ў гэтыя рамкі цяжкія буйныя ружы, рамонкі, карункі розных лістоў.

Потым яна пісала яшчэ «княжацкае» шкло — цяжкімі траўнымі ўзорамі. Гэта ўжо потым, калі сядзенне нявесты на скрыні, накрытай аўчынай, замянілі нечым іншым і большым гонарам ва ўрачыстасці перавозкі нявесцінага пасагу пачаў карыстацца паліраваны шыфаньер, які ставілі на грузавік і павольна везлі па вёсцы. Ён ззяў паліраванымі плоскасцямі. Але гэты бляск, нягледзячы што ён быў вельмі дарагі, не мог насыціць вока. Бляск быў пусты. І тады ў хату ў дадатак да ручнікоў, дываноў і настольнікаў унеслі яшчэ і вялікія шкляныя дзівы.

Яна іх пісала па-гаспадарску дзелавіта, як стары майстар варажыла над фарбамі, спрабавала пэндзалькі, загадзя ведаючы, што ні намалюе — усё завершыцца так, як трэба, і будзе мілагучна для вока. Гэта ззяючае шкло вісіць па сценах у Огава, Крамно, Спорава, Леніна, Кольна і іншых вёсках. Ружы, бэз, пеўнікі, рамонкі, незразумелыя дзіўныя кветкі, павы, галубы...

Натрапіў на іх аднойчы ранняй вясной. Адпачываў на Нарачы ў шматпавярховым корпусе сярод сасновых сівых лясоў. Асядалі і чарнелі лясныя снегавыя гурбы, ядомыя цёплымі туманамі. Часам раптам ззяла сонца і звінелі ручаі, а часам свістаў халодны, са снегавымі

драбінамі вецер. Я падгаварыў некага з адпачываючых, і пасля снядання мы садзіліся на аўтобус ці спадарожную машыну і кіраваліся ў бліжэйшую вёску.

Наскочылі мы адразу. У мястэчку Нарач прайшлі вулачкай, што ціхутка пазвоньвала веснавымі ручаямі, да Ганны Жукоўскай. І яна вынесла пад сонца бярэма тканін. Спадарожнік мой быў зусім яшчэ хлопчык, ні тадзін сталы, шаноўны чалавек не мог бы пайсці на такую авантуру, толькі хлопчык глядзеў цікаўнымі прагнымі вачыма на гэта бярэма. Там былі вышыўкі, зробленыя Ганнай Жукоўскай яшчэ да вайны, маляваныя дываны «набівальшчыкаў», як тут іх клікалі — гэтыя майстры хадзілі раней па вёсках і малявалі. У цэнтры звычайна раскошны букет у арыгінальнай вазе, а па баках — кветкі. Вытанчаныя ўзоры. На чорным глыбокім фоне нягучнае срабрыстае гучанне — блакітнаватыя, зеленаватыя, жаўтаватыя тоны. Мы спакойна фатаграфавалі гэта ў яркім сонцы, покуль не з'явіўся леў. Ён таксама быў вышыты на чорным палатне шэрымі ваўнянымі ніткамі. Смешная, падобная на ката, істота на лапах-абрубках і гузікамі замест вачэй. Хлопчык з недаверам дапамагаў мне прыладжваць дыванок для фатаграфавання. Я назіраў за імі траімі: хлопчыкам, львом і гаспадыняй. Гаспадыня была спакойная, яна не сумнявалася ў сваім ільве. Але хлопчык глядзеў скептычна-расчаравана. Яго нібы пакрыўдзілі. Ён ведаў ільвоў па цырках. Яны вылучалі рэзкі звярыны пах, яны грозна рыкалі, раскрывалі велізарныя пашчы.

— Гэтага льва да вайны рабіла,— сказала гаспадыня.

На дварэ яшчэ ляжалі снегавыя гурбы і па іх мірна гуляў леў. Але хлопчык не верыў у гэта.

— Але гэта сапраўды леў,— сказаў я.

— І вы будзеце здымаць гэта?

— Зразумела, які леў!

Потым мы хлюпалі глыбокай веснавой гразюкай па маленькай вёсачцы Варанцы. І там нам паказвалі дываны з людзьмі, звярыма, птушкамі. Зноў хлопчык даволі часта з недаверам глядзеў на мяне. Таму што і людзі, і алені, і птушкі, і дрэвы, і сонца...

Але мой хлопчык хоць і згубіў адчуванне дзіцячага свету яшчэ ў дзяцінстве — магчыма, яго выбілі навучанне ў школе, глядзенне тэлевізара і ўвесь практыцызм нашага веку, але мой хлопчык нібы яшчэ спадзяваўся на нейкае ўнутранае прасвятленне.

Так мы знайшлі роспіс з цудоўнымі паўлінамі. Калі ўвайшлі ў хату, выцерлі імі ногі.

— Паглядзіце, што гэта? — усхваляваўся хлопчык.

Скрозь бруд пяшчотна прасвечвалі прыгожыя прыглушаныя таны.

— Ды што вы, стары дыван, рыззё,— сказала гаспадыня.

Але мы паднялі з падлогі і счысцілі бруд. Нам адкрыліся нятленныя птушкі. Каралеўскія. Яны жылі ў райскім садзе, сядзелі адна перад адной, горда павярнуўшы свае галоўкі.

Потым я не раз сустракаў у прынарачанскіх лясах гэтых экзатычных птушак. Яны былі расквечаны шаўкамі, фантастычна прыгожыя, як у Брусах у Анны Балаховіч.

Ехаў пад вечар ад Нарачы. У процілеглы канец вёскі — убачыў — увайшлі каровы. Прыпыніўся перачакаць, покуль пройдуць гэтыя велічныя жывёлы, што не разумеюць аўтамабіля. На лавачцы сядзелі, чакаючы каровак-карміліц, мае бабкі. Заліў ваду ў каністру і на ўсялякі выпадак спытаў пра дываны.

— А ідземце, пакажу,— сказала адна жанчына і павяла ў хату. Я войкнуў, убачыўшы гэтых расшытых

паўлінаў. Адзін сарамяжліва адвярнуў галоўку, распусціў, быццам спадніцу-сонца, хвост, выгнуў цела прыгожым профілем. Другі быў рашуча прамы, горды. Гэтыя паўліны былі ўжо з прысмакам жанру.

Але сапраўдны жанр мы знайшлі ў Марыі Папок. Мы з хлопчыкам дабіраліся да Ляшчынскіх, дзе жыве Марыя Папок, на спадарожнай машыне. Дзьмуў моцны вецер, секлі снегавыя драбінкі. Мы замерзлі ў адкрытым кузаве, але не пашкадавалі. У Марыі Антонаўны мы ўбачылі многа розных птушак. Тут быў і прыгожы вышыты паўлін, і многа іншых, што так любіла малявацъ, вышываць, вытыкаць Марыя Антонаўна.

— Анідзе не вучылася. Вось узяла і малюю. Хацелася мазаць фарбамі.

Птушкі, птушкі. Яны сядзяць адзінокія, гордыя сваёй непаўторнай прыгажосцю, пералятаюць з галінкі на галінку, размешчаны адна насупраць другой у геральдычным супрацьстаянні.

— Як многа птушак,— сказаў у здзіўленні хлопчык.

Марыя Антонаўна крыху прыўзняла бровы:

— А падабаюцца яны мне, прыгожыя...

Яна была сур'ёзная, як і сур'ёзнымі і ўрачыстымі былі яе птушкі, і яе кветкі, і гронкі пладоў і ягад у вышываных і маляваных дыванах і настольніках. Адчувалася, яна малявала і ткала гэтак жа грунтоўна і нетаропка, як садзіла вясной бульбу ў даўгую баразну, як даглядала сваіх дзяцей, а потым дзяцей сваіх дзяцей. Маляванне — не забава, само жыццё. Птушкі, птушкі... Так, яны лётаюць, яны прыгожыя. Але гэта не толькі тое, што нясе яечкі. Гэта, як і кветкі, больш таго, чым яно здаецца. У гэтым уся справа. Таму яна малюе. Птушкі — асаблівыя істоты. Яны належаць іншаму асяроддзю. Яны лёгка носяцца ў паветры, яны ўзнімаюцца высока ў неба да самага сонца, за воблакі.

Яны ўюць гнёзды сярод галінак і паветра. Яны светлазарныя, сонечныя. Таму яна іх малюе...

Я ўжо хацеў адыходзіць — паглядзеў цікавыя ручнікі, кінуў поглядам па пакоі. І раптам у запечцы на цёмнай сцяне нешта бліснула прыгажосцю амаль натуральнай бірузы.

— Што гэта? — спытаў, стрымліваючы хваляванне.

— А хлопчык прыбіў, каб весялей было зімой на печцы сядзець,— сказала гаспадыня.— Дыван. Тут у нас адзін хадзіў па хатах, маляваў. Іван Маскалёк.

— Можна глянуць?

— А чаго не? Юрачка, скокні на печку, здымі дыванок.

Вынес дыванок на вуліцу, на сонца, і ён зазззяў яшчэ больш гучна. Тут падышоў стары з шырокай даўгой барадой і ў брылі. Ён хітравата прыжмурыўся.

— Ага, Іван маляваў. Іван, ён. Во дзівак быў. Без дома, хадзіў па вёсках, дзе ў прымы пойдзе, дзе малюе, а то яшчэ дзівачыў — гадаць бабам надумаў. Там шклянка з вадой была і яшчэ нешта. І сам смяяўся. А маляваў — вось быў спецыяліст! Вып'е, мазіла сваё возьме ды і пайшоў, пайшоў. Глядзіш — проста з нічога. Мяхі былі старыя. Рыззё. Баба неяк сшыла, а потым, як памажа гэты Іван — на самым пачэсным месцы прыбівай. Во спецыяліст!

Стары нават павесялеў.

— Во такія ў яго былі ўсё музыкі. І рэчка такая, і неба. Ах, спецыяліст!

На самой справе, гэта была выключна прыгожая паверхня. Каштоўная паверхня. Адхіліў ражок, каб глянуць спод. Пасшываныя, нават латаныя мяхі, кавалкі старых посцілак. Дывановы шляк шматрадковы. А ў ім — блакітнае неба з белымі дробнымі хмаркамі, бла-

кітнае возера з зялёным трыснягом. Спераду на вялікіх белых каменнях сядзяць двое музык. У яе блакітная, пышная, у белы гарошак спадніца, жоўтая гітара, карычневая кофта са строгім белым каўнерыкам, твар падоўжаны, з рымскім профілем. На ім — строгі фарсісты бэжавы касцюм, брыль, у руках — гармонік.

Але галоўнае не ў фігурах, дрэве, возеры, небе, а ў нечым іншым — цяжка сказаць...

У майстэрні мастака Уладзіміра Басалыгі вісяць маляваныя дываны.

— Ды я пад імі ўсё дзяцінства праспаў. Даўно прывёз, прыбіў у майстэрні. І ніяк не магу рашыць, што гэта такое. Ведаеш, гэта пісала ў нас нейкая жанчына, крыху «божая». Ціхая такая, сядзела ў нас і пісала. Гляджу я на гэтыя дываны... Разумееш... Ты паглядзі, як яна гэтых птушак зрабіла. Гэта ж нейкія птушкаяшчары!

Птушкаяшчары ўзляталі ■ дрэў, шырока раскрываючы крылы, як веера, цудоўнай сіне-жоўтай расфарбоўкі.

— А паглядзі, як лебедзяў робіць. Як пластычна! Жанчына ў трыснягу. Які жаноцкі рух! А сам трыснёг! Егіпецкія барэльефы! Адкуль такі рытм? А львы? Травы і кветкі на лузе. Паглядзі, будуе кветкі ў рады. Ненатуральна? Але як прыгожа!

У гэтых дыванах усё было ненатуральна, як і ў Івана Маскалька. І ў той жа час...

Павінен сказаць пра яшчэ адну сустрэчу з Марыяй Антонаўнай Папок. То было летам, калі ўсё пышна распусцілася. Яна раптам павяла на свой луг. Я фатаграфаваў дываны, але яна была нечым незадаволена, а

потым сказала, што хоча паказаць луг. Луг быў як луг. Пышныя травы, дробныя палявыя кветкі. Марыя Антонаўна была маўклівая. Тут жа, на лузе, у густых травах «пасвіліся» яе ўнукі — быццам конікі. У адным кутку дзялянкі вытрэшчвала вочы цялятка, навязанае на вяровачку. Непадалёку быў лясок. Ззяла сонца і неба было глыбока блакітным.

Марыя Антонаўна села на сцяжынку і сядзела, быццам адпачываючы. Я таксама сеў непадалёк на сцяжынку. Таксама нічога не рабіў. Глядзеў на луг, на дзяцей, на цялятка, лясок, блакітнае неба з рэдкімі воблачкамі. А праз некаторы час пачаў ціхутка смяяцца, каб не заўважыла Марыя Антонаўна. Гэта «пасядзелка» вельмі нагадвала класічныя японскія звычаі. Але потым перастаў смяяцца, бо ўспомніў словы аднаго аўтара ў старой газеце «Наша ніва»: «Вышыўка і тканіны даўнейшыя, якія выраблялiся на Беларусі, рукамі беларускімі, па рысунку і падборы колераў можна хіба толькі параўнаць да найдалікатнейшых тканін і вышывак японскіх». Вось яно што, вось адкуль пяшчотнае ззянне каляровых тонаў на глыбокім чорным фоне, вось адкуль вытанчаныя сланечнікі Ганны Жукоўскай, паўліны прыгожых сілуэтаў з тонкай дэкаратыўнай распрацоўкай.

Вельмі старажытнае пачуццё. У чалавека няма высакамерных і пагардлівых адносін да «братоў меншых», да траў і дрэў. Ён просіць у зямлі прабачэння, калі трэба правесці плужную баразну. Ён чуе, як перад бядотаю зямля стогне раніцою. Ён шануе крыніцы, бо іх вада жывая, ён шануе дрэвы, бо яны таксама жывыя, маюць душу, яны скрыпяць і скардзяцца. Ён шануе агонь. У кожным доме свой агонь. Яго нельга падзяляць, нельга апаганіць. Хлеб — гэта добрая і вялікая

істота. Яго крошкі нельга кідаць на падлогу. Яго ахвяруюць полымю, што ахапіла дом, каб утаймаваць стыхію. Шануюць вялікія камені. У пашане лысыя горы, на іх праводзяцца веснавыя і летнія абрады. У пашане зайцы, лебедзі, змеі, каровы, быкі, сабакі, павукі. Птушыны спеў, конскае ржанне адганяюць злыя сілы. Птушкі, звяры гавораць на сваёй, але разумеюць і людскую мову, яны могуць нават гаварыць на нашай. Калі вясной ляціць журавель, ты павінен прывітацца так: «Будзь здаровы, пан вясёлы!» І журавель адкажа: «Няхай, каб і ты быў вясёлы ўвесь год». А ўбачыўшы вясной бусла, трэба пажадаць: «На ціхае лета, на буйнае жыта і нам на здароўе».

Жыццёвыя лініі вагаюцца, рухаюцца, набліжаючыся да крышталя, і з яшчэ большай настойлівасцю адыходзячы ад яго. Самае галоўнае — не супасці з крышталёва дакладнай, яснай і простай лініяй, з той, дзе ўсё адзіна правільна, бо гэта прыводзіць да смерці. Колькі разоў гісторыя, каб дагадзіць прамой правільнай і святой ідэі, палала вогнішчамі інквізіцыі!

Слава богу, што на зямлі ёсць незразумелы славянскі геній!

## 16

У здзіўленні стаю ля сабора. Не пазнаю яго. Мінуў год. Тады ў яго разломах і пустых вокнах грымеў навальнічны вецер. Барочны выгіб ледзь-ледзь азначаўся ў чырвоных руінных хвалях, усё было няпэўна, хістка. Людзі, іх лёс выпраменьваліся загадкава і фрагментарна. Сабор усім велізарным гмахам уваходзіў у зямлю.

Можна выстойваць супроць часу і бомбаў, але не супроць забыцця!

З таго часу, як сюды прыйшоў першы муляр-рэстаўратар, сабор пачаў расці ўгору.

Таропка чытаю і чытаю апошнія звесткі.

## 17

Ён усё ж спаткаўся з ёю, гэтай мроістай жанчынай, якая, што здань, знікала, смеючыся прызыўна то на вінтавых лесвіцах, то пад купалам, то ў глыбокіх сутарэннях. Муляры пайшлі, цесляры знялі рыштаванні, падлогу ўклалі бліскучымі рознакаляровымі пліткамі. Усё было звонкім, нішто не замінала пагляду ў гэтай напружанай чысціні гудучых стаўпоў, падпружжаў, сцен, скляпенняў, парусоў. Яна хадзіла па пустой велізарнай царкве, відаць, нешта ўспамінала і тады звонка смяялася моцным здаровым смехам.

У гэтым смеху быў і слодыч, і прызыў. А старац Арсеній стаяў у галоўнай апсідзе анямелы. Фрося дайшла да яго. Як зарніцы, бліснулі вочы.

— Гэта ты, мой суровы манашак,— сказала яна ласкава,— я думала ўжо, ты ніколі не стрэнешся мне.

Яна ўзняла руку і палашчыла манахаву шчаку, лоб, бараду, яго доўгія, ужо з сівізной каштанавыя валасы. Яна глядзела яму проста ў вочы, у самыя зрэнкі.

— Манашак ты мой салодкі. Я толькі цябе кахала, толькі табе належала мая душа і цела, табе аднаму, майму каханаму, ненагляднаму, маёй слодычы.

О, найвялікшае з найвялікшых таінстваў зямлі і неба! О, найвялікшая слодыч цела і духа! О, сілы нябесныя! Даруйце, літасцівыя!

І манах, прыкрыты чорнай расай, доўга ляжаў у алтары на рознакаляровых бліскучых маёлікавых плітках і ціхутка стагнаў, і мроіліся яму светлыя ан-

гельскія саборы, чуліся светлыя гучныя трубы архангелаў, і гулкі велізарны белы мур, што белае Фросіна цела, плыў у паветры па блакітных нябёсах, і святцей за яго не было нічога на белым свеце.

Сілы нябесныя! Даруйце, літасцівыя!

## 18

І, аднак, у самым-самым найглыбейшым кутку душы Афанасій Пігарэвіч адчуваў, хоць ніколі ў гэтым не прызнаваўся, нават самому сабе, што лёс яму наканаваны даволі-такі... Ён не рашаўся акрэсліць гэта слова, гнаў, зноў і зноў прымаўся за свае найскладанейшыя вылічэнні-вымярэнні. Мабыць, на гэтыя вымярэнні пайшло ўсё яго жыццё. У асобным кутку на шматлікіх паліцах — сотні папяровых скруткаў, на іх столькі малюнкаў і хітрых прапарцыянальных суадносін... Афанасій дакладна ведаў, што ўсё мае свае строгія законы існавання, усё паддаецца вымярэнню: рух планет і рух экіпажа, даўжыня і шырыня любога прадмета; але больш таго, усё на свеце аказалася прапарцыянальным — не заўсёды гарманічным, але прапарцыянальным. Гэта, на думку Афанасія, і быў вышэйшы закон — гэта трэба спасцігаць.

Тут такая справа. Яшчэ ў маладыя гады Афанасія асяніла думка: ці правільна рабілі майстры мінулай эпохі, такія, як Леанарда да Вінчы і іншыя, калі яны хацелі вывесці прапорцыі святых з жывога чалавека? Ну, можа, для таго, каб маляваць чалавека сучаснага — гэта і дастаткова. Але ж не святых! Святыя маюць асаблівыя душы, што адбіваецца на прапорцыях іх постацей. У маладыя гады Афанасій — яшчэ падмайстрам быў — рабіў вымярэнні постацей святых, каб спасцігнуць святыя прапорцыі. Аднак, на дзіва сабе, адкрыў блытаніну ў прапорцыях, што ўнеслі старажыт-

ныя. Не было двух аднолькавых Хрыстоў! Так, правільна, святасць была і там і тут, а прапорцыі — розныя. Афанасій лічыў, што гэта была трагедыя старажытнага майстра. Дух Хрыстовы ўлавіць улавіў, але, відаць, не надаваў значэння строгім матэматычным разлікам, маляваў на вока, прыблізна, і таму так заблытаў, што разблытваць прыйдзецца не аднаму пакаленню. Влохі ды і немцы за імі проста вырашылі пытанне: яны зрабілі выгляд, што нічога тыя не занатавалі, і пайшлі на падман — замест святых пачалі пісаць звычайных людзей. Такое кашчунства! Так не можна, хоць Пётр Яўсеевіч з Галынца, яго сябра, які павінен распісваць сцены храма, відаць, таксама трымаецца падобных поглядаў. Толькі ў влохаў і немцаў, калі няма ў святых святасці, ёсць высакароднасць, а са святых Пятра прэ простанароддзе — зусім недарэчнасць! І як яму даручылі пісаць сцены? Дзівіць нават не гэта, а тое, калі брацтва сабралася і думала, каму што аддаваць, якім майстрам, то за яго, Пігарэвіча, каб ён пісаў іконы, было не вельмі многа народу, а супраць Петрака ніхто і слова не сказаў. Не, не, ён, Афанасій, нічога не мае супроць Петрака, той чалавек добры, памяркоўны і вялікі працаўнік. Але хто яму ўклаў у галаву такую бязглуздзіцу: пісаць просты народ замест святых? У рэшце рэшт непрыстойна! Ужо лепш влохі ці немцы...

Нехта загрымцеў у дзверы. Афанасій пайшоў адчыняць. Тут была яго асобная майстэрня. Вучні і падмайстры працавалі ў іншым доме — з нізкай столлю, вялікім, як стадола, там дошкі выпілоўвалі, фарбы церлі, золата клалі, падмалёўвалі, але там рабілі іконы для ўсіх, на кірмаш, аддавалі купцам, што вазілі па вёсках, а храмавыя іконы ці спецыяльныя заказныя для лепшых людзей горада альбо нават для іншых гарадоў Афанасій рабіў сам. Праўда, для сабора зараз было

столькі работы, што дошкі цясалі проста пад паветкаю ля сабора, везлі іх сюды, а тут ужо ляўкасяць. Хутка трэба маляваць. Афанасій тады будзе рабіць побач з іншымі майстрамі ў той вялікай майстэрні. Але пакуль ёсць яшчэ крыху часу — і майстры яшчэ не прыехалі, і дошкі не паляўкашаны,— ён узяў адну вялікую дошку для абраза Багародзіцы Адыгітрыі...

Афанасій адчыніў дзверы. Прыйшла, як ён чакаў, Фрося, дачка мясніка,— з насунутай на твар хусткай. Дарэмная засцярога, людзі і так бачаць, што да Афанасія ходзяць маладзіцы — то адна, то другая. Усялякае гавораць, але часцей, відаць, лаюцца і правільна лаюцца, а то як жа магчыма, каб з такой кабеты пісалі вобраз Багамаці? Аднак людзям не растлумачыш, што справа тут складаная — гэтыя кабеты патрэбны не для таго...

Фрося была круглатварая, формы яе цела добра збітыя. Яна моўчкі распранаецца, як ёй загадаў некалі Пігарэвіч. Вокны ў хаце пазанавешаны, гараць свечкі. Афанасій не глядзіць у бок дзяўчыны. Яго не цікавяць яе рухі — відаць, нахілілася, здзерла сарочку — і ўсё. Вось яна стаіць у трапяткім жоўтым святле, голая, узабраўшыся на нізенькі ўслончык. Афанасій назірае здалёк. Не, відаць, у яго з малых год сапсаваны густ — нават доўгае клапатлівае вывучэнне цудоўных малюнкаў святых не магло яго выправіць. Забі яго, але яму падабаецца менавіта такая пукатасць цела, а прапорцыі тут зусім не святыя. У Фросі поўныя вялікія грудзі, тугія, з ружовымі саскамі, што заўсёды стырчаць, круглы пукаты жывот, шырокі зад, поўныя бёдры. Ногі і рукі кароткія, не, звычайныя, але ў святых яны заўсёды непамернай даўжыні і тонкія, як цені. І тут, пад гэтай скурай, плыве жыццё, не святасць — жыццё. Калі ён бачыць Фросю, яму пачынае здавацца, што вось гэта, жыццё, важней, чым святасць, і ён ра-

зумее тады Пятра Яўсеевіча і думае, што той робіць правільна, паказваючы нават не манерных паннaчак, а вось гэтых Фросяў. Можа, каб ён, Афанасій, лашчыў, а не вымяраў гэтую плоць, ён маляваў гэтак жа, як і Пятрок. Але Афанасій пасля таго моманту, як першы раз здалёк гляне на жаночую плоць і дасць волю пачуццю, адразу нешта зацісне ў душы і ператварае жанчыну ў звычайны аб'ект назірання — такі ж, як камень, дрэва. Потым можа падысці да яе са сваімі вяровачкамі і датыкацца да цела дзе трэба... Ох, гэтая Фрося, відаць, даўно хоча яго спакусіць, аднойчы нават прыціснулася да яго, але ён так строга і холадна на яе глянуў... Ён адчувае, дай волю пачуццю — не паспееш азірнуцца, і тое, што выношваў і адкрываў усё жыццё, будзе выкінута на сметнік. Багамаці стане дакладнай Фросяй. Гэтага ён вельмі баяўся. Фрося і зараз усміхаецца з такой самавітай хітрынкай, што, праўду сказаць, Афанасій ледзь утрымліваецца, каб не прадаць усе свае святыя прынцыпы... Але тое, што ён вынайшаў у апошнія гады, усё ж найвялікшае адкрыццё і ісціна. Як заўсёды, вялікае — простае. Ён пачаў выпраўляць разнастайнасць прапорцый старых майстроў прапорцыямі жывых людзей, пастаянна маючы на ўвазе вядомае арыстоцелеўскае выказванне, што ідэалам з'яўляецца круг. Таму і галава. Таму ўсё цела чалавека, як ён вызначыў, схаваныя, неразгаданыя прапорцыі круга. Таму так падабалася яму Фрося, здаецца, уся складаецца з такіх шароў... Потым гэтыя, як ён называў, «колавыя» прапорцыі Афанасій прыкладваў да фігур святых, і ў такім сінтэзе ён спасцігаў і ўжо спасцігнуў залатую сярэдзіну, што ляжала між ідэальным вобразам святога і ідэальным вобразам чалавека. Па гэтых новых сваіх канонах ён пісаў зараз Багамаці Адыгітрыю, велізарную храмавую ікону. Праўда, тут з'явіліся такія-сякія няяснасці, і ён зноў паклікаў Фросю. На-

прыклад, да канца не ўпэўнены, як рабіць шыю Багамаці... І тут жа Афанасій аблаяў самога сябе, назваў «хітрамондрам», бо і потым, ён ведаў, яшчэ і яшчэ пазаве Фросю — знойдзе, да чаго прычапіцца. Нос трэба ўдакладніць ці правую руку... Хоць ён маляваў абраз па дакладных, адкрытых ім лічбах, але шыя ніяк не магла добра выйсці, ведаеце, як кажуць: не можа галаву пасадзіць на тулава... Таму і Фросю паклікаў. Але вымяраць ужо не было чаго — не раз замераны ўсе часткі яе цела, нават паасобку адмаляваны, з найвялікшай дакладнасцю, прастаўлены памеры, суадносіны. Але тут такое — ён глядзіць на свае мёртвыя малюнкі і хоць ты забі яго, не можа дакладна пасадзіць галаву на тулава. Злуецца, толькі што не лямантуе. Трэба ўжо ісці рабіць іконы, перад майстрамі быць найвялікшым мэтрам, а ён бездапаможны, як дзіця...

Афанасій з гадзіну займаўся замалёўкамі, покуль не зрабіў так, як трэба. На Фросю не глядзеў. Яна стаяла непадалёк у дрыжачым святле свечак. Дапамагала адна яе прысутнасць. Праўду сказаць, менавіта гэта адчуванне выводзіла з сябе Афанасія, ён даўно ўжо хацеў адправіць Фросю, але ведаў, што тады не зможа закончыць Багамаці, хоць Фрося і Багамаці мелі такія слабыя адносіны адна да другой. Гэта і дзівіла і абурала мастака — але нічога не паробіш,— калі трэба, дык трэба...

Во якая супярэчлівая трагедыя была ў Афанасія Пігарэвіча, — так убачылася мне, так прымроілася каля адзінай яго работы, што дайшла да нас,— і не сама ікона дайшла, а перамалёўка з яе, і ўсё ж яна такая красамоўная... А пра жыццё Афанасія вядома мала. Вось што гаворыць прафесар М. С. Кацар: «Адным з... буйных майстроў Беларусі быў Афанасій Пігарэвіч, які

працаваў у 70—80-я гады XVII ст. у Магілёве і які выконваў галоўным чынам заказы магілёўскага магістрата. У 1671 г. ён пісаў евангелістаў і абраз Багамаці, які потым павесілі знадворку над уваходам у ратушу. Праз паўгода ў сувязі з тым, што ікона пацярпела ад навальніцы, Афанасій Пігарэвіч па ўласнай ініцыятыве адмаляваў ікону. Афанасій Пігарэвіч распісваў балясіны, шчыты, печкі для ратушы, афармляў інтэр'еры брам і пісаў іконы для цэркваў. На жаль, гэтыя абразы да нас не дайшлі. Зараз вядомы адзін твор жывапісу, створаны Афанасіем Пігарэвічам,— ікона Багамаці Богаяўленскага сабора ў Магілёве. Дзе яна знаходзіцца цяпер — мы не ведаем. У 60-х гадах XIX ст. мастак Дзмітрый Струкаў зрабіў з яе копію».

А мне падалося яшчэ, што Пігарэвіч — мянушка, відаць, сам Афанасій не раз упамінаў вядомага старажытнага матэматыка Піфагора, маліўся на яго, захапляўся магіяй лічбаў,— і празвалі яго Пігарэвічам. Ды і ікона Багамаці Адыгітрыі сведчыць пра яго матэматычны разлік...

## 19

Пасля полудня прыйшоў Карп. Нейкі час яны гаварылі пра тое-сёе, што робіцца ў горадзе, на саборы. Афанасій нешта маляваў тонкім белым грыфелькам на аспіднай дошцы. Іх, гэтых чорных каменных дошак, было многа ў яго, прывалок з немцаў, любіў замалёўваць усё падрад, потым параўноўваў і выбіраў лепшае. А зараз ён проста пэцкаўся — адцягваў момант, калі пакажа Адыгітрыю, хаваў хваляванне, весела пра нешта гаворачы. На Фросю абраз зрабіў уражанне. Афанасій паклікаў яе, калі яна апранулася. Тая прыціснула рукі да грудзей і пачала хрысціцца — з нейкім страхам. У самым найглыбейшым кутку душы мастака бы-

ла незадаволенасць, яна ўзмацнілася, калі ён пабачыў гэты страх. Фрося адразу прызнала святую, але яе спалох...

Яму хацелася пачуць, што скажа сябар.

— Ну, ладна, паказвай Адыгітрыю, бачу, што хочаш.

Афанасій глянуў на Карпа, нервова ўздыхнуў. Ён быў старэйшы за Карпа, падцягнуты, сухарлявы, жылісты, з аскетычным тварам фанатыка, на якім гарэлі фанатычныя вочы. Карпу было цікава бываць у яго, той пастаянна палымнеў нейкім нетутэйшым святлом, звівы яго думак былі дзіўныя — і адразу некуды адыходзіла будзённае, звычайнае жыццё, ты апынаўся ў свеце высокага напалу-гарэння. Відаць, Афанасій і дапамог Карпу перанесці трагедыю разбурэння яго роду, спасцігнуць новыя, больш глыбокія ісціны. Але Карпа не вабіла афанасьеўская арыфметыка, хоць Афанасій не раз трымаў перад Карпам цэлыя пропаведзі з хітрымі доказамі і спасылкамі. Карп, праўда, памкнуўся быў нешта разлічваць, ужываць цыркуль, лінейку, але атрымоўвалася такая сухота, што ён раз і назаўсёды пракляў і лічбы, і цыркуль. Яшчэ змалку ён не любіў гэты струмант, нават немцы яго не прывучылі, хоць прымушалі ўсё адмалёўваць па цыркулі і лінейцы — ён ішоў на ўсялякія хітрыкі, каб абысціся без іх. Але Афанасія і яго работы Карп вельмі паважаў, можа, за тое, што той і з-пад гэтых лічбаў мог здабываць нетутэйшае і высокае...

Афанасій зняў халсціну з вялікага абраза. Тут усё было адмалявана, толькі не пакрыта аліфай, таму колеры не з'яўлялі глыбіні гучання, а фігуры святых не зведалі нябеснага аддалення, здаецца, яны тут, дома, і ты сам станавіўся саўдзельнікам, хоць дзея была вялікая і грандыёзная. Незразумела — гэта заўсёды дзівіла Карпа,— як можна паказаць нешта, па сутнасці, про-

стае, каб яно выглядала літаральна касмічным. На дошцы толькі маці і сын. Але, здаецца, раскрываюцца найглыбейшыя тайны. Не, не, не тое галоўнае, што маці дае жыццё ўсім, хто ёсць на зямлі. Гэта само сабой відавочна і вынікае з усяго ладу і суадносін абраза. Маці ў малінавым мафорыі, як зямля: усеабдымная, цяжкая, параджаючая. А сын — дух: лёгкі, бесцялесны, светлы. Але гэта ўспрыманне ідзе падсвядома, увага не засяроджваецца. Як і сказаць пра тое вялікае, пра што і яны, багі, не гавораць чалавечымі словамі. Маці моўчкі прыціснула руку да сэрца і адначасова перадае гэтай рукой нейкі імпэт-гранул усяго чалавечага і нябеснага космасу свайму дзіцяці. Што аддае? Адчуваецца, што ўсеабдымнае, але нябачнае простым вокам...

Афанасій чакаў прысуду.

— Ты, Афанасій, найвялікшы мастак не толькі нашага часу,— сказаў Карп, «мастак» гучала як знаўца, філосаф, прарок,— ты паказаў такое, што цяжка выказаць словам, можа, і немагчыма. Разумееш, пра што хачу казаць? Пра жэст правай рукі Багамаці. Мне падалося — у гэтым глыбокі філасофскі сэнс. Ты імкнуўся спасцігаць адну з самых найвялікшых таямніц. Сапраўды, тваёй рукой водзіць сам Бог...

Карп замоўк і зноў доўга ўглядаўся ў абраз. І хоць на твары Багамаці чыталася спагадлівасць, спакой, веліч — гэта было такое аддаленне ад чалавека. Магчыма, так яно і было на самой справе, але ж... Багі далёкія і грозныя. То іншы сусвет, як, напрыклад, і свет князя. Там не было нават ценяў — згодна са старым вераваннем, якое Карп лічыў недарэчным. У гэтай аддаленасці багоў ад людзей хавалася нешта нядобрае. Можа, ад гэтага сталіся ў іх горадзе бядоты: покуль боскае ззянне ўзыдзе, чалавек сорак раз паспее здзічэць...

— Ты нечаму хмурышся, бачу, брат,— сказаў Афа-

насій — ад гэтых чорных пранізлівых фанатычных вачэй нельга было схаваць нават драбнейшыя зрухі пачуццяў і думак, нешта чарадзейнае ў гэтых вачах было, Карпу і раней увесь час падавалася, што Афанасій валодае чарадзейнай сілай — і хоць яе не ўжывае, каб некага сурочыць, але знаходзіцца побач ■ ім заўсёды было ніякавата. І хацеў бы стаіць якую думку — немагчыма...

— Я... ведаеш...— разгублена казаў Карп,— гэта вельмі далёка і грозна... Разумееш? Покуль дойдзе да людзей...

— Знаю,— коратка і жорстка сказаў Афанасій,— знаю. У самае сэрца б'еш. Да неба высока, да бога далёка... І хацеў бы, каб было бліжэй...— Афанасій нават скрыгатнуў зубамі.

— Ты мяне правільна зразумей,— гаварыў Карп,— я не кажу, што ты выказаў няпраўду, але мне здаецца, што ёсць, павінна быць і іншая праўда. Яна — не адна, не толькі тое, што ты паказваеш. Не знаю, ці змагу дакладна растлумачыць і не ўпэўнены, што я правы. Але мне здаецца, што Бог і гармонія святых нябёс ва ўсіх жывых тварэннях. Дакладней, хачу сказаць вось што. У тварэннях-то ў тварэннях, але, галоўнае, у іх жыцці. У іх руху, іх дыханні. Дух, разумееш. Дух. Бог стварыў Адама, а потым пасяліў у ім свой Дух. Вось што мне здаецца важным — Дух. Аднойчы бачыў забітага аленя. Прабач, але гэта ўжо гара мяса. Тое, з чаго выйшаў дух, не мае Космасу. Істота павінна быць жывой, рухацца... О, дружа, бачу, не ў стане вытлумачыць табе маё адчуванне, мне і самому не ўсё ясна...

— Ну што тут няяснага,— зноў цвёрда і жорстка сказаў Афанасій — вочы яго былі ўтароплены на абраз.— Гэта я знаю. Але я знаю таксама, што боскі страх павінен быць. Бог — з'ява грозная і трагічная. Бог павінен уладарыць. А без страху гэта немагчыма...

— Ну а наш горад?..— уставіў Карп.

— Тое і гора, што людзі згубілі страх божы. Страх, разумееш? Таму я хачу давесці, данесці не толькі да пагляду, не толькі да галавы, а да ўсяго цела чалавека, кожнай яго крывінкі, веліч божага гневу і божай міласці. Разумееш?

Якія чорныя фанатычныя вочы! Амаль фантастычныя. Здаецца, самі па сабе яны могуць руйнаваць і ўздымаць. Карп баяўся горача спрачацца з Афанасіем. І ўсё ж сказаў:

— Знаеш што, дружа, я многа думаў пра гэта. І мне падалося, што менавіта страх нас пагубіў. Занадта быў ён цяжкі, невыносны. Страх задушыў любоў. Людзі жылі страхам. І калі страх апаў,— а гэта сёння сапраўды здарылася,— у людзей няма любві. Вось пра што я думаю. Хрыстос запаведаў любіць. Не баяцца яго, а любіць... А любві няма.

Афанасій глядзеў на Карпа яшчэ больш пранізліва.

— Разумею. Гэта знаю. Я думаў пра гэта. І ўсё ж цвёрда перакананы: нельга без страху. У гэтым сённяшнім разбурэнні любоў не ўзгадуеш. Адзін рэжа другога. І хоць бы што яму — нават радуецца. А ты яму будзеш казаць: любі сваю ахвяру. Ён і цябе прырэжа. Трэба, каб так грозна божы лік праглянуў — аж мароз па скуры. А калі будзе парадак — можна і любоў гадаваць. Ну што, правільна?

Карп яшчэ раз глянуў на Багародзіцу з Хрыстом, яму сталася нядобра пад гэтымі яснымі, строгімі, матэматычна прапарцыянальнымі паглядамі — быццам на яго пазірала сама боская воля. Былі ў гэтых паглядах добразычлівасць, спагада,— але такія далёкія.

— Не,— сказаў ён ціха.— Не для чалавека гэта...

Быў адвячорак, у хаце стаяў паўзмрок, пахла зямлёю ад цёртых фарбаў, шкіпінарам, алеем, сухімі ліпавымі дошкамі...

Яны сядзелі, і кожны думаў пра сваё. Афоню было, відаць, прыкра. Ён думаў, што нарэшце зведаў свае вышэйшыя гарманічныя матэматычныя прапорцыі, а тут лепшы сябра, з якім у дзяцінстве гульні гулялі, хадзілі на рэчку па рыбу, так доўга жылі пад адным небам...

## 20

Немец паставіў каплічку.

На знадворныя сцены паклалі тынк, пафарбавалі ў два колеры — блакітны і белы, аднойчы раніцой разламалі рыштаванні, і тады сярод будаўнічага хаосу — паветак, штабеляў з бярвенняў, дошак, побач ■ велізарным гмахам — з'явілася дзівотнае збудаванне. Міколка, як убачыў гэты дамок, быў літаральна загіпнатызаваны. Не, тут нічога не было такога, што можна было б аднесці да нейкага хвалявання — ён не ўзбурыўся, яму не стала ні холадна ні горача, але нешта прысушвала пагляд — як нязнанае і нечалавечае відовішча. Сказаць адразу было немагчыма, што ж тут такога не такога... Можа, вось гэтыя песні-маршы — іх мармытаў немец, пахаджваючы вакол сваёй каплічкі і з замілаваннем яе аглядаючы:

— Трам-там, трам-та-там...

І хадзіў ён, як у страі — чотка, маршыруючы.

— Трам-трам-трам...

На чыста паголеным твары жорсткія валявыя маршчыны, даўгія валасы ён завіў буйнымі прыгожымі хвалямі, насунуў зверху мудрагелісты капялюшык з жураўлёвым пяром, чорны кірпаты нямецкі каптанчык быў, здаецца, зроблены з бляхі.

— Трам-трам...

А недзе з-пад самага неба, зверху сабора, дзе ўжо канчалі выкладваць скляпенне галоўнага купала, чулася доўгая павольная мелодыя, быццам яе нараджалі

бясконцыя прасторы, што адкрываліся там, наверсе. То спяваў Сцяпан — муляр, голас быў моцны, раскацісты, песня лілася шырокая і такая тужлівая — за сэрца хапала. Здаецца, то спяваў гмах сабора.

Каплічка немца была падобная на яго кароценькія і энергічныя «трам-трам-трам». Дакладны жалезны рытм. Увасабленне волі, чалавечага розуму, разліку. Усё да месца, акуратна, строга. І быў у ёй нейкі дакор наваколлю. Не толькі будаўнічаму хаосу ўнізе, але і дрэвам, і дамам, што стаялі непадалёку. О, тут можна было зразумець, што і дамы ў гэтым горадзе раслі вольна, нібы з зямлі, як дрэвы, як іх шурпатыя ствалы, галінкі і лісцем,— тут стала раптам відаць, што ўсё наваколле — няправільнае, а каплічка, магчыма, той пачатак, з якога чалавечая воля выбудуе новы правільны і разумны сусвет. Адзінае нядобрае, што сталася,— прапала крыніца, над якой і дзеля якой была выбудавана каплічка, кажуць, яшчэ цякла ў той дзень, як знялі рыштаванні, а потым знікла.

Прыходзілі людзі, глядзелі, здзіўлена хіталі галовамі, міжволі выцягваліся, як па камандзе «Смірна!». Прыйшоў старац Арсеній, таксама доўга стаяў, нічога не сказаў немцу, які, відаць, чакаў пахвалы, уздыхнуў, перахрысціўся — так пайшоў. Немец перастаў мармытаць маршы і занепакоіўся, але, агледзеўшы наваколле і сваю каплічку, зноў павесялеў і надзьмуўся гонарам. І што адбылося потым — невядома, кажуць, пабываў ля каплічкі Марцін-вядзьмар з Паўлавага балота і зрабіў такое насланнё. Бо ўжо проста на наступны дзень вакол каплічкі пачаў расці балотны мох. Ён раптоўна з'явіўся, ніхто не бачыў, як сталася, хоць Сцяпан-муляр сцвярджаў, што ноччу гэты мох быў ля рачулкі. А раніцой яго ўбачылі вакол нямецкай каплічкі. Спачатку на гэта не звярнулі ўвагі, але нехта заўважыў, што мох папоўз на сцены. Тады людзі сабраліся і пачалі гля-

дзець і думаць. Немец бегаў, аддзіраў мох ад сцен і крычаў, што трэба ададраць мох і выкінуць. Але старац Арсеній хітаў галавой: не так проста.

— Што ты разумеў! — крычаў немец.— О, так трэба — знішчыць і спаліць — і ўсё! — і ён бегаў, аддзіраў мох і зносіў у кучку. Хутка ўтварылася цэлая гара. Немец хацеў паліць, але яна не гарэла. А на наступны дзень тое месца, дзе ляжала гара, так замакрэла, што зямля вакол стала мяккай, як дрыгва, вязлі ногі. Мох пачаў асядаць, разыходзіцца па дрыгве. Ногі правальваліся ў ім па калені, як у сапраўдным балоце.

— Асушыць, пракласці магістральную канаву! — гаварыў немец. І пачаў капаць канаву да рэчкі. Ніхто яму не хацеў дапамагаць — баяліся. Праўда, Міколка спачатку пакапаўся было, але нешта яму сталася так нядобра... Упарты быў немец. І на вока было добра відаць, што рачулка ляжыць ніжэй пагорка, на якім стаіць каплічка. Немец капаў і ўдзень і ўноч, і дакапаўся ўсё ж да рэчкі. Вада пацякла з багны. Так было ўдзень. Некаторыя паверылі немцу. Але раніцой заўважылі, што вады ў багне прыбыло. Вада з рэчкі быццам бы ішла наверх. Міколка кінуў трэсачку ў канаву ля рэчкі, і тая замест таго, каб выплыць у рэчку, паволі пачала прасоўвацца наверх, да нямецкай каплічкі. Баяліся, што балота пойдзе на сабор, але яно ўнадзілася чамусьці толькі пад каплічку, ля сабора была цвёрдая зямля. Потым заўважылі, што каплічка пачала быццам дрыжэць пад ветрам. Немец, звар'яцелы, сядзеў пад сваёй каплічкай і ўдзень і ўноч, нічога не еў. Каплічка пачала асядаць уніз, у багну. Хутка засталіся вокны, потым купал, потым крыж. Крыж тырчаў доўга над белым мохам і не тануў. І тут балота неяк само па сабе ўсохла, імхі пажаўцелі, іх садралі — пад імі была цвёрдая зямля. А з-пад крыжа забіла крынічка — з чысцюткай жывой вадой.

Потым ужо прыпомнілі, што адзінае месца на будоўлі, дзе не пабывала Фрося, якое заўсёды старанна абыходзіла,— нямецкая каплічка.

А немец прапаў. Кажуць, яго таксама, разам з каплічкай, засмактала багна...

Паважаны пан Тыняноўскі, гарадскі пісар, занёс у тоўстую кнігу гэту незвычайную падзею — як багна праглынула каплічку, дадаўшы, што горад не загіне канчаткова толькі ў тым разе, калі набудзе вялікую святасць. Але ён не давёў, што гэта азначае. Таму людзі думалі, што трэба больш шчыра маліцца, вынішчыць у горадзе ўсё люцыпарскае, асабліва гэтых ведзьмароў і вядзьмарак, асвяціць сабор — гэта кубло, дзе пануе, як казалі, такая разбэшчанасць і хула, што немагчыма трываць. Расло ўзбуджэнне. А тут яшчэ непадалёку, у Быхаве, з'явілася чорная воспа — людзі пачалі мерці як мухі. Сам мітрапаліт адслужыў у царкве святога Пятра і Паўла спецыяльны ахоўны малебен, святым шэсцем хадзілі да Быхаўскіх варот. А потым, як то казалі, бо ніхто не бачыў,— ноч была цёмная, голыя бабы, запрэжаныя ў саху, абаралі баразной вакол горада, былі там і паненкі нецалаваныя і цяжарныя кабеты,— так здавён ратаваліся ад навалы ці мору, і, казалі, лепш дапамагае, чым святое шэсце. Міколка хадзіў глядзець на гэтую магічную баразну — да баразны дайшоў, а пераступіць збаяўся, так стаяў і пазіраў, бы яе не бабы правялі, а сам Гасподзь.

## 21

І навошта Клім Міхайлаў пайшоў на Гаманлівае балота да Тэклі-вядзьмаркі, ён сказаць не мог. Ці то зажурыўся з чаго. Відаць, хутчэй за ўсё, напужала яго

багна, што праглынула нямецкую каплічку разам з дойлідам. У нас тады многа было паднемчыкаў. Што ні ўбачаць нямецкае — «Ах, якая цудоўная рэч!». Клім Міхайлаў падмайстрам хадзіў у Нямеччыну — вельмі спадабалася яму, як немцы дрэва рэжуць — так выра-бяць, такія пусцяць гронкі з лісцем, такіх арлоў ды львоў пасадзяць — любата! Усё важкае, трывалае. І хіт-рыя ж былі, навучыліся цыркулем і лінейкай так да-кладна круціць — гронкі з лісцем адмалёўваць, і так па-навуковаму правільна ставіць разец, што любы чала-век, нават самы бязрукі, збольшага патрапіць выразаць гэтыя лозы, праўда, лозы будуць не надта якія, але ж лозы! Майстры дык майстры! «Не ўмееш — наву-чым!» — так і казалі кожнаму гэтыя немцы. Клім, праўда, умець-то ўмеў, але яму здавалася, калі ён пэў-на, па-нямецку, адмерыць і адмалюе, ды дасць стро-гую прапорцыю з раўнавагай — разьба стане вышэйшай меры. Ён так і рабіў, але дасягнуць вышэйшай меры не ўдавалася. Чаму — невядома. Ён ужо і немца, гер дой-ліда, запрашаў для парады — той вымераў яшчэ больш дакладна і сказаў: «Усё правільна, гер майстар».— «Але ж сам бачыш, што лозы мёртвыя». Немец пры-гледзеўся: «Мёртвыя, гер майстар. Так, мёртвыя, але я не магу зразумець чаму. Ты як немец робіш — дак-ладна. Вельмі, вельмі пахвальна. Відаць, трэба больш практыкавацца з цыркулем і лінейкай і, галоўнае, ад-мыслова навастрыць струмант». Клім рабіў з раніцы да ночы і струмант вастрыў,— але ўсё дарэмна, лозы не ажыўляліся. І вось павалокся да старой вядзьмаркі Тэклі. Прыцемкам устаў, каб людзей менш сустрэць. Мінуў вялікае поле, што за валам, у лес увайшоў. Да-рога тут глухая, даўно ніхто не ездзіў, парасла малад-няком, але сцяжынка досыць убітая, відаць, ходзіць да Тэклі многа людзей. Сцяжынка рабілася ўсё больш вільготнай, дрыготкай, лес драбнеў, радзеў, дзічэў,

урэшце пайшоў алёс і мох з рэдкімі чэзлымі хваінкамі. Тут даводзілася пераступаць ужо з купіны на купіну, бо сцяжынка глыбока ўразалася ў мох і была поўная вады — лета было досыць дажджлівае. «Чым Тэкля харчуецца на гэтым балоце? — думаў Клім.— Летам яшчэ людзі нясуць хто што. А зімой? Мох есць, ці што? А можа, і мох, усё станецца, невядома наогул, чым яны, гэтыя ведзьмары, харчуюцца, кажуць, што і без ежы могуць быць, ад зямлі і неба моц бяруць. І з нячысцікамі знаюцца. А нячысцікаў у такой глухамані — бог ведае колькі: лесавікі, багіннікі, лазнякі, імшанікі, шэшкі, касны, шатаны, купіннікі, цмокі, паралікі, паветрыкі, прахі, кадукі, чалавекападобнікі, мары, паўночнікі, вадзянікі, русалкі, малочныя ведзьмы; відаць, наведваюцца сюды і хлеўнікі, пуннікі, гуменнікі, палевікі, дамавыя...» Клім імкнуўся ўсіх прыпомніць, каб ніякаму нячысціку крыўдна не было. Многа іх на Гаманлівым балоце, пад кожнай купінай сядзяць, толькі глядзі ды глядзі, але яны Кліма не зачэпяць — ён да іх добра ставіцца, спачувае ім, бывае, і кавалак хлеба пакіне то аднаму, то другому. І яны да яго павінны з дабром.

Клім без здарэнняў дайшоў да дома Тэклі, што стаяў на невялічкай выспе — сцяжынка зрабілася цвёрдай, сосны тут раслі велізарныя. З коміна ішоў дымок. Жудаснае адчуванне рабіла гэтае ўрослае ў зямлю збудаванне. Сцены складзены з таўшчэзных бярвенняў, два маленькія акенцы зацягнуты бычынымі пузырамі, страха з нейкай жорсткай балотнай травы абымшэла і дзе-нідзе парасла беразняком, пры набліжэнні Кліма нейкая жыўнасць шуганула ва ўсе бакі — жабы, дробныя звяркі, птушкі, цяжка ўзляцела і вялікая птушка. Клім пагрукаў кулаком у шырокія нізкія дзверы і доўга чакаў — ніякага знаку. Паляпаў грамчэй, пачакаў і сеў на калоду на дрывотні, непадалёку ад дзвярэй. Па-

чуліся нечыя крокі, з боку балота паказалася баба, захутаная ў чорныя адзенні. Убачыўшы Кліма, спынілася і не падышла бліжэй. Клім не чуў, як адчыніліся шырокія дзверы хаты — за парогам стаяла Тэкля, апранутая ў доўгую чорную спадніцу, чорны стары каптанчык. На твар яе глядзець было страшна: нос доўгі-доўгі, крывы, што ў папугая, канец яго кладзецца, здаецца, на самую бараду, нячэсаныя сівыя валасы ўздымаюцца капой, вочы круглыя і немігаючыя, як у савы. Можна было б памерці са страху, але Кліму раптам падалося, быццам Тэкля — гэта тая ж Фрося, дачка мясніка, яго далёкая родзічка, і ён прыйшоў у госці.

— Ну, заходзь, заходзь, пляменнічак-саколічак,— сказала Тэкля-Фрося ненатуральным скрыпучым голасам. Яна правяла Кліма праз цёмныя сенцы ў хату з нізкай столлю, у якой нічога немагчыма было разгледзець, бо было цёмна, толькі ў печы шугала зыркае чырвонае полымя і наводзіла на ўсю хату чырвоныя трапяткія сполахі. Клім стаяў сярод хаты і не ведаў, што рабіць. Старая пачала снаўдацца ля печы, вымаючы з яе і ставячы ў агонь нейкія гаршкі — там нешта булькала і паравала.

— Даўно цябе чакаю, даўно,— ветліва гаварыла старая Тэкля.— Ох, ты ўпарты, саколік, што казёл. Я ж на цябе раз і траву клала, але ўсё табе не выпадала. Ну дык слухай мяне,— яна раптам загаварыла пявуча, з падвывамі, доўга:

— Зоры зарыцкія, хвораму памочніцы, прыступіце, паможыце ўпрасіць і ўмаліць дванаццаць прымавак і ўгаварыць, адкуль яны ўзяліся, ці ветраныя, ці віхраныя, ці ўрочныя, ці ўлечныя, ці падуманыя, ці памаўлёныя, ці нагавораныя, ці страчаныя, ці пасланыя. Прашу я вас усіх: выступіце з следу, з печані, з касцей, з вачэй, ад белае касці, ад чырвонае крыві, ад русых валос, ад чорных вачэй. Ідзіце вы на сіняе мора. На сі-

нім моры стаіць дуб зялёны, пад тым дубам дванаццаць панове гуляюць. Стаяць столікі засціланыя, кубкі наліваныя, там вам піці, гуляці, а добраму моладцу здароўя даці. На лёгкае сланнё, на смачнае ўжыванне, па белу свету хадзіці, з добрымі людзьмі гаварыці, лозы і звяроў ажыўляці. Як чорнаю караваю па моры не араці, чорным катом не баранаваці, жоўтым пяском не сеяці, у жоўтым пяску каласку не бываці, так ліхім людзям добраму моладцу Кліму не замінаці, а са свайго розуму і са сваёй галавы жоўтае святло рыхтаваці.

Тэкля замоўкла, утаропіла на Кліма круглыя немігаючыя савіныя вочы — аж ніякавата стала, пацмокала і сказала:

— Мала, шчэ трэба.

І зноў забубніла:

— Устаў добры маладзец Клім, выйшаў не дзвярыма за новыя вароты ў чыстае поле. У чыстым полі стаяць тры бесы, два бесы, адзін бес: бес Сава, бес Савул, бес Калдун. Падышоў добры маладзец пабліжэй, пакланіўся паніжэй, і вы, трыдзевяць бесаў — бес Сава, бес Савул, бес Калдун, паслужыце добраму маладцу Кліму, як служылі цару Іраду. Ідзіце па гарадах, па сёлах, па вёсках і збярыце ўсю таску і сухоту — ад звяроў, птушак, рыб і ўсялякага роду людзей і знясіце ўсю таску і ўсялякага роду сухоту блажэннаму Міколку ў ясныя вочы, у чорныя бровы, у румяны твар, у рацівае сэрца, у чорную печань, у гарачую кроў, у трыдзевяць жыл і адну жылку станавую, падпятную, каб гэты блажэнны Міколка не мог ні жыць, ні быць ні днём па сонцы, ні ноччу па месяцы, покуль не ажывуць залатыя лозы, залатыя гронкі, залатыя парасткі. У чыстым поле стаіць сарачынскі дуб, з-пад дуба выходзіла Бабаяга і паліла трыдзевяць агнёў дубовых дроў. Так горача, так ясна, каб разгарэліся ў маладца Кліма ясныя вочы, чорныя бровы, румяны твар, рацівае сэрца, чор-

ная печань, гарачая кроў, семдзесят адзін сустаў. І гэтым добрым маім словам — ключ і замок,— замок замкну і ключ знясу ў акіян-мора пад латыр-камень. Амінь.

Зноў Тэкля доўга, не мігаючы, глядзела на Кліма круглымі вачыма.

— Во ты які,— прамармытала яна,— вядома, з калдунскага роду. Мала бярэ цябе, мала... Трэба травы паліць.

Яна выйшла ў сенцы, злазіла на гарышча — доўга там хадзіла, прыйшла з цэлым бярэмам сухіх траў, паклала на лаўку і пачала па адной бадыльцы кідаць у агонь, уважліва разглядаючы, як ішоў дым, якога колеру, якімі клубамі. Часам у печы ўзнікаў трэск, ляцелі іскры. Потым паваліў густы белы дым, але раптам суняўся і пацягнуўся ў комін танюткім струменьчыкам, ішоў роўна, як струна.

— О-то-то,— загаварыла старая,— ото добра, ото добра,— яна аж засмяялася.— Ой, як добра! Ну, саколік-пляменнічак, знаю цяпер, хто навадзіў на цябе скруху — ды няма ўжо яго, няма, згінуў, у багне згінуў — так угледзела я, быў на ім капялюшык з жураўіным пяром, апрануты быў у кургузы нямецкі каптанчык. Ну, мой саколік, што я тут угледзела — то і табе скажу. Травы твае такія, што ніхто не можа сарваць і высушыць, а калі хто будзе паліць, то згіне, а травы з агню адродзяцца яшчэ найяснейшымі і жывымі, золатам будуць блішчэць, палымянымі іх будуць зваць...

І раптам Тэкля са жвавасцю, якой нельга было чакаць ад яе, стала на калені, нахілілася і пацалавала Клімавы боты, спачатку левы, потым правы. «Што ты робіш?» — хацеў сказаць Клім, але Тэкля ўжо зноў стаяла на нагах і махала на яго рукой.

— Ідзі, саколік, ідзі, бо цяжка мне, вельмі цяжка

ад тваёй душы стала — пашкадуй мяне,— сказала яна жаласліва.

Клім з недаўменнем пайшоў. Ён наогул мала што зразумеў з таго, што гаварыла гэта Тэкля-Фрося. Якая-такая хвароба ў яго і пры чым тут немец, што загінуў у багне, і чаму яна стала на калені перад ім? Пра лозы нешта гаварыла, пра нейкае полымя. Такога Тэкля нагаварыла, што звіхнуцца можна. Клім ішоў глухім балотам, алёсам і паступова супакойваўся, глядзеў на чэзлыя хвойкі, на мох, што буяў ад краю да краю. Ногі яго былі пругкія, і ён лёгка пераступаў з купіны на купіну, ён адчуваў сваю сілу, невычэрпнасць яе, ён быццам забаўляўся з ёю.

Да сабора Клім прыйшоў, калі сонца добра ўжо прыпякала. Прыехаў цэлы абоз ліпавых бярвенняў, і дзецюкі насілі іх пад паветкі. Яго памагатыя загадалі, дзе і як складваць, нагатавалі мокрых посцілак, каб адразу ўхутаць штабелі. Клім выбраў адно бервяно, з касы сажань даўжынёю, аднёс пад свабодную паветку. Потым схадзіў у каморку, дзе ляжаў струмант, і набраў цэлую скрыню розных долатцаў-разцоў — ён думаў паспытаць новы струмант і новы лес. Долаты былі адмысловыя, іх навыдумляў сам Клім, нават у немцаў такіх не бачыў, такіх мудрагелістых і пакручастых, а каваль так іх адкаваў і загартаваў...

Па сырой ліпе струмант ішоў лёгка. Клім нічога не вымяраў, вёў долата-разец, як таму ішлося: управа павяло — няхай управа, улева — улева, углыб — углыб. Гронкі, лозы, лісты klaліся, як хацелі, гэта нават здзівіла Кліма — не ён кіраваў гэтымі лозамі, а, здаецца, яны ім, быццам яны вырываліся з яго рук, пружынілі, звінелі, туга закручваліся, вінаградзіны празрыста наліваліся салодкім сокам... Такая незвычайная дзея захапіла Кліма, ён аж дрыжэў ад нейкай прагнай слодычы кранацца гэтых лістоў і гронак; разец лёгка здымаў

стружку, лісты і гронкі ажыўляліся ўсё больш і больш, быццам Клім вызваляў іх з нейкага нязнанага палону, з якога мог вызваліць толькі ён адзін на цэлым свеце — Клім Міхайлаў са Шклова!

Шырокі паўкруглы разец Міхайлава ідзе на белым ліпавым бервяне, здаецца, хаатычна. І там калупне, і там адрэжа, і там агладзіць. На калодзе ўзнікаюць нейкія бурбалкі — і не скажаш, што ж гэта такое. А Міхайлаў кідае рэзаць гэты кавалак, пераходзіць да наступнага — і там ідуць нейкія бурбалкі. Потым бярэ нейкі неверагодна закручаны разец і пачынае, што той дзяцел, забірацца ўсё глыбей і глыбей у бервяно — доўга калупаецца недзе ў самай тоўшчы дрэва, што жук-шашаль, точыць, точыць — і там нейкія бурбалкі. Можна было б сказаць: падумаеш, дзіва, і я магу нарабіць гэтых бурбалак. Але справа ў тым, што Міхайлаў, нават невядома як, але бачыць жыццё пад гэтымі бурбалкамі. Ды якое жыццё! Буйнае, перапоўненае, ужо амаль немагчымае ад уласнай сілы і шаленства, што студзеньскія маразы або летнія навальніцы: калі мароз, то трашчаць дрэвы і лопаецца зямля, калі пярун — то на ўсё неба. Бурбалкі гэтыя не проста ляжаць пластамі па калоне, яны выходзяць з яе, выпіраюць, нават невядома, з чаго такое стаецца. Была калода і не вельмі тоўстая, а тут раптам раздалася, пашырылася, набрыняла... Клім нарэжа колькі такіх бурбалак, потым бярэ малюсенькія разцы — вугалковыя, паўкруглыя, фігурныя, плоскія, і неяк хутка-хутка наводзіць жылкі, зубчыкі, пуклінкі, баразёнкі. Лозы і лісты пачынаюць трымцець проста на вачах, быццам набываюць душу, яны рухаюцца, што жывыя істоты.

О, слодыч, слодыч! Усё ў ім замірала ад дзіўнага пачуцця еднасці, яднання, ён ужо не мог сказаць дакладна, дзе канчаюцца яго асабіста рукі, ногі, тулава, галава і пачынаецца тая, іншая істота, бо то быў таксама

ён, там усё было яго працягам, яго арганізмам. У трызненні яму мроілася вядзьмарка Тэкля з хітраватымі Фросінымі вачыма, яна была маладая і гарачая, яна прызыўна смяялася, і яны абое тварылі нешта такое прыгожае, і ён, і яна былі такія пяшчотныя і такія шчаслівыя. І было радасна, што было дзе і з кім адчуваць слодыч, гэта было вечна і безупынна, бо ад кожнага дотыку разца яго цела звінела ўсё званчэй і званчэй, гэтаму напружанню не бачылася канца, як не было відаць апошняй таямніцы і ў жывым лісце, у яго росце, яго адчуванні паветра, неба, расы...

Клім паставіў калону на зямлю вертыкальна. Дзівам падалася яна.

Ад знямогі Клім усеўся на нейкі цурбанчык і глядзеў на вінаградную лазу. Яна стала чырванаватай. І толькі тут агледзеўся. Сонца стаяла нізка над зямлёй. «Яшчэ толькі ранак,— падумаў Клім,— а я так стаміўся. Але чаму такое чырвонае сонца? Дык ужо вечар! — прыпомніў ён.— Гэта ж цэлы дзень кахаўся з калонай!»

Воддаль стаялі людзі. Відаць, яны даўно назіралі за ім. Цяпер яны падышлі бліжэй, моўчкі глядзелі на калону. У чырвоным святле яна была нібыта з чырвонага золата, вінаградныя лозы раслі, здаецца, з самай зямлі.

Вечаровае святло сціхала, і калона пачала меркнуць. Клім спалохаўся. Знікала дзівоснае трапятанне жыцця — яго паглынала цемра. «Так нельга, так нельга,— разгублена мармытаў Клім.— А як жа будзе ў саборы пры свечках? Лозы павінны жыць і ў самым малым святле!» І раптам Клім схапіў сякеру, кінуў калону на зямлю, узмахнуў сякераю як мага вышэй і так рубануў па калоне з камля, што яна рассыпалася на дзве палавіны. Ахнулі людзі, а Клім схапіў паўкруглае цясло і хутка-хутка, покуль яшчэ не зайшло сонца,

пачаў выбіраць сярэдзіну калоны — толькі трэскі ляцелі, сек да самых вінаградзін паўкруглыя жалабы. Некаторыя лісты і гронкі адвальваліся, ён іх адкідваў. Сонца яшчэ акрайцам вісела над зямлёю. Клім знітаваў дзве палавінкі пустацелай калоны, абвязаў вяровачкай, паставіў на зямлю.

Во! Калоны не было. Быў толькі вінаград. Лозы свяціліся чырвоным знутры і знадворку, апошнімі сонечнымі праменнямі. Зайшло сонца, а лозы жылі, апускаўся змрок, а лозы трапяталі. Скупое святло прабіралася скрозь вінаградныя парасткі, і тыя трымцелі. Анямелыя стаялі людзі. Такога ніхто нідзе не бачыў.

Потым нехта падышоў і падняў з зямлі адляцелы вінаградны ліст, другі — гронку. Людзі са здзіўленнем азіралі іх, быццам у іх была незвычайная цудадзейнасць.

Клім азірнуўся. На светла-ружовым небе высока над зямлёй вісеў тонкі маладзік, ён толькі нарадзіўся. Клім схапіўся быў за кішэню, каб патрэсці дробнымі грашыма, але там не было ні гроша. І ён патрос драўляныя лозы — тыя глуха забрынчалі.

— Каб не пераводзіліся і раслі,— прыгаварыў Клім.

— Мэ-э! — недзе глуха ў цемры азваўся казёл прыдушаным голасам.

— Кукарэку! — звонка і весела пракрычаў певень.

— Бо-ом! — цяжка, нібы з-пад зямлі, азваўся густы звон.

«На добры знак»,— падумаў Клім.

І з таго часу пад паветкамі штодзень узнікаў гэты цуд — быццам невычэрпна цякла крыніца. Такіх вінаградных калон для нязнанага велізарнейшага іканастаса патрэбна было безліч. Працавала вялікая арцель, чалавек сорак. Адны вымяралі бярвенні, рабілі шыпы і пазы для злучэння з іншымі дэталямі, другія пілавалі бярвенні ўздоўж на дзве ці тры часткі, выбіралі сярэ-

дзіну і склейвалі. Клім і яшчэ некалькі майстроў рэзалі лозы. Потым лозы сушылі, ляўкасілі, залацілі.

Пасля Міхайлавага разца лозы былі проста жывыя. Яны мелі плоць прыкладна такую ж няпэўную і зменлівую, што і натуральныя лозы, а тут, у золаце, не губляючы гэтай жыццёвасці, трапяткосці, яны набывалі цвёрдасць і вечнасць, як той звон, што плыве над палямі, лясамі, гарадамі — то не ваганне паветра: ангельская, боская сутнасць льецца і дрыжыць над зямлёю, як вечная благадаць... Міколка заўсёды, як чуў царкоўны звон, кідаў работу і стаяў, тады яму здавалася, што ўсё благое і злое пакідала яго цела. І такое ён адчуваў цяпер, перад гэтымі залатымі лозамі — быццам нешта агромністае, звышчалавечае, векавое, касмічнае ахоплівае яго...

І ўсё ж найвялікшае дзіва адбылося потым, калі гэтыя шматлікія вінаградныя лозы сабралі ў велізарнейшы іканастас. Міколка ў той час, як збіралі іканастас, хварэў — ляжаў у гарачцы і трызніў, не было каго, каб падаць конаўку вады, ачуняў такі слабы, што не мог нават сядзець — галава адразу закружылася, ён лёг. Але праз колькі дзён яму стала лепей, і ён пабрыў да сабора. Ён чуў раней, што збіраюцца выбудоўваць іканастас, але за час хваробы неяк забыўся на гэта, ён, па звычцы, увайшоў у сабор праз заходні партал, нават не зняўшы шапку, бо сабор не быў яшчэ асвячоны; як толькі ўвайшоў, па вачах літаральна ўдарыла такое нясцерпнае ззянне, што Міколка спалохаўся, бухнуўся на калені, саскроб з галавы шапку, з усяго маху торкнуўся лбом у падлогу, але і праз заплюшчаныя вочы прабівалася асляпляльнае ззянне. «О божачкі, што ж гэта такое?!» Праз некаторы час ён усё ж узняў галаву і агледзеўся. Гарэў-палымнеў іканастас, нават з самых цёмных куткоў ён выпраменьваў святло, то шугала жоўтым агнём само золата, праўду кажуць, што яно —

скандэнсаванае святло, думаў Міколка. Гэта заўсёды ўражвае, як і звон, як і залатыя купалы, што свецяцца нават у густой цемрадзі, глыбокім адвячоркам...

Міколка доўга стаяў на каленях у бясконцай саборнай прасторы перад залатым, несціханым, нясцерпным ззяннем і піў-убіраў у сябе гэтае ачышчальнае святло, што тварыла яго душу нанова, знікалі крыўды, здзекі, гвалты, што рабіў ён і яму рабілі, ён станавіўся — ён адчуваў гэта — іншы, новы, як сырая цагліна, якую трэба яшчэ абпаліць, ён фармаваўся, злучаўся ў новых адносінах, прапорцыях, часцінках — усё падладжвалася, падганялася, прыпасоўвалася адно да аднаго...

Ці можна параўнаць з гэтым крышталь, нават самы складаны і дасканалы?!

## 22

Відаць, парушана была недзе магічная баразна, што цёмнай ноччу вакол горада правялі голыя жанкі — пан Бог наведаў горад чорнай воспай. Не дапамагло, што перад самым морам спалілі трыццаць трох чараўнікоў. Чамусьці іх павінна было быць дакладна трыццаць тры. Таму служкі з ратушы лёталі па ўсіх акаляючых вёсках, а ў горадзе ўсе, хто меў чорныя вочы і чорныя валасы, хаваліся па ямах, каб не схапілі выпадкова на вуліцы. Павалаклі нават сямігадовага хлопчыка — не адратавала і тое, што вочы яго былі не вядзьмарскія, а блакітныя: нехта данёс, што той сурочыў яго карову. Шукалі старую Тэклю, яна сышла некуды; хацелі спаліць яе хату, але агонь не браў — адразу загасаў, нехта са служкаў памкнуўся разбіць дзверы — зламаў сабе руку, другі тыркнуў жардзінаю ў бычыны пузыр акна, а выбіў сабе вока. Так і пайшлі служкі. Ды, відаць,

сярод гэтых трыццаці трох сапраўдных ведзьмароў і не было, а так, падведзьмары розныя, а то і зусім невінаватыя людзі, што трапілі за чорныя валасы і чорныя вочы. Было там некалькі вельмі прыгожых дзяўчат — такіх прыгожых, што, кажуць, як іх служкі вялі, то пазавязвалі адзін другому вочы — так вобмацкам і прыйшлі ў горад.

Засядалі адначасова два суды: княжацкі і магістрацкі. Віноўнасць усіх трыццаці трох чараўнікоў была відавочнай, у іх нічога не пыталі, лічбу 33 прызналі надзіва дакладнай, бо і Хрысту, калі распялі, было 33 гады. Сумненне выклікала толькі, якой смерцю трэба караць чараўнікоў. Княжацкі суд настойваў на патапленні ў рацэ, каб даць вінаватым апошні шанец ратаваць душу, бо, як вядома, чэсныя хрысціяне адразу ж тонуць і, такім чынам, можна было б адслужыць па іх паніхіду. Але магістрацкі суд давёў, што ў дадзеным выпадку такая кара непрымальная, бо, па-першае, можа парушыцца магічны лік 33, па-другое, сапраўдныя чараўнікі, нягледзячы на ўзмоцненую ахову, могуць у рацэ і адратавацца, бо яны не тонуць ні ў якім разе — зноў жа парушыцца магічная лічба, і, па-трэцяе, спаленне будзе мець і вялікае выхаваўчае значэнне, бо 33 палаючыя велізарныя вогнішчы нешта ўсё ж азначаюць. Да таго ж, як устаноўлена мудрацамі, Богу больш прыемна ахвяра, спаленая ў вогнішчы, чым патопленая ў рэчцы, бо эманацыі ахвяр разам з дымам адразу ўздымаюцца ў неба, а такое ў сваю чаргу азначае, што пан Бог можа больш паспешліва адвесці чорную воспу ад горада і г. д.

Словам, відовішча было найграндыёзнейшае, калі запалалі адразу трыццаць тры велізарнейшыя вогнішчы. Міколку падалося гэта канцом свету, тым больш што дым і смурод не ўзняўся ў неба, як чакалі, а пайшоў па горадзе, пакрыў вуліцы, дамы, ахутаў замак.

Нават цёмна стала. Сярод гараджан не было ўздыму, урачыстасці. Людзі адразу пачалі разыходзіцца, але дым густа ахутаў горад, не было відаць нават уласных ног. Знайсці сваю хату было немагчыма. Жанкі траплялі ў чужыя двары да чужых мужыкоў і дзяцей, дзеці ровам раўлі, не могучы адшукаць сваіх бацькоў, мужчыны не пазнавалі адзін аднаго, завязаліся свары і бойкі. Дым еў вочы і пераймаў дух, людзі клаліся на зямлю, бо там яшчэ было чым дыхаць, думкі ў галаве мяшаліся, усё падавалася іншым, чужым, сабакі нападалі на гаспадароў, а гаспадары кідалі камені ў свае ўласныя ногі, бо мроілася, што тыя хочуць іх забіць... Словам, так усё ператасавалася і заблыталася, што потым, як сышоў дым, а стаяў ён дні са тры, яшчэ тыдні два разбіраліся, каб дайсці да ладу, але так да канца не маглі разабрацца.

Толькі сабор быў абыдзены дымам, і цесляры, што наводзілі ля самага неба драўляныя кроквы купалаў, са здзіўленнем пазіралі, як дым накрыў увесь горад і стаў сцяною ля сабора.

У гэты час стары лацініст правёў філасофскую гутарку з пеўнем і казлом, праўда, апошнія двое гаварыць не гаварылі, але часам мэкалі і кукарэкалі, што пацвярджала альбо адвяргала глыбокія і мудрыя аргументы старога лацініста.

Гутарылі яны пад адной з паветак, дзе выпадкова на казла і пеўня натрапіў лацініст. Казёл разлёгся на трэсках і стружках, што на пярыне, і блажэнна заплюшчыў вочы, а певень улёгся побач, за спіной казла, і таксама спаў. «Добра, што я іх, нарэшце, абодвух застаў,— падумаў лацініст,— толькі б не збеглі». Але тыя, відаць, былі змораныя — ці то біліся зноў, ці дзе валачыліся,— на старога лацініста не звярнулі ўвагі.

А выказаць лаціністу было што, бо так набалела на душы, што ён, як біблейскі прарок Іоў, гатовы быў узняць угору рукі і адаслаць праклёны самому Госпаду. І ўсё ж лацініст знайшоў у сабе сілы для спакойнага і памяркоўнага развaжання, бо лічыў, што гняўлівыя словы толькі псуюць свет і людзей.

— Пан Казёл і пан Певень! У мяне няма сумнення, што вы прадстаўнікі дзвюх палярных сіл — Д'ябла і пана Бога, калі той існуе. Толькі, відаць, вам не дадзена магчымасць весці размову з людзьмі. Калі я памыляюся па сваёй невучонасці, даруйце мне, але аб вашай здольнасці весці размову я нідзе не мог прачытаць. І ўсё ж я хачу звярнуцца да вас, а калі вы палічыце неабходным, то перадайце пану Богу, калі той існуе... Як можна зразумець з усяго, што творыцца ў нашым горадзе, я думаю, пан Бог, калі ён існуе, робіць нейкі дослед. Гэта вельмі прыкра. Ніхто не ўклаў у галаву Бога, калі той існуе, адну ісціну, што зыходзіць з прыроды чалавека: злу не трэба дапамагаць, яно расце само, а дабро без падтрымкі гіне. Гэта з'ява, як скажуць праз тры стагоддзі, тлумачыцца другім законам тэрмадынамікі, гэта непазбежнасць энтрапіі, Хаосу — рассейвання энергіі. А паважаны доктар са слаўнага паўночнага горада, як яшчэ не існуе, але праз тры стагоддзі будзе вялікі і багаты, таксама не зможа адшукаць у чалавечай гісторыі сілы, якія б дапамагалі нараджэнню дабра і прыціскалі зло, ён будзе спадзявацца на касмічнае ўздзеянне, прыдумае нешта накшталт апрамянення, што змяняе структуру псіхалагічнага напружання пэўнага народа і робіць гэта грамадства, як ён выкажацца, пасіянарным, гэта значыць, высокаактыўным. Разумееш, пан Певень?

Певень прыўзняў галаву і кукарэкнуў. Лацініст уважліва паглядзеў на пеўня. І хоць той зноў уторкнуў галаву пад крыло і заплюшчыў вочы, быццам яму ўсё

было, як скажуць пазней, «да лямпачкі», лацініст крыху падбадзёрыўся. Уявіце высокага, вельмі худога чалавека ў даўгім чорным выцвілым плашчы, з белай даўгой барадой, высакароднай паставы, яго ясныя вочы прарока гараць дзівосным агнём прасвятлення. Ён працягвае сваю натхнёную размову.

— Разумееш, пан Певень. Нам не хапае гэтага высокага касмічнага апрамянення, таму мы гінем. Можа, узамен яму мы будуем сабор. Так мне падумалася. Але гэта дзёрзкая і адважная рызыка — узвысіцца ўласнымі чалавечымі сіламі, хоць бы самым велізарным напружаннем!..

— Мэ-э-э! — раптам вельмі здзекліва сказаў казёл, нават не расплюшчваючы вачэй і не здрыгануўшыся.

— Што, што? Ці не занадта многа мы берамо на сябе? Немагчыма ўзвысіцца ўласным духам, таму што такога духу чалавечая душа не мае? Чалавек напаўд'ябал, напаўангел? І куды павернецца — такі будзе? Яшчэ будзе не адна спроба стварыць светлае грамадства, але чым болей святла будуць нагнятаць, тым больш будзе ахвяр? Нават многія мільёны? Ты ўсё дакладна ведаеш? І лепш нам жыць як простыя жывёлы? Божачкі ж ты мае! Не, не, не! Я сведчу ўсёй цывілізацыяй, пра якую ведаю праз многія-многія кнігі, што мы будзем і будзем выходзіць да святла! Мы будзем і будзем будаваць Саборы! Няхай нават цемра ахутае свет! Саборы будуць ззяць!

Казёл здзекліва мэкнуў, а певень азірнуўся на лацініста, гуку не падаў, і зноў уторкнуў дзюбу пад крыло. Было невядома, ці дайшоў высокі пафас лацініста да неразумных жывёлін. Лацініст, што Іоў, дзярзіў Богу, але ж Бог такіх любіць.

А ў гэты час чорна воспа пад покрывам чадзельнага дыму спаленых чараўнікоў неўзаметку пераступіла магічную баразну і ўвайшла ў горад. І то праўда, што

злу дапамагаць не трэба: само ідзе. А вось ці хопіць у чалавека сіл самому ўзвысіць свой Дух — гэта яшчэ пытанне...

## 23

Пятра Яўсеевіча з Галынца, напрыклад, кожны раз, калі ён аглядаў бясконцую прастору сабора, браў страх. Яму падавалася, што ніякі чалавек не ў стане замаляваць гэтыя сцены і скляпенні хоць бы простым арнаментам, не кажучы пра тое, каб паказаць нейкія высокія дзеі, пазіраючы на якія, чалавек памкнуўся б да высокай чысціні.

Ён стаяў і глядзеў, як цесляры ўзводзілі рыштаванні для роспісаў, забіраючыся ўсё вышэй і вышэй, пад самы купал барабана, што вісеў у недасягальнай вышыні — маленькія фігуркі поўзалі там, што мухі. Ужо адна гэта нічым не расквечаная прастора настройвае душу на велічны і ўрачысты лад. О, як высока ўзляцеў Дух чалавека ў вечнай пагоні за сваёй недасягальнай сутнасцю, якую завуць боскай! Здаецца, самі сцены пачалі ўтрымліваць нязгасны Дух, і трэба толькі прыкласці пэўнае намаганне, каб яго ўбачыць і занатаваць. Так падавалася Петраку, і ён цярпліва чакаў і чакаў, углядаючыся ў велізарную прастору сабора, гэтай важкай і важнай хвіліны. Спачатку яму мроіліся толькі няясныя здані ў няясным мігценні святла і колераў. Але раз-пораз колеры, а з імі і мірыяды істот сусвету набывалі ўсё большую акрэсленасць. Пятрок дакладна ведаў ужо, што тут, ля зямлі, на ўзроўні вока, колеры больш густыя, яны кантрасныя, звонкія, драматычныя, як і само жыццё. Бушуюць страсці. Салдаты рэжуць немаўлятак. Бедная сям'я, ратуючыся ад навалы, ідзе пустыняй. Чалавек-бог нясе на Галгофу велізарны крыж, на якім пryме смерць. Салдаты ўбіваюць цвікі ў рукі-

ногі Чалавека-бога. На заходніх сценах — жудасныя відовішчы Страшнага суда. Грэшнікі лямантуюць, гараць, тонуць, ім трушчаць косці, выколваюць вочы, вырываюць языкі, ламаюць рукі-ногі — тут служкі і ратушы, бурмістры, радцы, лаўнікі, хцівыя купцы і сам князь у выглядзе Люцыфара.

Вышэй колеры пачынаюць святлець, яны губляюць зямлістыя тоны. Больш блакіту, больш пяшчотнага ружовага, смарагдавага, залатога. Апосталы і святыя не ў зямным, у іх нябесным жыцці. Няма кантраснасці, напружанасці. Сюды выходзіць верхняе святло. У гэтыя кругі, яшчэ блізкія да зямлі, пранікаюць разнастайныя добрыя дэманы-ангелы. А чым вышэй — тым больш золата і блакіту, больш светлай духоўнай прасторы — покуль усё гэта не яднаецца магутным усёдзяржаўным духам Троіцы.

Ніколі Пётр не распісваў такіх вялікіх храмаў. Звычайна былі вясковыя цэркаўкі, там і размахнуцца не было дзе. Напісаў на столі Хрыста ў Славе, вакол — апосталаў, Багамаці, прарокаў, па сценах — страсці Хрыстовы. І ўсё. Там неба перамешана з зямлёю. Тут — космас. І столькі розных куткоў, што хопіць, каб паказаць нават паўдэманаў — лесуноў, багіннікаў, гуменнікаў, паказаць сялянскую хаціну, замак, каня на пашы, мядзведзя, што лезе на дрэва да калод з мёдам, паказаць бусла на стрэсе, вяселле, белаветразёвы карабель...

Пятрок адчувае, як дзьме свежы ветрык, грыміць навальніца, зелянеюць веснавыя травы... О, як горача шугае агонь у пекле і кіпіць смала, і балюча людзям, якіх катуюць радасныя чэрці!

Пятрок рабіў замалёўкі, проста са сцен і скляпенняў спісваючы асобных людзей, святых і цэлыя сцэны. Нават блажэнны Міколка кожны раз, калі натрапляў на Петрака, цішэў, быццам сустракаў яшчэ большага бла-

жэннага, чым ён. Пятрок быў апрануты ў грубую старую зрэбную сарочку, падобную на Міколкаву, твар яго быў невыразны і, здаецца, пагаслы — акурат як у жабракоў, што стаяць на царкоўнай паперці,— вочы Петрака крыху падслепаватыя, нос скасабочаны — Пятрок вельмі нагадваў крываротага Сцяпана-фурмана, да якога хадзіла Міколкава Варвара — Міколку станавілася ніякавата, ён мерыўся адразу адысці, але не мог. Узнікненне з нічога, з пусткі людскіх постацей, твараў, прадметаў, ды такіх, быццам яны недзе там, пад лістом ці ў лісце хаваліся, а цяпер праступілі, як то бывае з абнаўленнем цудадзейных ікон — яшчэ нейкія магічныя жэсты Петрака, і фігуры, прадметы прыйдуць у рух,— гэта было нязнаннае і жудасна-прыгожае, як то, відаць, было і тады, калі сам Бог тварыў дрэвы, хмары, звяроў, людзей...

Міколка адчуваў, як узбуджаны пальцы Петрака, як у іх нечуванае нервовае трымценне, яны прымушаюць грыфялёк лётаць над аркушам паперы, дакранацца то ў адным, то ў другім месцы — і ад гэтых шматлікіх, здаецца, хаатычных, дотыкаў з небыцця, што з туману, усё ясней і ясней акрэсліваецца фігура святога — яшчэ і яшчэ штрышкі: святы глядзіць на Міколку з жалем і болем, яшчэ штрых: святы пачынае гаварыць — Міколку зусім не страшна, што з ім вядзе размову сам святы — гэта так жа звычайна і проста, як гутарыць з кім-небудзь на вуліцы. Да самага адвячорка цягнецца гэтае незвычайнае абуджэнне святых. Толькі заўважыў Міколка: штосьці няпэўнае з'явілася ў пальцах Петрака, быццам яны нешта адольваюць, прарываюцца праз нейкае сумненне. Можа, ад гэтага гаспадар нервуецца і паступова знясільваецца — яшчэ відно, але ён складвае лісты, адыходзіць, быццам сярдуючы на каго.

На тым месцы, дзе быў майстар, застаецца холад.

Міколка ўпотай мерыцца на Петракова месца — хоча гэтак жа паглядзець на сцены. Ніц няма. А холад жорсткі. Міколка пачынае нават клацаць зубамі. Дзіўная рэч, раздумвае Міколка, ён не можа ўцяміць, чаму так бывае. Не можа, шчыра кажучы, уцяміць гэта і сам Пятрок. Чаго, здавалася, большага жадаць майстру: сцены замалёўваюцца, усё ідзе добра, чынна. Але холад... Пятрок адчуваў, што ўсё гэта робіцца толькі яго халоднай рукой, хоць ён быццам і імкнецца ўкласці ў малюнак душу, але душа не пераходзіць — толькі нейкія халодныя сілы. Няма гарачыні. Калі робіцца так, як трэба, тады горача становіцца ў грудзях і чуеш, як ад сэрца гэта гарачыня разыходзіцца па ўсіх жылах, тады і напружвацца не трэба і думаць, куды павярнуць галаву святога, куды скіраваць яго пагляд, як ён узняў рукі, якая яго постаць: усё ідзе быццам само сабой, аж трымціць, здаецца, само паветра, быццам сапраўды нехта Верхні, Вярхоўны, як рэгент хору, кіруе табой, запаўняе нейкім незвычайным чаруючым полымем усю душу.

Калі б Пятрок быў крыху маладзейшы, ён не змог бы зрабіць тое, што ён толькі што зрабіў з такім холадам. Тады яшчэ не было ў яго гэтай выцвічанай рукі... Пятрок аж спыніўся, узняў угору правую руку і ўважліва яе разгледзеў. Рука як рука, але ж і мондрая яна! Во — гэтыя пяць пальцаў, кароткіх, моцных. Гэта не такая рука, як у тых панічоў, у іх даўгія, тонкія, сухарлявыя пальчыкі, а ў Петрака рука працаўніка, яна можа вымалёўваць і найдалікатнейшы пагляд мадонны, і доўга з сілай церці фарбу, робячы, як раб на турэцкіх галерах. Пятрок паважае і любіць гэтую руку, не, яе нельга вінаваціць у холадзе і бяздушшы. Пятрок ёй не дапамог, гэта яго віна, а можа, і не яго, а невядома чыя, такое ўражанне, што той, Верхні, абмінуў яго сваёй увагай — ці яму наогул не даспадобы замалёў-

ваць сабор, можа, не даспадобы тое, што Пятрок малюе гэтых нечуваных святых, падобных на звычайных людзей...

Пятрок стаяў сярод вуліцы непадалёк ад сабора, у левай руцэ, пад пахай, трымаў вялікі скрутак папер, правую вольную выставіў перад сабой, растапырыўшы кароткія пальцы і паварочваючы туды-сюды, аглядаючы. Ну, відаць, і дзікаваты выгляд ён меў! Але яго не турбавала, што скажуць людзі — ці да таго! Галоўнае, зразумець, чаму такое адбываецца — уласна, не з ім, а з саборам. Магчыма, адзін чалавек на свеце і можа што-небудзь прасвятліць — стары лацініст. Да Афанасія, свайго калегі, ісці няма чаго. Петраку не падабаецца яго фанабэрлівасць, яго ментарскі тон, быццам ён увесь час некага павучае. Вядома, чалавек робіць так, як рабілі дзяды, не мае сумненняў, яму здаецца, што ён разумнейшы за ўсіх. Але ж ходзіць да яго Карп, відаць, пра нешта бяседу вядуць. Карп ветлівы і мяккі чалавек, не тое што гэтыя бурмісты і радцы, якія ўчора яшчэ лапцямі боршч сёрбалі, а сёння, насунуўшы дарагія польскія шубы і кунтушы, такую выбудуюць з сябе пыхку... Пачакайце ж у мяне, я вам урэжу, прыйдзеце маліцца — саміх сябе ў д'яблах пазнаеце...

Ну, ну, не так злосна, супакойваў сябе Пятрок. Не трэба гневацца, гэта нядобра. Можна гумару падпусціць — гэта значна лепей, чым злосць, ды і бярэ за самыя жабры, так што і не вывернешся... І не трэба такіх жахаў, што ён навёў на сценах. Пятрок весела засмяяўся ў прадчуванні хітрага кпіну, настрой яго палепшыўся. І ён пакіраваў да старога лацініста.

У апошні час горад яшчэ больш абязлюдзеў, асабліва калі з'явілася чорна воспа-турчанка. Некалькі сем'яў начыста вымерлі адразу, згарэлі, як порах, сканалі ў гнілых струп'ях і гарачцы. Людзі пачалі разбягацца. Клалі на воз спажыткі, прывязвалі да воза быд-

ла і ноччу неўзаметку з'язджалі з горада, забіўшы дошкамі вокны і дзверы. Стала наогул жудасна. Чорныя папялішчы ды мёртвыя хаты. Калі хто дзе і застаўся — на вуліцу носа не казаў, пазачынялі аканіцы, пазапіралі дзверы, нават суседзі не хадзілі адзін да аднаго, нават дзеці да бацькоў. Толькі купцы раз-пораз прыязджалі з далёкіх краёў і ішлі, заматаўшы твары — адны вочы стырчэлі. Але будаўнікоў сабора нішто не брала, быццам яны не ведалі, што наляцела турчанка і косіць усіх падрад. У Карпа весела звінелі малаткі, выклёпваючы абклады і кубкі, у Афанасія цясалі дошкі, ляўкасілі, мазалі багоў, у Петрака хлапчукі цёрлі фарбы, варылі алей са свінцовым глётам, збіралі па ўсіх садах вішнёвую смалу — гэтых фарбаў, клеяў патрэбны былі цэлыя бочкі. Прыехалі яшчэ два майстры: Змітрок з Быхава і Івашка з Копыля; пачуўшы пра турчанку і пабачыўшы мёртвы горад, яны і вухам не павялі — быццам то іх не датычыла, быццам яны самі былі гэтымі турчанкамі: хадзілі вуліцамі, як звычайна, гаманілі. Ды і Петраку ўся гэтая валтузня з турчанкай падавалася недарэчнай, ён не зважаў на яе. Дзе тут да той турчанкі, калі чакае сабор, ужо край як трэба малярыць сцены, а тут замінка з гэтым недарэчным холадам — калі ніяк не разагрэецца душа...

## 24

Невялічкая драўляная хатка старога лацініста стаяла пад самым Верхнім горадам, пад кручай — і як яе войны абмінулі? Але ж, ведама, урасла ў зямлю, страху земляную полымя не бярэ. Тут усё было не тое што беднае — даўно змарнелае, пахілае,— дзівіла, як гэта стаіць. Але некалі хаціна была зроблена па боску — з тоўстага добрага лесу, дзверы дубовыя, страха пад зямным покрывам, відаць, асінавая. Пятрок адчыніў ска-

сабочаныя шырокія і нізкія дзверы, прайшоў цёмнымі сенцамі, натыкаючыся на нейкія рэчы, намацаў у паўзмроку клямку і ўвайшоў у хату. Тут стаяў моцны, настоены дух васковых свечак, старых кніг, старога дрэва і такой галечы, што яна ўжо даўно перабрыняла мярзотным пахам беднасці і стала цудоўным водарам самой зямлі. Стары лацініст сядзеў за сталом на лаўцы ля маленькага акенца, таксама падобны на тое першаснае рэчыва, што стварыў Бог,— на зямлю; ён не пачуў і не пабачыў Петрака, бо нешта старанна і няспешна пісаў у тоўстую кнігу — самае галоўнае на свеце і было гэта: стары лацініст сядзіць, як сама зямля, і піша кнігу. Пятрок міжволі пашукаў побач з ім крылатага льва — так усё гэта нагадвала евангеліста Марка, і, сапраўды, быццам разгледзеў пад лавай морду і лапы, нават вочы льва крышку бліснулі ў цемры. Во пашчасціла, падумаў Пятрок, трэба ж — самога Марка пабачыць! І на лаўцы, ля другога акенца, Пятрок разгарнуў скрутак лістоў, знайшоў чыстае месца і пачаў грыфяльком старанна вымалёўваць евангеліста: усё чыста — і яго паставу, і яго пісьмо, і лаўку, і акенца, льва пад лаўкай, потым асобна і доўга Пятрок вымалёўваў галаву і рукі Марка — ніякага арэолу прыстаўляць не трэба было, бо святы і сам меў гэты арэол — галава яго і ўся постаць свяціліся блакітам. Пашчасціла дык пашчасціла, увесь час радасна і трывожна думаў Пятрок,— ён апасаўся, ці не знікне гэта, можа, гэта прывід, ён не паспее адмаляваць? Было добра і лёгка ва ўсім целе, нечувана добра. Няхай бы так было доўга-доўга, хоць вечнасць — не трэба ні ежы, ні пітва, ні сну. У галаве ўзнікалі нейкія маланкі не маланкі, але святло і ззянне, як на пасхальнай усяночнай — свет радасна і ўрачыста рухаўся. Пятрок так загаварыўся з самім сабой, што пачаў глядзець і падмалёўваць другія накіды, якія рабіў і ў саборы, і ў іншых

месцах. Нахіляцца да лістоў, што ляжалі на лаўцы пад акенцам, было няёмка, і Пятрок стаў на калені. Убачыў бы цяпер яго Міколка — не пазнаў. Куды дзеліся скасабочаны нос, косыя вочы, змарнелы згаслы твар; Пятрок сам адчуваў сваё святло — твар яго зрабіўся нясцерпна прыгожым, як у Хрыста ў трыумфе. Не дзіва, што такое адчуў і стары лацініст. Гэтак жа марудна, але навечна ён вывеў у сваёй кнізе радкі дзівотныя, якія толькі праз многа дзесяцігоддзяў здолее выказаць вялікі паэт: «Но лишь божественный глагол до слуха чуткого коснется, душа поэта встрепенется...» Стары лацініст спыніўся і, як ні тужыўся, не мог далей напісаць ні слова — так і трымаў высахлае пяро, перачытваючы і не могучы спасцігнуць, што за мова — такая зразумелая і блізкая, але казачнага і далёкага гучання... І тут стары лацініст павольна азірнуўся — быццам нешта прымушала, убачыў у сваёй каморцы пад акном Паэта, што быў асянёны боскім глаголам, і доўга-доўга глядзеў на нетутэйшае вечнае відовішча, што прыйшло з такога аддалення і пойдзе ў нязнаныя сусветы...

Але ззянне ўсё ж згасла — аднаго і другога, бо не можа чалавек тварыць яго безупынна, проста, кажуць, не хопіць на тое чалавека, згарыць, як воблака ў зарызарніцы. І перавярнуўся апостал Марк у старога лацініста, а паэт — у Петрака. Убачылі яны адзін аднаго і прывіталіся пачціва. Некаторы час маўчалі, а потым нетаропка павялі мудрую бяседу, што плыняла з самой душы і была прыемная і мілагучная для сэрца. І не было на свеце нічога лепей ад гэтай каморы, дзе стаяў цудоўны водар воску, старых кніг, зямлі і чалавечай мудрасці.

## 25

— Мэ-э-э!..

А вас не дзівіць гэты, з нейкага пункту гледжання, вырадковы свет бяссрэбранікаў-майстроў? Нейкія яны фанатычна апантаныя, пераўзбуджаныя, застопараныя, як кажуць сёння, на прыхільнасці да сваіх бясплотных ідэй-пачуццяў. Тут б'ешся як рыба аб лёд, каб зарабіць грош, потам крывавым зыходзіш, удзень і ўноч толькі і меціш, як лепей трапіць сякерaю, ацёсваючы аглоблю, ці тужышся на замесе цеста — і якое там жывое ці нежывое ў вінаградных калонках?.. А крыху ўзбагацееш — пачнеш дрыжаць над кожным грошам, каб зноў не ўпасці ў галечу, і грабеш, грабеш — яшчэ горай жывеш: і сам ходзіш у рыззі, і дзеці, і жонка. І якім бы багацеем ні стаў — няма табе спачынку, раўнавагі. І, урэшце, калі кінуў да трасцы такое жыццё і пераступіў парог, за якім няма табе справы да страху божага і суровых законаў людскіх, і ўпаў у той дзёрзкі і халодны адчай, што і абрабаваць і забіць чалавека для цябе — раз плюнуць, на якое ліха тым больш здаўся табе выраз рук Багамаці, якія нешта духоўнае перадаюць? Выпіць бы стопку гарэлкі, каб забыцца на такое няшчаснае жыццё! Гэта большая каштоўнасць, чым уяўныя лісточкі-анялочкі... Ды проста ўсе яны, гэтыя Клімы, блажэнныя!

Разгублена лыпаю вачыма. Мае майстры стварылі замкнёную каставую сістэму, і яны, аказваецца, як ні дзіўна, з боку-прыпёку чалавечага жыцця наогул. Нейкі пабочны і, можа, непатрэбны прадукт цывілізацыі. Яны ж нічога не вырабляюць карысна-спажыўнага, а толькі непатрэбнае — сабор. А бяседу іх паслухаеш — вушы вянуць...

Так і ведаў. У самую ўрачыстую хвіліну ён тут як тут.

— Мэ-э-э!..

Не церпіць высокіх узлётаў чалавечага духу, хочацца падпусціць яму сернага смуроду — хлебам не кармі...

І не выкруцішся гатовым біблейскім адказам: «Не хлебам адзіным жывы чалавек», бо зноў жа пачуеш здзеклівы рогат, пакпяць з цябе, як з блажэннага, звядуць на нішто. Такі ўжо час...

Доўга маўчаў і думаў стары лацініст, свае выцвілыя вочы скіраваў на паліцу старых цяжкіх фаліянтаў, што ўтрымліваюць усю мудрасць мінулых, а можа, і будучых чалавечых вякоў. І хоць адкрывалася яму праз гэтыя чорныя кнігі вельмі і вельмі многае, але нечалавечую духоўную сілу трэба прыкласці, каб уласным розумам спасцігнуць жывы рух чалавечага сусвету. Можа, і не ўсё зразумеў Пятрок, што сказаў тады стары лацініст, але выйшаў ён з той каморы з яснай галавой, без ценю сумненняў і з гарачым сэрцам, напоўненым адзіным вартым полымем — любві да чалавека.

Я ў стане перадаць толькі асобныя заўвагі старога лацініста, бо і праз тры вякі, у наш час, які здаецца нам такім разумным, мы ўсё яшчэ не можам спасцігнуць да канца глыбокую мудрасць мінулых мудрацоў.

— Ніхто,— сказаў стары лацініст, гледзячы на старыя цяжкія чорныя фаліянты,— ніхто яшчэ не змог ахапіць і зразумець жыццё чалавека і чалавецтва. У кожнага ёсць толькі набліжэнне да такога разумення. Адны гавораць, што ўсё ад Бога, і тым самым знаходзяць універсальную формулу тлумачэння разнастайных з'яў, але нічога не тлумачаць. Другія адмаўляюць Бога і б'юцца над пошукам прычын, з чаго і навошта так робяць людзі, але ўсё зводзяць толькі да характараў людзей, грошай, ежы. Ніхто не можа даць адказ. І я не магу. Я ведаю з мінулага чалавечага вопыту —

было такое не раз: звілістыя, вельмі звілістыя шляхі чалавека. Не яснай і простай дарогай ён ідзе, не за адзін дзень праходзіць свае дарогі. Раніцой свеціць радаснае сонца, але насоўваюцца хмары, бушуе навальніца, б'е град, потым зноў наступае ясная ціш, сонейка то смаліць, то ўлагоджвае... І ўсё ж насоўваецца змрок. Надыходзіць для народа цяжкая і доўгая ноч. Не чутно больш вясёлых дзявочых песень, закаханыя не спасцігаюць чуллівага трапятання вясновага лісця ў мроістым месячным святле. Людзям больш даспадобы драпежны рык, агонія смерці, пах свежай крыві. Дзічэе чалавецтва. Людзі як звяры. Доўга цягнецца ноч. Паспеюць памерці апошнія майстры. Ніхто ўжо не можа ўзнавіць высокія ўзоры. Шэдэўры гінуць. Разбураюцца, забываюцца, нашчэнт руйнуюцца Саборы. І толькі асобныя дзіўныя рэчы, што засталіся ад продкаў, час ад часу трывожаць людзей. Аднойчы нараджаецца паэт. Як заўсёды, гэта здараецца значна раней, чым людзі адчуюць патрэбу спасцігаць не толькі смак смажаніны, але і водар і колеры ранішняга золку. Паэт будзіць людзей, але замест падзякі чуе грубую лаянку. Паэта клянуць, часам забіваюць. Але ўжо наступныя пакаленні бачаць у ім прарока. Людзі вучацца зноў разумець ва ўсёй складанасці гармонію ліній, колераў, гукаў, слоў. Потым выбудоўваюць Сабор — найвышэйшы і найскладанейшы выраз усіх гэтых гармоній. Але к таму часу зноў можа насунуцца змрок. Відаць, так адбываецца і сёння. Мы будуем Сабор ужо ў паўзмроку. Толькі ў Саборы сёння можна бачыць працяг і жыццё нашай чалавечай цывілізацыі... І дай бог, каб нехта з вас датрываў да наступнага ранку чалавечага жыцця, і дай бог, каб у гэтую глухую ноч ліхія людзі не разбурылі Сабор, не ўчынілі здзекі з яго велічы і прыгажосці, бо яны не разумеюць у сваім зацьменні, што гэта веліч чалавека! Што ім да чалавека!..

Не, не, Пятрок, у маіх словах няма супярэчання. Вы ж ведаеце, я адмаўляю Бога. Але не Сабор. Саборы ствараюць хрысціяне, магаметане, будысты, іудаісты, паганцы і многія іншыя. Але вера толькі повад, каб пабудаваць Сабор. Кожны народ укладвае ў Сабор сваю душу. Гэта патрэбна яму, бо людзі хочуць быць людзьмі...

Для каго мы будуем Сабор? А хоць бы толькі для аднаго вашага блажэннага Міколкі. Калі на зямлі пасля гэтай ночы застанецца хоць бы адзін чалавек, ад якога зоймецца новы ранак чалавецтва, можна лічыць, узводзілі мы Сабор недарэмна. Толькі хоць бы адзін!..

## 26

І зноў Пятрок ад раніцы аглядае ўнутраную прастору сабора. Гэтак жа палохае яго велізарная прастора, якую трэба замаляваць, гэтак жа ўздымае грандыёзнасць. Як заўсёды, на хвіліну Петрака ахоплівае баязлівасць: кінуць бы ўсё, з'ехаць далёка-далёка ці стаць такім, як тыя пітухі пры шынках — і галава не баліць, і сэрцу радасна. Але Пятрок разумее, што зрабіць так ён не можа, то не яго дарога, адзіная дарога — праз гэты сабор, узняцца да велічнай вышыні Сабора. О, як гэта цяжка і немагчыма!

Пятрок моліцца — доўга. Нешта шэпчуць яго вусны, а вочы самі ходзяць па бясконцых сценах і скляпеннях. Ён зноў чакае той хвіліны, калі сцены пачнуць вылучаць здані-цені-колеры-рухі-постаці-ззянне. Пятрок разгарнуў скруткі з малюнкамі, раскідаў па падлозе. Іх было многа, гэтых малюнкаў, вельмі многа. Па праўдзе кажучы, ён губляецца перад імі.

Верхні блакітна-залаты сусвет улагоджвае душу, нясе цябе да чысціні і святла. Пятрок аглядае скляпенні і сцены там, высока ля неба. Ён зноў пазнае прарокаў,

апосталаў, Багамаці, святых — дакладна на тых месцах, што і раней, толькі сёння яны становяцца больш рэальна акрэсленыя, знікае іх мроістасць, няпэўнасць, яны ўжо не далёкія здані-цені, а, як і той евангеліст Марк, падобны на старога лацініста — прыйшлі з зямлі, яны нясуць на сваіх тварах, у сваіх руках, паглядах, дзеях адбітак рэальнага зямнога жыцця...

Яны — як і ўвесь народ вакол.

Прыязджае жанчына, шляхцянка, просіць-моліць Петрака намаляваць партрэт мужа, бо «ён стаў такі слабы — вось-вось аддасць богу душу». Ледзь не ў ногі кідаецца, дзе той гонар шляхецкі. Пятрок збіраецца і валочыцца немаведама куды — на край свету. Едуць на простай фурманцы, пасеўшы на саломе. І чым далей у глухамань сыпучымі пяскамі, балотамі, гацямі, чэзлымі хмызнякамі, тым большая ахоплівае жудасць. Чалавеку тут жыць ужо немагчыма, а воз скрыпіць і скрыпіць, а кнігаўкі крычаць, а дождж сее і сее. Жанчына, захутаная ў чорнае, пакрытая мехам, нерухома сядзіць у перадку, на руках яе лейцы, яна не зварухнецца: ці то спіць, ці то трызніць у сваёй ганарыстай бядоце.

Дом іх уціснуўся ў балота, бо не было ў людзей моцы ўзняцца нават на пагорак, прывезці са звонкага бору стогадовыя бярвенні, падзівіцца небу і шырыні, адчыніць вокны, як вочы; зацягнуў іх да сябе багіннік, аблашчыў, высмактаў сілу. Божачкі ж вы мае! Дзеткі гэтыя танюсенькія, дробныя, занядбаныя, з вялікімі галоднымі, палахлівымі вачыма — малыя-малыя, а ў позірку часам мільгане такая ганарыстасць.

Пятрок маляваў партрэт у нізкім душным пакойчыку, дзе на велізарным драўляным ложку нерухома ляжаў ужо амаль нябожчык. Той не рэагаваў на чужога чалавека. Але ў вострых мёртвых рысах, пагаслых ва-

чах Пятрок разумеў былую мужнасць, гонар, зухаватасць. То не багіннік вінаваты, што дамок улез у балота. Сілы гэты чалавек аддаваў не хацінцы, ён збудаваў яе як часовы прытулак між двума паходамі, наскора завёў сям'ю — і зноў рушыў некуды: ці то на туркаў, ці то на шведаў, ці проста на сеймік, і ўсе багацці і гонар былі пры ім — конь, шабля, жупан, адчайная ганарыстая галава. Ён кахаўся з вольнымі панначкамі, скакаў на балях у Кракаве і Львове, яго конь прамчаў гаспадара ад «можа да можа» — ад Балтыкі да Чорнага мора, туркі беглі ад удалых шляхцічаў — аж стэпы гулі. О, які гэта быў чалавек! І Пятрок вымалёўваў яго такім, якім той быў у лепшы час — штосьці ў ім было святое. А жанчына, пабачыўшы свайго гаспадара гордым, велічным, дужым, святым, заходзілася немым крыкам, кідалася перад партрэтам на калені, ламала рукі...

Давялося Петраку пабываць і на адной трызне — на трызну запрашаліся ўсе родзічы, з самых аддаленых куткоў, часам то было і праз год пасля смерці гаспадара. Трызну рабілі пры партрэце. Тады Пятрок пісаў гаспадара з яго старэйшага сына, які, казалі, вельмі нагадваў бацьку. Той абрадзіўся ў жупан, начапіў шаблю і гэтак пыхліва глядзеў, што смешна было.

— Я таксама шляхціч,— сказаў яму Пятрок, і толькі тады той крыху апаў.

Удавіца не мела чым заплаціць, аддала шапку з собалем, ужо досыць ношаную. А што было рабіць — пашкадаваў удавіцу. Глядзіць ганарліва, а ў самой цэлы вывадак дзяцей. На гэтую трызну пойдзе столькі — маглі б цэлы год пражыць. Але такі звычай — трэба. Потым зубы на паліцу, можа, дзяцей выправіць у жабрацтва, а сама звар'яцее ў гэтым балоцістым кутку. Божа святы, што за жыццё чалавечае!

Панаехала фурманак, вазкоў, былі нават дзве карэ-

ты — то самыя заможныя з роду, але іх заможнасць больш напаказ. Карэты старэнькія, можа, у каго пазычаныя, а коні, упрэжаныя ў карэты, былі звычайнымі клячамі. У гаспадароў былі чырвоныя заветраныя твары і цяжкія спрацаваныя рукі, якія толькі і робяць, што трымаюцца за поручні плуга.

На трызне госці паводзілі сябе цырымонна, як то трэба было па правілах прыстойнасці і вышэйшай ветлівасці. Паненкі ледзь дакраналіся да ежы, хоць у вачах стаяў голад, бралі ўсё далікатна, двума пальчыкамі, адставіўшы іншыя, сядзелі чынна, стройна, у іх былі твары сялянак і вялікія рукі працаўніц, відаць, і кароў з авечкамі пасвілі, і гной выкідалі, і лён палолі, і жалі, і пралі, толькі што лічылі сябе белай косткай. Мужчыны былі больш простыя і грубыя, яны таксама выказвалі сваю высакароднасць і ветліва завіхаліся ля паненак. Ухвалялі нябожчыка, яго слаўныя справы, яго смеласць, яго высакароднасць. Гаварылі і па-беларуску, і па-польску, а нехта і на латыні сказаў прамову.Варты, дзесяць раз таго быў варты нябожчык! А ў новую дарогу па бацькоўскім шляху ішоў ужо старэйшы сын. І невядома, дзе ён паставіць свой часовы прытулак — хаціну з жонкай і малымі дзецьмі, дзе зложыць галаву. Глядзеў Пятрок на гэтых людзей, і сэрца яго сціскалася ад жалю і болю. Напіўся тады, як вар'ят, нічога не памятае, і шапку тую сабалінную недзе згубіў.

Колькі заракаўся, што не будзе больш рабіць партрэты, але прыйдзе такая ўдавіца, моліць, просіць...

Спагада і літасць... Тое і яно. Як казаў стары лацініст: свету не стае пяшчоты...

Так, а на што здатны цені-здані? Палохаць людзей, як то хоча Афанасій? Быць далёкай нетутэйшай бліскавіцай? Ото добра, што святыя набылі зямныя рысы!..

Пятрок браў то адзін, то другі ліст і, паклаўшы на стол, збіты з дошак, углядваўся ў сцены і дамалёўваў-перамалёўваў — толькі цяпер ён адчуваў, што робіць тое, што трэба, і так, як трэба. Сэрцу было горача, здавалася, яно не вытрывае — яно білася так, што грукала на ўвесь сабор, сцены сабора пульсавалі ў такт гэтага велізарнага гарачага сэрца — увесь сабор стаў гэтым гарачым сэрцам. І мроілася Петраку цудоўная, блакітна-залатая плоць вялікай зямной жанчыны, у кожным велічным руху якой, у кожным каралеўскім паглядзе якой, у кожным пяшчотным слове якой былі спагада і літасць, усеабдымнае каханне і дараванне людзям іх зманлівых аблуд, іх хітрыкаў, здзекаў, злосці, звярынства. Даруй ім, божа, бо не ведаюць, што робяць! Даруй, даруй! Будзь міласцівы! Няма на людзях віны, не склаўся яшчэ як трэба чалавечы сусвет. Будзь міласцівы!

І як дайшоў Пятрок да самых ніжніх сцен сабора, падзівіўся, што так няправільна ўбачылі раней яго вочы адбітае на сценах. Дзе той так званы напружаны зямны драматызм, дзе жорсткія сцэны боек, забойстваў, глумлення, адкуль гэта ўзялося на яго лістах, калі на сценах сабора такога не было і быць не магло! Пятрок аж зрэнкі прагледзеў — так узіраўся ў сцены,—і не было там ні забойства немаўлятак, ні марской пачвары, якая глынае Іона, ні Іова, з'едзенага язвамі. Тут уваскрасае ў пялёнах мёртвы Лазар, тут даруюць грахі Магдаліне, тут сляпы бацька прымае блуднага сына, тут анёл адводзіць нож, занесены бацькам над ахвярай-сынам... А вунь і конь, што пасвіцца на лузе, і вятрак на полі, і мядзведзь лезе на дрэва, вунь яны, гэтыя сонмы паўдэманаў — весела лётаюць, скачуць, поўзаюць, іграюць у свае вясёлыя ігрышчы, што малыя дзеці — багіннікі, лазнякі, шэшкі, касны, палёвікі, асіннікі, гуменнікі, пуннікі, дамавыя... О, як яны радуюцца, што пасля гэтулькіх праклёнаў і ганенняў чалавек, нарэ-

шце, прыняў іх у свой дом і даў ім належнае месца! І папараць-кветка цвіце, і дзеўка-купала едзе на кані ўся ў кветках, і гойдаюцца вясновыя арэлі, і ходзяць калядніхі з казою і мядзведзем, і горда ўзыходзіць на абрус змяіны цар у кароне, які можа даць чалавеку вялікую мудрасць...

Хто сказаў, што Радзіма памерла? Яна — вечная! Сплыве чорная воспа-турчанка, сыдуць туркі-рабаўнікі, адкоцяцца розныя іншыя навалы — і жалейка будзе спяваць раніцою на золку, прывабліваючы на сіняе неба яснае сонейка, каб цвілі льны, каб дзяўчаты слалі на паплавах палотны, каб весела гукалі па гумнах цапы, каб Ганулька жала буйнае жыта, а Васіль пад гаем касіў, каб скакалі на вечарынках хлопцы і дзяўчаты.

Грукала сэрца гарачае, што полымя, і адзываўся ўвесь сабор.

Пятрок з майстрамі і памагатымі пісаў сабор. Сцэны лёгка звінелі, пружынілі і нібы самі выплывалі пад удалыя пэндзлі маляроў. Шумела, шугала, каласілася Радзіма!

Во так было. Я імкнуўся як мага больш дакладна спісаць-прачытаць гэта з іконы «Нараджэнне Багамаці», якая ўласнаручна падпісана Пятром Яўсеевічам з Галынца. Больш нічога невядома пра яго — толькі гэта надзвычай рэалістычная работа. Дамо кароткае слова мастацтвазнаўцы Надзеі Высоцкай: «Перадавыя імкненні іканапісу гэтага часу з большай мастацкай сілай адлюстраваны ў «Нараджэнні маці Боскай» (1649) Пятра Яўсеевіча. Таленавіты мастак з Галынца смела напісаў архітэктурны пейзаж за кратамі акна, бытавыя прадметы, што этнаграфічна дакладна і праўдзіва паказваюць жыццё Магілёўшчыны ў XVII ст. Новыя творчыя задачы, пастаўленыя мастаком у перадачы глыбі-

ні, фактурнасці і канкрэтных прадметаў, непазбежна прывялі яго да пошукаў новых мастацкіх сродкаў».

## 27

Яшчэ далёка было да таго моманту, калі цэлы клір папоў асвеціць сабор, і, такім чынам, ён можа стаць афіцыйна цудадзейным. Яшчэ кавалі кавáлі празрыстыя праразныя крыжы, маляры распісвалі святымі дзеямі сцены, каменных спраў майстры высякалі выявы, багамазы ляўкасілі і пісалі іконы, златакавалі выстуквалі кубкі, абклады, а ўжо першы багамолец прыбрыў з далёкіх мясцін. Невядома, якімі шляхамі ішла пагалоска, хто яе пускаў, бо даўно ўжо сплыў і кірмаш, і абозы купцоў міналі горад. І чым далей, тым болей гараджане не маглі трываць ні сабор, ні яго будаўнікоў. І калі не стала месца на могілках хаваць памёршых ад турчанкі, вялікую яму выкапалі непадалёк ад сабора, потым страшэнныя людзі ў смаляных балахонах, што закрывалі і галаву — толькі прарэзаны адтуліны для вачэй,— валаклі на велізарных вазах цэлыя штабялі загорнутых у палатно мерцвякоў. Некаторыя людзі самі прыпаўзлі да ямы — так на краі паміралі, загарнуўшыся ў адбеленую штуку палатна, каб не турбаваць лішні раз магільшчыкаў. Будаўнікі са страхам пазіралі на гэтую жудасную карціну. Але турчанка мінала сабор — будаўнікам падавалася, што жылі яны ў іншым свеце. З горада пад паветкі сабора ўцякло некалькі сем'яў — неяк уціснуліся разам з дзецьмі і сваімі клункамі між штабеляў цэглы і бярвенняў, палілі паціху агеньчык, на якім варылі зацірку,— ніхто з іх таксама не захварэў. Калі б не турчанка, гараджане даўно накінуліся б на будаўнікоў, разагналі, пазабівалі іх, тым больш што стала чуваць, ды і сведкі былі, што зналіся будаўнікі з нячыстай сілай — недарма ж і певень, і

казёл ля іх увесь час завіхаюцца. А што турчанка нікога з будаўнікоў не брала — дык вядома, калі якая турчанка брала нячыстую сілу? Нязвыклым быў і сам сабор, не было ў ім спрадвечнай цнатлівасці, пакоры, строгасці, быццам свет узбурыўся і перавярнуўся. Сам мітрапаліт, калі бачыў з акна свайго дома, што стаяў непадалёку, сабор, не мог утрымацца ад лаянкі. Вокны яго дома выходзілі акурат на галоўны фасад, сабор падаваўся мітрапаліту такім грахоўным, асабліва гэтыя поўныя Фросіны грудзі... Мітрапаліт хрысціўся, пляваўся, адыходзіў ад акна. Але з раніцы, быццам забыўшыся, зноў падыходзіў і глядзеў. Купалы, поўныя, крутыя, блішчэлі ў ранішнім святле — такія дасканалыя формы, такое благалепіе!.. Але мітрапаліт спахопліваўся, адводзіў вочы ад новага мура. «Кашчунства гэта, брыдота, зруйнаваць, зруйнаваць!» Але праз некаторы час зноў знаходзіў сябе ля акна. Сонца стромка свяціла на жоўта-чорвоныя грудзі, яны, здаецца, набрынялі і сталі тугія-тугія ад белага важкага малака, і немаўлятка Спасіцель прынікае да іх... «Багародзіцы грудзі, святыя грудзі... А можа, так і трэба, можа, гэта святы знак... Не, грэх, грэх, грэх — зруйнаваць, зруйнаваць!..»

І тут прыйшоў багамолец з далёкіх зямель. Чалавек размясціўся на пустцы, то стаяў, то сядзеў, то маліўся, адзенні яго набрынялі пылам дарог, босыя ногі былі чорныя і загартаваныя каменнямі і жвірам. Міколка схадзіў да яго пагутарыць. Чалавек быў аж з Чырвонай Русі, з-пад Карпат, на душы яго ляжаў вялікі грэх — ён не сказаў які, відаць па ўсім, быў разбойнікам, не адну душу пусціў на неба, але аднойчы выйшаў яму нябесны знак, ён кінуў разбойнае жыццё і пайшоў пехатою немаведама куды. І вяло яго ўвесь час сюды.

А потым да разбойніка далучыўся яшчэ нехта, по-

тым яшчэ і яшчэ. Хутка вакол сабора стаяў цэлы табар. Багамольцы пазаймалі пустыя дамы вакол сабора, ад раніцы збіраліся на пустку, якую першым упадабаў разбойнік, і ціха, неяк па-свойму маліліся. Некаторыя з іх адыходзілі, але прыходзіла яшчэ больш. Так што хутка сабор стаў самым вядомым месцам усёй Белай Русі, з многіх гарадоў і вёсак, нават з Украіны, Кароны, Масковіі прыходзілі, прыязджалі, прыпаўзалі калекі, глухія, сляпыя, скручаныя, гарбатыя, дрыжачыя, блажэнныя і розныя іншыя.

## 28

Карп Корзун выкалачваў абклады і кубкі.

З той пары, як ён пасяліўся ў Ніжнім горадзе, усё дакладней і дакладней настройвалася яго душа на нешта такое глыбіннае. Што гэта — Карп не мог сказаць. Гэта была тайна — і новая, нязнаная.

Карп вынес вялікую бронзавую бляху пад паветку, дзе яму падабалася рабіць. Тут стаяў вялікі стол, на ім — спецыяльная плоская скрыня з чорным варам, у якой рабілі чаканку. Тут жа, на ўслоне, ляжалі рознастайныя малаткі, стаялі чаканы, устыркнутыя ў адтуліны тоўстай дошкі. Карп паклаў бляху на скрыню з варам і аглядаў яе роўную матавую плоскасць. Ён глядзеў на яе як на жывую істоту. Не, ён нават і ў думках не дапускаў якой-небудзь непачцівасці да пласціны. Тут такая справа... Ёсць, відаць, нейкі дух у пласціне — як і ў дрэвах, і ў самой зямлі, і ў рэках... І Карп павінен прасіць прабачэння ў гэтай бронзы. З яе духам дамовіцца даволі цяжка, у яе жорсткі і моцны дух. Нездарма з рымскіх часоў шлем бога вайны Марса блішчэў бронзай...

Карп паклаў далонь на халодны бронзавы ліст, нібы хацеў ямчэй адчуць жорсткі непадкупны дух, ула-

годзіць яго і спазнаць, ці варты ён на што-небудзь другое, ці можна ўвасобіць у гэтай пласціне дух іншы, што мроіцца Карпу. Ёсць алень. Трэба паказаць не проста яго фігуру, але і яго жыццё — яго рух-скок-пагляд-трапяткосць, яго знітаванне з дрэвамі, травамі, водамі, паветрам, як усё гэта перацякае адно ў адно... Жыве, жыве, жыве! Дух адзіны, але такі розны ў кожнай істоце, у кожнай травінцы, лістку...

Ой, Карпуша, Карпуша! Кінула цябе ў такое паганства з вышыні крапасной сцяны. Стаяў ты там, як арол, пад самым небам, сярод вод шырокіх, сярод паветра лёгкага. Ці не шкадуеш ты таго светлага жыцця? Быў жа ў цябе дом, былі сябры, такія ж, як і ты, у дарагім убранні, у парчовых жупанах і сабалях, і лёгка было жыць, і высока...

Яму стала ніякавата ад такой жальбы. Як адпяваюць, быццам няма яго ўжо на гэтым свеце. І ніхто веры не дае з былых яго дружбакоў, што ён не толькі не шкадуе аб тым жыцці, а радуецца новаму. Няма багатага дома, дарагіх дываноў, кубкаў, шабляў, мэблі, а толькі гэта канура, дзе ўсё чыста і гола? Што з таго! Не, ён не шкадуе, няма ні жалю, ні горычы, бо знайшоў тое жыццё, да якога імкнуўся. Магчыма, ён і не здагадаўся б, што яно побач, каб вышэйшая воля не завяла яго сюды, у гэтую бедную хаціну. Жорсткі быў выпадак, усё пусцілі з малатка, усю яго былую, можна сказаць, славу роду.

І нібы сам Бог выкінуў яго адтуль — і так добра зрабіў! Што ж, шкада, канешне, радавога гнязда,— але жыць толькі дзеля яго! І не спазнаць таго, што ён спазнаў тут? Ён вызваліўся з нейкай моцнай абалонкі, скінуў шалупінне і адкрыў роднае і знаёмае, чым толькі і павінен жыць. Як першы раз увайшоў у гэтую закінутую хату, адчуў, што вызваліўся з прыгону — быццам доўга-доўга блукаў і нарэшце вярнуўся дахаты. І яму

радасна, што ён пазнае былое і роднае: пагоркі, лясы, рачулкі, паветра, сонца, хаты... Нават не гэта. Як тут лепей сказаць? Карп убачыў цяпер, напрыклад, зорнае неба, і яму падалося, што ён яго ўбачыў нанава і ўпершыню. Ніколі ні ён, ні яго бацька, ні дзед не бачылі яшчэ такога неба — у гэтым Карп быў упэўнены, не толькі знаў за сябе, але і за бацькоў — так ён адчуваў, і я разумею: так магло быць. Зорнае неба стала для яго не іншым сусветам — нетутэйшым, халодным, далёкім: ён адчуў яго трапятанне, яно рухалася, па яго эфіры плылі нейкія лёгкія празрыстыя істоты, можа, то былі людскія душы, можа, добрыя дэманы, можа, яшчэ якія невядомыя стварэнні. Неба дыхала — Карп да гэтага дакранаўся літаральна скурай, рукамі, тварам, быццам ён сам зрабіўся нейкім струмантам, скрыпкай, напрыклад, якая з трапяткосцю, далікатна і тонка лавіла кожны зрух космасу...

Так было з усім наваколлем — з усім, да чаго дакранался яго душа. І кожная, нават найдрабнейшая, з'ява, нават простая галінка, нават лісток былі для яго грандыёзнасцю, ён сам дзівіўся, як такое малое можа гэтулькі ўтрымліваць. Ён не мог дакладна выказаць, здаецца, лепш, чым ён, гэта адчувала яго рука. Ён нават вочы заплюшчыў, лёгка і ціхутка вёў рукою, і рука лавіла ледзь улоўныя токі, што зыходзілі ад галінкі, яму здавалася, што рука па-свойму размаўляе з галінкамі,— ён нават эгаістычна думаў: добра было б, каб яна ўсё спасцігла, а потым і занатавала, бо Карп, далібог, не ў стане гэта зрабіць... Ну, шаноўная, ну, дарагая, чараўнічая — яшчэ і яшчэ крыху, дапамажы мне, бо я звар'яцею, калі буду прымушаць сябе неспасцігаемае розумам выказаць...

О, у бронзавым лісце быў не толькі і не столькі ваяўнічы дух! Перапляценні траў, дрэў, зямлі, паветра — і алень-звер, нібы вынікае з гушчобы, з трапятання ліс-

ця і галінак, ён іх параджэнне, яго ногі — гнуткія ствалы, яго рогі прарастаюць скрозь гушчар, яны жывуць, выпускаюць зялёнае лісце... Нішто нідзе не канчаецца, нішто нідзе не ўзнікае, толькі цячэ, перацякае адно ў адно, што ручай, што летняе белае воблака. Язык і травы — не скажаш, што ад аленя, што ад траў, язык стаў травамі, галінкай, мудрагелістай, пакручастай... Алень-трава-дрэва-паветра...

Точыць разец бронзавую бляху, точыць хутка, лёгка; добра, што Карп скоры на такую работу. Тут толькі спасцігні разуменнем, і рука сама пойдзе, без прымусу-прымусу — лёгка, прыгожа,— і трапечуць жывыя лісты, яны хвалююцца, спружыняць сваімі токамі-сокамі...

Лінія вагаецца, рухаецца, блізіцца да крышталя і з яшчэ большай настойлівасцю ідзе ад яго. Самае галоўнае — не супасці з крышталёва дакладнай, яснай і простай лініяй. Бо толькі яна адзіна правільная, а гэта вядзе да смерці. Колькі разоў гісторыя, каб дагадзіць прамой правільнай і святой ідэі, палала вогнішчамі інквізіцыі!

Як добра, што на зямлі захаваўся незразумелы славянскі геній!

## 29

Білі званы ўсіх гарадскіх храмаў, і над вясновым светам вісеў рознагалосы вясёлы лямант, раз-пораз бухаў новы велізарны звон сабора, яго толькі нядаўна ўсцягнулі і замацавалі на таўшчэзным драўляным брусе, умацаваным у сцены. Цягнулі багамольцы, іх набегла

чалавек з пяцьсот, яны, што мурашы, абляпілі тоўстыя канаты і так лёгка цягнулі наверх шматпудовы звон, што майстар Івашка з Полацка толькі рукамі махаў, каб не так пружыніліся. Звон за якую гадзіну апынуўся пад самым купалам — праз велізарнае акно яго зацягнулі ўсярэдзіну, паставіўшы на край мура, потым перакінулі канаты праз брус, на якім павінен вісець звон. Багамольцы яшчэ раз тузанулі, патрымалі ў напружанні, кавалі хуценька замацавалі на брусе і закляпілі ўжо прыгатаваныя тоўстыя жалезныя скобы, адпусцілі канаты. Майстар Івашка быў ужо наверсе і, як кавалі адышлі і канаты скінулі ўніз, узлез па драбнічках да звона і папляскаў сваімі дужымі далонямі па тугіх баках. Ужо гэтым ён вызначаў вартасць і гук новага звона. Яму падалося, што звон не азываецца, ён ударыў мацней, кулаком, з усёй сілы, але звон і не здрыгануўся. Дый кулак нічога не дае, успомніў майстар, трэба проста папляскаць далонямі, нібы палашчыць. І тады Івашка зноў паляпаў далонямі і прыклаў вуха да халодных грудзей звона — ён пачуў даўгі і магутны гук, які то заціхаў, здаецца, да ледзь чутнага шэпту, то збіраўся, як хваля, і гудзеў з такой моцай, што ўся галава гудзела. Добры пераліў, вызначыў майстар, ото добры, такі спружыністы і даўгі... Хвілін з дзесяць хадзілі гукі ў звоне, то мацнеючы, то слабеючы, покуль не загаварылі ледзь улоўным шэптам. Майстар счакаў колькі часу, бо ведаў, што павінен быць апошні «выдых» звона — гук недзе ходзіць, збіраецца і аддаецца апошні раз. «Гу-у-у!» — амаль чутно загаварыў звон. Івашка ўзрадаваўся моцнасці гуку, нават падзівіўся: не было ў ім ні адной здрыготкі, што сведчыла пра адсутнасць нават незаўважных трэшчынак і пузыркоў паветра ў ліцці. Майстар яшчэ раз з задавальненнем папляскаў далонню па тугім здаровым целе звона, прыклаўся да яго грудзьмі, раскінуўшы рукі, абдымаю-

чы,— ён і на самой справе нібы абдымаў сваю каханку, нібы развітваючыся. Злез уніз, адставіў драбнічкі і, узяўшыся за вяроўку, пачаў раскалыхваць магутнае сэрца звона, гэта ён рабіў весела, ненапружана, лёгка, нібы жартаваў-фліртаваў са сваёй вальяжнай дзяўчынай. Вось сэрца ледзь кранулася звона, і звон густа і радасна загуў, яшчэ адзін замах, яшчэ адно салодкае і вясёлае намаганне, і сэрца з усяго маху бабахнула ў лона звона — звон радасна і высока выбухнуў, што дзесяць гармат, здрыгануўся, загудзеў, зароў на ўсю зямлю, апавяшчаючы магутным стогнам і шырокія воды, і неба, і воблакі, і сонца, і звяроў, і людзей, і крэпасці, і хаціны, што зямля стала цяжарнай магутным звонам.

І ў апошні раз, сарваўшыся з дрэў, узняліся ў неба зграі варон, біліся ў сударгах, і з лямантам цягнуліся за горад, дзе падалі, нібы састрэленыя, у цёмныя лясы, у хмызнякі, у багну на пражорлівую радасць ваўкоў і лісіц...

Птушыны гвалт уразіў майстра, ён са званіцы доўга і са здзіўленнем, не верачы вачам сваім, назіраў за вараннём. Іх сапраўды нешта выдзімала за горад, яны сапраўды біліся ў сударгах і паміралі. Не хапае толькі баб, якія збіраюць варонін пух для продажу ў Нямеччыну, але тыя заўтра выйдуць за горад, падумаў яшчэ з большым здзіўленнем майстар Івашка з Полацка. Дзівотны свет!

У час рабення звона, каб выйшаў ён гучны, цэльны, каб не згарэла, не пакасілася, не абвалілася форма, не растрэснулася, не ўспузырылася ліццё, Івашка разам са сваімі памагатымі распускаў па горадзе самыя неверагодныя і дзікія плёткі — такая ўжо прыкмета і звычай быў. Што толькі ні выдумлялася! І пра казла з пеўнем, і пра варон, і пра чорную воспу, і пра тое, як багна ўсмактала нямецкую каплічку, і пра Міколку з кубкам, на якім арол гарыць ва ўласным гняздзе, і іншае, і ін-

шае. Плёткі былі такія ўпартыя, такія часам падобныя на праўду, што людзі верылі, а паважаны і шаноўны гарадскі пісар пан Тыняноўскі змясціў іх у свае тоўстыя кнігі. Івашка са сваімі таварышамі не раз рагатаў да слёз, калі хто прыходзіў да іх, дзе яны лілі звон, і расказваў красамоўна і з падрабязнасцямі, як цякла пацуковая рака, як немец лазіў па хісткіх мастках са сваім адвесам і ватэрпасам, як чадзельны дым ад спаленых чараўнікоў накрыў увесь горад... Няўжо ўсё было не іх зманам і скірызаваннем, а чысцюткай праўдай? Як і гэта вараннё, што б'ецца ў карчах. То праўда, б'ецца вараннё?

— Праўда, пан майстар, праўда,— адказаў Міколка, які таксама быў на званіцы і стаяў побач з майстрам,— за горад ляцяць. Там іх будуць ваўкі і лісы драць. І заўтра бабы пойдуць пух збіраць, каб у Нямеччыну адправіць. То праўда, пан майстар.

— І тое праўда, як стары лацініст размаўляў з панам Пеўнем і панам Казлом? Я ж сам гэта прыдумаў! — сказаў у адчаі майстар.

— І гэта праўда,— ціха сказаў Міколка.— Я сам такую чуў размову.

— А звон, звон! — закрычаў майстар.— Можа, тады звон маніць? Ці быў чуцен гук, калі ўдарыў?

— О, быў, быў, я аж аглух, што дзесяць гармат стрэліла... Увесь цяжар з душы ў зямлю пайшоў...

— О-ё, ты маё! — схапіўся майстар за галаву.— О-ё, ты маё! — і зноў звярнуўся да Міколкі: — А можа, ты скажаш, добры чалавек, калі ўсё гэта ёсць: і звон, і плёткі, што ява, можа, мяне, мяне наяве няма, га? — Івашка ўтаропленa ўставіўся на Міколку.

— Пан майстар,— ціха сказаў Міколка,— вы таксама стаіце на званіцы, як і я, побач ваш звон вісіць, найвялікшы і найлепшы звон, што ведала зямля. Так, пан майстар, я праўду кажу. Гэта ўсе ведаюць...

Звінелі званы ўсіх гарадскіх храмаў, і раз-пораз бухаў магутны саборны звон, урачысты і цяжарны. Стругі, баркі, чаўны, караблі, абозы, караваны ўжо за сотню вёрст чулі магутнае гучанне, нібы гудзенне-трымценне самой зямлі, і міжволі кіраваліся на яго, са здзіўленнем прыпамінаючы, што звон ідзе ад горада, які даўно лічылі памёршым. І чым бліжэй яны падыходзілі, тым больш радасным і святлейшым станавілася гранне гарадскіх званоў. І фурманы, сцябаючы пугамі коней, пускалі іх скокам, беглі, што бураны, вярблюды; грабцы налягалі на вёслы, вецер дзьмуў мацней, надзімаючы парусы, і гнаў караблі да берага.

І зноў, як то бывала ў лепшы часы, узбурыўся горад веснавым кірмашом, цудамі і дзівамі ўсяго свету, гасцямі, што прыйшлі ад арабаў, немцаў, туркаў, ад лядовых людзей, ад влохаў, маскалёў. Масkоўскія пясцы, башкірскія мяды, заморскія арэхі, пітво ад грэкаў, кубкі з Балгар, магі з Персіі, коні з Бербер, вярблюджыя кошмы з Бухары...

А званы білі і білі — цэлы тыдзень запар, склікаючы да сабора ўсю зямлю. І толькі тады галоўны званар, ужо ашалелы і аглухлы, перастаў біць у галоўны звон сабора, калі пабачыў, што са свайго дома выйшаў мітрапаліт у белых адзеннях — да яго далучыўся цэлы клір папоў. Мітрапаліт ішоў свяціць сабор. Ён ішоў па малінавай дывановай дарожцы, што працягнулася ад ганка яго дома праз усю плошчу да сабора. Ніхто, акрамя мітрапаліта, не меў права наступаць і пераступаць праз гэтыя дываны. Шматтысячныя натоўпы сталі прыціхлыя, у чаканні. Як толькі мітрапаліт ступіў на дыван і пайшоў па ім — званы ўдарылі з новай сілай і радасцю.

Да самай апошняй хвіліны мітрапаліт не ведаў, ці мае ён права асвяціць такі сабор. Ён сядзеў у глыбокім мяккім крэсле, ад якога быў відаць праз акно новы са-

бор, і безадрыўна глядзеў на яго, яму здавалася часам, што розум яго пачынаў віхурыцца, зноў і зноў мроілася яму белая вялікая жанчына, яе тугія грудзі, набрынялыя малаком, саскі, што так чула ўстыркнуліся ў неба...

У яго нічога не пыталі, яго проста павялі. Двое архірэяў у залатых рызах узялі яго пад рукі, вывелі з хаты і павялі па малінавым дыване да сабора. Стары мітрапаліт толькі адзін раз глянуў адсюль, знізу, на такія далёкія купалы галоўнага фасада, зноў пабачыў вальяжныя грудзі, але ўжо зміры ўся, супакоіўся, бо такія грудзі не маглі быць ад гуляшчай Фросі — яны ад самой Багамаці, яны святыя, праведныя... Але калі ён перавёў пагляд уніз, да галоўнага партала — сумеўся яшчэ болей. Ён нават прыпыніўся, спатыкнуўшыся, і архірэі моцна падтрымалі яго за локці.

— О, толькі не я, толькі не я — спачатку Бог, святы Дух!..

Мітрапаліт узняў у адчаі рукі, амаль вырваўшы іх у служкаў, і хор, што стаяў на паперці, падумаўшы, што гэта першы знак асвячэння, грымнуў славіцу, магутна бабахнуў цяжкі, цяжарны звон сабора.

Недзе ў натоўпе стаялі сябры. Яны прыйшлі ў апошні раз — развітацца з саборам. Чакалі ўжо надзягцяраныя, з увязаным скарбам і струментам вазы, коні ў пунях даядалі апошнія карцы аўса. Клім Міхайлаў, Карп Корзун, старац Арсеній, Афанасій Пігарэвіч, стары лацініст Андрэй Быхавец, а з імі Міколка і яшчэ з паўсотні майстроў ішлі ў Масковію, іх усіх праз спецыяльнага ганца запрашалі патрыярх Русі Нікан і цар Аляксей Міхайлавіч — там трэба было ставіць многа новых сабораў і палацаў, а такога добрага майстэрства, як перадаваў ганец царскія словы, не было ні ў якіх іншых землях,— цар вельмі спадзяецца на майстроў. А крыўдаваць яны не будуць.

У гэты ж дзень, пад вечар, абоз майстроў рушыў у Масковію. Ішлі ўсю ноч, дайшлі як не да смаленскіх зямель, ляглі спачыць, стрыножыўшы коней і пусціўшы іх у луг. І скрозь сон, раніцою, змораныя людзі пачулі далёкі, густы і моцны звон, што гукаў рэдка і радасна. То біў звон галоўнага гарадскога сабора. Аж тут трымцела паветра, так і вяло ісці ў той бок, адкуль біў звон. І майстры бачылі, як абозы скіроўвалі з другіх шляхоў і ішлі на гэты звон. Ну, а майстры, перахрысціўшыся на звон, пачалі запрагаць коней. Іх дарога заўсёды ляжыць у маўклівыя прасторы, што чакаюць свайго абуджэння.

## 30

Яна яшчэ не зусім змарнела, толькі фарбы дзе-нідзе пайшлі пуклінамі — ад іржы. Ледзь адчыніў дзверцы аўтамашыны. У нос ударыў цяжкі мядовы дух. Вось яно што! З двух бакоў, аплёўшы задняе шкло, знайшоўшы недзе шчыліны, прабіліся ўсярэдзіну парасткі шалёнага гурка. Гудзіць пчала, пералятаючы з кветкі на кветку...

Гляджу некаторы час, здзіўлены жыццялюбствам і раз'юшанасцю расліны. Па целе разліваецца задавальненне ад таго, што мая рука аўтаматычна не пацягнулася абарваць такое недарэчнае. Зразумела, тут не можа быць дылемы: абрываць ці не. Гэта нерэалістычна. Нават пры самым моцным жаданні цывілізацыю не спыніш. Кола будзе ўпарта трымцець, узмацняючы свой ход, зачароўваючы няспыннасцю, крышталёвай яснасцю, просталінейнасцю, абсалютнай каштоўнасцю руху.

І ўсё ж спыніся! Хоць на хвіліну!

Коні ржуць пры малых рэках!

# АДЛУЧЭННЕ АД ТРЫКУТНІКА

●

## Роздум другі

Разышліся пад гарою
тры дарогі ў полі.
Па якой жа
тая доля,
па якой —
нядоля?

*Паўлюк Трус*



Мне сняцца рысакі.

— У-у-у! — равуць трыбуны. Рысакі ў мыле, у шырокім рысістым бегу, у воблаках пылу, няспынныя, што завадныя аўтаматы. Жакеі ў нервовым запале тузаюць лейцы, і рысакі імчаць — бясконца, магутна, роўна...

Шкада рысакоў. Яны прадвызначаныя. Яны асуджаны аднолькавай прыгожай рыссю цягнуць качалкі...

Я адлучаю качалкі, пакідаючы ачмурэлых жакеяў на полі, і адпускаю рысакоў на волю. Яны ўзлятаюць у галопе насустрач ветру, буйныя, як вецер, абганяюць воблакі і птушак. Я вярнуў ім ранейшы стан, калі яны былі вольныя і лёгка скакалі, прапускаючы між ног дробныя горы, азёры і рэкі...

Ха!.. Яны не ўзляцелі! Яны забыліся, як гэта робіцца. Смяротэльна строгія правілы прывучылі іх да прыстойнага рысістага бегу. Няма вольнага палёту. І мне заставацца на зямлі. Даходзіць у рысістым бегу да мяжы палёту і ніколі не сарвацца ў палёт. Бо я — як яны. Побач з абмежаванасцю — я абмежаваны. Такі існуе закон.

Рысакі — што! Гэта самае лепшае, што ёсць у мяне. Тут хоць блізка падыходжу да палёту. Гэты напружаны бег, гэтыя разагрэтыя конскія крыжы, мільгаючыя ў роўным хуткім рытме сухарлявыя ногі, азартныя жакеі, зямля, што рвецца з-пад капытоў...

Ёсць жа яшчэ трыкутнік. Так, так, той самы, у якога тры куты і тры бакі. Не такі ён і просты. Ён бывае маленькі і вялікі, бывае раўнабедраны, рознабаковы,

роўнабаковы, прамакутны, квадрат яго гіпатэнузы роўны суме квадратаў катэтаў. А часам трыкутнікі ўпадаюць у д'ябальскія скокі, утвараюць такія складаныя прасторавыя сістэмы, што для іх распазнання ўжываюць сінусы, тангенсы... І ўсё ж з самой сярэдзіны найскладанейшай вытанчанасці заўсёды ззяе рагатае вока трыкутніка, што паралізуе і высушвае душу, волю, талент, жыццё.

І калі пачынаю думаць пра гэтыя строга прадвызначаныя рамкі, што не дазваляюць кінуцца ў вольны палёт, больш за ўсё мяне абурае: я сам гэта прыдумаў! Сам сябе павязаў.

Доўга думаў. Шмат тысячагоддзяў і стагоддзяў. Моцна і глыбока думаў. І як упіваўся нанова адкрытымі правіламі, што дазвалялі:

галоп ператвараць у рысь,

крынічную ваду ў хларыраваную,

фазанаў у птушак бройлернай фабрыкі,

елку ў паперу,

усё вольнае, прыроднае ў структурнае, арганізаванае, устойлівае, аформленае.

А цяпер чуцен мой жалобны енк:

— Я хачу палёту...

Не магу нават выгукнуць. І вельмі і вельмі баюся, што стаў падобны на рысакоў: калі адлучуся ад трыкутніка, не здолею нават крыху падскокнуць над зямлёй — які там галоп!

— Але, можа, я навучуся... Можа, яшчэ не позна... Дзядзечка, адлучы мяне ад трыкутніка, дзядзечка, адлучы!..

Божа! Які жалобны енк. Відаць, дапякло.

Невядома, з чаго пачаць. Дзе якія канцы? Даўно забрытаўся.

А можа, проста з таго, што раблю. Еду ў Істру пад Масквою.

## 1

Электрычка грымотна падляцела да высокай платформы. Выглянуў у акно і быў уражаны. Яно! Нерухома стаяў ля акна і глядзеў на пейзаж. Крутыя пагоркі, унізе, між імі, блішчэла шэра-блакітная рачулка, пыльны гарадок па пагорках. З аднаго боку, злева, па зямлі коціцца гіганцкі бела-рыжы шар, нейкі касмічны, з другога — на самым высокім пагорку стаіць манастыр з фантастычнымі купаламі, шатрамі, ратондамі.

Яно!

Стукала, пульсавала ў скронях, у далонях рук.

У мяне заўсёды было ўражанне, што мне даўным-даўно прадвызначана — яшчэ малым быў, а можа, мяне і на свеце не было, але пастаянна адчуваў, што мне наканавана гэта...

За час свайго жыцця, якое было такім бурным, што можна і самога сябе забыць, часам, прызнацца, губляў з поля зроку гэта. Але пастаянна смутна адчуваў, што не я, а нешта кіруе мною. Прымушае брацца то за адну, то за другую работу, чытаць пэўныя кнігі, сустракацца з пэўнымі людзьмі, яно прымушала мяне жаніцца, разводзіцца, кахаць дзяўчат, некага ненавідзець. І цяпер разумею: набліжала менавіта да гэтых пагоркаў. Адыходзіў, аддаляўся вельмі значна, зноў падыходзіў, пакуль выпадкова не стаў жыць побач, але яшчэ колькі год мяне не цягнула сюды. І так рабілася свядома, бо не павінен быў бачыць гэтыя пагоркі. Мне смутна прыпомнілася, як прымроілася, даўняе настаўленне, быццам мудрасць многіх продкаў:

— Ні ў якім разе не спяшайся. Калі выйдзеш туды раней часу — вельмі дрэнна, лепш бы наогул не выходзіў. Трэба быць падрыхтаваным, каб сустрэць яго. Таму — не спяшайся.

Зачаравана глядзеў на прывід. «Але што павінен тут рабіць?»

Мы ехалі ўдвух — канструктар дзівотнага шара запрасіў паглядзець сваё тварэнне. Галоўны аўтар гэтага збудавання акадэмік Мікалай Пракопавіч Мельнікаў нядаўна памёр, так і не паказаўшы купал. Відаць, спадарожнік заўважыў маё хваляванне і спытаў:

— Вас нешта ўразіла?

— А, нічога асаблівага. Падалося, такое было са мной.

— Ясна,— канструктар ускінуў бялёсыя бровы. Вочы яго былі добра затуканы пастаяннымі матэматычнымі разлікамі. Сказаў хрыплавата: — Пайшлі, нам тут.

Мы ішлі да купала напрасткі, сцяжынкай, спачатку нейкімі пусткамі з асобнымі дрэвамі, астраўкамі лугу, там-сям стырчэлі жалезныя і бетонныя прэнты, мясцінамі было перакопана. Перайшлі праз дзве дарогі, пайшлі пасёлкам аднапавярховых драўляных дамоў. Купал-шар, здаецца, быў побач, але, што гара, адсоўваўся, як мы набліжаліся, і ўсё вырастаў і вырастаў у памерах. Дзень стаяў сонечны, з ветрам — апошнія дні нялaскавага лета, што гэтак жа нялaскава пераходзіла ў сонечную і ветравую восень. Вецер, здаецца, пагойдваў абалонку шара, крыху мацнейшы подых — шар прыгнецца да самай зямлі, потым сарвецца і паскача па ўзгорках. Ведаў, што шар жалезны, але ў гэта не верылася, паверхня яго злёгку моршчыла, нібы брызентавая.

— Мембрана з міліметровага ліста,— быццам згадваючы мае думкі, сказаў канструктар,— але ўсё моршчыць, ніяк не нацягнецца.

Мы прабраліся паўз вагончыкі-бытоўкі, і шар вырас над намі, навісаючы і крута заварочваючы ў неба. Знізу ён быў шакаладна-карычневы, у мармуровых пля-

мах іржаўчыны, якая з цягам часу павінна легчы аднатонна, замяняючы фарбу.

Махіна!

Унізе, па ўсім перыметры, шар стаяў на тонкіх вугалках, здаецца, вісеў у паветры. Вецер свабодна праходзіў праз краты. Па мастках з дошак, што крута ішлі ўніз, мы прабраліся ўсярэдзіну. Пад шарам быў велізарнейшы катлаван, сюды спускаліся грузавыя машыны з жалезнымі канструкцыямі. Па цэнтры стаяў пад'ёмны кран з надзвычай высокай вежай і трымаў на канцы стралы блок, які здаваўся цаглінкай. Гэтыя «цаглінкі» ляжалі ў катлаване, чакаючы свайго ўзнясення — кожная была з добры дамок, вышынёю ў два метры і даўжынёю ў васемнаццаць. Агледзеў купал ад краю да краю — то добра трэба было паварочаць галавою. Вока нідзе ні за што не чаплялася, як у пустыні: шэрыя аднастайныя алюмініевыя дошкі — аж млосна зрабілася. Усё было такім велізарным, такім неўявімым, нечаканым, нялюдскім. Нават паматляў галавой, адганяючы прывід-напасць. Нібы трапіў у нязнаную незвычайную прастору — пад купалам іншая матэрыя, як у самалёце, што рэзка рве ўгору ці падае ўніз у паветраную яму — і гэтаму няма канца. У вачах пацямнела.

— Цягне? — спытаў канструктар сур'ёзна, спачувальна, яго светлыя вочы глядзелі крыху трывожна.— Вы не звяртайце асаблівай увагі. Пройдзе. Будзе ніякавата, але гэта не вельмі страшна.

Мы спусціліся на дно катлавана, кратавыя вокны, што ішлі стужкай па гарызонце, аказаліся высока ўгары. Тут не было ветру, ён шугаў над намі. Ляжалі на зямлі розныя велікапамерныя канструкцыі. Адна з іх была груваcткая, раскінулася метраў на трыццаць.

— То корак — затычка. Хутка ёю будзем затыкаць дзірку ў купале.

— Але ж... якая таўшчэнная...— сказаў я разгублена.

— Вы так лічыце? Н-да... Канструкцыя, што ні кажы, даволі магутная.

Мне падалося, канструктар на імгненне ўтарапела і са спалохам утаропіўся на кучу жалеза. Усё гэта ён вылічыў пры дапамозе формул, на паперы, можа, і не ўяўляў, што будзе так груваства. Паперка і формула — бясплотныя...

З палёгкай выбраўся з-пад купала і, калі канструктар спытаў, якое ўражанне, прамармытаў:

— Ашаламляе... Цяжка ўспрымаць...

Не хацеў напамінаць пра самае непрыемнае; адчуванне правалу. Пайшоў да аўтобуснага прыпынку, час ад часу азіраючыся на купал-шар — з нейкім недаўменнем, нават страхам... Можа, вецер усё ж сарве яго і ён паскача па ўзгорках — за гарызонт...

Пра акадэміка Мельнікава, які прыдумаў гэты шар, аўтара шматлікіх самых магутных сталёвых канструкцый, я напісаў цэлую кніжку. Пра яго работы расказвалі многія канструктары, і з іх слоў я расхвальваў геній гэтага чалавека. І купал — геніяльнае тварэнне...

Мельнікаў выхадзец з Беларусі. У Маскве, сваім талентам і воляй, і нязгаснай энергіяй ён стварыў буйнейшы на свеце інстытут праектавання стальных канструкцый, сам быў першым і найгалоўнейшым аўтарам найвялікшых збудаванняў. Некалькі разоў сустракаўся з ім. То быў жорсткі і валявы чалавек, погляд яго быў пранізлівы, напружаны, гіпнатычны, трэба сказаць, досыць цяжкі. Гэткае ж цяжкае і адначасова ірэальнае было і ў яго купале.

Аўтобус, то правальваючыся ўніз, то забіраючыся на пагоркі, давёз да манастыра. Вылез пад пагоркам,

перайшоў праз асфальт. Наверсе стаялі чароўныя і дзівосныя збудаванні. Стромкія званіцы, купалы, ратонды, крыжы, высокія манастырскія сцены. Суцэльная непатрэбшчына! Пераводзіў погляд то на двухпавярховыя жылыя дамы пад пагоркам, прамавугольныя, без адзінага ўпрыгожання, то на казачныя збудаванні наверсе і не мог зразумець асаблівасць такога процістаяння. З аднаго боку, голая практыка, а з другога — мудрагелістая абстракцыя. Прыкрыў далонню від на манастыр, і мне падалося, што сусвет не толькі збяднеў, ён праваліўся ў глыбокую яму. Не, усё заставалася на сваіх месцах: і пагоркі, і рэчка, і стужка асфальту, па якой беглі машыны, і дамы гарадка, але ахіналася змярцвеннем, шэрасцю, душа з высокага напалу, са стромкай вежы скочыла ўніз, у чорныя сутарэнні. Там ледзь варочаецца язык, там вочы зацягваюцца мутнай плёнкай, там паменшаў і здзічэў сонечны бляск, няма зіхацення думкі і пачуцця.

Тады прыкрыў далонню від на гарадок — каб бачыць толькі манастыр. Сонца зл̓ілося і пераплялося з купаламі, барабанамі, вежамі.

Перажыванне, парыў, светлы, урачысты, задавальненне, сэрца, смех, настрой, прасвятленне, ззяць, шчасце, дастаткова...

Немагчымы душэўны парыў — дастаткова! З палёгкай уздыхаю, зноў злучыўшы звычайны свет з купаламі. Цяпер раўнавага. Казка плюс практыка.

Каб у самай цяжкай працы людской, у самай непрасветнай бядоце чалавек мог зайсці ў гэту казку, адарвацца на імгненне ад жыццёвай практыкі, а часам даляцець да высокай узнёсласці, адратаваць душу...

«Вось тут што»,— думаў, паціху забіраючыся на пагорак. Іншаземцы садзіліся ў вялікі чырвоны аўтобус і ніяк не маглі суняць узбуджэння. То адзін, то другі выскокваў і бег фатаграфаваць. Гід усё ж здолеў за-

піхнуць іх у аўтобус, зароў матор, выпусціўшы чорныя клубы, і чырвоная машына мякка пакацілася ўніз. На пляцоўцы, акурат на паўдарозе да манастыра, адкуль паехаў аўтобус, стаялі яшчэ два аўтобусы. Падышоў і ўбачыў злева ад манастырскай сцяны за гарадком белы купал-шар. І здалёк ён здаваўся велізарным, палохаў наваколле: і гарадок, і пагоркі, і лінію гарызонту, і неба, па якім ужо восеньскі вецер гнаў восеньскія хмары. Хто ведае, можа, мы калі-небудзь прызвычаімся да такіх шароў...

Раптам да мяне прыйшла метафара: то дакладны мозг чалавека — па навейшых нашых уяўленнях! Праве і левае паўшар'і. Шар — левае паўшар'е, рацыяналістычнае, збор думак, яно пыхкае ведамі: усведамляць, аб'ектыўны, ідэя, матэрыялізм, сэнс, вучоны, тэрмін, матэматыка... Гэтая палавіна мозга, як і належыць ёй, разумна, гранічна, трывала сфармавана, і імя ёй акадэмік. Чуеце, як высока і грымотна гучыць: акадэмік. А казачны град... Дзе ў ім якая логіка? Усё нечакана — душа, рух, ігра, густ, сорам, здзіўленнне, вочы, унутраны, далонь, здавацца, кранаць, нямы, першабытны, ззяючы, цёмны, рытм, тон, майстар...

Пад'ехаў вялікі аўтобус, з якога выйшлі гаманлівыя людзі, азіраюцца. Ім падабаюцца, відаць, і гэтыя пагоркі, і казачны манастырскі град, усе цягнуцца да манастырскіх варот.

Іду разам, хоць ведаю, што простае агляданне ненамнога наблізіць да адказу.

Гід, малады стройны чалавек, проста прыгажун, апавядае пра Нікана, што ставіў манастыр, чаму той абраў гэтыя пагоркі і паставіў менавіта такія храмы. Нешта вельмі і вельмі складанае. Гід аздабляе гутарку царкоўнаславянскімі словамі, рознымі невядомымі і гучнымі тэрмінамі — у яго вуснах ніканаўская сістэма набывае звышскладанасць, малады чалавек нібы сам

трапляе ў яе, гэта яму надзвычай падабаецца, ён аж захлёбваецца словамі ў нейкім трансе. Дзіўна, што гэты славесны паток, які ўваскрасае падзеі даўно мінулыя, прымушае нас хваляванца. Спрабую паставіцца да ўсяго іранічна, але не магу вырвацца з-пад загадкавай магіі, яна ўзнімае ўсё вышэй, адчуваю палёт. Нешта ненатуральнае, думаю. Пад купалам правальваўся, а ён жа карыснейшы з карысных, а тут, дзе наогул нічога спажыўнага, практычнага...

Гід доўга водзіць вакол галоўнага сабора, апавядаючы пра яго стварэнне ва ўсіх падрабязнасцях, і я, нібы навязаны, кручуся разам з усімі, хоць і адчуваю, што неабходна адасобіцца, выйсці з-пад улады гіда, самастойна пахадзіць па манастыры. Нарэшце бачу жанчыну, што сядзіць на лавачцы пад дрэвам непадалёку ад уваxода ў сабор. На ёй нейкая рамантычная пелярынка. Яна не звяртае ўвагі на нашу групу, сядзіць на лавачцы і піша ў тоўсты сшытак. Падыходжу.

— Зямля тут такая, ці што? — кажу напаўжартам.

Жанчына сарамяжліва і няпэўна паціскае плячыма.

Яна працуе кантралёрам, сама — матэматык-праграміст, уладкавалася на час адпачынку. Яе таксама ўразіў сабор, уразіў Нікан з яго складанай сімволікай. Тут, у саборы, няма ніводнага кутка проста так. Усё нечаму прысвечана. Кожны слуп, кожныя дзверы, арка, ніша, акно. Яна спісала тоўсты сшытак, імкнучыся занатаваць, што гавораць гіды, што яе ўразіла, і таксама не можа нечага зразумець. Так, гэтыя эквілібрыстычныя пабудовы зачароўваюць складанай і тонкай хадой, але не толькі ў гэтым справа, як яна зразумела...

У жанчыны бліпічаць шэра-зялёныя вочы, яна ўзняла высока галаву і глядзіць на капрызныя абрысы сабора з замілаваннем, здзіўленнем. А я раптам думаю, што нешта падобнае ў псіхалагічным стане гэтага сабора і жанчыны. Какетлівая пелярынка, непаўторная

грацыя свабоднага руху, загадкавая ледзь улоўная ўсмешка Моны Лізы, што так і не разгадана да сённяшняга часу. Во куды накіроўваў свой сабор Нікан, вось дзе яго музыка! Вельмі складаная, незразумелая і чароўная мелодыя. Не заўсёды што прасцей, то лепей. Нават наадварот, цягнешся да гэтых віртуозных немагчымых пераліваў, прыгожых, мроістых.

Нікан? Не Леанарда да Вінчы, а Нікан, гэты царкоўнік, ганіцель, што ўнёс раскол у царкву?..

## 2

А можа, яно так было.

З дня на дзень патрыярх Нікан чакаў абоз майстроў з Белай Русі, але з'явілася гэтая жанчына.

Каб толькі з'явілася. Гэта быў цэлы прыход ці, дакладней, прыскок у шумлівым разгоне. У ззянні рухаў, бляску вачэй, гарцаванні добрай адкормленай белай кабылы, у бушаванні цэлай капы доўгіх і хвалістых рыжых валасоў, шамаценні шырокіх малінавых шаўковых спадніц, адліву пяшчотнага, цёмнага, з глыбокім выразам, аблягаючага аксамітнага ліфа, у раскрытасці, свабоднасці ўсмешкі, незвычайных і многіх адценняў і нюансаў, у вытанчанасці і смеласці размовы і непаўторнымі павышэннямі і паніжэннямі голасу і найдалікатнейшым граннем пачуцця.

На той час Нікан ішоў па манастырскім двары. Вароты на дзень былі адчынены, фурманкі везлі цэглу, лес, вапну. На работы прысылаліся людзі з коньмі з усіх навакольных патрыяршых вёсак. Мужыкі пачціва спынялі коней, здымалі шапкі, бухаліся на калені, кланяліся ў зямным паклоне, покуль Нікан не даваў знак узняцца і рухацца да павецяў, што цягнуліся ўздоўж манастырскай агароджы з бярвенняў.

Звычайны дзень. Але сёння Нікана з самага рання павяло на нейкія не вельмі вясёлыя роздумы.

Яго ўразіла сіла. Неўтаймаваная.

Нікан уважліва ўглядаўся ў мужыка, што ўпаў на калені непадалёку, не даючы яму знаку падняцца. Той нахіліў галаву і час ад часу зыркаў на Нікана. Нічога, здаецца, асаблівага. Лапаць лапцем. Драныя зрэбныя порткі, латаная зрэбная сарочка, расхрыстаныя, абпаленыя сонцам шыя і грудзі, нячэсаныя валасы і велізарная калматая барада. І вачэй, якія яны, у гэтым не спазнаеш. Сярдзітыя, лагодныя? Блішчаць з поўсці. Нібыта пачціва, у божым страху. Але ў іх непадуладная энергія. Пра яе і сам чалавек не ведае.

Нікан на момант выкінуў з галавы думкі, як ён мог зрабіць, каб даць свабоду нейкаму больш глыбіннаму, не залежнаму ад яго адчуванню-думцы. Ён хацеў уявіць, кім можа стаць такі «лапаць-лапцем». Прыйшло небыццё, і знянацку паплыў вобраз крывавага дзікуна. Грозная звярыная моц, заліты крывёю, і жарэ, проста жыўцом, чалавечую нагу. Жахлівы прывід!

Ён сцёр вобраз, яшчэ раз адхінуў думкі-пачуцці і надаў «лапцю» кірунак. То былі прывіды самыя розныя — у залежнасці ад таго, які кірунак зробіш. Былі і не менш страшныя, чым дзікун, былі незразумелыя, бо Нікан не мог паверыць, што гэты чалавек валодае такой геніяльнасцю, былі ціхія і лагодныя. Кірунак... Вось што патрэбна. Ды не памыліцца, выбіраючы яго...

Нікан даў знак мужыку, той борздзенька ўскочыў і ў нейкай радасці тузануў лейцы, зычна гаркнуўшы:

— Но, воўчая сыць!

Нікан пайшоў манастырскім дваром, тым месцам, дзе павінен стаць велізарнейшы сабор. Не раз на дзень ён праходзіў праз гэты ўяўны сабор, дакладна ведаючы, дзе стане галоўная царква, дзе заглыбіцца ў зям-

лю падземны храм так, што наверсе будуць стырчэць толькі макаўкі. Нікан уяве адчуваў гэтыя сцены, пераходы, лесвіцы, алтары, усё незвычайнае і нязнанае на Русі. Па яго загаду пляцоўку агарадзілі межавымі калкамі, нацягнуўшы ад калка да калка тоўстыя вяроўкі, ніхто не меў права хадзіць па будучым саборы, пераступаць вяроўкі. Зямля спачывала ад людской мітусні, набіралася моцы, толькі сам ён абавязкова кожны дзень наведваўся, часам доўга блукаў, пераходзячы з царквы ў царкву, склаўшы пры гэтым пальцы правай рукі ў трохперсце, абавязкова старанна прыціснуўшы да далоні мезенец і безыменны палец, і пастаянна крыху памахваў рукою, робячы крыжы, асвячаючы зямлю. Гэта ён рабіў не механічна, а канцэнтруючы ўсю духоўную моц у руцэ і ў гэтым памахванні, калі б людзі бачылі, думаў Нікан, то іх асляпіла б моцнае святло, што ішло ў зямлю. І вось калі ён ішоў па галоўным храме з высокай падкупальнай прасторай і быў тварам павернуты да ўсходніх манастырскіх варот, у вароты на поўным галопе ўскочылі тры коннікі — на белым кані гэтая дама і два кавалеры ў польскім убранні на вараных конях. На хвіліну спыніліся, дама агледзела манастырскі падворак, убачыла Нікана і паскакала да яго, а за ёй і два кавалеры, яны ўскочылі на пляцоўку падземнага храма — у Нікана аж дух пераняло ад такога святатацтва, ён загневаўся, хацеў замахаць рукамі, закрычаць, сагнаць прыблуд са святыні. Але, як у сне, не мог паварухнуцца, стаяў, прыадкрыўшы рот, з недарэчна прыўзнятай рукой, і здзіўлена глядзеў на гэты тэатр — жанчыну.

— Гэй, манашак! — звонка, весела і свабодна крыкнула жанчына, яшчэ разагрэтая прасторамі, якімі імчала, і шалёным галопам. Нікан ніколі не чуў, каб так магла гаварыць жанчына,— не скажаш, дзе пабачыць патрыярха Нікана?

Нікан аслупянеў, гнеў заліў вочы, але і цяпер не мог вылаяцца і, толькі дзівячыся самому сабе, спытаў:

— Патрыярх Нікан? Навошта вам патрыярх Нікан? — ветліва і ціха спытаў.

— О, мілы манашак,— са здзеклівай усмешкай, тонкай, змяінай, сказала жанчына.— То ж ён мне патрэбен, і не вельмі ласкава пытаць у дамы навошта!

Размова яе была з моцным польскім зломам, голас небывалай мілагучнасці, бы грала цудоўная скрыпка, якую Нікан чуў у пакоях вялікага гасудара Аляксея Міхайлавіча пасля вяртання таго з Літвы — нібы там да цара далучыліся іншаземныя норавы, больш вольныя, лацінскія, а то і зусім разбэшчаныя. Аляксей Міхайлавіч загадаў зноў сабраць бахараў, гусельнікаў, каб было ўсё так, як пры яго бацьку Міхаіле, калі «ў арган граў немчын, у трубу трубілі і па літаўрах білі», пакоі якога былі аброблены на іншаземны лад, сцены пакрыты залатымі скурамі бельгійскай работы, завешаны рознымі мудрагелістымі гадзіннікамі, якімі ён так любіў дзівавацца, незвычайнымі жывапіснымі малюнкамі. Вяртаў гэта ўсё Аляксей Міхайлавіч, а іншаземным паслам наказваў падгаворваць, каб ішлі на яго гасудараву службу «трубачы самыя добрыя і вучоныя, якія ўмелі б з усялякім сведчаннем на высокай трубе танцы трубіць...».

Дзівіўся Нікан. Такая змена адбылася з царом. Быў жа час, калі ў таго пасля няўдалых заручын з Яўфіміяй Усяволскай з'явілася агіда да гэтых бясоўскіх спеваў, музыкі і скокаў. І правільна зрабіў, што разагнаў Пацешную палату з бахарамі, гусельнікамі, пацешнікамі, дамрачэямі, скамарохамі. У царскім двары і баярскіх палатах пасяліліся ціхія духоўнікі, манахі, калікі вандроўныя, жаночая прыгажосць цнатліва пахавалася на высокіх церамах...

А тут цар, нічога не пытаючы ў Нікана, паламаў

гэтую старасвецкую і мілую сэрцу благачыннасць, памяняў на «бясоўскае гранне і паскудства душэўнае». Гэта вельмі ўзбурыла Нікана. Не столькі само ўвядзенне новых нораваў, а тое, што Аляксей Міхайлавіч, яго «собінны сябра», рабіў усё сам, не раячыся. Нікан, зразумела, быў бы супраць. Аляксей Міхайлавіч нібы адчуваў гэта і рабіў выгляд, што Нікана не было. І гэты голас-скрыпка ўскалыхнуў непрыемныя ніканаўскія ўспаміны. Але пазіраючы на даму — нечуванае відовішча, мнагастайны, жывы і трапяткі тэатр, Нікан раптам проста адказаў:

— Я патрыярх Нікан.

— Ой! — здзіўлена і звонка ўсклікнула жанчына.— Марэк!

Адзін з кавалераў у шытым золатам жупане ўмомант апынуўся на зямлі, падбег да жанчыны, якая, кінуўшы повад, прасцерла ўперад рукі, саслізнула ўніз і апынулася ў абдымках кавалера. Тут жа паспешна Марэк адышоў і стаў на адно калена, а дама, нахіліўшы галаву, зрабіла чароўнае і глыбокае прысяданне, узяўшыся рукамі за спадніцы, крыху прыўзняўшы іх. Другі кавалер таксама саскочыў на зямлю і стаў на адно калена, нахіліўшы галаву. Так і стаялі ў дзівотным, нябачным для гэтых мясцін шанаванні. Усе мужыкі і манахі, што былі на двары, спыніліся і назіралі за сцэнай. Нікан не ведаў, што рабіць. Ён не мог прагнаць гэтых людзей, як раней, калі выгляд іншаземца, безбародага, у нязвыклым адзенні выводзіў яго з сябе і ён упадаў у ярасць. Цяпер жа даводзіцца з'есці і гэта.

— Што ж, міласці прашу да мяне ў пакоі. Нікіфар,— азірнуўся ён назад, ведаючы, што яго верны слуга заўсёды недзе побач,— распарадзіся паставіць коней, пакармі гасцей і правядзі да мяне.

І пайшоў. А кавалеры з дамай усё стаялі ў паклоне, не гледзячы на яго, у замежнай павазе.

Сустрэча, што потым адбылася, зрабіла на Нікана дваістае ўражанне.

Увайшлі яны да яго ў велізарныя цёплыя сені драўлянага дома, у якім ён жыў, з гэткай жа помпай, як і ўехалі на манастырскі падворак, быццам пастаянна разыгрывалі нейкае дзейства, накшталт ваеннага прыступу, з барабанным боем, сцягамі і гарматнай пальбой. Наперадзе яна ў шаўках і аксамітах з непрыстойнай для рускай жанчыны капой нічым не закрытых рыжых валасоў, хуткім агністым поглядам насмешлівых карых вачэй, тонкай змяістай усмешкай на тонкіх падведзеных сурыкам вуснах, твар чысты, белы, з крыху ружовымі шчокамі, здаецца, увесь час ён неяк агніста рухаўся, ззяў, што срабрыстая рыбіна-ўюн — гэткае заморскае і дарагое дзіва! Нікан злавіў сябе на тым, што любуецца гэтым тварэннем і хоча нават дакрануцца, каб уверыцца, што гэты цуд — не падманка, а самая што ні на ёсць магчымая натуральнасць, і ў мыслях ён раптам убачыў, як спадаюць шаўкі з гэтага гарэзлівага цела, цела белае, што мармур, ружаватага адліву — змяістае, несціханае, бы ўжо і не людскае, але людскае, іншага складу-характару, што ні разу за ўсё жыццё не страчалася яму на Русі. Нікан да болю ўскалыхнуўся ад такой прыцягальнай д'ябальскай спакусы... Сталася салодка і млосна. І каб не сан, каб не той вялікі на ўсё жыццё адчайны абавязак, што ён наклаў на самога сябе па ратаванні Русі і ўсяго рускага народа... «Але адно другому не зашкодзіць»,— звінеў спакуслівы галасок свайго ўласнага дамашняга чарцяняці, з якім Нікан даўно зжыўся, ставячыся да яго спакойна, не вельмі дакараючы сябе, што дазваляе жыць гэтай гарэзлівай істоце, якая час ад часу паднімала ў ім напаўжартаўлівую, напаўсур'ёзную балаганную валтузню. Ён пераканаўся, што ад гэтага людзям менш шкоды, чым ад другога ліхога набычанага баярына ці

дзяка, што, вышукваючы праўду, можа ў такую крыўду ўвагнаць чалавека — але жывуць, моляцца богу і лічаць сябе не такімі ўжо грахоўнымі. А тут, дзе жанчына... Не вельмі страшны гэты д'ябальскі грахоўны сасуд, як часам лаюцца з амбонаў папы. І ён успомніў сваю жонку, Настассю Іванаўну, якую так горача кахаў і якая, як і ён, адправілася ў манастыр пасля смерці ад страшэннага маскоўскага мору траіх ніканаўскіх дзяцей. Божа, якія былі ні з чым не параўнальныя ласкі! Нават просты дотык да яе плоці выклікаў млосную асалоду. Тую невыказную асалоду апошняга шчасця, што магчыма толькі ў раі. І калі пры ім які поп пачынаў ялейна грымзоліць нешта наконт «сасуда грахоўнага», «д'ябальскага змясцілішча», Нікан груба абрываў:

— Не гнявi бога, поп! Багародзіца — таксама жанчына! Калі жанчына — «сасуд грахоўны», то ты, што выйшаў з яго, такі ж грахоўны!

А зараз перад Ніканам узнікла жанчына, што была ў пашане, як Багародзіца, і сама ведала гэта і дазваляла другім любавацца ёю, і яна была ўжо немагчымай для зроку — жанчына немагчымага відовішча.

— Калі Вялікі Гасудар, Ваша Светласць, Вялікі Прымас усяе Русі будзьма ласкавы выслухаць нашы нязначныя капрызы і калі мы будзем спадзявацца, будзьма мець вашу ласку і вашу спагаду, то мы б хацелі пачуць ад вас, Вялікі Гасудар, Вялікі Прымас Першасвяшчэннік...

Божа! Якая здрыготкая мілагучная гаворка! Усмешка, бляск карых вачэй, стрыманыя мадуляцыі твару і рук, несціханае ззянне... Нешта лапоча... Ды няхай яна лапоча самую лухту, што з таго, а вось тая невыразная слодыч чуць голас і бачыць гэты пераліў і шапаценне шаўкоў, трапятанне хвалістых залатых валасоў, нястрымны бег усмешкі па тонкіх вуснах, зіхаценне

вачэй... «Прымаю, прымаю,— адзначыў пра сябе Нікан.— Прымаю, хоць і наробіць яна бядот. Дакладней, рускі мужык дзеля такой жанчыны, я сам першы».

Так думалася Нікану ў час гэтай свецкай бяседы, што была ні аб чым і ішла ў нябеснай мілагучнасці. Кавалеры амаль не гаварылі, казалі часам нязначныя словы ветлівасці, проста яна хацела ўбачыць і адчуць яго, Нікана. А калі адышло гэта відовішча, Нікан доўга сядзеў у ашаламленні, нерухома і адчуваў непадалёку ад сябе, у тым крэсле, дзе яна сядзела, і побач з ім прывід нязгаснага ззяння, мігценнага святла, што так нерэальна з'явілася тут — зараз яно рухалася, усміхалася і блішчэла, і тварылася... «О, стары кабан,— вылаяўся раптам Нікан,— на дзіцячую мішурку спакусіўся!» Ён загаварыў брудмаю пратапопаавакумаўскай мовай, якой у той час размаўлялі і папы, і простыя людзі, і баяры, і якая нагадвала хутчэй лаянку — такая была адрывістая, крыважэрная, аголеная. Усе так казалі, нават самога цара, Аляксея Міхайлавіча, прарывала моцным грубым словам.

— Што ты кажаш, мужык, сукін сын, «Благаславі, отча?». Тут патрыярх: кажы «Благаславі, уладыка!» — закрычаў цар на папа, які служыў малебен. Ён ускочыў з крэсла і ў час усёй службы хадзіў сярод манахаў, навучаў іх, як трэба чытаць, спяваць, а калі тыя памыляліся, накідваўся на іх и лаянкай. Ды і самога Нікана ён абазваў аднойчы мужыком і сукіным сынам...

— Стары кабан! — услых паўтарыў Нікан і зірнуў у бок крэсла, дзе ўсё яшчэ рухаўся манерна-вытанчаны прывід княгіні Ядвісі. Яму стала сорамна. Прывід не папікаў яго, ён нават не заўважыў яго бруднай лаянкі, быццам гэта было не варта таго жыцця... Нікан утарапела глядзеў у бок крэсла. Гэтая грубая апошняя чалавечая праўда надавалася на той час пільнай патрэбай, бо яна толькі-толькі выціснулася на паверхню жыцця

з самых глыбокіх нізінных людскіх нізоў. Яна доўга збіралася ўсёй цяжкай паднявольнай сутнасцю Русі, усімі бядотамі і ліхалеццямі, нашэсцямі татар, палякаў, баярскім самачынствам, народным самагубствам. І калаціліся, і падалі, і мерлі што мухі, рускія людзі, аддаваліся з галадухі ў кабалу... Як яшчэ напіша Нікан цару: «Ты ўсім прапаведуеш пасціцца, а цяпер і невядома, хто не пасціцца дзеля нястачы хлебнай, у многіх мясцінах і да смерці посцяцца, таму што есці няма чаго. Няма нікога, хто быў бы памілаваны: жабракі, сляпыя, удовы, чарняцы і чарніцы, усе данямі абкладзены цяжкімі, усюды плач і знішчэнне; няма нікога, хто весяліцца ў дні сіі».

Жудасна стала Нікану. Бясконцыя мукі і здзекі церпяць рускія людзі — і ад татар, і ад іншых ворагаў, а найчасцей ад сваіх жа, ад тых, што як уб'юцца ў які чын, то лютуюць, не прывядзі госпадзі! І запеў Нікан тужлівую гаротную песню.

Ты стой, не ушел добрый молодец!
Не на час к тебе горе злосчастное привязалося.
Хошь до смерти с тобой помучуся,
Хотя кинься во птицы воздушныя,
Хотя в сине море ты пойдешь рыбою,
А я с тобой пойду под руку под правую...

Доўга цягнуў пакорную тугу, з якой і выйсця няма, толькі што ў сырую зямлю. І чым болей цягнуў, тым гаротней і беспрасветней падавалася яму ўсё вакол. Невядома, як трэба ісці па гэтым свеце. Сэрца баліць. Уласнай рукой ён упёк у Сібір шмат людзей. Прабач, Авакумка, прабач, брат каханы Павел, мітрапаліт каломенскі, прабачце ўсе, хто праклінае яго, Нікана! І колькі год, а можа, стагоддзяў будуць яшчэ клясці за раскол, за чорнае сумленне, за жорсткасць...

Хотя кинься во птицы воздушныя...

Яшчэ раз Нікан зірнуў на крэсла, на якім сядзела княгіня — прыцішыўся той бляск-мігценне... Няхай там больш відовішча, чым глыбокай сутнасці і апошняй праўды — праўда там далёка сядзіць, не відаць за шапатлівымі шаўкамі і зменлівымі ўсмешкамі. Але... Хто скажа-адкажа: што лепей для Русі? Голая абпаленая праўда? І таўкуць адзін аднаго гэтай бязлітаснай праўдай, што батагамі сукаватымі, пугамі вострымі, палкамі вялікімі — і чым далей, тым больш дзічэйшым і нязносным становіцца жыццё — ад узаемнай нянавісці, злыдзенства — няма выйсця з такой правай голай праўды... А гэтае гаючае ззянне... Ілжывае? Лепш сказаць, тут відовішча...

Так, так, лавіў Нікан нечаканую няпэўную думку, якая пачала здавацца яму вельмі важнай. Нават яго ўразіла гэта нетутэйшае відовішча, гэты бляск, гранне. Правільна, так трэба. Правільна. Правільна ідзе замежны абоз да яго. Правая праўда творыць крыўду, і лепш, калі душа пойдзе да гэтага, падобнага на княгіню Ядвісю!..

### 3

Абоз майстроў з Белай Русі ішоў да Нікана.

Прыціхлі майстры, што малыя дзеці. У ноч ішлі. І чым далей, тым больш страшэннай рабілася гэта ноч. Перадпавальнічная.

Запрэглі раніцою коней — гэта калі прачнуліся ад гукання далёкага гарадскога сабора, што яны толькі адбудавалі ў вялікім горадзе Белай Русі. Пад вечар абоз вырушыў з горада. Ішлі ўсю ноч, дайшлі аж не да смаленскіх зямель. Ляглі спачываць. А раніцой, скрозь сон, змораныя людзі пачулі далёкі, густы і моцны звон, што гукаў рэдка і радасна. То біў звон галоўнага гарадскога сабора. Аж трымцела паветра, так і вяло ісці ў

той бок, адкуль біў звон. І майстры бачылі, як абозы скіроўвалі з другіх шляхоў і ішлі на гэты звон, са здзіўленнем прыпамінаючы, што той ідзе ад горада, які даўно лічылі памёршым. Ну а майстры, перахрысціўшыся на звон, запрэглі коней і падаліся наезджаным шляхам да Масквы. Вось-вось павінны ўвайсці ў смаленскія землі. Ішлі спакваля і ўсё дзіваваліся, што наперадзе па шляху быццам цёмныя хмары ўстаюць. Сонца пачало блякнуць, потым і зусім схавалася ў засмужэнні, ціха наўкола — ні птушка не заспявае, ні певень не кукарэкне, ні карова не прамычыць. Аніякіх табе мошак, жукоў, матылькоў. І як пройдзеш вярсту — то больш пахмурнее. І туману не было. Падыходзіў, відаць, самы полудзень. Вясноваму сонейку толькі б разгуляцца. Праехалі яшчэ колькі вёрст — зусім цёмна зрабілася. Сталі. Нема стаіць абоз на дарозе, коні галовы апусцілі, уздыхнуць баяцца. Пастаялі так колькі часу майстры ля вазоў, азвацца баяцца, гукнуць суседа, пацііху і падаліся да першага воза, на якім ехаў старац Арсеній. Прыйшлі, сталі абапал і маўчаць. А старац Арсеній у чорнай расе з насунутым на галаву капюшонам сядзіць на возе, пазірае з недаўменнем у непраглядную цемрадзь.

— Счакаем, можа, праясніцца,— сказаў ён нарэшце.— Ды няхай хто паедзе назад, праверыць, не шкодзіла б, ці сталася так па ўсім свеце.

Выпраглі аднаго жвавага коніка, і Сцяпан-муляр паскакаў да Белай Русі. Абоз завярнуў на луг пад лес, сталі шчыльна, воз да воза. Стрыножылі коней, пусцілі пасвіцца, але тыя і не нахіліліся, каб паласавацца маладымі вясновымі травамі, хоць і галоднымі былі, ад раніцы прайшлі не так ужо і мала. Але стаяць — ці то асleпленыя, ці то сурочаныя. Праўда, калі сарвеш пук травы ды паднясеш да пысы — хапаюць, а так — стаяць. Дзівіліся людзі, бо такога ніколі не бывала з конь-

мі, якая ноч ні цёмная, усё роўна скубуць, а тут, відаць, само рэчыва цемры інакшае. Але калі нехта ў адчаі расклаў на лузе вогнішча, каб сагрэцца, коні ажылі, пачулася ржанне, яны накінуліся на траву. Ды і людзі ачунялі ад нейкай замаруджанасці, летаргіі, што бывае толькі ў зімовых жаб, павесялелі.

Ноч, ускраіна лясочка, луг, там-сям гарацьагні, наводзячы на зямлю і неба чырвоныя сполахі, у якіх можна бачыць вазы, мігаючыя постаці людзей, коней... Здаецца, мірная карціна. Але зверху, з неба, усё ніжэй пачалі апускацца **спалохі**, ператвараючы ў жах. Што было, і сказаць нельга, нешта цягучае, неадвязнае, што вісіць над табой, прабіраецца ў самае нутро, язык перасыхае, галава пухне. Жах апускаўся ніжэй, давіў мацней і на людзей, і на вазы, і на коней. Бабы з дзецьмі пазабіваліся ў вазы, зашыліся пад коўдры, кажухі, а майстры пачалі ратаваць коней. Бо чалавек, як стала зразумела, можа вытрымліваць многае, а жывёлы больш пяшчотныя. Спачатку жах налятаў на конскія спіны, каркі. Коні толькі хвастамі матлялі ды стрыбалі скураю, нібы адганяючы аваднёў. Але потым жах пачаў хапаць за бакі, ногі, а калі конь падымаў галаву, то і за яе. І конь дзічэў. Вочы наліваліся крывёю, з асцерваненнем ён матляў галавой, ірваў путы, імчаў невядома куды. Хутка пачалося такое менташкаванне! Коні сноўдалі туды-сюды, за імі з крыкамі ганяліся людзі. Часам конь бег далёка ў цемру, але там яго бег замаруджваўся, нарэшце ён спыняўся і ўпадаў у летаргію, гаспадар вёў яго назад, але ля вогнішчаў конь зноў пачынаў дзічэць. Некаторыя людзі, намэнчыўшыся і з канём, і з самім сабою, і з дзецьмі, запрагалі каня, заварочвалі воз, ехалі назад. Але тое і яно, што стала невядома, куды ехаць. Дарога знікала! Вазы раз'язджаліся ў розныя бакі, але, ад'ехаўшы на некалькі вёрст, спыняліся, бо гаспадарам пачынала здавацца, што не

да роднага кута мкнуцца, а ў яшчэ больш жахлівыя сусветы. «Гібець, дык грамадою...» — думаў чалавек і зноў вяртаўся да табара, трапляючы ў жахлівую мітусню. Здаецца, выйсця не было з такога, людзі і коні змэнчацца да апошняга, загінуць, што мухі ў бутэльцы.

І тут невядома як то сталася, ці да такога хто дапёр, ці здарылася імпэтна, але пабачылі людзі раптам нешта бязглуздае і недарэчнае, ну, настолькі бязглуздае, што і сказаць немагчыма. Нейкі чалавек пачаў бегаць па возе, на ім былі шырачэзныя белыя нагавіцы — дзе ён толькі і выкапаў іх, можа, спецыяльна пашыў для такога нялюдскага відовішча. Трэба сказаць, што воз, на якім скакаў няўклюдны чалавек, быў таксама нязвыклы — велізарная роўная платформа — то, відаць, які гандляр збудаваў для сваіх патрэб, на возе стаяла ўсяго чатыры рэчы, таксама дзіўна няўклюдныя. Вядро, выпацканае фарбамі, сабачая будка, дзяжа і велізарнейшы бот, відаць, зроблены напаказ, каб забаўляці якога купца. І вось чалавек у шырачэзных белых портках з самым сур'ёзным заклапочаным выглядам бегаў ад адной рэчы да другой, абнюхваў іх, як сабака, лізаў, як карова цяля — старанна, няспешна вылізвае, спачатку ў адзін бок, потым у другі, лыпае вачыма, бы глынае бот ці сабачую будку, і ўсё ліжа, смачна, нават аблізваецца, як сабака, потым спрабуе ўлезці ў бот адной нагой, трапляе дзвюма, дзівіцца і пачынае скакаць у боце, валіцца, валтузіцца, борсіцца, падскоквае, скача, недаверліва талопіць вочы, потым трапляе задам у вядро з фарбай, устае — увесь зад чырвоны, з недаверам мацае рукою — на ёй бы кроў, і чалавек, што дзіця, пачынае грымзаць, нарэшце, раве на ўвесь голас. А наўкола грыміць такі смех, што аж агні сыплюць у неба снапы іскраў. Смяюцца дзеці, мужыкі, бабы, некаторыя аж кладуцца ад смеху, потым пачынаюць смяяцца тыя, што зводдаль на-

зіралі, смяецца ўжо ўвесь табар, нават коні па ўсім лузе падвялі галовы і такое ўчынілі ржанне! Потым на воз ускочыў яшчэ адзін дурнаваты чалавек, і яны ўдвух пачалі так выломвацца, што загудзеў і лес, і луг, уся зямля і неба.

І з чаго ўсё ішло? Так, дурасць, безладзь... А жах адляцеў. Адляцеў! Што дзікі анёл, ён насіўся над табарам, пырскаў са злосці слінай, дзіка тарашчыў казліныя вочы з прамавугольнымі зрэнкамі — руды, страшэнны, са зблытанымі пасмамі даўгой поўсці, лютаваў і нідзе не мог апусціцца на зямлю, каб крыху спачыць ды падсілкавацца пяшчотнай ежай з чалавечых душ.

Рагатаў і стары лацініст. Нечуваная з'ява! Нават уявіць немагчыма, каб гэты чалавек велічнай і ганарыстай паставы, з даўгой сівой барадой, у чорным выцвілым даўгім, нямодным плашчы, са светлымі вачыма, якія былі заўсёды цёмныя ад колаварчэння разнастайных нялёгкіх думак, каб ён зарагатаў. Бо ў сэнсе гэтага смеху было нішто. Але стары лацініст рагатаў! Я не адразу пазнаў яго ў такой дзіўнай змене. Вочы звузіліся і пырскалі чысцюткай крынічнай вадой, ні адна думка не замутняла іх, рот расцягнуўся ў даўгую гарызантальную звілістую шчылінку, і з яго бязгучна вырываліся кароценькія «хы-хы-хы...».

Потым усё вярнулася да нармальнага стану. Але людзі былі ўжо не тыя, што раней. Гэта адчувалася і па старому лаціністу. Ён нібы перайначыўся. Як то робяць пярэваратні. Не, усё аблічча захавалася — і тая ж барада, і пастава, і плашч, але вочы раптам зайгралі новым жыццём, колаварчэнне думак пайшло новым кірункам.

І абоз рушыў да Масквы. Хлопцы папрывязвалі факелы да кожнага воза, бо цемра не рассейвалася, а жах мог наскочыць у любую хвіліну. На палку намотвалі ўсялякае рыззё як можна больш шчыльна, абмак-

валі ў бярозавы дзёгаць. Свяціла добра, лепш за электрычнасць. Так што калі абоз рушыў воз за возам у дрыжачым і палахлівым факельным ззянні, відовішча было грандыёзнае. Асабліва з высокага пагорка. Залатая змяя! Паўзе, выгінаецца, святло адбіваецца на хмарах, асвятляючы наваколле, спалохі ідуць з-за далёкага гарызонту... Першыя вазы прайшлі ўжо Смаленшчыну, а апошнія за Мсціслаўлем і Магілёвам і нават яшчэ далей.

Так было. Можаце зверыцца з вучонымі кнігамі. Выйшла тады з Белай Русі палова насельніцтва — паўтара мільёна!

Нікан чакаў абоз. Абоз ішоў да Нікана.

Я сеў на воз старога лацініста. Конік весела фыркаў, ішоў спорным крокам, зрэбная кібітка матлялася, факел гойсаў, але стары лацініст сядзеў прама, што зямная вось. Пахла старымі кнігамі і зямлёю. Лацініст, здаецца, не заўважыў мяне, вочы яго не мігаючы глядзелі ўперад. Можа, думаў ён пра тых дзівотных блазнаў, што аднавілі яго душу? Нетаропка і з напружаннем перабіраў у думках чорныя старыя фаліянты, неяк адважна і дакладна памятаючы, што такое ўжо занатавана чалавекам — Арыстафан! Рабле! Эразм Ратэрдамскі! — што такія дурнаватыя блазны, такое блазенскае — неад'емнае чалавечай прыроды, як розум і сэрца, без яго чалавек і жыць не можа, відаць, памірае, усё чалавецтва даўно б вымерла, каб яго не ратавалі час ад часу такія блазны. Мы доўга маўчалі.

— Так, так, відаць,— раптам паспешна сказаў я, хоць, здаецца, і не пачуў ніякага пытання, але мне падалося...— Ды яшчэ як відаць!..

Як выязджаць з Белай Русі, перад Смаленскімі гарамі ёсць вялікая плоская раўніна — лугі, балоты, невялічкія лясочкі, хмызнякі, дарога аднастайна бяжыць, імчыш па ёй з асаблівай прыемнасцю. Машын

пад вечар мала, вакол пустынна, сонца паціху хіліцца за тваёй спіной да зямлі, таксама добрае, нейкае дамашняе. Тут мала вёсак, гарадоў зусім няма, проста даўгі гонкі разлог, які дае прытулак душы. Кантрапункт. Лепш не скажаш, чым гэты музычны тэрмін. Яшчэ не сціхлі мелодыі Белай Русі, а пачынаюцца песні Вялікай. Узаемапранікненне і перапляценне музык, пераход ад адных мелодый да другіх. Калі едзеш да Смаленскіх гор, гэтая бясконцая шыр рыхтуе цябе да нечуваных прастораў, да перападу настрояў у прыродзе і людзях. А калі бяжыш адтуль, з Расіі, гэта шыр улагоджвае, супакойвае — да белай, белай Белай Русі!

Аднойчы, праехаўшы гэту раўніну, вырашыў уладкавацца начаваць на першым пагорку. Збочыў палявой дарогай, потым проста выганам і ўзняўся на пагорак. Ужо шарэла, ехаў з фарамі. Стаў роўна, выключыў, нарэшце, гэту фыркалку-матор, вырубіў рэзкае святло. Пашукаў для заспакаення Палярную зорку — слава богу, яна свяцілася на сваім месцы. Дастаў пліткy, ускіпяціў чайнік, кінуўшы ў ваду духмяны чабор з мятай. І сядзеў на маленькім паходным зэдліку, пацягваў чабаровы водыр, глядзеў у бок вечаровай Белай Русі — такая лагода прыходзіла ва ўсё цела. Неба было агромістае, чырвона-ружовае. Рэшткі святла гулялі ўжо ў недасягальных касмічных далях. Потым перавёў погляд уніз, на шырокую даліну, якая ахуталася паўзмрокам, і быў уражаны і зачараваны невядомым свячэннем, што ішло па-над далінаю праз цёмную імглу. Нейкае фасфарычнае. Там былі і даўгія роўныя і шырокія палосы, і пункцірныя, і вясёлкавыя, яны запальваліся, гаслі, рухаліся. Найчасцей яны ішлі ад Белай Русі сюды, да пагорка, праз пагорак. Доўга, забыўшыся на духмянае чабаровае пітво, глядзеў, не могучы зразумець гэта дзіва. Не было страшна. Праўда, углядаючыся, заўважыў і чорныя палосы, дзягцяр-

ныя, цяжкія, іх было нямнога, але яны выклікалі неспакой.

Амаль не спаў тую ноч. Забраўся ў свой усюдыходзік, накрыўся некалькімі коўдрамі, бо ноч была халаднаватая, і праз адчыненыя заднія дзверцыназіраў за граннем палос. Відаць, час ад часу прысынаў, бо мае цвярозыя назіранні пераходзілі ў фантастычнае трызненне. Густая чорная паласа — то ж рухаецца Напалеон! Я бачыў яго гвардзейцаў — вусатых і вясёлых салдат, яго даўгія рознапляменныя абозы, і сам ён ехаў у карэце ў акружэнні коннікаў, праўда, не ўсё было дастаткова ясна, праносілася ценямі.

А вунь — мае майстры! То была шырокая, роўная, светлая паласа.

Цякла Белая Русь на ўсход.

Шмат было дзівотнага, нязнанага за час гэтага падарожжа. І налятталі ўзброеныя людзі, хапалі некага і гналі ў палон, хоць вядома ўсім было, што абоз выходзіць на імя патрыярха Нікана, і збочвалі ў такой нецемры з дарогі, трапляючы ў невядомыя землі да невядомых народаў: былі і лагодныя, але былі і злыдні — не прывядзі гасподзь! Біліся з нейкімі звярамі, можа, і з самімі змеямі, бо часам надта многа галоў было на адным тулаве, ды і полымя шугала з адкрытых пашчаў; праходзілі праз землі мытнікаў (пазней іх назавуць бюракратамі), якія не бачылі ні жывых людзей, ні коней, ні вазоў, а толькі паперкі, што ім паказвалі, мытнікі насілі велізарныя акуляры, відаць, гэта і былі асаблівыя фільтры, што бачылі з усяго сусвету адны паперкі; спакушалі абознікаў вядомыя амазонкі, яны насіліся на конях незвычайнага рысістага скоку. Амазонкі былі ў лёгкіх непасшываных адзеннях, вецер адхінаў іх, агаляючы велізарныя чаруючыя

грудзі, майстры шалелі, жанкі і дзеці чапляліся за іх, не выпускаючы з воза, але нехта вырываўся, знікаў у абдымках амазонак, і доўга быў чуцен перадсмяротны дзікі крык канаючых, так што пудзіліся коні і скакалі, як ад ваўкоў...

Абоз ішоў і ішоў у цемру. Але мала таго, праблукаўшы тыдзень запар, людзі пачулі спачатку няясны, а потым усё больш акрэслены гул — не раўнамерны, а як бурчанне далёкага грому. Паперадзе ішлі, няйначай, касмічныя мяцеліцы. Бліскавіцы-віхуры, магутныя грымоты. Абоз уваходзіў у іх велічны несціханы рух. Што проці гэтага пышнацелае Фросіна трымценне, якое ў свой час перажылі будаўнікі сабора!

## 4

Абоза ўсё не было.

І яшчэ адна спатканка была ў Нікана з жанчынай немагчымага ведовішча.

Не паспела княгіня Ядвіга даскакаць да Масквы, як Нікан раптам збялеў, счарнеў, настрыбушыўся, заціх, разгневаўся і гаркнуў Нікіфару:

— Вярнуць тэрмінова! — грозна гаркнуў, так, што шыбы ў вокнах страпянуліся. І крыху мякчэй загадаў: — І каб ні адзін волас з яе галавы не ўпаў. У ногі кланяцца!

О, такое найшло. Чалавек неспакойны, уладарны, прыспічыць што — радзі! Узняўся на ногі ўвесь манастыр. Хуценька адправілі наўздагон найбольш геглага дзяка Палішчука з некалькімі патрыяршымі стральцамі, і тыя памчалі што віхуры, заганяючы коней. Аднак не так проста было адшукаць княгіню. Да Масквы не адна дарога вядзе, і не адны багатыя баярскія харомы пад Масквою. І ўсё ж дзяк смела рашыў па сле-

дзе княгіні, што быў ясна азначаны не толькі шапаткімі шаўкамі ды гарцаваннем белай адкормленай кабылы. Дзяк пацягнуў спрактыкаваным хітрым носам і сказаў у захапленні і здзіўленні: «Ого!» Бо цягнула ад следу і рамантычнымі начнымі шпацырамі пад поўняй і без поўні, і вытанчанымі замежнымі балямі, і дзікімі п'янымі оргіямі, і грахоўнымі церамнымі прыгодамі. Што аса ўлятала княгіня ў харомы, наводзячы перапалохі, узбуджэнні, вынішчэнні. Ужо не прымаецца пад увагу бушаванне жаночых церамоў, дзе былі і плач, і крыкі, і істэрыкі. Жаночыя слёзы — вада. Праўда, жанчыны набывалі ў часе гэтых выпрабаванняў новыя душэўныя тоны, у якіх былі адначасова і нянавісць, і захапленне княгіняй — то было істотнае для будучага жыцця. Галоўныя сур'ёзныя спрэчкі ішлі на мужчынскай палавіне. Тут не толькі секліся на шашках, але дайшло нават да прыступаў і пушачнай кананады, да ратавання ў падземных хадах, пагоняў і інш. А калі дзяк Палішчук узяў у рэшце рэшт самы апошні свежы след княгіні, ён зноў апынуўся непадалёку ад Новага Іерусаліма, абкружыўшы вакол Масквы супроць ходу гадзіннікавай стрэлкі. У двор баярына Бабарыкіна дзяка не пусцілі, перабрацца цераз сцены было немагчыма, тыя былі высачэзныя, з метровых бярвенняў, і ўсюды стаяла варта — з чаго дзяк і вывеў, што княгіня менавіта тут. Дзяк яшчэ раз павёў хітрым носам і падаўся на адпачынак у бліжэйшы лясочак, адкуль былі відаць галоўныя вароты, двум стральцам наказаў пільна назіраць за харомамі. Але не паспеў дзяк пабачыць і першы сон, як яго разбудзілі. Атрад казакаў чалавек з 20, наперадзе з нейкім расфуфыраным баярынам, набліжаўся да харомаў. Умомант вароты былі зачынены, і стражнікі строілі кпіны казакам з крапасной сцяны. Казакі пагарцавалі вакол і паскакалі прэч. Але не ўлёгся за імі пыл, як

новы, большы атрад імкліва выскачыў аднекуль, прарраўся скрозь адчыненыя вароты, пасекшы варту, але далей не мог прасунуцца, бо набеглі стральцы, завязалася бясконцая валтузня, у час якой абодва бакі не заўважылі, як міма іх на белай кабыле выскачыла з крэпасці амазонка з двума кавалерамі на вараных конях, за імі ніхто не ўвязаўся. Княгіня падскакала да лясочка, у якім сядзеў дзяк, спынілася, чакаючы кавалераў, і тут дзяк выкінуўся са сваёй засады, бухнуўся ў ногі белай кабыле — тая аж на дыбкі ўзнялася.

— Цо хцэш, галган? — крыкнула гнеўна княгіня.

Дзяк, не ўстаючы з каленяў і бесперапынна кланяючыся, слёзна прасіў-маліў на хвіліначку заехаць да Нікана.

— О, чаго захацеў! Да гэтага старога кабана?! У такую дальнюю дарогу?!

— Ды не, ваша светласць, манастыр побач, вунь ён, відаць адсюль.

Княгіня весела засмяялася і сказала кавалерам:

— О, панове, я зараз даведалася, што мы ўсю Маскву абкружылі і ўзялі ў палон. Мы зноў трапілі да вялікага патрыярха Нікана. Па новым крузе не варта пачынаць, гэта нецікава, але завітаць да патрыярха, перш чым падацца на Маскву, не зашкодзіць. Ну, гайса! Вядзі, манах!

Дзяк умомант апынуўся на кані, і маленькі атрад паскакаў да манастыра. Так што жанчына немагчымага відовішча неўзабаве з'явілася перад Ніканам.

Як для княгіні, але для Нікана гэта была поўная вялікага значэння дзея. Дзяк Палішчук падрабязна і красамоўна, не хаваючы іроніі, расказаў Нікану, як ён паляваў і прыпаляваў княгіню, але Нікан быў сур'ёзны, ні разу не ўсміхнуўся, як то бывала, смачна памужыцку не вылаяўся — дзяк прыціх, стаў больш пачцівы.

— Ну, ідзі,— сказаў Нікан.— Ды адпусціцца табе тваё непаразуменне.

Што зусім здзівіла дзяка: ці не ўпаў сам Нікан у непаразуменне?

Нікан знаў і не хаваў ад сваіх думак такую прыроду княгіні Ядвігі. Але гэта жыццё княгіні Нікана зараз нікольки не бянтэжыла. То слабасць чалавека, у кожнага ёсць калі не такая, то іншая. Але ці варта гэтым вымяраць чалавека? У чалавека заўсёды ёсць нешта дзівотнае і высокае.

Як і пасля першай, пасля другой спатканкі Нікан доўга не мог дайсці да ладу ў сваіх думках і адчуваннях, што зноў для яго было абсалютнай нечаканасцю. Бо на тыя гады ён так многа зведаў і пазнаў, што яму здавалася — ніщто для яго не будзе нечаканым. Але глядзі ж ты!.. На гэты раз яму проста захацелася, каб ахінулася подыхам гэтай жанчыны немагчымага відовішча кіпарысная выява храма, бо толькі тады ён здолее зрабіць патрэбны кірунак новаму храму манастыра.

Нікан дзіваваўся, што першы прыскок іншаземцаў быў адчувальным штуршком у яго душу. Гэты бляск вачэй, хваляванне рыжых валасоў, шапаценне шаўкоў, зменлівая змяістая ўсмешка... Прыйшла формула, што такое больш патрэбна, чым правая праўда. Усё пераблыталася ў яго галаве, і як раней ён з такой лютасцю ненавідзеў хлёсткія норавы іншаземцаў, іх непрыстойныя адзенні, іх усмешкі, у якіх было больш ветлівасці, чым шчырасці, дык зараз павярнуўся да гэтага ўсёй істотай. Другой спатканкі ён чакаў нецярпліва, ён хацеў пераканацца, ці правільна ён зразумеў гэту жанчыну немагчымага відовішча, бо яна была як прывід, і тое ззянне, што яна пакінула ў ніканаўскім пакоі, з цягам часу згасла зусім. І асабліва гэта спа-

трэбілася, як ён аднойчы зразумеў, для подыху на Іерусалімскі храм, выява якога стаяла ў сенях.

І планы, і гэтую выяву прывёз спецыяльны ганец з Іерусаліма, тут, на істрынскіх пагорках павінен быў узнікнуць Новы Іерусалім. Нікан гадзінамі праседжваў ля гэтай кіпарыснай выявы храма, гадзінамі разглядаў планы, намаляваныя на асаблівай тоўстай і мяккай усходняй паперы. Спачатку яго захапленню не было мяжы. Яму ўсё падабалася. І формы кубоў, трыкутнікаў, кругоў, купалаў, і выразныя кінутыя сям-там мармуровыя аздобы, што ўтваралі крыжы, квадраты. То быў нязвыклы дзівотны Іерусалім. Просты, без мудрагельства, што сялянская хата, толькі мармуровыя аздобы, паказаныя на выяве перламутравай інкрустацыяй, ператваралі гэтую скрынку ў каштоўны куфэрачак. Але чым больш праседжваў Нікан ля выявы, тым часцей упадаў у сумненне. Дзе ён возьме такі незвычайны камень? А без яго зробіцца простая пуня, гумно. Трэба, каб сам камень святло вылучаў. А гэтыя квадраты і крыжы?.. Паглядзіш на іх — душа высыхае, мярцвеюць токі жыцця. Там, у Іерусаліме — храм труны Гасподня. Уласна кажучы, маўзалей, аздоба і ўсе формы храма адбіваюць вобраз смерці. Але такое нельга для Русі!

О, смерці і напасці на Русі і так багата. Часам толькі гэтым і жывуць людзі, дакладней, **не жывуць.** А паміж малітвамі накідваюцца адзін на аднаго што злыдні. У нейкае зачараванае кола трапілі. Нават не кола, а вінтавую лесвіцу-спіраль, што вядзе ўсё ніжэй і ніжэй у д'ябальскія сутарэнні. А тут яшчэ незвычайная сіла, што ўваходзіць у кожнага чалавека, і калі гэта сіла будзе апускацца разам з людзьмі... Як вырвацца з гэтай лесвіцы?

А, вось яно што! Вось чаму ён, адмовіўшыся ад патрыяршаства, пабег не ў маскоўскі патрыяршы двор,

не ў Троіца-Сергіеў манастыр! — раптам зразумеў Нікан. Ён ірвануў сюды, дзе чыста і гола. Бо там — калалесвіца. Яна б і яго ўтаймавала, уцягнула ў свой уладарны спуск у бездань. Ён у Троіцкім заўсёды пачуваў сябе нядобра. Яшчэ здалёк на падыходзе, пабачыўшы макаўкі, мярцвеў. Сціхалі думкі, бляск вачэй, а калі ўязджаў у манастыр, то яго, Нікана, ужо не было, ён быў што крыж, купал, зямля. Рухалі ім. Яго страчалі служкі, рассцілалі дываны пад яго ногі, вялі пад рукі ў пакоі. Ён трапляў што рыба ў нерат. Уставаў толькі ў пэўную гадзіну (патрыярх не можа прачнуцца ў іншую!), служыў службы (не можа патрыярх не адслужыць гэтай службы!), вёў спакваля прыстойныя духоўныя бяседы з мітрапалітамі, патрыярхамі, вялікімі баярамі (няможна не весці). А ноччу Нікану сніліся кашмары. Манахі, што чэрці, кладуць яго на патэльню, асцярожна і пяшчотна — патрыярх гэта! — смажаць і радуюцца, што хутка паспее свежына. А то яшчэ што горшае прысніцца. Манастыр меў цэлы набор такіх кашмараў. Іх Нікан пераглядзеў па некалькі разоў. Даволі! Яму падавалася: менавіта гэты манастыр і ёсць вастрыё іголкі, што цягне за сабой уніз усю Русь. Змярцвенне. Нічога нельга змяніць. Там усё высахла і людзей сушыць. Таму Нікан кінуў тую сваю сталіцу і заснаваў новую, дзе кашмарныя троіцкія сны яго не дастануць. Тут ён можа выбудаваць, што жадае, каб гэта надавала жыццю пэўны **кірунак.**

Вось як яно!

Нікану здавалася, што жанчына немагчымага відовішча тоіць у сабе пэўны жыццёвы пачатак. І ён хацеў, паставіўшы гэтую жанчыну побач з выявай храма, ахінуць храм новай сутнасцю.

Яны зноў прыйшлі, як і тады — папярэдзе яна, а за ёй два кавалеры. І з той жа помпай. Крыху пагаварылі

бог ведае пра што, потым Нікан запрасіў агледзець выяву храма з Іерусаліма.

Княгіня грацыёзна ўстала, усё з тым жа чароўным, чаруючым шапаценнем шаўковых адзенняў, няспыннай зменлівай усмешкай на тонкіх вуснах, даўгія рыжыя хвалістыя валасы змяіста пабеглі ўніз, тонкія чорныя насурмленыя бровы здзіўлена і трапятліва падняліся ўгору, яна не падышла, яна праззяла, праструменіла на сярэдзіну пакоя, дзе на маленькім, точаным з дарагога дрэва століку стаяла жоўта-карычневая кіпарысная выява. І — о! Ззянне дакранулася да выявы, абдало яе густа і церпка — выява дыхнула такім новым і нязвыклым, што Нікан на момант сумеўся, уражаны нечаканасцю. Ён зрабіў некалькі крокаў да іншаземцаў, на імгненне затрымаўся, спынены думкай, ці варта яму так набліжацца, але потым смела, як заўжды, падышоў вельмі блізка, проста пранік у сістэму няспыннага срабрыстага ззяння, прыгожага і мілагучнага спеву нечуванай скрыпкі і адчуў, як яго ўсяго акрыліла гэта невядомае мроістае і радаснае святло.

Ён нешта тлумачыў ім пра новы храм і гэтую выяву, але і ён, і яны, асабліва яна, ясна зразумелі, што не гутарка галоўнае, а тое ўзаемапранікненне, спалучэнне і з'яднанне подыхаў, што ішлі з аднаго боку ад яе і кавалераў, а з другога — ад яго, Нікана. Ён надаваў ім сілу і моц вялікай і грознай зямлі, якая станавілася іх радзімай, а яны аввалі яго лёгкім, срабрыстым, зменлівым, нібы ртуць, набыткам, што ўзрасцілі заходнія замкі і вольныя гарады. Калі ён адчуў, што такога дастаткова, ён, як мага больш ветліва ўсміхаючыся, адышоў ад іх, падняў для бласлаўлення руку з трыма пярстамі і сказаў:

— На шчасце і на доўгае жыццё вам у нашай краіне.

І асяніў.

Яны пачціва схіліліся. Кавалеры, стаўшы на адно калена, дама зрабіла глыбокае прысяданне, падабраўшы шапаткія падолы і ў пакоры нахіліўшы галаву.

— Хвіліна еднасці духу людскога — важнейшая хвіліна жыцця чалавека. Суцішымся на хвіліну для еднасці...

Яны пачціва стаялі, нахіліўшы галовы, а Нікан трымаў перад імі благаславенны жэст, укладваючы ў яго сілу сваёй душы.

І ўсё ж Нікан, доўга седзячы ў крэсле ля выявы храма, дзе адчувалася новае неадольнае ззянне, і недаўменнем корпаўся ў думках, ніяк не могучы высветліць, навошта так рашуча — а толькі так ён усё і рабіў,— навошта ён кінуўся да гэтага ненавіснага яму лацінства?

І лёс яго папярэджваў, і знакі розныя выходзілі — не кідацца! Ён кіраваўся вышэйшым прадвызначэннем. Люта кіраваўся, без аніякіх адхіленняў. Уся Масква памятае, як па яго загаду збіралі па горадзе іконы новага пісьма, і Нікан выколваў святым вочы, біў іконы з такой сілай аб жалезную падлогу, што тыя разляталіся.

— Спаліць брыдоту і ерась!

Да яго падышоў цар Аляксей Міхайлавіч, які ціхмяна слухаў бушаванне, і далікатна сказаў:

— Не, бацюшка, не загадвай іх паліць, загадай лепш закапаць іх у зямлю.

А тут раптам — трах-бах! Калі ўжо дакладна і моцна ўсе ўверыліся, што ён — люты вораг лацінству.

Нешта цягне выбрыкваць. Ён адчувае свой лёс, яго ход. Але — насуперак! Перайначыць, пераблытаць, пераначыць. Даўняя глухая і зацяжная барацьба. Ён нават паламаў прадвызначэнне, дадзенае яму яшчэ ў дзяцінстве, што ён будзе вялікі гасудар. Адрокся. Сам. Ды не, тое чарцяня, што сядзіць у ім, не вінаватае —

пачвара рахманая, несупярэчлівая, дураслівая, што шчаня. Куды яму! Сам д'ябал такога б не выкаблучыў. Патрэбен ён, Нікан, асаблівы чалавек, во такой плоці. Нікан з задавальненнем памацаў свае рукі, ногі — усё загартаванае цяжкай работай і нялёгкім жыццём, цела вялікае, сялянскай мацнаты, у рыжых валасах, са шматлікімі рыжымі канапушкамі, з рыжымі вачыма. Што агонь. Гарыць! Ніяк не ўтаймуецца. Ён не шкадуе ні аб чым — што б гэта цела ні зрабіла. Яно не раз зводзіла яго з гладкіх роўных дарог, з непамерных вышынь. Такой бяды! Узвядзе на большыя! Нават адрачэнне ад патрыяршаства... Здаецца, ён падае ў невыносную бездань. Яно адмовілася! І зноў некуды вядзе — каб праз тры вякі ўсю яго эпоху гісторык мог вызначыць тэрмінам «ноўшаствы патрыярха Нікана». Ён верыць гэтаму целу больш, чым самому сабе. Няхай скача! Яму многа дадзена. Не зашкодзь!

5

Божухны! Гэта ж Мельнікаў! Той сучасны вялікі дойлід з Белай Русі, акадэмік, што выбудаваў побач з ніканаўскім саборам грандыёзны купал-шар. Паслухайце, што кажа пра Мельнікава заслужаны будаўнік РСФСР В. В. Кузняцоў (магнітафонны запіс):

— Мне падабалася ў ім гэта ўпартае імкненне пераадольваць тое, што не паддаецца. Гэта было ў яго нават у адносінах да ўласнага цела. Ён быў чалавек моцны, трывалы, надзелены добрым здароўем, але, канешне, як і ўсялякі чалавек, без патрэбнай засцярогі. Аднак што б ні здарылася з ім — ці хварэў на горла, на ногі, ён ніколі не пакідаў свайго месца. Аднойчы нагу цягнуў з-за таго, што адкладваліся солі, два месяцы запар. «Ты ведаеш, кажа, нага... Але я прыеду на суботу і нядзелю на дачу — і яе ламаю, ламаю. Жах-

ліва балюча было, але бачыш — распрацаваў». І вось так ён усё рабіў. З напружаннем, упарта, пераадольваючы. У яго быў пры гэтым нейкі азарт. Ды і з начальствам сваім непасрэдным ён заўсёды размаўляў так, нібы нешта пераадольваў. Ён быў адкрыты, рэзкі. І галоўнае — потым ніколі ні аб чым не шкадаваў, нібы так і трэба было. Ён быццам запраграмаваў сябе на такія паводзіны.

С. Б. Ткачэнка, інжынер:

— Я сам быў сведкам, як нейкая нарада з вельмі высокіх асоб прыходзіць да тупіка: ніхто не можа ўзяць на сябе вырашэнне складанай задачы. Крытычная сітуацыя. Раптам Мельнікаў устае і гаворыць: — Я бяруся вырашыць!

Нібы хто яго падбухторвае, незалежна ад ягонай волі, можа, потым ён і сам дзівіцца, хоць і не шкадуе.

— Я бяруся!

Тут на пристойнасці і разважлівасці далёка не пойдзеш. Адчайны азарт! А зрабіў нарэшце ці, лепш сказаць, зрабілася яно, гэта збудаванне, нібы вырвалася, выкінулася з тваёй душы і цела, і сам дзівуешся і ўцяміць не можаш: божа міласцівы, няўжо хапіла смеласці такое нечуванае ўчыніць?

Неверагоднай велічыні атамныя катлы, тэлевежы, што імкнуцца за воблакі, металёвыя купалы, што могуць перакрыць цэлы горад, стометровай вышыні цэльназварныя доменныя печы, элінгі з неаглядныммі ўнутранымі прасторамі для будаўніцтва марскіх караблёў, фантастычныя гіганцкія тэрмасы для газу, у якіх тэмпература мінус 160 градусаў, на канатах вісіць дах над будоўляй — ад гор да гор. І інш., і інш.

На паўсядзённы абывацельскі погляд можа падацца, што ўсё гэта вырасла натуральна, як то бывае ў прыродных дзівах — само сабою, дзякуючы нейкаму кур'ёзу. Але на самай справе не кожны вялікі кан-

структар адважваўся. Бо тут усё было невядома. Якую абраць канструкцыю, якую форму, які метал, як яго злучаць, як зрабіць разлікі, якія метады будаўніцтва ўжыць, а калі ўзвядуць — ці будзе гэта стаяць і служыць як патрэбна.

Але ў вачах з'яўляецца адчайны, вясёлы, дзёрзкі бляск, пад сэрцам ледзяны халадок, ён аглядаў усё нейкім шырокім кругам у амаль фантастычных трызненнях, адважных, як сама думка пра бога ці яго звяржэнне, як табліца Мендзялеева і ракеты Цыялкоўскага, як выклік свайму ўласнаму лёсу, што заўсёды так моцна трымае нас у пакоры.

— Я бяруся вырашыць!

Во такія людзі. Наравістыя, неўтаймаваныя, што дзевяты акіянскі вал.

Як бываюць такія і звяругі, і дрэвы, і рэкі, і зямля, і ветры, і хмары.

Дзевяты вал, дзевяты вал!

Пасля такога свет робіцца іншы.

Па-іншаму свеціць сонца, веюць вятры, растуць травы, цвітуць кветкі, смяюцца і плачуць людзі. Усё па-іншаму.

## 6

Удар, яшчэ ўдар, моцны, магутны. Мы апынуліся ў новым свеце. Тут усё другое. Рэчы, размовы, дамы, словы, нават паветра, вада, нават рухі-жэсты нашага цела. Мы па-іншаму падымаем руку, па-іншаму бяром, абдымаем каханую, у жэсце інакшае напружанне. Нам смешна бачыць людзей у старых фільмах, як і тыя старыя рэчы і машыны. І ніяк не дасі веры, што ты сам там жыў і быў тым чалавекам! Усяго паўвека назад. А калі раптам па нейкай памылцы заляціш у той час, цябе так шугане — ужо адтуль, з мінулага...

Прачнуўся. Прыцемкі даўно мінулі. Я ў нейкім драўляным дамку. Не магу адразу ўцяміць, што да чаго. Механічна ўстаю і іду ў двор. Цішыня і глухата. На чорным небе высока і холадна скрозь густыя воблакі праглядвае поўны месяц. Ніякага гуку — ні людской гамонкі, ні брэху сабак, ніводнага нават слабага агеньчыка. Пагасла электрычнасць, і ашаламляльная цемра ахінула зямлю — як некалі было на вёсцы, нібыта тыя часы раптам вярнуліся. І няма ніякіх гарадоў, залітых безупынным электрычным святлом, няма метро з бясконцымі людскімі натоўпамі, што імчаць у вечным святле, няма шалёных і грымотных электрычак, велізарных, што дом, аўтобусаў, няма агнявых заводаў з іх незлічонымі волатнымі асатанелымі машынамі. Нічога няма. Чалавек зноў адзін на адзін з прыродаю, у прыродзе — з дрэвамі, якія здаюцца непамерна высокімі, з зайцамі, што лётаюць зімой у яблыневы сад па смачныя ласункі, з ваўкамі, якія падыходзяць выць пад самыя вокны... Што тоіцца ў гэтай бясконцай і глыбокай начной цемры, у той страшэннай таямнічай вышыні? Цемень стаіць над зямлёю. У ёй густыя незразумелыя з'явы-відовішчы, дух чалавека соладка тоне ў задыхальнасці і вільготнасці — у нечым вязкім, цягучым, як мёд... Глуха цурчаць жывыя крыніцы, у дзікіх дрымучых лясах — непалоханыя птушкі, на агромністых балотах першабытная ціш, на лугах — свежы вецер, настоены на травах...

Згублены рай!..

А раней перад ноччу былі яшчэ і прыцемкі, шарая гадзіна. Кончыўся дзень, ноч не наступіла, змрок насоўваецца павольна. Сціхае зямля. Дзённыя работы скончаны, дзятва сабралася ў хаце і не дурэе, маўчыць і маці, нічога не робіць, што нязвыкла для яе, сядзіць на лаўцы ля акна. Уваходзіць бацька, што запіраў на ноч хлявы. У гэтую шарую гадзіну ён уваходзіць па-



7 Зак. 2868

ціху, стараючыся не грымець намёрзлымі лапцямі, скідае світку, размотвае аборы, застаецца босы. На загнетку падрыхтаваны смаляныя лучыны, але маці не раздзьмухвае вугольчыкі, каб запаліць. Ніхто нічога не робіць у гэтую шарую гадзіну. Часцей маўчаць ці гавораць паціху пра нешта такое нерэальнае, непрактычнае, што, можа быць, бывае, але што не такое, як задаваць корм жывёле, ці касіць, ці араць, а нешта, што нагадвае святы — вялікдзень, Купалле, каляды.

А яшчэ...

Лета. Гарачынь. У бялёсым блакіце млеюць маленькія кудлатыя воблачкі, пад плотам у халадку, адкінуўшы з раскрытых пашчаў ружовыя языкі, валяюцца вясковыя сабакі. Ім няма чаго рабіць — няма чужынцаў. Пасеўшы на правады, спачываюць ластаўкі — як яны толькі ўчапіліся за гэтыя танюткія жылкі? Нас, хлапчукоў, вельмі інтрыгуюць гэтыя слупы з дзвюма жылкамі правадоў. Іх нядаўна паставілі. Кажуць, што па дроце ідуць словы. Мы не верым. Мы слухаем слупы. Прыціскаеш вуха да сухога і гонкага слупа, па якім сочыцца салодкая празрыстая смала. Слупы гудуць, як нудная валынка старога крывога пастуха Якава, але гэты гул аднастайны, высокі і трывожны. Мы б'ём каменнямі па слупах. Гул узбураецца, узрываецца.

За гэтым бушаваннем слупоў мы ледзь не прапусцілі больш вялікую падзею. Сабакі раптам ускочылі, надыбіліся і памчалі з ашалелай лаянкай на край сяла. Там чутно было вурчанне — за лесам. То ішла машына! І мы навыперадкі бяжым за сабакамі. Калі хлопцы збяруцца, то выхваляюцца: «А я два разы бачыў машыну», «А я тры!» Мы — па аднаму. Мы бяжымо з усёй моцы па глыбокім сыпучым пяску, што за вёскай. Ужо добра гудзіць. І яна, чорная, вуглаватая, страшэнная, што звяруга, вынікае ад лесу, шкрабецца нашымі пяскамі, узнімае воблака пылу. Мы ўцякаем ад даро-

гі. Але адзін, самы смелы, выскоквае на дарогу, становіцца на ёй, шырока рассунуўшы ногі, раскінуўшы рукі. Камікадзе! За паўвярсты аўтамабіль пачынае бібікаць. І цяпер мы будзем казаць: «А я чуў, як ён палохае — акурат як птушка-кнігаўка!» Аўтамабіль праносіцца паўз нас, абдаючы пылам, дымам, гарачым духам, моцнымі і рэзкімі пахамі, смярдзючымі, якія мы ловім, імкнучыся спазнаць. Самы дасведчаны, пырскаючы слінай, захлёбваючыся словамі, сцвярджае, што ён ведае гэта, яму казаў бацька: чалавек, кіроўца машыны, лье ў спецыяльную бутлю газу, гэткую ж, як і для газнічак, яна гарыць усярэдзіне і смярдзіць. Але якая газнічка!

І зноў ціш стаіць над вёскай і зямлёю, зноў млеюць у бясконцасці блакітныя нябёсы.

Згублены рай!

І мы бачылі вёску. Усю як на далоні. Кожнага жыхара, кожную хату, кожную дзірку ў плоце, кожны гурок на гародзе. Мы аглядалі з цікаўнасцю і прагна. Вяселле, хрэсьбіны, пахаванне нябожчыка — уся вёскаператаўчэцца пад вокнамі ці ў самой хаце. Бо адбывалася перайначванне свету — падзея, параўнальная з бясконцасцю блакіту — калыхалася ўсё наваколле.

Але такіх буйных падзей, светаўтвараючых, было мала. Жыццё ішло спакойна.

Штодня Фенечка вяла сваю гладкую карову на даўгім ланцугу пасвіць за вёску, Фенечка — блажлівая, вочы выпучаныя і касыя, яна вельмі баялася нас, хоць мы яе не чапалі, праўда, крыху калі паскірызуемся:

— Фенечка, мы тваю карову зарэжам.

Яна маўчала і толькі больш палахліва сціскала ланцуг. Пасвіла карову па межах, дзе трава была аж чорная, даўгім пругкім языком карова бясконца хапала яе, як брытвай. Фенечка глядзела на гэта цэлы дзень, і такая лагода і радасць былі на яе твары. Нават

нас, падшывальцаў, яна пераставала палохацца, мы з павагай абыходзілі гэта дзіўнае стварэнне, бо яснасць і празрыстасць зыходзілі ад вечнай біблейскай сцэны.

А то быў яшчэ сярдзіты чалавек. Нават дарослыя яго абыходзілі, нават вазы абміналі, а сабакі беглі са страху, падціскаючы хвасты. Як зыркне вокам... Дурное меў, казалі. Калі свіння ў каго акалее ці карова захварэе — Плімутрок сурочыў. Так баяліся яго, што і праклінаць яго баяліся.

І былі яшчэ Сцяпан з Галенай. Байкі пра іх хадзілі. Як Галена паліць у печцы. Бярвенні Сцяпан не рэзаў і не калоў — а навошта? Такая незвычайная дасціпнасць. Пакладзе Галена бярвенні адным канцом у печку, а як прагараць — падсоўвае. Так што ні пілы, ні сякеры Сцяпану не патрэбна было. Многа чаго было яшчэ ў яго, як ён, напрыклад, вяроўкі вязаў. Простых звычайных вузлоў у яго не было, можа, ён не ведаў пра іх, ён замотваў, заблытваў. І калі хто што не так зробіць, то казалі: о, нарабіў, што Сцяпан вузлоў. Ды і араў ён па-асабліваму, не па-людску, і касіў, і гной выкідаў. Нават ішоў не так, як іншыя. Але чалавек ён быў сур'ёзны, разважлівы, і ніхто ў вочы яму не смяяўся.

Быў яшчэ буян, Каральком звалі. Як цвярозы — ціхі, нават прыбіты чалавек. Але раз за год ён напіваўся — буяніў, бегаў па вёсцы ў адным споднім, а то схопіць кол і пачне высаджваць уласныя вокны...

Словам, жыць нам у тым згубленым раі было надзвычай цікава. Дзівотны, ясны і празрысты свет. Так здалёк, з сёння, бачыцца тое жыццё.

Згублены рай!

Аднойчы паставілі ад вёскі да вёскі тэлеграфныя слупы, і аднойчы ад лесу з'явілася, што чорная стра-

шэнная звяруга, велізарнейшая газнічка. Нават самыя разумныя дарослыя, нават бабкі, што варожаць, сурочваюць і прысушваюць, не ўзнялі лямант з гэтай прычыны. Ніхто і памысліць не мог, што гэтыя слупы ды газнічкі ўздыбяць сусвет — памкнуць людзей, звяроў, рэчы, горы, рэкі па зямлі, па вадзе, над вадой, нават над месяцам, што яны стануць страшэннай, велізарнай сілай, што яны саб'юць людзей у бясконцыя гарады-агламерацыі, якія цягнуцца на сотні вёрст...

Вежы, газголдэры, дамы, домны, дарогі, дзяржавы, курорты, курціны, кухні, рэстараны, кубрыкі, кватэры, цэхі, канвертары, камп'ютэры, манастыры, масты, правады, ракеты, метро, трубы гарызантальна і вертыкальна, машыны бліскучыя, што божыя кароўкі, агромністыя і нягеглыя, што мядзведзі, даўжэзныя, што змеі, каленчатыя, што кабылкі. Асфальтавыя стужкі дарогі кружацца бясконца і вечна, дамы імкнуць за воблакі, а іншыя ўрастаюць у зямлю. Натоўпы, што вада, то магутнымі вадаспадамі падаюць у зямныя нетры, то разліваюцца па водмелях-плошчах, то ўбіраюцца, як у губку, у дамы...

Горад мой, горад, любімыя вуліцы!..

Няма вам спакою і адпачынку, як няма спакою і адпачынку і мне. І калі вы спыніцеся — вы загінеце. І я загіну разам з вамі. Я памятаю мёртвыя вуліцы горада майго ў час вайны. Гэта страшна, калі горад маўчыць, як вёска і як лясы. Ён павінен грымець, каб жыць. На прылаўках павінны ўзвышацца пласкагор'і кніг, молат павінен каваць жалеза, зала павінна абвалам апладысментаў вітаць піяніста. Горад павінен жыць!

Я іду вуліцамі свайго горада. Шумяць ліпы. Горад, навошта ты ператварыў у камень вольных лясных жыхароў? Горад, я стаў вар'ятам, такім, як і ты. Я люблю вар'яцтва свайго горада, я ненавіджу яго вар'яцтва.

Ідуць людзі, спяшаюцца людзі, едуць людзі. Усміхаюцца, сур'ёзныя, заклапочаныя, шчаслівыя. Дзяўчаты ў яркіх убраннях, юнакі нязвыклых сілуэтаў, мужчыны ў брылях, жанчыны з сумкамі, падскокваюць дзеці.

І я ў гэтай плыні, адзін з мільёнаў.

Іду і слухаю спевы ліп. Добра, што ёсць жыццё. Не ведаю, хто яго прыдумаў, але добра, што вынайшлі жыццё.

Дзіўна прыдумалі жыццё. Прыдумалі камень і прыдумалі ліпы. І камень гаворыць з ліпамі. Мёртвае і жывое. Я жыву ў камені і ліпах. Камень і ліпа адначасова. Камень становіцца ліпай і пачывае спяваць і бачыць сонца.

Так я іду ад нараджэння да старасці. Ператвараю камень у ліпу і спяваю.

Горад мой, горад, любімыя вуліцы! Шугае полымя зялёных ліп, карагодзіць неба. Я п'ю сонца, п'ю ўсмешкі, п'ю неба, п'ю горад. У багоў не было такога нектару. Ён ёсць толькі ў мяне, у чалавека. Я яшчэ малады, і мне доўга хочацца жыць — жыць і жыць. Старым, маладым, дзіцёнкам. Толькі б жыць, піць неба. Карагодзіць неба, смяецца сонца. Якое жыццё! Здзіўляючае жыццё! Жыццё! Жыццё! Жыццё! Жыццё!

Які глыбокі сударгавы транс!

Так гукае шаман у вар'яцкіх скоках, выклікаючы замагільны прывід...

Не прабіць...

Не спяваюць ліпы. Даўно не спяваюць. Я забыўся, якія яны, тыя песні. Можа, некалі былі, відаць, былі. Былі ці не?

Жыццё, жыццё, жыццё, жыццё!..

Не прабіць...

Багністае, ліпкае, вязкае ахутвае з усіх бакоў. Не-

шта накшталт смугі, смогу. Уздыхнуць няможна, што
рыба, выцягнутая з вады...

Хутчэй, хутчэй! Збіраюся ліхаманкава. Адна шкар-
пэтка чорная, другая рыжая, накідваю куртку, імчу-
ся да ліфта — не працуе! Бягом бясконцымі маршамі.
Стоп! Парасон! Забыўся на чорны парасон! Тут такая
справа — без яго нельга. Толькі чорны і толькі пара-
сон. Жонка ледзьве купіла з рук за вялікія грошы. Трэ-
ба! Бягу наверх, сэрца не цягне, бягу. Чорны парасон.
З ім больш спакойна. Я нават не бягу, а іду, ведаю, што
паспею, бо са мной чорны парасон. І нішто не можа
здарыцца. Насіце ■ сабой чорныя парасоны! І ўлетку,
і ўзімку!

Я ўразаюся ў тысячарукую, тысячаваконную, тыся-
чаколавую істоту, яна падхоплівае мяне, як бурлівая
плынь трэсачку, нясе, круціць, цягне, цісне, усмокт-
вае, выплёўвае. Я толькі мацней сціскаю ручку старо-
га чорнага парасона. Добра было б раскрыць — тады
прыходзіць палёгка. Але саромеюся — пакуль. Бачу
час ад часу сапраўдных чорнапарасоннікаў. Яны, што
астравы ў віры — спакойныя, недатычныя. Зайздро-
шчу. Можа, і я калі-небудзь прыдбаю такое для сваёй
душы. Можа, тады, нарэшце, убачу людзей. Шчыра
кажучы, мне хочацца іх убачыць, бо так адзінока. Мой
сабачка, што торміцца цэлы дзень у кватэры, калі, гу-
ляючы, пачуе сабачы брэх — ірве, што шалёны, праз
ямы, платы, скрозь колы машын, скрозь натоўпы,
пад'езды. І я менавіта гэтак жа жадаю ўбачыць чала-
века. Але ўсе пахаваліся. Натоўп, як і я, не людзі. То
маса. Можна паставіць на яе шляху кулямёт ці выка-
паць яму — ніхто не заўважыць, што знікаюць цэлыя
плыні. Натоўп — бясконцы. Ён прэ безупынна. Яго не
спазнаеш, з ім не пагаворыш. У яго дзікія выпучаныя
злыя вочы, засмужаныя свінцом. Не дасі веры, што
кожны з гэтых людзей можа кахаць і яго могуць ка-

хаць, можа любіць дзяцей, што ў яго можа быць замілаванне да нейкай жывёліны, да дрэўца, травінкі, што ён можа нечым захапіцца, узвышацца душой і думкай, быць спагадлівым, ветлівым, спакойным, ясным. Прэ натоўп! Чалавека няма. Прэ натоўп! Што поезд метро, што аўтобус, самалёт. Бараніся! Хоць сам часцінка яго і ў цябе, ты адчуваеш гэта, такія ж дзікія выпучаныя вочы, і галава, поўная злыдзенства, і цела напружылася — стань хто на шляху! Мацней сціскаю ручку парасона. Не дапамагае. Натоўп мацнейшы. Я не магу выйсці з яго асатанелай моды.

Таму імчуся невядома куды з гэтым чорным парасонам.

Нарэшце зямля выплёўвае нас са сваіх нетраў на свет божы. Толькі тут заўважаю, што амаль усе трымаюць у руках чорныя парасоны. І я прurся ў гэтай апошняй плыні адчаю. Мы запруджваем вуліцу, спыняем рух транспарту. Прыбываюць нарады міліцыі, перакрываюць вуліцы, накіроўваючы аўтобусы іншымі маршрутамі. Міліцыянеры робяць гэта з абыякавай спакойнасцю, нібы такое здараецца штодзень. Калі праз некалькі гадзін ішоў назад — транспарт яшчэ не хадзіў,— вызначыў па кінутых паламаных чорных парасонах, выбітых вітрынах, невялікіх лужынках крыві, апошніх машынах «хуткай дапамогі», якія ад'язджалі, што натоўпу набілася на велізарнейшы раён, кіламетры чатыры ў радыусе.

Як удалося мне пранікнуць туды — бог ведае, сам дзіўлюся, відаць, па нейкай памылцы тых, хто пускаў. Ля ўвахода стаяў узмоцнены народ міліцыі, цісканіна была страшэнная, лезлі не адны мужыкі, нават жанчыны, нават жанчыны з дзецьмі, давілі, трушчылі косці, а яны лезлі, можа, спадзяваліся, што пусцяць з-за паламаных рэбраў, раздаўленых дзяцей, злітуюцца і пусцяць... Тыя, хто пускалі, былі, відаць, сапраўдныя

чорнапарасоннікі. Яны былі спагадлівыя, не таўхаліся, не крычалі, трымала ўсіх міліцыя, чорнапарасоннікі толькі ветліва і мякка ківалі, каго пускаць. Можа, ківўнулі і на мяне, але раптам сталёвая рука міліцыянера і дзікі ціск натоўпу зніклі — выйшаў на волю.

Стала свабодна. У той заміліцэйскай прасторы было іншае — сапраўднае чорнапарасоннае, абранае, адразу суціхала злосць, хоць усё цела яшчэ ліхаманкава калацілася. То была нейкая школа, мы ішлі даўгімі казённымі калідорамі паўз аднастайныя дзверы — усё шэрае, завэдзганае, звычайнае. Мы ішлі лабірынтамі калідораў, упэўнена, нібы кожны дзень так хадзілі. На развілках калідораў стаялі чорнапарасоннікі і накіроўвалі рэдкі ланцужок людзей — мякка і ціха. Адзін з іх спыніў мяне і сказаў:

— Пастойце, калі ласка, панакіроўвайце.

І я мякка накіроўваў. А потым і я ветліва спыніў некага і сказаў ціха:

— Пастойце тут, калі ласка, панакіроўвайце.

І пайшоў далей з ціхай плыняй людзей. Мы ішлі, узнімаліся лесвіцамі, апускаліся ўніз, праходзілі праз пакоі, дзе людзі, седзячы за сталом, спакойна, нібы дома, пілі чай з самавара альбо гралі ў карты, а то проста сядзелі ў крэслах і аб нечым спакойна, не спяшаючыся, гутарылі. У адным пакоі красаваліся дзяўчаты з паўночных вёсак, для іх зрабілі спецыяльны фон сціплай паўночнай прыроды. Іх было чатыры, яны трымаліся свабодна, нібы былі адны і на сваёй далёкай поўначы. Рвалі паўночны цвет рамонку, плялі вянкі, гарэзліва і цнатліва дурачыліся, што шчаняткі. То было як развітанне з дзявоцтвам, бесклапотнасцю, апошнія бестурботныя дні. Са шчасцем і сардэчным заміраннем яны рыхтаваліся да мацярынства.

А ў другім пакоі песціліся дзяўчаты іншага колеру і смаку. Яны былі ў лёгкіх, амаль празрыстых купаль-

ніках, паводзілі сябе вельмі дзёрзка. І хоць таксама нас не бачылі, але жылі занадта дэманстратыўна. Кожная часцінка іх адкрытых загарэлых пяшчотных цел так і свяцілася прагным пачуццём асалоды. Імгненная і безупынная асалода! Яны ведаюць і па сваіх бацьках, і па сабе, якая гэта нялёгкая, няўдзячная праца — расціць дзіця. Столькі трагедый. У муках нараджай гэтага дзіцёнка, а папершъ яшчэ вынасі, калі жывот пухне і становіцца такі пачварны, а потым цацкайся: кармі грудзямі, ночы не спі, а потым прызвычаішся да яго, пачнеш перажываць, ночы не спаць, хвалявацца з-за хвароб. Ды няхай гарыць тое жыццё сінім агнём-полымем!

Асалода і толькі асалода! Усмешкі, гранне зменлівай плоці, зіхатлівыя погляды. Я вольны чалавек і раблю што хачу! Ніхто не прымусіць мяне ахвяраваць сябе трагедыі. Асалода, мае капрызы, маё шаленства — мой закон. Буду шалець, як то можна і няможна, шалець, рабіць дзікія выхадкі, каб насаліць усім ханжам — з тых паўночных недаразвітых вёсак. Не толькі язык ім пакажу, але і сваю асалоду. Глядзіце і скрыгачыце зубамі, і плявузгайце, а я раблю сексуальную рэвалюцыю! Свабода! Без граху! Ніхто мне не забароніць, бо цела гэта маё, нікому нічым я не абавязана, і што вырву ад жыцця — то і будзе маё!

Усе толькі і здатны, каб чытаць мараль, павучаць, як трэба жыць, што можна рабіць, а што не. Усё можна! І калі падвярнуўся вялікі куш — хапай і бяжы, бо схопіць хто іншы! Такое жыццё, не зявай! Асалода! Шаленства! Свабода!

Прайшлі праз вялікую залу, відаць, спартыўную, бо па сценах былі шведскія лесвічкі, са столі звісалі кольцы. Там знаходзілася група людзей, чалавек у сто. Хто сядзеў, хто ляжаў — у самых розных вольных пастаах, нават спецыяльна вольных, як мне падалося. Лю-

дзі слухалі чалавечка, што сядзеў перад імі на стале і матляў час ад часу босымі нагамі. Чалавек мякка, крыху іранічна ўсміхаўся, гаварыў свабодна, не спяшаючыся, надзвычай проста і ўпэўнена, як настаўнік, ці, лепш сказаць, як спагадлівы, ветлівы, старэйшы сябра. Я прыпыніўся. Чалавек, як падалося, гаварыў аб самой сутнасці чорнапарасонніцтва.

— Ды не, можна рабіць сцяну. Вы кажаце, і вакол вас сцяна. І ўсё. Больш нічога не патрэбна. Сцяна стаіць. Ніхто вас не зачэпіць. Проста ў думках увесь час паўтараеце: вакол мяне — сцяна, вакол мяне — сцяна. Давайце разам: ва-кол-мя-не-сця-на!

— Ва-кол-кол-мя-мя-не-сця-на-на-ця-на,— пачуліся ціхія нястройныя галасы. І я казаў разам з усімі.

Чалавек мякка і спагадліва ўсміхаўся. У яго на маленькім дробным твары быў велізарнейшы, крывы, што ў папугая, нос, але чалавека нішто не бянтэжыла. Ён памахваў босымі, крывымі белымі нагамі і гаварыў-гутарыў. Заўважыў, што і ўсе сядзелі без абутку, ззялі белымі скручанымі нагамі...

— Можа, у тым уся наша безладзь і бядота, што мы рэдка даямо волю сваім нагам,— гаварыў вельканосы і босы чалавечак.— Мы сціскаем ногі, аддзялілі іх ад зямлі, мы не даямо электрычнасці свайго цела праз ногі пайсці ў зямлю — тым самым мы перанасычаем сябе энергіяй, ад чаго пачынаем кідацца на ўсе і ўсіх, рабіць розныя дурасці. Таму трэба некалькі разоў на дзень разувацца і датыкацца нагамі да нечага зямнога, каб выходзіла з цела электрычнасць. У пакоі можна проста прытуліць ногі да батарэі. Зняў абуткі, скінуў шкарпэткі і да батарэі. Не саромцеся. Тут нічога саромнага няма. Звычайнае чалавечае жыццё. Жанчынам складаней. Панчохі нельга пакідаць, нават капронавыя. Калі нельга зняць іх на рабоце — я раю прарабіць у іх дзірачку — акурат на падушачках вялікіх

пальцаў. Зрабіце акуратную дзірачку, асцярожна абмажце край клеем БФ-6, прагрэйце жалязкам — каб панчоха не разыходзілася. А іншыя хітрэй робяць. Прыклейваюць у гэтым месцы да панчохі тоненькі медны дроцік. Можна і сярэбраны. Але ніколі не залаты ці жалезны. Верце на слова. Можна вывесці такі дроцік скрозь бот да падкоўкі спераду, тады ўвесь час вы будзеце разраджацца, пазбаўляцца перанапружання. Гэта лепшае выйсце. Але то цяжка зрабіць самому. Робіць такое толькі адна майстэрня ў горадзе на Новаўсманскім завулку, але там велізарная чарга, не менш года трэба чакаць. Так што раю зрабіць дзірачкі.

Мяккая, іранічная, спагадлівая ўсмешка.

— Тут нехта пытаў пра мяса. Ні ў якім разе. Ні ў якім. Мяса выклікае агрэсіўнасць. Вы часам бачыце ў вачах людзей агрэсіўнасць. Яны ядуць мяса. Тут і думаць няма чаго, чаму так адбываецца. Звер заўсёды дзікі, агрэсіўны. Яго асаблівасці перадаюцца з мясам. Даказана, што мышцы маюць пэўную псіхалогію, дух, у іх сканцэнтравана псіхічная энергія. Яна не знікае, калі забіць жывёліну, застаецца ў мясе. Вы, можа, адчувалі: пастойце хвіліну каля мяснога аддзела, і ў вас пачынаюць уздыблівацца валасы на галаве, позірк становіцца такі — як у кошкі, што гатова абрынуцца на мыш. Нават блізка не падыходзьце да мяса. Не тое каб есці...

— А жывёлы — трымаць іх дома можна?

— Можна. Жывёла дамашняя — іншая справа. Заўважана, што канцэнтрацыял псіхічнай агрэсіўнасці павышаецца ў жывёле перад тым, як яе заб'юць. Відаць, існуе пэўнае супрацьдзеянне таму, каб яе не забівалі і не елі. І заўважана, што цяпер мяса стала валодаць большай агрэсіўнасцю. А вашы дамашнія жывёлы — кошка, сабака — таго не маюць: вы ж забіваць іх не збіраецеся, слава богу. Нават болей скажу. Трымаць іх

дома карысна, бо мы, калі з імі сутыкаемся, аддаём ім часцінку сваёй агрэсіўнасці. Надзвычай карысна...

Мяккая спагадлівая ўсмешка на папугаевым твары.

Я доўга стаяў і слухаў, разявіўшы рот, а потым усё ж пайшоў, бо стала няёмка. Басаседцы пачалі азірацца на нас, што стаялі абутыя, а велькакрываносы мякка сказаў:

— Хто прыйшоў да нас яшчэ — разувайцеся і прысаджвайцеся.

Але я не мог разуцца, бо, глянуўшы на ногі, убачыў на іх розныя шкарпэткі. Пайшоў зноў калідорамі і па пакоях, дзе пілі чай, мірна гутарылі, елі сырыя буракі, стаялі на галовах, развучвалі хорам свіст на матыў «У папа была сабака», разблытвалі пасмы нітак, клеілі скрыначкі, перабіралі крупы, таўклі ў вясковых ступах гарох, гладзілі чорных кошак, рабілі рэверансы тыпу іспанскіх, махаючы перад сабою вялікімі брылямі са страусавымі пер'ямі, а ў адным з пакояў, як мне ветліва паведаміў чорнапарасоннік, тэрмінова абзаводзіліся таленавітымі нашчадкамі, для чаго найбольш геніяльным чорнапарасоннікам — мужчыне і жанчыне — прапаноўвалася прайсці ў пакой, дзе стаялі ссунутыя школьныя парты.

Як высветлілася потым, я праблукаў па той школе гадзін шэсць, метро ўжо не хадзіла, давялося лавіць таксі, ледзьве дабраўся дахаты. Я зразумеў, уверыўся, што нам вельмі патрэбен гэты доўгі бясконцы ход па старой школе. Выйшаў адтуль суцішаны і прасветлены. Праўда, ужо ў таксі мяне зноў пачало насіць, варочаць, душыць, мяць тая асаблівая натоўпная сутнасць, што шчыльна вісіць у гарадскім паветры. Я як мог, успомніўшы насатага чалавека, узводзіў вакол сябе сцяну, можа, крыху дапамагала, але слаба, не мог яшчэ рабіць гэта як трэба...

Так што ліпавага спеву не пачуў, калі вылез з так-

сі — спецыяльна пастаяў і паслухаў. Гэта здзівіла, бо такую надзею ўскладаў на рэдкі збор чорнапарасоннікаў.

А ноччу сніліся страшэнныя кашмары, у якіх абавязкова ўдзельнічаў насаты і босы чалавек, аказваецца, ён пярэварацень, можа ператварыцца ў саву, каня, воблака. Але трэба сказаць, злым ён ніколі не быў. Заўсёды мяккі, спагадлівы. І то добра. Бо свет вакол закручаны і шалёны...

Круцяць віхуры, грымяць грымоты, і немагчыма вызначыць, у чым яна, апошняя ісціна чалавека...

Цяжка, павольна, нібы стэпавы арол, бягу і бягу па зямлі, махаючы крыламі, спрабуючы адарвацца ад яе. Гэта звышнапружанне — ужо і сіл не стае...

Няма апор, цвёрдых і прадметных, нейкія адчуванні-блуканні-роздумы-здані. І з прывідаў вынікаюць жахі...

Юбер алес, юбер алес!

Магутныя, бадзёры, размераны, узыходны маршавы спеў. У целе лёгкасць і сіла, і мы ўсе разам лёгка ўздымаемся над зямлёй — у велізарныя касмічныя прасторы. Не маем ні ўласнага цела, ні ўласнай думкі, ні пачуцця. Толькі гэта адно найвялікшае адчуванне адрыву ад усяго нескладанага, неарганізаванага, хаатычнага, зямнога. О, пабыць у такім — і на ўсё жыццё ў кожнай крывінцы і малекуле твайго цела будзе існаваць, жыць, дзейнічаць безупыннае імкненне да найвялікшай разумнай чысціні, да ўзнёсласці чыстага розуму.

Нас рыхтавалі да гэтага моманту доўга і загадзя. Ды не дзесяць гадоў. Дзесяць гадоў мы займаліся толькі муштроўкай, можна сказаць, наводзілі глянец на тое, што ўзгадавалі ў саміх сабе сваёй воляй і розумам на працягу апошніх стагоддзяў. Па крупінках, цяжка, старанна адбіралі, адсякалі бязлітасна залішняе —

дзень пры дні, што мурашы, мы перараблялі неразумную і цьмяную чалавечую прыроду ў рацыяналістычную крышталёвую структуру. Цяжкая, скажу вам, была работа, вельмі цяжкая! Але надзвычай патрэбная, надзвычай перадавая!

І, нарэшце, мы на гэтай плошчы, шырокай, як пустыня Сахара. Тут нічога няма няпэўнага і прывіднага. Роўна сцелецца ад краю да краю гранёны чатырохкутны камень, гладкі, без трэшчын, скрозь якія магло б што-небудзь прабіцца з зямлі — траўка, крынічка, бактэрыя. Нішто не можа! Стэрыльны камень. Яго зачысцілі смярдзючкай — крэазотам. І на ім стаю я, закуты ў сталь, у салдацкае сукно, у жорсткія маршы. Я не адзін. Па раўнюткіх лініях стаяць такія, як і я, жалезныя людзі. Мы зліліся з каменем, мы сталі каменем. Мы сталі яснасцю і парадкам, мы вытруцілі ў сабе ўсё, што не мае яснасці. Мы знішчым ва ўсім свеце ўсё, што не мае парадку і яснасці. Вецер не павінен шапацець кронамі дрэў, птушкі не павінны шчабятаць, жанчыны не павінны смяяцца, дзеці не павінны лепятаць. Усё гэта зданнёва і няясна, гэта прыніжае годнасць чалавека, і гэтага не будзе на зямлі!

Вы бачылі нас на гэтым пляц-парадзе, нас, жалезных, выбудаваных у жалезныя рады, бачылі строгія магутныя трыбуны з крышталізаваным арлом і велізарнейшай свастыкай, што круціцца насуперак ходу сонца. І я, жалезны салдат гэтага пляц-парада, загадваю вам: свет стане ясны і чысты!

Юбер алес!

Вышэй за ўсё!

Удар, яшчэ ўдар!..

І хлопчык, што выбег на дарогу і стаіць на ёй, рассунуўшы ногі, раскінуўшы рукі, збялеў, нібы вапна, а чорная звяруга-газнічка налятае на яго...

## 7

Абоз пад'ехаў да манастыра.

Стаў унізе, ля рачулкі. Выпраглі, як звычайна, коней, пусцілі на луг. Патрыяршы баярын Дзмітрый Мяшчэрскі сказаў майстрам, каб зараз начавалі, як заўжды, а заўтра няспешна забяруцца і прызначацца на жыллё, на работу, на харч. Так што палілі агні, гатавалі няхітрую зацірку, не без таго — выпілі па кілішку запашанай на такі выпадак моцнай гарэлкі, пачаставалі і баярына — той з задавальненнем крэкнуў, паматляўшы галавою і выпучыўшы вочы.

— Ото, гарэлка дык гарэлка!..

Майстры смяяліся. І было тут усё надзіва проста. Нават не таму, што ўсведамлялі: нарэшце дайшлі. Было добра, і ўсё. Быццам зямля іншай стала. А потым заўважылі, што і коням палягчэла, яны скублі траву, спакойна пафыркваючы, нетаропка аб'ядаючы ўсё наўкола, без мітусні, ціха перабіраючы спутанымі нагамі. І жанчыны, і дзеці былі несварлівыя, лагодныя. Суцішыліся касмічныя віхуры. Не, яны не зніклі канчаткова, недзе на далёкіх гарызонтах па-ранейшаму грозна ўспыхвалі зарніцы, чулася львінае рыканне, але то было далёка, ля манастыра быў нібы востраў, касмічныя віхуры ўтаймаваны тут уладнай воляй, перароблены на іншае — усе адчувалі незвычайны ўздым, нават спаць доўга не клаліся, было як на святы, хадзілі ад агню да агню, выпівалі тоненькімі кілішкамі гарэлку, стройна вялі лагодныя сяброўскія бяседы. А калі агні прагарэлі і вуголле пачало ахутвацца шызым попелам, апалі з неба грозныя цяжкія хмары, суціхлі на гарызонтах сполахі, на празрыстым небе прагляну́ў звонкі і чысты серп маладзіка.

Маладзік абмыўся. І як абмыўся! Хто б пабачыў — не паверыў. Была ноч яснейшая, крынічная. Людзі гля-

нулі на сваіх старых жонак, падалося ім, што зноў ідуць яны па першым каханні, нанава і навечна ў жыццё. А ў каго не было сваіх маладзіц, то ўбачылі гожых дзяўчат, убачылі ўдоў, і такое шчасце было на тых удовах, якія павінны быць заўсёды маркотнымі, і такая несцерпная радасць ішла ад дзяўчат, што тэрмінова знайшлі тут жа і попіка, паставілі іконы на вазах наўкола — заблішчэла ў новым храме, па купале якога плыў маладзік, так звонка, што стала відно. І ўсю ноч вадзіў попік вакол аналоя, што быў маладым майскім дрэўцам, шчаслівыя пары, надзяваў пярсцёнкі, пытаў, нібы ў самой урачыстай і срабрыстай ночы:

— Раб божы Яўхім, ты хочаш узяць у жоны рабу божую Ганульку?

— Вельмі жадаю.

— Раба божая Ганулька, ты хочаш пайсці замуж за раба божага Яўхіма?

— Жадаю, святы ойча, ой як жадаю!

— Будзьце ад гэтага часу па волі нябеснай і ўстаноўленню людскому мужам і жонкай, і шчасце зычыць вам увесь свет і ўсё брацкае грамадства.

Доўга, да ранішняга світанку не сціхалі на вазах ласкавыя галубіныя курлыканні мужчынскіх і жаночых галасоў і салодкія, канаючыя ад апошняй слодычы заняпады шчаслівага анямення, а калі заружавела тонкай паласой усходняе неба і толькі адна белая зорка Венера трымцела ва ўздыхах першага святла — астатнія зоркі ўсходу згаслі, але яшчэ гарэлі зоркі заходняй ночы, лёгкія празрыстыя туманы ўсклубіліся ад цёплай зямлі, нібы райскія светазарныя аблокі, а ў гэтых ціхіх туманах спалі людзі, што дзеці малыя, у радаснай і вольнай знямозе, у чыстым, нявінным перапляценні мужчынскіх і жаночых плоцей, што бывае толькі ад бязгрэшнага кахання па вянцы, і ў чрэвах жанок пульсавала ўжо новае жыццё.

Нікан, устаўшы на золку і забраўшыся на манастырскую сцяну, каб зводдаль агледзець новы табар, быў уражаны нязвыклым і нечаканым для тутэйшых мясцін відовішчам, і падалося гэта яму вельмі падобным на жанчыну немагчымага відовішча — са ззяннем лёгкіх усмешак, з таямнічым шапаценнем шаўкоў, з мілагучнасцю музычнай размовы, з усёй празрыстасцю і мігценнем радаснага жыцця, з нейкай шырынёй і свабодай гучання.

Табар пачаў прачынацца. У неба пацягнуліся сінія дымкі — жанкі гатавалі снеданне, а майстры з замілаваннем сачылі за кожным увішным рухам сваіх жанок, бо было ў гэтым, як зараз востра зразумелі людзі, непаўторнае хараство і шчасце, хоць бы дзеля якога варта доўга-доўга жыць на зямлі.

Ото-то, думаў Нікан, ловячы цьмяную думку. Не згубіць такое: дзівотнасць чалавека. Ён не столькі прадмет. Галоўным чынам гэта змясцілішча духу. Дух прысутнічае ва ўсім, што існуе на свеце. Кветка не роўная самой сабе. Яна мае духоўнае начыненне. Як і камень, і дрэва, і воблака. Вось гэта не згубіў бы чалавек. Толькі дух можа процістаяць разбурэнню. Калі чалавек не здолее захаваць у сабе высокі дух, калі хоць на хвіліну пахіснецца, сцены сабора абрынуцца!.. А менавіта гэта ўсведамленне пачала губляць, а можа, і згубіла жанчына немагчымага відовішча... Гэта толькі ён, Нікан, убачыў у ёй рух душы за яе зменлівым ззяннем. Можа, духу там не засталося. І кветка, і чалавек сталі для яе простымі рэчамі зямлі. Вось што ён ненавідзеў у лаціннянах, зразумеў Нікан нарэшце. Яны вызвалілі чалавечую радасць, згубіўшы пры гэтым дух. Такое не павінна стацца на Русі!

— Сораму ім няма,— бубніў побач служка Нікіфар.— Што за людзі?..

— Не, Нікіфар,— сказаў Нікан,— не ў сораме спра-

ва. У чалавека ўсё святое. Галоўнае, каб душа не выходзіла з чалавека. Вось што важна. Але гэта не так проста...

Світанак цягнуўся і цягнуўся. Сонца не ўставала, святло не шырылася. Паснедалі майстры, памілавалі жанок пяшчотным дотыкам сваіх працавітых рук, счакалі колькі часу. Але не ішло на зямлю світанне. І знаку такога не было. Лёгкія туманы клубіліся і клубіліся па далінах, быццам навечна так сталася. Рана, ой рана ў рай трапляць! Давядзецца яшчэ майстрам, як і раней, жыць, нібы ў салдатах, і не адну слязу пралье маладзіца, чакаючы і не могучы дачакацца свайго мілага. І галовы будуць пухнуць ад дум невыносных, і рукі млосна нямець, і сэрца заходзіцца ад празмернага цяжару, што прыме кожны з радасцю і па абавязку на сваю душу...

І раскрылі жанкі куфры, і адзелі майстры чыстыя сарочкі і лепшае адзенне. Пайшлі грамадою на круты пагорак да манастырскіх варот, на сустрэчу з новым саборам.

Самая першая сустрэча майстроў і патрыярха.

Дзіўным падаўся патрыярх.

Майстры ўзышлі на высокі пагорак, прайшлі шырокім манастырскім дваром і наблізіліся да шырокага і нязвыклага для гэтых мясцін дома з бярвенняў, як адразу зразумелі, патрыяршых пакояў. Спыніліся, знялі шапкі, і тут жа адчыніліся дзверы і на ганак выйшаў патрыярх у простай чорнай мантыі, толькі на галаве была мітра, як то і належыць патрыярху. У яго быў такі твар, што як глянеш, то адразу трапляеш пад уладарнае ўздзеянне пранізлівых вачэй. Чалавек вялікі, з вялікім тварам няправільных формаў — ёсць такія рыжыя людзі: твар увесь у канапушках, вочы светлыя,

шэрыя, дапытлівыя, нават занадта разумныя і недзе там, углыбіні, здзеклівыя, нос нягеглы, здаецца, і правільнай формы, высунуты ўперад, барада рэдкая, рыжая, ужо з сівізной, шчокі бугрыстыя з барадаўкамі, рыжыя, нават бялёсыя вейкі, як у парасяці. Але такая годнасць, уладарнасць была ў гэтым твары, нават не скажаш, што выйшаў чалавек з нейкай зачуханай вёскі, з сям'і, у якой бацька непрабудна піў, а мачыха здзекавалася з дзіцёнка. Такі ясны быў чалавек, такі гонар, спакойны і велічны, быў у постаці, у яго твары — асабліва гэтыя вочы...

Яны стаялі адзін насупраць аднаго. Патрыярх аглядаў майстроў чэпкім пранізлівым поглядам — пераводзіў павольна вочы з аднаго на другога, і нават было відаць, як погляд яго рабіўся лагаднейшым — у патрыярха з душы адлягло. Нікан сказаў служку Нікіфару:

— Вынесі выяву.

Майстры падыходзілі, аглядалі з усіх бакоў дзівотны храм — тонкую кіпарысавую скрынку з перламутравымі пераліўчатымі аздобамі. Доўга аглядалі, пачціва. У Нікана не хапіла цярпення:

— Ну што? — спытаў ён.

Майстры суцішыліся, згасла беглая гамонка. Нікан зыркнуў на ўсіх устрывожанымі вачыма.

— Не падабаецца? Стадола, як вы кажаце? Нашто і клікалі вас сюды? Так? — Агнявы погляд нібы паласаваў.— То не гэта будзе. Гэта храм труны ў Іерусаліме. А мы зробім Новы Іерусалім, Храм Уваскрашэння. Адраджэння. Не гора, а радасць. Святло!..

Нікан імкнуўся схапіць, спазнаць душы гэтых людзей. Яна зрабіла толькі першае лёгкае ахіненне — што слабы ветрык ад магутных крыл. А крылы — вось яны. Яму патрэбна ўвайсці ў жывы механізм гэтых крыл, бо ён адчувае, што можа зрабіць іх яшчэ мацнейшымі. Але як падабрацца да гэтага? У вачах патрыярха, та-

кіх уладарных, з'явілася недаўменне. Патрыярх агля-даў натоўп майстроў і раптам зразумеў, што гэта не на-тоўп, як то звычайна ён сустракаў. Натоўп цягнууўся да яго, як жабрак, у надзеі нешта атрымаць. Тут іншае. Кожны асабіста. Кожны — дзяржава, а ўсе разам та-кая моц! Ці здолее ён наогул саўладаць? Падмяць? О, не, гэта хутчэй загіне, чым скорыцца. Што казакі. Ды яны і ёсць, відаць, казакі. Але гэта не дзікая казацкая вольніца, як бывае, для якой не існуе нічога святога. Гэта арганізаванне, грамада. Ото-то! Раптам яшчэ больш узбурыўся Нікан. Смута, а потым доўгія паходы, а потым яшчэ розныя яго, Нікана, перайначанні, но-выя кнігі, новыя спевы ў цэрквах — партэсныя, абноў-леныя службы, нязвыклае троеперсце — усё растрыво-жыла Русь. Па дарогах ходзяць рабаўнікі, рэжуць людзей. І тэрмінова патрэбны рамкі, каб краіну не раз-несла ўшчэнт. Нешта, што адпавядала б духу народа і адначасова строга прадвызначыла гэты дух. Конь заку-сіў жалезныя кілзы, ён прэ невядома куды. Не войска гэта ўтаймуе. Войска перад такім само авечка. Тут ін-шае. Вось яны, гэтыя вольныя майстры... Знак такі, як узняцце рукі. Каб была спынена і разумна накіравана бушуючая энергія.

Нікан даўно адчуваў, што нешта такое трэба мець. Але пастаянна сутыкаўся з майстрамі, што мізарнелі перад ім. Нягледзячы на яго доўгія гарачыя тлумачэн-ні, зноў рабілі варыянт таго, што маглі — як дамашнія гусі: толькі махаюць крыламі і гагочуць услед дзікім, не могучы сарвацца ў палёт. І ніхто з тых, каго спе-цыяльна шукалі для Нікана, не мог узяцца за будаў-ніцтва храма. Нават і блізка не падляталі да таго са-мага ніжэйшага ўзроўню, на які ўжо пагаджаўся Нікан.

Яны стаялі: Нікан насупраць майстроў.

Уперад выступіў благачынны чалавек. У вачах яго свяцілася спакойная яснасць, не было жорсткасці ро-

зуму. Ён быў павольны ў рухах, нетаропкі, нават яго каштанавая з сівізною барада была такая ж упэўненая і спакойная. Ён наблізіўся да патрыярха і сказаў:

— Вялікі гасудар. Мы зробім табе патрэбны сабор. Мы прыйшлі ў тваю краіну. Краіна твая толькі-толькі ўзнімаецца, як птушка, што спрабуе крылы. Мы разумеем, ад таго, як вызначыцца гэты палёт, можа стацца ўсё жыццё ў тваёй дзяржаве. Гэта будзе нялёгка зрабіць, Вялікі гасудар, бо невядома, як гэта і рабіць. Але я магу запэўніць цябе — мы зробім. Не май на гэты конт сумнення, Вялікі гасудар.

І чалавек нізка, у пояс, пакланіўся Нікану ў знак павагі, як то робяць баяры перад царом. То быў вялікі дойлід з Белай Русі старац Арсеній.

## 8

Рыпяць колы, ціха пафырквае конік, бясконца цягнучы воз, над кібіткай — палахлівае дрыготкае святло факела, што прыладзілі хлопцы. Вечны рух. Стары лацініст, недатычны, прамы, што зямная вось, з несціханым колавярчэннем думак у светлых вачах. І ён спасцігае свет...

— Так, бясконца. Ты глядзі, як кабыла ступае. Кожны крок — напружанне, поўнае сэнсу. Ляцець — не штука. Фантазія ляціць, матылёк ляціць. Бязмэтна? Нічога бязмэтнага няма на зямлі. Усё ўваходзіць у колазварот. Кожнаму — сваё. Каму — ляцець, каму — цягнуць воз.

— Але ж...

— То ўсё лухта, што кожны павінен лётаць... Ды і навошта кожнаму лётаць? А калі чалавек не хоча? Лётаць — каб летуценнасць толькі і гойсала па зямлі? Што каму даспадобы. Розныя людзі, як і розныя эпохі.

Мы не надта яшчэ зразумелі гэта. А то як кінуць кліч «лятаць», то ўсе імкнуцца лятаць. І тыя, што могуць лятаць, пагарджаюць тымі, што не могуць. Мучыцца часам чалавек, што ён не такі, як іншыя, ці здзекуецца з іншых, што яны непадобны на яго. Якое дзікунства! Людзі — розныя, як і эпохі. Старажытныя грэкі схілялі галаву перад чалавечым розумам, прыгожымі, ясна, лагічна чыстымі з'явамі мастацтва. А потым зноў узбушавала глыбінная і няясная чалавечая натура. Пачуццё. Неаглядная фантазія, арабескі з кветак, блазнаў, жанчын, святасці, таямнічых незразумелых учынкаў. Тысячу гадоў запар! А ў часы Нікана павяло людзей на розум. Нікан толькі па звычцы шануе верхняе неба, бо змалку быў аблавушаны ім, але ж Нікан — гэта няспыннае бушаванне чысцюткай думкі! Чысцюткай. Сваё пачуццё ён загнаў за краты, закаваў ланцугамі. У яго асалода аддавацца думцы, яе дзіўнаму няспыннаму руху. Я бачу тут такую грандыёзную катастрофу...

— Але ж...

— Ды не, не заўсёды так будзе. Розум пашырыцца. О, найвялікшых вяршынь дасягне Розум. Будзе ўладарыць некалькі вякоў. Але гэта яго і загубіць. Яго неагляднасць. Як у часы Нікана, верхняе неба абрынулася, бо яно адно і панавала. Душа ў гэтым, як у турме. Не вытрымлівае. Ламае, крышыць краты, а потым будуе новую турму. Няма цярпімасці пачуцця да розуму, а розуму да пачуцця...

Высокія і недатычныя словы старога лацініста. Ён мае рацыю. У канцы мінулага веку чысты розум пачаў падавацца людзям турмой. Яны вырваліся з яго ў свабоднае пачуццё. Паўстанне ўсеагульнае і магутнае. Ахматава, Бакст, Цвятаева, Ганчарова, Белы, Ясенін, Шаляпін, Стравінскі, Галубкіна...

Галубкіна. На пачатку веку яна жыла ў невялічкім двухпавярховым дамку ў Маскве. Зараз побач пра-

ходзіць шалёнае Садовае кальцо. Я не раз пераходзіў яго, ездзіў па ім уласным аўтамабілем. Гэта самая разбойная вуліца Расіі, а можа, усяго свету. Безупынна густым валам у многа радоў пруцца па ёй машыны — на ўсёй хуткасці, з усім сваім магчымым гудзеннем, грукатаннем, звонам, ляскам. Але на пачатку веку тут было ціха, гэта было амаль за горадам, стаялі невялічкія дамочкі, раслі садзікі, зелянела мурава, людзі бачылі неба, воблакі, ранішнія вечаровыя зоры. Цішыня стаяла чуйная, можна было ўлавіць, як з лёгкім подыхам рухаецца па небе белае воблака. Відаць, удзень Галубкіна выходзіла ў дворык, слухала подых летніх воблакаў. Зрок ішоў у бясконцы блакіт, ішоў, губляўся, не вяртаючыся. Але ўзамен душа ахіналася няяснымі прадчуваннямі, зданлівымі, і асцярожна, каб не парушыць іх, нічога не заўважаючы, яна зноў вярталася да сваёй гліны на другім паверсе ў невялічкай майстэрні...

Якая яна была? О, як і ўсе майстры-мастакі. Там няма размежавання на мужчын і жанчын, проста ёсць майстар, з першага погляду такі непрыгожы, няўклюдны, калі не стаіць за работай.

Можа, і тады бабкі, якіх заўсёды многа і якія заўсёды, мабыць, ужо тысячагоддзі, сядзяць на лавачках па дварах, і тады яны незадаволена круцілі галовамі, мармыталі нешта накшталт: «О, чарадзейка вылезка з бярлогі. Божа, чур, чур, не мяне!» І адводзілі вочы, адварочваліся, каб чарадзейка часам не сурочыла. Ці ведала пра гэта чарадзейка? Можа, і ведала, а можа, і не, проста не надавала значэння гэтым дробязям. Ці ж маюць яны вартасць, калі яна толькі-толькі адтуль. Яна і не ведала дакладна, навошта яна заглядвае туды. Аднойчы тое яе ўразіла. Быццам пранік да яе космас. А хто аднойчы паспытаў дотык яго геніяльных, трывожных, велізарных крыл... І яна не бачыла бабак, што

палохаліся суроку, яна ўбірала ў сябе нешта з бяздоннага блакіту, набіралася моцы і зноў — у майстэрню...

Цяжка зразумець, як яна такое вытрымлівала. Мужнасці трэба на драгунскі полк. Нечалавечае пранікненне ў тое, у што чалавеку заглядваць не дазваляецца. Вядома, чарадзейка...

Калі, як даўней, дачакацца цёмнай ночы, сесці ля двух люстэрак, запаліць свечку і доўга адзінока ўглядацца ў цьмяную невыразнасць люстэркавай бясконцасці... Раптам мроілася ў белым трапяткім вясновым дрэве — бярозе — дзявочая сутнасць. Здавён людзі зналі, што бяроза — жаночае дрэва, але знаць — адно, а ўгледзець, як парыў вясновага ветру вылепіў з бярозавага вецця жаночыя грудзі, бёдры, жывот, твар, што адкінуты ў векавечнай пакоры, гонары, шчасці, каханні... Бяссілле слоў. Як і бяссілле рук. Яна кідала рваныя пласты гліны, кідала і кідала, потым адчайна адрывала ад фігуры — проста дошкай, што на той час падвярнулася пад руку, адрывала з усёй сілай, так што трашчаў каркас фігуры, а на паверхні заставаліся рваныя няроўныя палосы. Але яна і сама не ведала, што гэтыя яе дзікія рухі, якімі кіравала незадаволенасць, адчуванне бяссілля, і былі той галоўнай сілай, што выбудоўвалі, праяўлялі здань-адчуванне, удыхаючы ў мёртвую гліну высокі парыў паэзіі. Так яна тварыла. Як стыхія, не ведаючы, як закруціцца вобраз ад уздзеяння магутнага Духу.

Круціць віхур касмічны, трэпле зямныя чалавечыя лёсы, і нехта магутны, напрыклад, Леў Талстой, наспружыньваецца, што лук у магутных руках, а можа, што скала пад акіянскімі валамі — нават увесь нахіляецца, дэфармуецца, але выстойвае, каб спазнаць, што такое жыццё — самае глыбіннае, на тых вяршынях, дзе цаpye вышэйшая паэзія. Спазнаць! Якой нечалавечай платай трэба плаціць!

Вось што выказала гэтая нялюдская чарадзейка, што бачыла там, уласна, ужо не чалавека, матэрыю яго, а дух яго высокі, яго магутнае змаганне, пранікненне. Калі толькі пераадолееш жорсткасць розуму, які не дазваляе ляцець...

Але ў пачатку XX стагоддзя ўсё больш магутна пачаў узбурацца і чысты розум, які часам называюць утапічным, бо многім людзям падалося, што душу чалавека, яго глыбінныя пачуцці можна змяніць і выхаваць ясным праўдзівым лозунгам — толькі ім адным. Кінуў лозунг, людзі яго паслухаліся і адразу сталі іншымі. І выбудавалі на зямлі светлае грамадства без аніякіх там цьмяных і хваравітых душэўных хістанняў. Людзі сілком, ваяўніча, рэвалюцыйна пачалі адкідваць ад сябе старое, няяснае. Адсячом цьмянае моцным ударам яснага розуму!

Прасвятлім зямны шар з дапамогай чыстага напаленага жалеза праўдай і свабодай, якія спрадвечна чакаў народ!

На гэтай магутнай хвалі ішоў і Мельнікаў. Ён прабіваўся, як і ўся наша краіна, і характар яго, што быў ад прыроды цвёрды і валявы, стаў жорсткі, прамы, рашучы. І гэткія ж выходзілі ў яго канструкцыі: насычаныя лагічнай яснасцю, мэтазгоднасцю, сілай. Прыроду і вечнае прабівалі вясёлым штурмам, з дзікай прыродай (у тым ліку і людской) наогул не лічыліся, проста змагаліся, пакараючы, нават знішчаючы гэтую матэрыю — наколькі было магчыма, хапала моцы, умення, лічылі, што толькі розум з дапамогай машын можа прыдбаць усеагульнае шчасце людзей — калі тыя і працу аблегчаць, і наробяць столькі патрэбных рэчаў, што іх бясплатна дадуць кожнаму, хто пажадае. А душа?

Цацкацца яшчэ з гэтай містычнай сквалыгай? Няма душы! А калі ёсць — сама знойдзе прытулак! Ды

не можа не знайсці, калі вакол будзе лагічная яснасць і святло. А вялікія лозунгі нашто?

Але чорная і агромістая, як звяруга, газнічка, што з'явілася ад лесу ў вясковую ціш, дабрабыт сапраўды несла, але вось наконт шчасця ды той няўлоўнай душы... Хоць газнічкай кіраваў чалавек, але яна аказалася больш наравістай і непаслухмянай, чым самы наравісты конь. Яна імчала нашы душы зусім не туды, куды мы марылі прыехаць.

Зусім не туды.

## 9

— Ото добра зрабіў, што не заклаў пярэрву,— думаў старац Арсеній, зноў з недаверам разглядаючы новы малюнак сабора. Трэба ісці да патрыярха Нікана. Выклікае. А сабора няма. Усё ідзе гэтак жа, як і тады, калі ставіў велізарны гарадскі сабор на Белай Русі. Ён робіць старанна, літаральна ночы не спіць, звёўся на трэску, вочы праваліліся, губы асмяглі, раніцой прачынаўся з гаркатой і сухатой у роце. І есці нічога не мог, акрамя сухой чэрствай коркі, хоць Нікан слаў лепшыя прысмакі. Старац абяцаў і павінен зрабіць незвычайны сабор. Ён адчуваў, быў упэўнены, што зробіць — гэта і будзе яго апошняя лебядзіная песня. Нешта мроілася і рухалася зусім блізка, але як старац ні пнуўся, нават сілком, нават знянацку, нават хоць бы праз самога д'ябла — ён ужо і на гэта пагаджаўся ў тайных думках: захапіць ці хоць краем вока глянуць на тую мроістасць,— нічога не ўдавалася. Не было палёту. Калі-нікалі ён і ў адчай упадаў. Часам сядзеў тупы, у адну кропку ўставіцца, што мярцвяк. Ён самому сабе не падабаўся. Нікан гэта аднойчы заўважыў, калі яны былі ўдвух у яго сенцах, дзе стаяла кіпарысная выява храма. Нікан угледзеўся, старац аж скалануўся ад такой

пранізлівасці. I ўсё ж нешта тады адварухнулася ў старцавай душы ад змрочнай прадд'ябальскай цемрадзі. Нікан нічога не сказаў. А праз колькі дзён старац, які ледзьве не ўпаў у сваю безвыходнасць, скалануўся ад дотыку да яго нікanaўскага погляду. I на гэты раз Нікан нічога не сказаў. Але Нікан нібы адсек самую крайнюю безвыходную тугу старца. I цяпер, калі ён быў адзін у келлі, і змрочнымі думкамі дапякаў самога сябе, і гатовы быў вось-вось абрынуцца ў чорную меланхолію, яго страчаў яркі выбух святла нікanaўскага погляду і не пускаў туды, дзе магчыма было, як ведаў старац, пагадненне з тым, у каго на нагах раздвоеныя капыты.

Старац ужо не раз прыносіў Нікану новыя малюнкі сабора. Разгорне, пакладзе на вялікі стол. Нікан вокам зыркне і не падыдзе. Старац стаяў панура. Раней ездзіў ён па вольных гарадах і ставіў саборы, палацы і дамы самыя розныя, але не даводзілася так натужвацца — аж да пасінення. I чым больш стараўся, тым горш выходзіла. Ды ведаў гэта і сам старац. Але ведаў і другое: калі не будзе гэтай вялікай штодзённай натугі — не будзе потым аднойчы лёгкага незвычайнага ўзлёту. Такое напружанне здаецца дарэмным. Але гэта гара, якую трэба камень за каменем узносіць усё вышэй, каб потым сарвацца ў палёт. I чым большую наносіш гару — можна ўздыбіць аж за воблакі,— тым больш натхнёны будзе палёт. О, гэта добра разумеў старац. I таму пнуўся і пнуўся з усёй моцы, ужо амаль без сіл... Нікан аднойчы нават спытаў спачувальна і жорстка, амаль безнадзейна.

— Слухай, манах. Ты давёў сябе да немагчымасці. Так і душу богу аддасі. Не рабі сілком, адпачні. Няўжо ты думаеш, што твая, як вы кажаце, муза, якая яна там у цябе — Мельпамена?

— Эўтэрпа.

— Няўжо ты думаеш, што твая Эўтэрпа цябе такім кахаць будзе? Яна збяжыць ад цябе.

— А я не чакаю яе.

— Каго ж?

— Відаць, Бога...

Нікан утаропіўся на старца, доўга пранізліва глядзеў, але нічога не сказаў пра нечуваную дзёрзкасць, толькі спытаў:

— Ты ж бачыш, нікуды не варта, навошта робіш? І да мяне носіш? Навошта марнуешся? Можа, ты блажэнны?

— Не,— сказаў старац,— я перагрызаю путы, каб можна было паляцець.

— А паляціш?

— Вось гэтага не ведаю. Але пра гэта і думаць няможна.

І старац расказаў Нікану пра гару, якую трэба насіць, каб потым ляцець, і дадаў:

— А часам бывае, што чалавек памірае, не дацягнуўшы да вяршыні апошні камень, з якога ляцець можна. А то і паўгары не наносіць. Не па моцы сваёй узяўся гару класці. Але такое бяды. Наношанае не прападзе. Можа, і гэтыя паўгары, нават адзін камень некаму спатрэбіцца, каб выбудаваць гару, з якой можна ляцець.

— Колькі можна чакаць, што ты выбудуеш сваю гару? — спытаў Нікан жорстка.

— Хто ведае,— пакорліва адказаў старац.— Можа, і доўга, можа, і не. Можа, і выбудую...

— Што ты кажаш, манах! — усклікнуў Нікан.— Як жа сабор? То трэба будаваць!

— Вялікі гасудар, я тут ні пры чым. Яшчэ здаўна гавораць, што тварыць трэба так, нібы наперадзе перад табой — вечнасць. Як тварыў сам Гасподзь. Толькі тады можна нешта зрабіць. А табе, канешне, абяцаў.

І зраблю. Ты не сумнявайся. Але ты не прыспешвай. Адчуваю, што хутка дабудую гару. Але не зрывай мяне ў палёт ■ паўгары. Нічога не будзе...

І аднойчы, сёння, старац прачнуўся, і яму падумалася: «Ото добра, што не заклаў тую пярэрву!» І хоць трэба было ісці да патрыярха паказваць новыя малюнкі, а новы малюнак быў горшы ад даўнейшых, старац быў спакойны, ён адчуваў, што стаіць на вялікай вышыні — за воблакамі, аж халадзела пад сэрцам, пазваньвала высокім звонам у галаве, рукі набрынялі нечуванай чуллівасцю і разумелі дотык да іх няясных хваляў, што насіліся ў паветры,— вылучаемыя людзьмі, рэчамі, звярыма, воблакамі. Старац рукам месца не мог знайсці, пакуль не сціснуў у кулакі, а потым і наогул абматляў анучамі — так і пайшоў да Нікана, несучы перад сабой, нібы жабрак кульцепкі, і ўсё радаваўся, што добра зрабіў, не заклаўшы тую пярэрву ў карнізе левай вежы сабора, высока ўгары, пад самым купалам. Бо недавершанасць, як то здавён вядзецца, дае будаўніку спадзяванне, што зробіцца яшчэ лепшае, больш красамоўнае. Цесляры ў такім разе не кідаюць сякеру ў возера ці рэчку, а затыкаюць за пояс. І думаў старац адзін час, як завяршаліся работы, загадаць закласці тую пярэрву, ужо намерыўся і мулярам сказаць, ды не было іх на той момант, а потым закруціўся, а ўрэшце і забыўся на пярэрву, не заўважаў яе, бо яму падавалася, што яе заклалі... Яго амаль сілком пасадзілі на воз ехаць да Масковіі, у дарозе ён змарнела думаў, што лебедзь не пяе двойчы апошнюю песню. Але як уехалі ў дзівосную краіну, як пабачыў гэтыя грозныя бліскавіцы, людзей, што сноўдаліся, як сляпыя кацяняты, не ведаючы, куды і як прыкласці сваю сілу,— пачаў старац адыходзіць ад змярцвення, узбуджацца,

адразу ўспомніў, што пярэрву не заклаў. А цяпер, калі так цяжка рабіў гару для палёту, трывожна думаў, ці хопіць у яго целе моцы давесці ўсё да канца. Пра свой дух не клапаціўся, той вытрывае, але цела ў чалавека хісткае, няўпэўненае. Можна зразумець, з якім высокім напружаннем, нібы схапіўшы сонечны бляск, ішоў старац да Нікана.

Старцу Арсенію адвялі келлю ў самім манастыры, як і старцу Заборскаму з Куцеінскага манастыра, і старцу Ніфанту з таго ж манастыра, што прывёз з сабой друкарскі завод.

Як толькі прыехалі майстры, праз колькі дзён пачалі капаць яму — катлаван пад сабор. Нагналі сялян з фурманкамі, ад золку да золку з'язджалі ўніз з драўляным грукатаннем вазы, ішлі наверх цяжка, з натугай, адзін за адным — зрабілі такую карузелю, з такім аднастайным і ўедлівым рытмам, што яма глыбілася на вачах, і праз які месяц ужо падраўноўвалі, каб можна было выкладваць скляпенне.

Нікан разам са сваімі манахамі дзень у дзень у простай чорнай манаскай расе, падтыкнуўшы крыссё, спускаўся на ранішнім золку ў катлаван і капаў, капаў — аж да вечаровага золку, так што спіны не мог разагнуць. Але старцу Арсенію і іншым майстрам не дазваляў гэтага рабіць.

— У вас свая работа, больш важная...

«Будзе сабор, будзе!» — упэўнена думаў старац, ідучы шырокім манастырскім дваром, дзе ўсё прыціхла. І катлаван, і цэгла, і велізарныя скрыні з вапнай, і муляры і іх падручныя — усё чакала знаку абрынуцца ў будоўлю, паварочвалася і нацэльвалася на яго, старца. Але сёння свет павесялеў. Хутка!

І пачало яму здавацца, што павінна вызначыцца тое дзяўчо, вобраз якой носіць у сваім сэрцы. Нібы ідзе на спатканне. Не, то не была маламажэйкаўская ня-

веста ў вясковым уборы, што ўразіла яго ў юнацтве — незвычайны цнатлівы і тонкі храм. Толькі аднаго не мог ясна ўгледзець старац у новым вобразе — адчуць зменлівую мілагучнасць, асаблівае бруістае ззянне, святую ўрачыстасць. Гэта была навізна для яго. Раней такое здавалася яму нікчэмнасцю, пакуль Нікан нейкімі асаблівымі духоўнымі пасыламі не звярнуў на гэта старцавай увагі. Нават невядома, калі старац пачаў шукаць такое, марыць аб такім, ён зразумеў высокую вартасць чалавечага свята, пра што многа казаў Нікан, чым раней старац пагарджаў, бо лічыў, што толькі праца чалавека вартая нашай увагі...

— А, заходзь, заходзь, паказвай, што нарабіў! — пачуў старац зычны ніканаўскі голас, ледзь пераступіўшы парог вялікіх цемнаватых сенцаў. Ён разгледзеў, здзівіўшыся, княгіню Ядвісю, жонку Карпа-златакаваля, і двух валацуг, шляхцічаў — Марэка і Антэка. Кавалеры прыўзняліся, злёгку пакланіўшыся, а княгіня велічна, як каралева, кіўнула галавой, на якой была накручана неверагоднай складанасці прычоска з рыжых агнявых валасоў — нейкія хвалі, перакрутышы, уздымы, ніспады. Хоць яна сядзела нерухома, зыркаючы чорнымі хуткімі вачыма, але здавалася, рухалася і ззяла кожная часцінка яе цела. Нахіліўшыся ўперад, яна сказала мілагучна:

— О, дойлід наш шаноўны, яснавяльможныя панове, найлепшага значэння дойлід, няма такіх ні ў адной краіне, нават у Кракаве і Вільні.

Зашапацелі шаўковыя адзенні, пераліўна вызначылася чорная аксамітавая камізэлька — інакш і не скажаш: жанчына немагчымага бідовішча!

— Ну, манах,— грымнуў Нікан,— цяпер бачыш, чаго я жадаў? Па ўсёй Маскве шукалі, у харомах бая-

рына Марозава знайшлі. Кажуць, маскоўскія баярыні, што малпы, такія валасы цяпер накручваюць, і такія шаргацячыя сукенкі ўскладаюць, і такія ж на сябе бразготкі паначаплялі. Праўда, княгіня?

— То праўда, пан патрыярх, ваша светласць, і сказаць немагчыма, як бывае. Едзьма на шпацыр на конях па Маскве з Марэкам і Антэкам, можна сказаць, у Маскве ўсё жыццё спыняецца. Карэты становяцца, купцы перастаюць гандляваць, паважаныя дзякі, што дурні, раты раскрываюць, баяры вітаюцца, аж бароды дрыжаць, а ў якім цераме такая валтузня пачнецца, часам вокны выбіваюць, далібог, аж слюдзяная луска ляціць па ўсёй вуліцы. Масква такі цудоўны горад, ваша вялікасць. І ўсе людзі простыя і зычлівыя. Пра Кракаў то не скажаш. Там злосці многа. Які пацалунак горай за ўкус самай ядавітай змяі — я вам скажу, ваша вялікасць.

Што птушка шчабеча. Немагчымае відовішча!

Госці адышлі — усё з тым жа тэатральным бляскам. Зайшоў старац Заборскі — паважаны чалавек з чорнымі разумнымі вачыма, спакойнай веліччу мнагазведаўшага твару, вузлаватымі працавітымі рукамі майстра — вельмі падобны на старца Арсенія, быццам брат яго, толькі крыху інакшы, можа, больш пунктуальны, менш парывісты. Нікан узбуджана пахаджваў па пакоі і гаварыў:

— Ліха на іх, лацінян! І ведаеш, што апошняя сука, ужо паў-Масквы пераспала з ёю, жанок нашых сапсавала, пратапоп Авакум, калі б тут быў, калі не яе, то сябе жыўцом спаліў бы. Ведаеш усё гэта і не можаш не надзівіцца на такое боскае, а можа, і д'ябальскае хараство. Ты зразумеў, Арсеній, чаго я ад цябе чакаю? Гэтай крыху ў сабор дадай, каб заблішчэла і зазіхацела ўсё, разумееш, каб уся Масква спынілася! Во што нам трэба!

Патрыярх гаварыў громка, раскацiста, энергiчна, малымі падаваліся вялікія нізкія сенцы, голас быў проста навальнічны — і якая велізарная падкупальная прастора патрэбна для яго! I рваць з месца галопам — з нізкага падстолля ў нябесную вышыню! Немагчымыя перапады — як і ўсё ў гэтай краіне! Так адчуваў старац Арсеній. I раптам старац Арсеній кажа:

— Дазволь, вялікі гасудар, правесці ў тваім пакоі некалькі ліній.

О, такое найшло, як часам бывае з ім — сам не ведае — чаму прыходзіць нешта ў душу — што бура — рэдка бывае — але аднойчы ўсё ж бывае — цела поўніцца звыш краёў невядомай энергіяй — яна сціскаецца, напаляецца, што жалеза ў горне да белага выпраменьвання... Старац паклаў ліст на вялікі стол, дастаў з кішэні вугалёк — з адчуваннем, што ён не ведае дакладна, ён ці не ён гэта робіць, яму падавалася, што не ён, а нейкі іншы, больш магутны і вялікі. Узняў руку над паперай, падціснуўшы, як вучыў Нікан, два апошнія пальцы, рука пагойдалася крыху ў паветры, нібы вызначаючы, куды **яно** вядзе, як **яно**, тое вялікае, хоча рабіць...

Нікан і старац Заборскі ўтаропіліся на старца Арсенія з павагай і нямым здзіўленнем, бо той быў не звычайным, як заўжды, чалавекам, а асаблівай плоці і духу.

Нарэшце ўсё сышлося і павяло яго з такой дакладнасцю, упэўненасцю, шырынёй, што старац дзіваваўся, як такое можа быць, бо ўсё рабілася як вынік і як прадбачанне не толькі яго асабістых думак і адчуванняў — да яго ішлі і сыходзіліся ў ім лініі-ніткі шматлікіх чалавечых лёсаў, ішлі лініі многіх зямель — ён ясна адчуваў і вёскі, і рэкі, і азёры, і манастыры, і княжацкія палацы — нібы лунае над усім, убірае ў сябе і вяжа вузел, велізарны і складаны, каб усё стыкавалася і дапа-

соўвалася адно да аднаго, каб не марнела і гібела, а квітнела, узвышалася, пашыралася.

Па неаглядных высях плыў старац. Было крыху боязна, і халаднавата, і незвычайна. Анёлы нашэптвалі яму свае словы, і чорныя дэманы не маглі наблізіцца. Добрая і магутная сіла, якой ён даверыўся, кіравала яго рукой, цвёрды вугалёк вымалёўваў абрысы новага нязнанага на зямлі сабора такой нябачнай нябеснай цнатлівасці і прыгажосці, што Нікан, гэты вялікі і ўладарны чалавек, які ўсё зведаў у жыцці і сам мог гэтак жа свабодна, як старац, узнімацца ў высокія далі, нават Нікан, затаіўшы дыханне, каб не ўстрывожыць вольны палёт, прагна сачыў за кожным рухам дойліда, благаслаўляў кожную новую, магутную, цудадзейную і цнатлівую лінію, што ішла з лёгкасцю, нястрыманасцю і дакладнасцю. Ды і старац Арсеній адчуваў, што на такую вышыню ён узняўся ўпершыню, і таму ўвесь час дзівіўся самому сабе і тым новым, нязведаным, моцным уражанням, што поўнілі яго цела. Колькі цягнуўся палёт — невядома, бо час прыпыніўся, як у вечнасці, і старац Арсеній нетаропка і з замілаваннем вымалёўваў кожную найдрабнейшую дэталь нязнанага гмаха. Але нарэшце замарудзіўся палёт, старац адчуў, як крута пайшоў уніз — вось ужо і вёскі відны, і мужыкі, што аруць нівы, а вось манастыр, пакой патрыярха Нікана. Старац стаіць колькі часу з рукой, навешанай над паперай, але ў ёй ужо няма вышэйшай сілы, ды тая і не патрэбна, бо бачаць старцавы вочы такую велічную, незвычайную, складаную, светлую, блакітную храмавую будыніну, што ў першы момант думае: хто ж гэта яму такое падсунуў — ён тут век не разбярэцца!..

— Дык вось ён які,— чуе старац уладны і магутны голас Нікана,— і не падумаеш адразу, што так павінна быць. Толькі так!

10

Што б яны рабілі, каб не Заборскі!

Першае адчуванне старца Арсенія, дойліда, калі ён убачыў свае малюнкі, што зрабіліся ў высокім натхнёным палёце: ён жа ў гэтым век не разбярэцца! — аказаліся прароцкімі. Перавесці іх у рэальныя канструкцыі, як старац ні біўся, не мог. Многа ведаў старац, ён уласна разлічыў апошні саборны храм на Белай Русі — грандыёзнае збудаванне. Там рабілася ў свабоднай натхнёнасці. Даводзілася ўгадваць, спадзявацца на азарэнні-маланкі. І храм вырас з зямлі, нібы высокае дрэва, гэткі ж свабодны, нечаканы, жывы. Але ў новых малюнках старца так узнясло, такой немагчымай складанасці, гарманічнасці і супярэчлівасці было ў іх жыццё, пра што і словам сказаць няможна, старац ясна разумеў і бачыў: такое пачынаць не варта, на гэта не хопіць ніякіх маланак-азарэнняў, каб давесці да макавак і зацвердзіць на іх празрыстыя крыжы, нават невядома ўжо, у чыю славу — Хрыста ці чалавека, відаць, у славу людскую, бо дзёрзкасць людская тут найвялікшая. Але падабрацца да гэтай дзёрзкасці... Не, не хапае моцы!..

— Не раскісай, рабі! — грымеў Нікан, ён бы сам лёг цэглаю ў храм, каб то было магчыма і садзейнічала ўзлёту храма.

Старац Арсеній сядзеў пануры і змрочны, не кажучы ні слова. За акном і цэгла, і вапна, і муляры стаміліся ў чаканні.

Ратаваў усіх Заборскі.

Потым, пасля смерці Заборскага, Нікан загадае вырабіць велізарную памятную дошку і ўмураваць на сцяну ля ўвахода ў свае патрыяршыя пакоі сабора. Дошка адзначыць, што старац Куцеінскага манастыра Пётр Іваноў Заборскі быў «мастер золотых, серебря-

ных, медных, ценинных дел и всяких рукодельных хитростей изрядной ремесленный изыскатель». Так што глядзеў, глядзеў на гэтыя мучэнні Заборскі, а потым і кажа:

— Я і гэтай навуцы крыху навучаўся. Дазвольце, вялікі гасудар і вялікі дойлід Арсеній, паспрабаваць зрабіць разлікі.

Дастойна, ціха і ветліва сказаў, але старцу Арсенію і Нікану падалося, што пярун грымнуў. Можа, ужо тады ў ніканаўскіх думках мільганула: «Калі зробіш, я табе яшчэ пры жыцці помнік пастаўлю».

І што вы думаеце? Зрабіў!

Засеў на тыдзень разам са старцам Арсеніем за разлікі, потым усё чыста далажыў Нікану: і якой таўшчыні рабіць сцены, дзе і як ставіць іх, як яны будуць патанчацца, ідучы ўгору, як рабіць шматлікія арачкі, парусы, барабаны, купалы, велізарную ратонду і інш., і інш. Словам, будоўлю можна было пачынаць. Праўда, як сказаў Заборскі, у нейкіх мясцінах прыкінуў на вока, бо вельмі складаныя ўтвараюцца, згодна малюнкаў старца Арсенія, спалучэнні, нават немцы, што ўсё любяць вымяраць ды падлічваць, такога б не здолелі вылічыць. Таму давядзецца ў час будоўлі шмат думаць. Велізарнейшы шацёр над ратондай дасягне такой вышыні, што нават ластаўкі не даляцяць, а знізу ён неймавернай шырыні. Як рабіць такое дзіва? Шпілі, што пры цэрквах у немцаў ці якіх заморскіх народаў — то іншая справа. Яны тонкія. А ніхто нідзе ў нашых землях падобных шатроў не будаваў: ні з цэглы, ні з лесу. Нават калі з дрэва каркас зрабіць...

— Не, вялікі гасудар,— пакрыўджана сказаў Заборскі,— у яго дрыжэлі губы, хоць Нікан і слова папроку не сказаў,— самы лепшы вучоны немец не зробіць, не трэба і слаць каго да немцаў з такой просьбай. Скажу адразу — вельмі незвычайная і складаная рабо-

та з гэтым шатром. Такога гонкага і тонкага лесу, як патрэбна, у нашых землях няма. Давядзецца сточваць, мудраваць. О, многа трэба мудраваць і з ратондай, і іншым...

Нікан пільна паглядзеў на Заборскага.

— А ўмудруеш?

Заборскі апусціў галаву, доўга маўчаў, не падымаючы вачэй.

— Так,— сказаў Нікан, уздыхнуўшы.— Ну што, а можа, і ўмудруеш? Паглядзім.— І коратка загадаў: — Будаваць.

Так што проста на наступны дзень вызначылі лініі, па якіх стануць сцены, і муляры з асалодаю накінуліся на будоўлю. Нікан узрадаваўся, пабачыўшы такую спорнасць, і толькі тое і рабіў, што благаслаўляў амаль кожную цагліну, што клалася ў мур.

Здзівіў яго ў свой час старац Арсеній незвычайнай здольнасцю свабоднага натхнёнага палёту, уменнем надаць абрысы летуценным марам. Што ён, Нікан? Толькі і можа рабіць узнёслы жэст.

— Ведаеш што, манах,— кажа часам Нікан, ловячы няпэўныя мары-адчуванні.— Я не магу сказаць дакладна...— і Нікан пачынае тлумачыць якую-небудзь бясконцасць боскага свету.

Заборскі слухае не столькі нікана ўскія словы, колькі ўглядаецца ў самога Нікана — як той гаворыць, глядзіць, як блішчаць яго вочы пад бялёсымі калматымі бровамі: Нікану ад такога позіркy робіцца ніякавата, але Нікан ведае, што Заборскі толькі манах, і ўсё ж Нікан асякаецца, бо не паспявае як след растлумачыць сутнасць таго няўлоўнага, што сам яшчэ цьмяна ўяўляе, а па вачах Заборскага відаць, што той разумнай логікай выбудаваў вобраз — хоць бяры гліну, камень, фарбу, шкло і ляпі тое, што Нікан і выказаць не можа дакладна. Вось дзе спалох!.. Заборскі выкручвае нейкія

абхадныя галерэі з патаемнымі іканастасамі, з двайнымі, нават трайнымі парталамі, раптоўныя пераходы са звычайнага ў неабдымнае ці дае нырца ў такую таямнічую глухмень і бездань... Мару, адчуванне ён перакладае на цэглу, вапну, дрэва. «Зямля», кладучыся ў мур сабора, пачынае знікаць, ператвараючыся ў той дух, што быў у Нікана, калі ён рабіў узнёслы жэст!

Нікан больш дзівіўся нават Заборскаму, чым старцу Арсенію. Дойлід быў нібы брат Нікана. Нікан сам мог стаць вялікім дойлідам, як ён адчувае.

А падобны быў Заборскі на старца Арсенія. І барада гэткая ж, толькі менш сівізны, і пастава, і голас, і чорная раса. Адразу не вызначыш, хто ідзе, нават пагойдваліся аднолькава. Але старац Арсеній быў... Ну, накшталт таго, што наадварот. Старац Арсеній пастаянна жыў у вышэйшых сферах і толькі па неабходнасці далучаўся да зямнога — да рэчаў, людзей, здарэнняў і інш. Сыходзіў уніз. А Заборскі быў чалавекам трывала зямным, зямным жыў і толькі па неабходнасці далучаўся да вышыннага. Узыходзіў на час наверх.

У Заборскага было тое, што мастацтвазнаўцы сёння вызначаюць як «адчуванне матэрыялу». Амаль святое шанаванне і каменя, і дрэва, і тканіны, і металу, і саломы, і зярняці, і чалавека. Іх плоцкай сутнасці. З захапленнем і ніколі не знікаючай дзіцячай цікаўнасцю Заборскі разглядаў, мацаў, дзівіўся на зярністы, крупчасты злом каменя альбо на нечаканы звіў драўніны ля сучкоў. Ці проста стаіць на краі нівы, якую арэ мужык, і ніяк не наглядзіцца на звычайную баразну, на ўзаранае поле. Ці ўтаропіцца на непрыкметную былінку. Проста ён не мог спакойна адносіцца да ўсяго, што мае пругкасць, вагу, фактуру, лініі, празрыстасць, што так прыгожа, так ладна, мэтазгодна і ка-

зачна пабудавана. Ён нават баяўся чапаць гэтыя прыродныя ўтварэнні, а калі адважыўся, калі было патрэбна, то імкнуўся як мага меней нанесці шкоды, заўсёды імкнуўся паспрыяць, каб першаснае, прыроднае, не згубілася, а пачувала сябе вольна. І адначасова ў гэтым працэсе ён любіў яшчэ адну дзею, якую можна назваць прывядзеннем да шляхетнасці, высакародства. Каб гліна звычайная, напрыклад, не губляючы сваёй асаблівай пластычнасці, набывала амаль царскую годнасць. На тое існавалі розныя тайныя хітрасці і мудрагельствы. Заборскаму асабліва прыемна было казаць нешта накшталт:

— Бывае, напрыклад, трава, што называецца марэна, чые карэнні доўгія, тонкія, ярка-чырвоныя. Яе выкопваюць, сушаць на сонцы, таўкуць у скрыні таўкачом, засыпаюць з верхам шчолакам і награваюць у новым гаршку. Пасля таго як усё добра пракіпіць, слановая костка, альбо рыбіна костка, або рог аленя, змешчаныя туды, становяцца ярка-чырвонымі. З гэтых касцей ці рагоў можна зрабіць гнутае наверша для мітрапалітавага кія альбо малую ручку, што згадзіцца для любой мэты.

Аж слодыч нейкая ішла ад гэтых слоў...

— А ёсць яшчэ празрысты і іскрысты белы крышталь. І то ёсць вада, што зацвярдзела ў лёд, а лёд на працягу многіх гадоў зацвярдзеў у камень. І калі ты хочаш зрабіць крышталёвую сферу для дзяржавы, то вазьмі свежую кроў казла, налі яе ў гліняны посуд...

Замілаванне матэрыяй, што так смачна выказвалася Заборскім, мела не толькі абстрактны размоўны сэнс. Зрабі дакладна, як кажа Заборскі, і атрымаеш тое, што хацеў — крышталёвую сферу, наверша кія, малую ручку, артоснае блюда, келіх... Незвычайны талент пранікнення і разумення матэрыяльных з'яў быў у Заборскага. Калі якая замінка выйдзе на будоўлі,

цэгла, напрыклад, пры абпале развальваецца, ці гліна з формы не выходзіць, ці золата на мардан не лажыцца, ці яшчэ што невядомае прычыніцца, нібы сам д'ябал псуе, Заборскі выслухае ўважліва, як што рабілі, спытае пра сёе-тое, рэч агледзіць — так, што толькі языком не лізне: але, але, а то і языком пасмакуе, і скажа рап-там: «Свінца замнога», ці «Меней дубовых дроў кладзіце», ці «Вазьміце другі часнык»,— хоць што той, што іншы часнык, здаецца, усё адно, і г. д. Але зробяць так, як кажа Заборскі, і ўсё становіцца добра.

А ў іншыя дні Заборскі падпяразваў стары скураны фартух, начэпліваў акуляры і працаваў на кафляным заводзе. Там велізарную хату адвялі майстрам-ценінікам. Нікан прасіў прыдумаць для сабора кафляныя аздобы. Майстры ўсе, як на падбор, былі вопытнейшыя. Кожны мог незвычайны шэдэўр зрабіць — у сэнсе — кафляную печку. Бо рэзаць формы навучыліся змалку так тонка, ухвацiста, разнастайна — і са звярамі, і з асобамі, і птушкамі. І як у тую форму гліну пакласці, і як ямчэй зняць яе, танюсенькія маглі вырабіць кафлі — у паўцалі, і нават танчэй, умелі ў розныя колеры аздобіць. Возьмеш зробленую ў рукі — царская каштоўнасць! А тут яны суцішыліся і разгубіліся. Перад імі не печ стаяла — велізарнейшы гмах! Як такое рабіць? І круціліся, што вавёркі ў коле. Бясконца рэзалі з цвёрдай грушы новыя формы, спрабавалі істрынскія гліны, шукалі ў аколіцах спецыяльныя землі для паліў, церлі палівы і абпальвалі, абпальвалі... Валэндаліся цэлымі днямі. Заняткаў па горла, а работы не відно. Аж злосць брала.

Заборскі быў за старэйшага — ды і самы дасведчаны ён быў. Маляваў прыгожа, з такой стараннасцю і чысцінёй, што падаваліся малюнкі гатовымі кафлямі. І рэзаць формы па такіх узорах было надта добра. Кожная рыска дакладная, кожная пукілінка грае.

Навёў Заборскі ў майстэрні ідэальны парадак. На акуратных палічках ляжалі ўзоры кафляў, скруткі папер, стаялі бочачкі з сухімі палівамі, рознымі дарагімі заморскімі матэрыяламі. Усе бралі і ставілі кожную рэч на сваё месца. Нікан, наведаўшы майстэрню, быў уражаны. Для гэтых мясцін такое было нязвыклым. Праўда, у душу прыходзіла нейкая смутнасць. Не, тут і блізка не было абмежаванасці. Усё пастаўлена з належнай шырынёй, грунтоўнасцю. Але Нікану падавалася... Не тое каб цяжкі нямецкі дух... Акуратнасць... Менавіта гэта, здавалася Нікану, тоіць у сабе нейкую вычвару... То, канешне, дзіўна. Проста ніякавата рабілася, калі не сказаць цяжка. Але Нікан адганяў і адкідваў гэта пачуццё, бо там быў Заборскі...

Старац Арсеній быў нябачны маўчун. З ім не пагаворыш. Буркне нешта. Рабіў, што Бог, але і маўчаў дай божа. А Заборскі — салавей. Нават пра звычайную рэч гаворыць, а слухаеш як байку. Умеў. У кнізе такога не вычытаеш. Дзе і як ён такое спазнаў — сказаць немагчыма, відаць, чорныя кніжкі чытаў. І дзівіла: гэтулькі ўмяшчалася ў галаве! Як пачне гаварыць — з такой дакладнасцю, грунтоўнасцю.

— Нікому не дадзена права хаваць свой дар мудрасці ў торбу ці скарбонку сэрца свайго, але неабходна, каб добры чалавек, адкінуўшы ганарлівасць, у змірэнні і весялосці розуму раздаваў свой дар усім, хто шукае яго. І не павінен ты быць ні сквапным, ні лжывым, не павінен ты свае выгоды цаніць вышэй, чым сваё мастацтва, бо галоўнай мэтай майстра з'яўляецца не выгода і прыбытак, а жаданне пранікнуць у тыя цудоўныя дзеі, што прырода робіць на зямлі, і з дапамогай ведаў той, хто па праведным жыцці дапушчаны да боскіх таямніц, можа добрую рэч зрабіць, мілагучную для сэрца.

Нікан слухаў і не мог наслухацца, радаваўся, што яму трапіўся нарэшце незвычайны знаўца. Так што Заборскага, асаністага чалавека з каштанавай барадой, з поглядам, накшталт як у чарадзея, Нікан так упадабаў, што клікаў ледзь не кожны дзень на мудрыя бясе-ды. Запрашалі на іх і старога лацініста, і паэта Петрака, і златакаваля Корзуна, і старца Арсенія, часам яшчэ каго. Нікан разам з Заборскім і старым лацаністам заплываў у такія найдалікатнейшыя тонкасці, што старац Арсеній толькі галавой ківаў, яму станавілася сумна, і ён ішоў на будоўлю.

— Паважаны васпане, паважаны васпане,— гарачыўся Заборскі, забываючы, што патрыярха трэба клікаць «ваша вялікасць» ці «вялікі гасудар»,— але як жа вы сабе гэта ўяўляеце? Што то значыць узняцца ў космас? Космас, зразумела, існуе, населены, відаць, рознымі істотамі, але як чалавек, седзячы на зямлі, у той момант, напрыклад, як кажаце, калі вялікі дойлід маляваў сабор, як чалавек можа ўзняцца ў космас? Вось так, не адрываючыся ад зямлі? То нейкі зман і лухта! Проста на той час вялікі дойлід працаваў больш старанна і ўвішна. Вось і выйшла ў яго патрэбнае. Тут дбайнасць, руплівасць галоўнае!

— Ды не, манах,— ракатаў Нікан,— ты вельмі прыніжаеш чалавечую істоту. У ёй духу нават болей, чым цела. Ну во, спытаем у самога старца Арсенія, ці быў яго дух у космасе, калі маляваў ён сабор? Як, паважаны дойлід?

Старац Арсеній глядзеў на Нікана, глядзеў на Заборскага, на старога лацініста, потым нікуды не глядзеў, уздыхаў, думаючы аб нечым.

— Ды як вам і сказаць? Дзіўна гэта адчуванне. Быццам тут і не тут. Здавалася мне, што я вельмі высока над зямлёй. Але баюся гаварыць пра гэта. У мяне такое ўражанне, калі скажу — бяды не абяруся. А мне

сабор трэба ставіць. Скажу толькі: там нешта магутнае, дрыготнае і паводзіць сябе трэба бездакорна — бо турхнуць, і касцей не збярэш. Трэба быць ветлівым, сардэчным і зычлівым. I не толькі да іх, але і да ўсяго на зямлі. Тады яны дапамогуць нешта зрабіць. Так мне здаецца. Але пра гэта лепш не гаварыць. Забудзьце, што я казаў.— Ён уставаў.— Ну я пайду. Вы тут без мяне разбірайцеся.

Старац адыходзіў, а Нікан грымеў:

— Ты чуў, манах, што ён сказаў? Чуў? Га?

Але на тое Заборскі і быў Заборскім, чалавекам, як кажуць на вёсцы, «вумным, што вутка», вынырлівым. Сухім з любой вады выходзіць.

— Васпане! То ж проста розум чалавека! Розум! Мала што чалавеку падалося? Можа, мне зараз падалося, што я з анёлам размову вяду. Але толькі падалося.

— Што гэта? — Нікан паказваў на чарніліцу.

— Чарніліца.

— А цяпер што гэта, дзе яна, не існуе? — Нікан хаваў чарніліцу пад далоняй.

— То лепш гаварыць, я не ведаю.

— Як гэта ты не ведаеш, ты ж толькі што бачыў яе, бачыў, як я схаваў!

— А можа, там яе няма? Можа, вы індыйскі маг.

— Якую лухту ты нясеш, манах! Які я маг? Чарніліца ў меня пад рукой.

— Не ведаю, не ведаю.

— Ну з табой не згаворышся. Паважаны магістр,— звяртаўся Нікан да старога лацініста.— Ці ж можна тут па-іншаму рассудзіць?

Андрэй Быхавец сядзеў проста, не гнучы спіну, глядзеў выцвілымі блакітнымі вачыма, як сівая вечнасць, і казаў, таксама нібы з вечнасці, ад тых элінскіх часоў:

— Просты чалавек і не памысліўшы сказаў, што чарніліца пад рукой. Але людзі за многія вякі існавання сталі няпростымі істотамі, настолькі няпростымі, што зараз цяжка станоўча адказаць на ваша пытанне, вялікі гасудар. У звычайным мы вынайшлі занадта многа звіваў. Таму лепш будзе сказаць, як і паважаны старац Заборскі: не ведаю. Лепш памацаць і ўверыцца. На тое і пальцы...

— Ну, а калі істоты толькі духоўнай іпастасі, калі іх не бачыш і не чуеш — што, яны не існуюць? — пытаўся Нікан.

— Нявырашанае пытанне,— гаварыў стары лацініст.— Мудрацы не могуць пагадзіцца, ці можна ў гэтым выпадку нешта такое лічыць існуючым?

— Мудрацы твае, мудрацы,— бурчаў Нікан,— ну а душа існуе ці не?

— Субстанцыя душы...— пачынаў стары лацініст.

— Душа існуе! — жорстка сцвярджаў Нікан.— Існуе! Я, як патрыярх, загадваю лічыць, што душа існуе.

— Навошта тады і спрэчка,— бурчаў Заборскі.— І пра што тады спрачацца. Загадана — і ўсё. Якая спрэчка...

— А ты далей спрачайся. Душа існуе — гэта аксіёма. Не нам гэта ўстанаўляць, так Бог вырашыў. А што рабіць з душой — то ў нашай уладзе.

— А не Божай? — з'едліва заўважаў Заборскі.

— Бог толькі душу ўдыхнуў. А астатняе — наша.

— А як жа тады палажэнне: усё ў руцэ Божай? — здзекаваўся Заборскі.

— Ну і вёрткі ты, манах,— сердаваў Нікан.— Можна было б табе даказаць, што Бог — Богам, а чалавек — чалавекам. Богу — Богава. Але з табой і тут не пагодзішся. Таму і тут загадваю лічыць, што душа чалавека часткова ў нашай уладзе. Нам трэба зразумець, што

рабіць далей. Ды і спрачаешся ты толькі, каб спрачацца. Сам так не думаеш.

— Правільна,— казаў супакоены Заборскі,— правільна, вялікі гасудар. Часам у гэтых спрэчках ісціна так заблытваецца, што пачынаеш даказваць тое, у што не верыш.

Такім быў Заборскі. Часам доказ ім вадзіў, а не ісціна. Але Заборскі дакладна ўсведамляў аксіёмы, з якіх зыходзіў, да якіх прыходзіў. Нават непаслядоўнасць была адной з аксіём яго душы. Можа, крыху жаночы характар. Нішто, такой бяды. Але яго шматграннае веданне...

## 11

Веды, практыка...

— Мельнікаў не працаваў у тэорыі дзеля самой тэорыі,— кажа доктар тэхнічных навук В. В. Ларыёнаў (магнітафонны запіс).— Зразумела, патрэбны вучоныя, якія лунаюць у далёкіх ідэях, што невядома дзе і калі спатрэбяцца. А ў Мельнікава ўсё вызначалася паняццем «патрэбна». Калі ён пісаў пра рэактары, гэта ўсё канкрэтна выкарыстоўвалася, калі пра сталь, то, значыцца, пра будаўнічую, што ўлічвае спецыфіку будаўніцтва. Ён арыентаваў навуку на вырашэнне практычных задач. Ён сабраў у інстытут спецыялістаў па аўтаматызацыі, карозіі, зварцы, тэхналогіі, сейсміцы, сталі і інш. Кожны ў сваёй галіне займаўся вырашэннем пэўных практычных канструктарскіх задач.

І ўсе, нават дробныя рысы мельнікаўскага характару, былі скіраваны на практычную дзейнасць. Цяга, інстынкт.

П. Н. Троіцкі, кандыдат тэхнічных навук (магнітафонны запіс):

— Мельнікаў валодаў здзіўляючай якасцю, я не магу знайсці дакладнага слова, можа, трэба сказаць

«напорыстасць». Умеў пераконваць людзей. Па сутнасці справы, толькі дзякуючы яго энергіі і настойлівасці ўзведзены двухсоттрыццаціметровы купал у Істры, зусім новы па канструкцыйных прыёмах, унікальны ў сусветнай практыцы. Будынак для Істры прапанаваў і Ленінградскі прамбудпраект — у традыцыйным плане — сцяна, перакрыццё — апорныя канструкцыі, агароджа. Ён не зусім увязваўся па тэхналогіі з патрабаваннямі заказчыка, быў занадта груваскім, цяжкім і дарагім. Мы прапанавалі купал з трохкутных напружаных элементаў. Спачатку канструкцыя не была такая адаочная, як зараз, не была прапрацаваная да канца па методыцы выканання і мантажу. Мала хто верыў, што нешта атрымаецца. Сумняваліся — ці дастаткова трываласці, ці не пацячэ дах, ці дастатковая цеплаізаляцыя і інш. На баку гэтага неапрабаванага праекта была меншасць. Ленінградскі праект пярэчанняў не выклікаў. Дзяржбуд не падтрымаў ідэю купала. Але Мельнікаў не здаўся нават у такой безнадзейнай сітуацыі. Ён пайшоў да бадаўнікоў, і яны сталі на яго бок. Купал пачалі ўзводзіць, у час будаўніцтва не было асабліва вострых праблем, і сёння здаецца, што яго будаўніцтва — натуральная рэч. Тут няма шматлікай наменклатуры дэталяў — толькі адзін уніфікаваны блок. Падобнае было і ▪ алімпійскім аб'ектам ЦСКА, дзе Мельнікаў прапанаваў выкарыстаць для перакрыцця новую на той час канструкцыю — папярэдне напружаныя блокі, якія магчыма хутка выконваць і манціраваць. Ён здолеў пераканаць і будаўнікоў, і заказчыкаў, што такая канструкцыя прагрэсіўная. Работа была хутка выканана. Мельнікаў верыў, што ўсё добрае, што праектуецца ў інстытуце, можна ажыццявіць. І на самай справе гэта ўсё рабілася.

С. А. Клімаў, начальнік аддзела (магнітафонны запіс):

— У нас не было такога, каб мы распрацавалі якую-небудзь ідэю, а потым шукалі, дзе гэта прыстасаваць. Мельнікаў улоўліваў момант неабходнасці і пачынаў распрацоўваць. А калі вострая патрэба надыходзіла — рашэнне было гатовае. Мельнікаў умеў знайсці, зразумець, а потым укараніць своечасова новае. Калі ён прасякаўся нейкай ідэяй, то ён ад яе не адступаўся і паслядоўна імкнуўся рэалізаваць. Ён стварыў, напрыклад, рэактар на хуткіх нейтронах незвычайнай канструкцыі...

Сапраўды, нечакана, бо гэты атамны кацёл хо-дзіць, што гармонік. Быў факт, ужо вядомы ўсім, што стаў нормай, законам: там, дзе ўводзяцца ў кацёл трубы, сценкі яго трэба рабіць таўсцейшыя, каб пазбегнуць дэфармацыі і магчымых пашкоджанняў катла. Тут зыходзілі з палажэння, што ў нерухомай рэчы даўжэйшы век. А Мельнікаў пагрэбаваў гэтым правілам і зрабіў наадварот! Там, дзе трубы злучаюцца з катлом, сценкі не надта тоўстыя, і трубы, калі разаграюцца і падаўжаюцца, проста ўмінаюць кацёл.

С. А. Клімаў:

— Вырашэнне настолькі нязвыклае, што ніхто і не ўкараніў бы такі кацёл, каб Мельнікаў не ўжыў асаблівую разумную тактыку. Два гады ён гутарыў са спецыялістамі розных профіляў, ад якіх залежала ўкараненне рэактара, знаходзіў пераканаўчыя доказы. Гэта ўжо мае адносіны да тэхнічнай дыпламатыі.

Кацёл гэты выбудавалі ў горадзе Шаўчэнка на Каспійскім моры, ён аказаўся зручным і эканамічным у эксплуатацыі, і збіраюцца, як я чуў па тэлебачанні, будаваць яшчэ такія катлы.

У Мельнікава, такім чынам, быў асаблівы зрок, можна сказаць, стэрэаскапічны, ён бачыў зямную рэч у яе розных магчымых жыццёвых трансфармацыях, звяртаў увагу часам на нечаканы бок яе існавання і таму

мог рабіць працей, ямчэй — тым і набліжаўся да мудрэйшых і надзіва простых прыродных утварэнняў. Тая ж домна, што зараз стаіць, як панцыр рака, раней падтрымлівалася спецыяльнымі калонамі, раней яе кляпалі, што было і нязручна, і дарага, і няможна было зрабіць гіганцкай. Падобнае і з іншымі збудаваннямі, у якія Мельнікаў «укараняўся», перайначваў і рабіў дасканалымі з пункту гледжання іх узвядзення і іх рабочага жыцця.

П. Н. Троіцкі, кандыдат тэхнічных навук (магнітафонны запіс):

— Эфект ад такога ўкаранення атрымліваецца каласальны — проста залатое дно — у тым сэнсе, што мы эканомім метал, грашовыя і людскія рэсурсы. Нам удалося, напрыклад, удвая аблегчыць каркасы катлоў, павысіць іх надзейнасць, мы зэканомілі краіне літаральна сотні тысяч тон металу.

Можна сказаць, што гэткім чынам Мельнікаў разам са сваім інстытутам, што мае філіялы ў многіх буйных гарадах Саюза, усю краіну «перабурляў», гэтыя сталёвыя канструкцыі год ад году ўсё больш магутныя, больш шматлікія. Нашэсце! І не ведаеш, ці радавацца, ці галасіць з такой прычыны. Мы доўга маўчалі ад здзіўлення — толькі сёння заўважылі, што не ўсё тут так, як трэба.

С. А. Іляшоў, начальнік аддзела:

— А ён быў без комплексаў. Ён не баяўся. Ён не толькі заводы — ствараў цэлыя галіны металабудаўніцтва. Ён смела кроіў матэрыялы мільярдных каштоўнасцей.

Дзевяты вал!

З Мельнікавым я бачыўся ў афіцыйнай абстаноўцы толькі некалькі разоў і не надта многа зразумеў з

яго характару, хоць адразу ўсвядоміў: то сапраўды «дзевяты вал» — чалавек уладарны, з талентам асаблівага пранікнення ў рэчы і душы людскія. Цяжка сказаць, як ён дасягаў такога, нават набліжэнне да яго кабінета, сам рух у гэтым напрамку выклікаў хваляванне. Потым спецыяльна даследаваў гэтую з'яву і пачуў ад іншых, амаль ад усіх, з кім гутарыў, пацвярджэнне, што такое перажывалася кожным.

— Мы баяліся яго гневу і чакалі яго пахвалы.

Вас сустракае чалавек сярэдняга росту, мажны, адчуваецца, фізічна моцны. У яго ўладарны валявы твар. Цяжка казаць пра яго твар. У ім нейкая магутная стыхія, у вачах, як кажуць, пранізлівы розум і яшчэ — няўмольнасць, непахіснасць, нават жорсткасць, погляд павольны, важкі, моцны, магчыма, нешта зыходзіць ад сялянскай нетаропкасці і грунтоўнасці, але няма вясковага недаверу.

— Праходзьце, сядайце,— голас ветлівы і цвёрды.

Не пакідае пачуццё, што ты далучаешся да нечага незвычайнага. Не, гэта не таму, што тут велізарны кабінет, паперадзе якога цэлы рой сакратарак і шаноўнае чаканне ў прыёмнай. Мы ўжо прызвычаіліся да такога антуражу, часам за такім агромністым пісьмовым сталом знаходзім чалавека значна меншага маштабу, чым сам стол. А тут справа была ў чалавеку. Яшчэ нічога дакладна не ведаеш пра яго работу, не думаеш і не разумееш, што гэта не проста чалавек, а з'ява, і ўсё ж адчувалася, трымцела ў паветры гіпнатычнасць гэтага чалавека, у якога буйныя і няправільныя рысы твару аддавалі магутнасцю стыхіі.

Дзевяты вал!

Ён быў кароль. Ён гуляў у каралеўскія гульні з каралямі...

Відаць, менавіта такое больш за ўсё ўражвае. Мы тут, унізе, пешкі, а яны там, каралі, гуляюць намі. Як у Чурлёніса. Два каралі з залатымі каронамі, у парчовым адзенні стаяць у загадкавым лесе. За тоўстымі чорнымі каленчатымі галінамі бязлістых дрэў прагляваюць буйныя белыя зоркі, лётаюць трывожныя птушкі, сурова чарнеюць замкі на пагорках. То, трэба думаць, вышэйшы свет каралёў, іх звыклае змрочнае асяроддзе. Адзін з іх, крыху нахіліўшыся, трымае на выцягнутых руках — далоні тонкія, доўгія, прамыя — прамяністую паўсферу (акурат Мельнікаўскі купал-шар!), а ў гэтым купале ў ружовым святле — вясковая ідылія з дрэвамі, хацінкамі, словам — мы, што і не ведаюць пра той змрочны каралеўскі свет, мы, шчаслівыя, нібы дзеці! Можа, адзін кароль другому беражліва перадае гэтую паўсферу, што будзе азначаць для нас змену ўлады, можа, кароль выхваляецца зіхатлівай нацацачкай... Адзін дых караля — і павеюць ветры, нахмурыцца неба, а можа, усё паляціць разам і віхурай да д'ябла. Справа ў тым, які настрой у караля, што яму ноччу прыснілася...

Але, яны былі каралі — і Мельнікаў, і Нікан.

Дзевяты вал!

Заборскі, відаць па ўсім, таксама быў такім каралём — у агульным сэнсе, як сімвал практычнага мыслення і дзеі.

А зараз канкрэтна пра Нікана і Заборскага, гэтых двух каралёў: белага і чорнага. Заборскі трымаў на тонкіх выцягнутых далонях прамяністую паўсферу з нашым рэальным зямным светам. А Нікан, як угледзеў, то ледзьве не самлеў. І не ад зайздрасці ці яшчэ якіх ніжэйшых чалавечых пачуццяў. Нікану такое не прыходзіла ў галаву, бо ён дакладна ведаў, што ўсё, што

бачаць яго вочы, належыць яму. Тут іншае. Нечаканасць. Новы практычны свет, пра які ён не ведаў дакладна — вось ён!

Да гэтага часу ў Нікана была другая паўсфера — ззяючая, зіхаценнем якой ён толькі і жыў. Умоўна яе можна назваць «верхнім небам». Сёння, у наш век, гэта забытая з'ява. А яшчэ на пачатку веку можна было адчуць яе подых.

Здань, прывід, як мігценне і зменлівасць жанчыны немагчымага відовішча... Нейкая псіхалагічная няпэўнасць, толькі мроіцца, на першы погляд, такое і ўплываць ні на што не можа, бо ці ж можа на што ўплываць зданлівасць?..

Можа!

## 12

Тэрмінова, тэрмінова!

Ён абрынуўся! Купал-шар абрынуўся! Упаў на зямлю — і сталася роўнае месца!

Чорт ведае што... Адразу не вызначыш, як да такога аднесціся. Нейкі лёс, прадбачанне, папярэджанне. Можна было б сказаць, што процістаянне скончылася, што асляпляльнай вольтавай дугі, якая бушавала паміж шарам і манастыром, не вытрымаў менавіта шар, сімвал практыцызму нашага часу, што перамог чалавечы, а не машынны пачатак. Тым больш што гэта паведамленне я пачуў у парадаксальным асяроддзі — сучасным.

Мы прыйшлі да знаёмай на дзень нараджэння. Там быў збор людзей высокіх адміністрацыйных пасад, жанчыны таксама былі не з простых — рабілі ў часопісах, кінастудыях, перакладчыкамі.

Кожны быў асобай, але гэта высвечвалася натуральна, без націску, падкрэслівання пасад і становішча. Не-

шта накшталт таго, як бывае пры чайных японскіх цырымоніях, на якіх само асяроддзе, абсталяванне прымушае прысутных быць на роўных, шанаваць пэўны густ гаспадара і паводзіць сябе сціпла. Праўда, такое датычыла толькі сутнасці саміх адносін, каларыт атмасферы быў іншакшы, непаўторна наш, славянскі, і пэўнага часу — сярэдзіны васьмідзесятых дваццатага стагоддзя. У ім, можна сказаць, адбівалася ўся эвалюцыя нашага жыцця апошняга стагоддзя, так пэўна адчувалася, што яе можна было крануцца рукой, а не толькі неяк няўлоўна спазнаць.

— Добры вечар,— невялічкі паклон, ледзь заўважны, проста нахіленне галавы, як зараз прынята.

Я быў у цёмна-сінім фінскім касцюме, на этыкетцы якога па-англійску было напісана «для джэнтльменаў», у сарочцы дробнага бежавага гарошку з вялікім, не па модзе, каўнерыкам, бо мне было прыемна мець на сабе нешта не па модзе, мой не надта малады твар меў унізе ўжо добра пасівелую невялічкую бародку і вусы, а зверху на вочы лезлі доўгія калматыя каштанавыя валасы, даўно не стрыжаныя. Усё гэта было дакладнай цэхавай прыкметай — людзі адразу распазнавалі, што належу я да мастакоў, і гэта цешыла самалюбства, асабліва тая акалічнасць, што давала мне пэўны надкласавы статус. Мяне прымалі на роўных і вясёлыя злаязыкія рабочыя ў заляпаных вапнай спяцоўках, бо яны лічылі мяне, як і сябе, чэсным рабацягам, і акадэмікі ў сціплых і надта дарагіх касцюмах, бо я меў справу з чалавечым і нават нейкім іншым духам, і вось, як зараз, гэтыя выфранчаныя адміністрацыйныя работнікі, якіх клічуць функцыянерамі, што ажыццяўляюць кантакты і кіраўніцтва паміж самымі верхнімі і самымі ніжнімі велізарнейшай іерархічнай лесвіцы — і тут я меў свой статус, бо лічыўся «інжынерам чалавечых душ», калі карыстацца застарэлай тэрміналогіяй.

З усіх вылучыў двух чалавек. Мастака, мажнога пажылога чалавека, велічнага ў жэстах, які крыху граў пад мастака сваёй значнасцю і асабліва — вялікімі прыгожымі выпеставанымі рукамі, на сярэднім пальцы правай мякка пагойдваўся ў такт яго нетаропкім нервовым рухам велізарны, з сінім лазурытам, пярсцёнак, які, акрамя мастака ці артыста, ніхто з іншых мужчын не асмеліцца ўзлажыць. Але да мастака ў мяне адразу, нягледзячы на знешнюю пачцівасць, з'явілася лёгкая непрыязь, бо ён быў падобны на мяне, а два мастакі для такой невялікай кампаніі — ужо зашмат, мы неяк нейтралізавалі адзін аднаго. Затое вольна пачуваў сябе таксама мажны, але значна маладзейшы ад нас мужчына, што пад'ехаў на чорнай «Волзе», і жонка якога ў дарагой футры, ■ капрызна выстаўленай, прыгожай ніжняй губкай і простым ветлівым поглядам несла цэлае бярэма дарагіх, з базару, махровых пунсовых гваздзікоў, кожны з якіх выхваляўся сваёй высакароднасцю і каштоўнасцю. І нешта такое, як гэтыя кветкі, было ў чалавеку. Дарагі ён быў. І адметны. Ён не граў сціпла, як мастак, у сваю значнасць, бо і так было відаць, што ён досыць дарагі і значны, таму ён паводзіў сябе проста і дэмакратычна. На ім быў таксама цёмна-сіні касцюм «для джэнтльменаў», але крыху крэмаватая сарочка мела невялічкі каўнерык з тонкім чорным канцікам, відаць, то было звышсучасна (ён не апускаўся да такога жаночага разумення, як «мода»).

Я паклаў руку на льва — на прыемна пацямнелую драўляную львіную галаву, якая вяршыла высокую спінку крэсла са скуранымі карычневымі сядзеннямі і багатай арнаментальнай разьбой. Ёсць асаблівая слодыч кранацца музейнай рэчы, або інакш — рэчы вельмі-вельмі далёкай, што шанавалася нашымі прадзедамі, і мае для нас цьмяны, незразумелы сэнс. Змалку ў мяне была гадлівасць да старых рэчаў, асабліва царкоў-

ных, і ўяўлялася натуральным, што гэтыя рэчы знішчаюць, каб можна было жыць нанова, не баючыся, вальней. Мы выдзіралі з велізарных кніг нялюдскія, пергаментныя старонкі, дзівіліся асаблівым маляваным нялюдскім літарам, адводзілі насы ад застарэлага паху, а потым выкідвалі ўсё і беглі адмывацца на рэчку. Але праз паўвека рэшткі тых рэчаў дагналі нас, і ў нас з'явілася ненармальная слодыч, калі мы кранаемся гэтых рэчаў, далучаемся да іх змардаванага сэнсу. Я патрымаў колькі часу руку на львінай галаве, пакуль не «насыціўся». І не мела значэння, што гэтыя крэслы вывезены ў якасці трафея з Нямеччыны. А потым нехта ўнёс два белыя разьбярныя крэслы — то ўжо з іншай крыніцы, нашай, айчыннай, канца мінулага веку, калі грамадства крыху пераела рацыяналістычнай праміз-ны і захацелася нечага гэткага, мадэрнова-крываліней-нага. Я сеў на мадэрновае крэсла, ясна адчуваючы галубкінскія часы, што ахутвалі мяне і былі так падобныя да нашых. А потым, надзівіўшыся на людзей і іх размовы, зусім уверыўся ў працягу галубкінскіх часоў.

Больш гаварыў мажны, добра адмыты і адпрасаваны чалавек, які нагадваў дарагія пунсовыя кветкі. У яго быў смелы, выдатна пастаўлены голас і такі ж ясны погляд. Ён вёў непрымушаную свецкую гутарку, лёгка пераскокваючы ад адной тэмы да другой. Гаварыў і пра сферычнасць тыбецкай Шамбалы (у сувязі з чым памянуў Эйнштэйна, які навукова абгрунтаваў скрыўленне прасторы і часу, а пад канец жыцця ўпаў у ідэалізм), і пра Мендзялеева, які не адмаўляў магчымасцей спірытызму, і пра Паўлава, які наогул быў ідэалістам, і пра тэорыю Карнегі, які ставіў паляпшэнне прыроды чалавека ў залежнасць ад якасці знешніх людскіх паводзін і пэўнага слова. Пагаварылі мы крыху і пра тэхналагічнасць народа, праблему «даганяння»

Амерыкі. Словам, ішло ўсё кола пытанняў свецкіх і не свецкіх, чым цікавіўся сучасны інтэлігент. Гэта, відаць, і было парадоксам сучаснага. Бо ў нас, што нядаўна толькі выйшлі з патрэб самых мінімальных шасцідзесятых гадоў, калі практыкай толькі і займаліся, раптам за якое дзесяцігоддзе разгарнулася такая духоўная сфера розных інтарэсаў і разуменняў — падобна выбуху! Гэты дарагі чалавек, як і многія іншыя, пацёрся па свеце, быў у розных заграніцах — у часе кожнай паездкі, як зразумеў з яго слоў, імкнуўся не проста турыстам пабачыць дзівы, але і спазнаць глыбіннае таго ж японца, мексіканца, і не таму што гэта было яго службовым абавязкам — хутчэй абавязкам душы чалавека, які турбуецца аб стане і далейшым лёсе сваёй краіны, народа. Часам такія турботы людзі схільныя расцэньваць як асабістую цікаўнасць чалавека, бо да службы, здаецца, яны не маюць прамога дачынення, служба наогул, калі прызнацца, апынулася ў нейкім вакууме — твае словы, загады, пажаданні толькі і застаюцца тваімі, ні на што не ўплываюць, бо жыццё прэ сваімі, цяжка зразумелымі законамі, яно сёння, напрыклад, больш шануе Высоцкага і ўтульны хатні кут, чымся вялікую эканоміку. Але ўсё ж з'яўляецца не прадугледжаная фармальным службовым абавязкам духоўная патрэба. Гэты чалавек ужо не толькі дзеля службы ляціць за мяжу, а каб высветліць нейкія пункты сваёй сістэмы разумення людскіх і народных лёсаў. Паступова сфера яго інтарэсаў схілілася да глыбіннага светаўспрымання.

Дык вось гэты парадаксальны наш сучасны чалавек і кажа, калі загаварылі пра істрынскі манастыр пад Масквою:

— Купал у Істры праваліўся.

— Які купал? — спытаў я.— Манастыра?

— Не, сучасны, што будавалі.

— Як гэта праваліўся?

— Не вытрымаў, відаць, сёлетняй марознай зімы. Зараз метал даследуюць, можа, іншы метал трапіў.

— І што... нічога не засталося, увесь купал?

— Нічога. Роўнае месца,— ён гаварыў без эмоцый, ветлівым свецкім тонам, але мне падалося, што ў яго ёсць невялічкае ўнутранае задавальненне, што гэты купал праваліўся.

— Як? — даходзіць нарэшце да мяне трагічнасць і нечаканасць дзеі.— Той купал-шар стометровай вышыні?

— Але.

— То ж...

Не магу нічога вымавіць. Купал-шар быў для мяне сімвалам нашага тэхнічнага прагрэсу. Ён лопнуў, што мыльны пузыр! Ляснула адразу 34 мільёны рублёў! Але тэхнакратаў такое, відаць, толькі ўзбудзіць, яны памкнуцца выбудаваць больш грандыёзнае і немагчымае. Не прыдумаеш у самай страшнай фантастыцы.

Ды ці паміраюць наогул каралі? Мельнікаву нешта не спадабалася ў яго ззяючай паўсферы, і ён дзьмухнуў на яе — адтуль, знізу, са сваіх змрочных каралеўскіх сутарэнняў, дзе растуць бязлістыя каленчатыя чорныя дрэвы...

## 13

Можа, падобным чынам загінула і ніканаўская паўсфера? Сам Нікан дзьмухнуў. І менавіта тады яго «дзьмух» пачаў прыходзіць у рух, калі ён упадабаў Заборскага...

А яго паўсфера была такой ідэальнай цацачкай! Што ні кажы — само верхняе неба!

Як яго крыху памацаць?

Да вайны мы жылі ў маленькім стараверскім гарадку. Там быў асаблівы быт, асаблівы стараверскі магутны дух, што рабіў адметным увесь той гарадок. Мне падавалася, што не толькі мужыкі з акаляючых вёсак іх не паважаюць, але і яны самі адзін аднаго не паважалі, можа, ненавідзелі, таму рабілі свае дамы сапраўднымі крапаснымі збудаваннямі з цяжкіх чорных цэлых бярвенняў — нават агароджы з бярвенняў. Вароты — магутныя дубовыя шулы, таўшчынёй у паўметра, перакрытыя зверху дахам, зроблены з таўсценных дошак на тоўстых-тоўстых завесах. Усё мела надзвычайную трываласць. А зверху ў дадатак здобілася яшчэ і адмысловымі драўлянымі карункамі, што пускаліся не толькі каля акон, але і пад страхою, і на ганку, і на франтоне, і па тых жа варотах. Хто багацейшы — той і карункаў больш пускаў. У двор траплеў як у адметную замкнёную прастору, бо той быў з усіх бакоў шчыльна і высока агароджаны і ў дадатак меў вялікую адкрытую, узнятую высока над зямлёй, мошчаную дошкамі тэрасу-дворык. Але самае дзіва было ў хаце, дзе на чорных бярвеннях, сярод простых і суровых, рубленых з дрэва ці зробленых вясковым кавалём рэчаў, тонка, не па-тутэйшаму свяцілася золата — найвіртуознейшай майстэрскай работы, і драўляная разьба з пазалотай, жывапіснае ізаграфічнае пісьмо на залатых фонах, і шытыя рознакаляровым бісерам і кутыя са срэбра і золата з каштоўным каменем абклады. І не адна ікона — цэлая сцяна, нібы ў царкве, ды, уласна, то і былі хатнія цэрквы, бо гэтыя раскольнікі былі беспапоўцы, маліліся кожны паасобку — можа, таму сталі такімі ваўкалакамі. Але чаму ім было даспадобы прасвятляць сваім змрочным небам чужога хлопчыка — не магу зразумець. Але такое было. Аднойчы яшчэ малады стараверу бачыў мяне на вуліцы і сурова спытаў: «Хочаш паглядзець на нашых багоў?» Ён, як і іншыя стараверы,

быў у зашмальцаваным адзенні, цвёрдым і дарагім, і суровасцю барадатага і сур'ёзнага аблічча нагадваў свае іконы. Ён мне і растлумачыў касмічную будову свету, што нагнала на мяне такога страху — валасы дзіцячыя на галаве пачалі дыбка станавіцца. Можа, справа ў тым, што дарослыя адносіліся да гэтага не як да казкі ці нечага такога далёкага. Усё рэальна тут, у яго хаце. І лесвіца, што вяла на неба, і Ілля Прарок-Грамавержац, які на сваёй вогненнай калясніцы імчаў па небе, дзе яму ўздумаецца, і ў каго хацеў, у таго і ўсаджваў перуна, і сядзелі цырымоннымі радамі святыя і багавыя служкі, а я павінен з'явіцца на іх суд, яны будуць узважваць на велізарнейшых шалях мае грахі і добрыя справы, а я чакаць буду, што ж пераважыць, і ў залежнасці ад гэтага пайду ў рай ці на вечныя мукі ў ад... Старавер дакладна і падрабязна паказваў мне ўсе страшэнныя прыклады катавання — і патэльні, і вілы, і смалу, і нейкія калоды — чэрці бралі людзей і смажылі, і варылі ў смале, пяклі на агні, ламалі косці — рагаталі, здзекаваліся. Бог і святыя заўсёды ведалі, дзе ты, што робіш, нельга было схавацца, збегчы. Увесь час ты быў пад іх страшэнным назіраннем. Было яшчэ божае вока ў трохкутніку, якое наогул магло бачыць у самай неверагоднай цемені. Нават громка размаўляць было грахом, а звычайныя дзіцячыя гульні былі такім грахом!.. Змірэнне, нерухомасць, бездакорнае падпарадкаванне... Не думаць, не гаварыць, не бегаць, не хадзіць, а неяк па-асабліваму благачынна перамяшчацца... Гэта была абсалютная залежнасць чалавека ад багоў, ты жыў пад іх вечным пакараннем, бо на іконах былі не іх адбіткі, а яны самі блішчэлі незямным золатам. То неад'емнае дома, яго сутнасць, дух і плоць, як і ўсяго паветра, аблокаў, сонца, траў, звяроў, птушак. Патрабавальная да апошняга смяротэльнага чалавечага нутра сістэма. Нібы ў канцлагеры, за калючым дротам, з ку-

лямётамі на вежах, са страшэннымі аўчаркамі і эсэсаўцамі, што могуць пусціць кулю ў любую хвіліну. Якая там весяласць, якое каханне!..

Але Нікан не гэта спасціг, калі збег з хаты ад мачыхі, якая ледзьве не спаліла яго. Гэты божы страх быў ужо ў ім, калі ён прыбег да папа ў суседнюю вёску, дачка якога стала потым яго каханай жонкай, а яе брата Паўла, будучага метрапаліта Каломенскага, ён сашле за раскол у Сібір.

Людзей аблавушвалі змалку. Яны спыняліся, заміралі, згасаў іх дух — і яны жылі без змен стагоддзямі ў сярэднявеччы.

Дзіва ў тым, як Нікан пры гэтым грозным верхнім небе здолеў выпутацца з-пад яго дрымучых чар. Выпутацца! Але гэта і было яго крушэннем...

Нікан, відаць, не мог спазнаць і ўсвядоміць гэта адразу. Можна меркаваць, ён спачатку толькі смутна адчуваў надыход нечага вельмі нядобрага для яго. Ужо з таго часу, калі прыскакала жанчына немагчымага відовішча. Калі прыйшоў Заборскі, які рабіў гэтак жа дасканала, як і сам Гасподзь...

Усё высыхала ў ніканаўскай душы — і думкі, і пачуцці. Не, Заборскі не высмоктваў, як цмок, сілы. Крый божа! Такі спагадлівы чалавек. А душа Нікана высыхала, яму рабілася часам страшна і зноў сніліся абвалы саборных сцен...

Гэты трагічны злом эпох!..

## 14

Зноў, у каторы раз, муры выраслі з зямных глыбінь і ў каторы раз дойлід старац Арсеній зноў дзіваваўся свайму тварэнню.

Як помніць, у часы самага першага свайго будавання (то была невялічкая цэркаўка) галоўным яму пада-

валася пакласці цагліну на цагліну. Рос мур, з'яўлялася ў свет тое, чаго нідзе не было. Гэта надзвычай дзівіла дойліда. З нічога! Тварэнне, хоць і не вельмі паслухмяна, але прымала розныя твае думкі і пачуцці. І заставалася на векі вечныя.

Але з цягам часу ён зразумеў, чалавек можа вырабіць з цэглы, дрэва, штуку, што пажадае. І старцу Арсенію захацелася выказаць даўнюю юнацкую мару — явіць свету цнатлівае вясновае дзяўчо. Аднак тады, калі яму здавалася, што ён выгукнуў на поўны крык гэтую мару, то ўбачыў Фросю. Магутную, усеабдымную, што шалела ад уласнай сілы, здароўя, радасную, што зямны дзень. Ён спаўна пазнаў гэтую буйную зямную радасць, ні аб чым не шкадуе. Каханне моцнай здаровай плоці адрадзіла яго душу, якая пачала згасаць, замкнёная ў вузкае кола аднастайнай мары — кволае каханне да тонкай цнатлівай маламажэйкаўскай дзяўчыны. Буйства і жыццялюбства яго сабора адрадзіла да жыцця памёршы горад. І зараз там б'е магутны саборны звон, ад якога трымціць зямля на многія дзесяткі вёрст вакол, ад чаго буяе новым ростам зерне ў раллі, плодзяцца авечкі, бегаюць на ўзгорках новыя дзеці — з такімі пранізлівымі галасамі, што сосны здзіўлена замаўкаюць, ад чаго збіраюцца ў горад на кірмаш купецкія караваны, шпарчэй рухаецца іголка шаўца, весялей звініць кавадла, ярчэй праступае радасць на тварах. Бушуй, жыццё! Ні аб чым ён не шкадуе. Праўда, вобраз той маламажэйкаўскай дзяўчыны не згас, і іншы раз ён са здзіўленнем застае сябе на думцы, што тады, на Белай Русі, калі ён рабіў гарадскі сабор, не выгукваць трэба было мару, а ціхутка выпяваць. Можа, яно, тое цнатлівае дзяўчо, спалохалася...

Ён неаднойчы гутарыў з Ніканам пра той свой сабор, старац нават спецыяльна малюнак зрабіў, каб паказаць Нікану.

— О,— сказаў Нікан,— грандыёзная пабудова. Магутны вольны народ мог такое пабудаваць. Але ж,— ён усміхнуўся з нейкім заліхвацкім, мужыцкім смакам,— як жа ты, скрамняга, мог такое выкаблучыць? І сораму не адчуў?

Я, вялікі гасудар, такі, як усе. Чалавек. Але смею заверыць цябе, вялікі гасудар, не жывёльныя былі пачуцці.

— Ды бачу. Жанчына што мае быць. Годнасць, высокасць, чэснасць. Яна магла паўгорада прыняць і застацца чэснай. Бо іншая мараль,— Нікан пільна глянуў на старца.— А ты сам часам не язычнік?

— Не ведаю, вялікі гасудар. Табе лепш знаць, то па тваёй епархіі разбірацца, хто да каго належыць.

— Давядзецца ахрысціць. А то скажуць, нехрысць нам сабор робіць.

— Хрышчоны я.

— То ж, відаць, поп быў, як тая Фрося.

Нікан доўга ўзіраўся ў абрысы сабора, магутнага і цудадзейнага, і было, як бачыў старац, нешта аднолькава вялікае і ў гэтым саборы, і ў гэтым рыжым вялікім чалаевку, што меў шырокія свабодныя жэсты, што быў уладарны і ўсевялікі. Ён, нібы ў люстэрка, глядзеўся ў сваю веліч.

— Так,— сказаў ён,— можа, часам і пашкадуеш, што не язычнік. Але, дойлід, ёсць вышыня больш высокая. Угледзься добра ў свой сабор. Ну што скажаш?

Старац Арсеній акінуў вокам вядомае да драбніц.

— Ну... Нічога...

— М-га, нічога... Пакажы рукі. Правільна. Ты пальцы забыў падціснуць. На абедзвюх руках. Два апошнія. Так. Добра падцісні. Пасядзі крыху, счакай. А цяпер — глядзі. Добра ўглядайся.

Старац Арсеній глянуў на малюнак, той быў крыху чужым — гэта спачатку, а потым старац пачаў угля-

даццa ў яго як у незнаёмае, што зрабіў іншы дойлід, можа, старцаў родзіч, але ва ўсялякім разе не ён сам. Сабор, як і раней, падаваўся магутным і цудадзейным — выклікаў пранізлівае салодкае трымценне цела. Але яно было не зусім дастойнае... Нават не ў гэтым справа. Было толькі трымценне, і больш нічога. Гэтага мала! Не адбывалася далучэння душы чалавека да высокай паэтычнасці — да ўсведамлення рэдкасці чалавечага духу і ўсяго жывога і нежывога на зямлі і ў космасе.

Вырваўшыся з-пад улады прыгожага крышталёвага шасцігранніка, выпусціўшы яму наперакор, каб не быць улоўленым крышталізацыяй і смерцю, толькі пяць пялёсткаў, ды ў дадатак ахінуўшы іх вольным няправільным абрысам, кветка стала вышэй крышталя, хімічных формул, фізічных законаў. Яна не роўная нават самой сабе. Як і чалавек. Гэта вышыня неверагодная. І такое старац не ўгледзеў, калі будаваў грандыёзны гарадскі сабор. Там толькі цела чалавека!..

Ён павольна падняў погляд на Нікана, крыху вінавата.

— Не журыся, дойлід. Чалавек ідзе да ісцін няроўнай дарогай. Будзем спадзявацца, што сабор, які зараз будуем, вышэйшага духу. Але мы яшчэ не можам кіраваць гэтым духам. А павінны. Я бачыў, як ты рабіў гэты сабор. Каб не быў патрыярхам — стаў бы перад табой на калені. Праз цябе загаварыла вышыннасць чалавечага духу...

Ачышчэнне Фросі. Не, яна не стала ні манернай паннaчкай, ні знатнай княгіняй. Яна засталася такой жа гордай, усеабдымнай, але яе бушаванне стала цнатлівым і высокім.

— Ты, дойлід,— найвялікшы дойлід зямлі. Можа, ты сам пра гэта не ведаў, то я табе кажу, я, патрыярх і вялікі гасудар усея Русі, і Вялікай, і Малай, і Белай, кажу табе гэта.

Так гаварыў Нікан. А потым размова змоўкла і перайшла ў незямныя сферы — у хвіліны еднасці духу двух вялікіх людзей. І хоць суровыя, абабітыя жыццём, загартаваныя потычкамі, што яно няспынна і балюча наносіць, былі гэтыя двое, але жыццё знайшло сілу раскрыць цёплыя чалавечыя сэрцы насустрач. І дыхала вясна.

— Ну што ж, дойлід,— сказаў Нікан грубавата і, як заўсёды, па-мужыцку проста.— Вось мы і названыя браты. Цяпер можна ямчэй за работу брацца.

Самая цяжкая работа — нараджэнне думкі, што ідзе наперадзе ўсялякага рамяства і іншых дастойных чалавека заняткаў.

Не цэглу на цэглу клалі майстры. Гэтая простая і відочная дзея тоіць у сабе намнога болей. Дух, энергія людзей уваходзяць у цэглу, тая ажывае нязгасным святлом, трымае яго ў сабе доўгія стагоддзі, апраменьваючы нас вобразамі, пачуццямі і думкамі тых, хто запаліў у ёй святло.

## 15

То праўда. Самая цяжкая работа — нараджэнне думкі.

А думаць будаўнікам сабора было над чым.

Хоць бы такое: спрашчаць ці ўскладняць сабор?

Сабор, што выйшаў з-пад старцавага палёту, меў агульныя абрысы. То як горад здалёк. Толькі зубчаты сілуэт. А калі трапіш да самага горада — які ён? Пануюць у ім суровыя цагляныя і каменныя сцены, бо гэ-

та горад воінаў і манахаў, ці пеннай хваляй, вясновым квітненнем знікае цяжкая матэрыя сцен?

Нікан заключыў:

— Ускладніць неверагодна.

Патрыярх сядзеў на сваім месцы, пасярэдзіне пакоя, непадалёку ад выявы іерусалімскага храма, і сказаў гэтыя словы катэгарычным тонам, як прысуд, як звычайна загадваў: «Воляй сваёй патрыярха ўсея Русі, і Вялікай, і Малай, і Белай...»

Доўгіх спрэчак не было. Завёўся адзін Заборскі.

Як звычайна, было многа народу. Сядзелі мітрапаліты, якія гасцілі ў Нікана, старац Арсеній, стары лацініст, паэт Пятрок. На вялікім стале ніканаўскія пачастункі, то не была трапеза. Нікан па заходнім звычаі завёў новую моду. Кожны мог падысці і ўзяць, што яму спадабалася. Былі на стале ў блюдах ласункі — заморскія прысмакі: сушаныя дыні, разынкі, інжыр і яшчэ нешта незразумелае і смачнае. Калі той-сёй клюнуў нешта з гэтага далікатэсу (мітрапаліты і не падышлі) і расселіся на лаўках і крэслах, Нікан сказаў:

— Так што, шаноўныя, тэрміновая ёсць справа. Як аздобіць сабор? Спрашчаць, пакідаючы амаль чыстыя сцены, ці ўскладняць?

Тут Заборскага і панесла. Усё трэба рабіць, сказаў ён, дзеля чалавека, простага, непісьменнага, які ўсё чыста павінен зразумець у гэтым храме. Ён успомніў Лютэра з Кальвінам і доўга даказваў, што тыя зрабілі разумна, менавіта спрасціўшы царкву і выявіўшы яе апошнюю ісціну — усё яны спрасцілі, і службу, і будынак, і адзенні папоў, і мову, і гэтым сталі дасягальныя кожнаму чалавеку — кожны цяпер разумее, што робіць поп, аб чым гаворыць, няма аніякіх хітрых таінстваў.

— А паглядзіце на сабор паважанага дойліда! — усклікваў ён патэтычна, спяваючы складна і салодка,

нібы салавей.— Якія там незразумелыя закуточкі, пераходы, іканастасы. Навошта гэтыя занадта высокія залы, навошта такія высокія разьбярныя дзверы і такі пышны галоўны рэзаны з дрэва і пазалочаны іканастас? То на Белай і Малай Русі так рабіць можна і патрэбна, бо там самі людзі іншыя, бо там трэба паказаць іезуітам, што і мы не лыкам шытыя. А тут чаго?

— Дык ты ж сам пераводзіў гэта ў цэглу,— кінуў нехта здзекліва.

— Ну і што,— сказаў Заборскі.— Нікан кажа, я раблю. Але душа не ляжыць. Купецкім гарадам такое да ладу, але навошта купецкую безгустоўнасць цягнуць у Масковію? Ваша шанаванне, вялікі гасудар, ваш вытанчаны густ не павінен дапусціць такога здзеку над праваслаўнай ісцiннай верай! Яна заўсёды была суровая, сціплая, цнатлівая. За гэта мы паважаем сваю веру...

На гэтую сціпласць і цнатлівасць Заборскі асабліва напіраў, бо, на яго думку, іншаземцы-немчыны, калі даць ім волю, могуць канчаткова сапсаваць Русь, і трэба абараніць яе спрадвечную цнатлівасць і г. д.

Кончыў Заборскі, горда абвёў усіх поглядам. Маўчала грамада. Нікан сядзеў прама і, нібы два свярдзёлы, грозна ўторкнуліся ў Заборскага яго вочы. Яшчэ хвілінку, як перад навальніцай, вісела злавесная ціша, і Нікан раскалоў яе грамавым голасам:

— То лухта ўсё! Ускладніць! Ускладніць неверагодна! Каб ні адна ісціна не была выказана прама! Каб ні адзін поп не сказаў ніводнага слова простай мовай! Каб не апрасцілася ні адно таінства! Я не Лютэр, і мы не немчыны, а рускія! Ускладніць неверагодна!

Кропка. Так загадвае жанчына. Лагічным роздумам нічога не высветліш, колькі ні будзеш калупацца, якія дзівотныя сілагізмы не набудуеш. Усё будзе не з той прычыны, не ў тым напрамку.

Ускладніць неверагодна!

— Навошта тады спрачацца? — сказаў Заборскі.

— Ускладніць — гэта аксіёма. А ты далей думай, як ускладніць,— сек Нікан.

Вось і думай...

## 16

Заборскі ведаў дакладна: ён зрабіў бездакорны шэдэўр. Менавіта так. Ён бачыў не раз падобныя рэчы ў далёкіх землях, захапляўся імі — то сапраўды былі цудоўныя рэчы. Напрыклад, партал царквы ці сама царква вялікага влоха Брамантэ. Невядома, што там была за магія, але, як бачыў Заборскі, магія складалася толькі са знешніх спалучэнняў — суадносін вертыкаляў і гарызанталяў, архітэктурных мас, прамых і крывых ліній. Да чаго проста! Спазнай і рабі розныя варыянты — хоць дзесяткамі! І Заборскі спазнаў. Дэталёва. Вымераў, разлічыў. Яму адкрылася тайна шэдэўра. Магію перавёў на лічбы. І ён цяпер з грунтоўнасцю і глыбінёй гаворыць аб сутнасці збудаванняў таго ж Брамантэ. Слухалі яго, адкрыўшы раты. Дзіваваліся дасціпнасці і мудрасці Заборскага: здолеў расшифраваць незразумелую і складаную магію, якая выклікае ў чалавека нешта няпэўнае — уражанне. А Заборскі ведае!

Дзе і як адбылося нядобрае ў часе праўвасаблення гэтай магіі ў канкрэтную рэч — партал, што зрабіў Заборскі, сказаць немагчыма. Усё, здаецца, ён улічыў — з апошняй небывалай прыдзірлівасцю, глядзеў нібыта праз павелічальнае шкло, ужыў нечуваную старанасць. Выйшла, на яго погляд, любата. Не адрозніш ад самога Брамантэ. Ён быў вельмі задаволены. Любіў пасядзець ды палюбавацца сваім парталам. І амаль усім падабалася. Праўда, некаторыя нічога не казалі, але

ж, думаў Заборскі, розныя бываюць людзі, усім не ўгодзіш.

Урачыста ён запрасіў Нікана.

Той прыйшоў і як глянуў — стаў змрочны, нават злы, потым у гнеў упаў — праўда, увайсці ў гнеў ён мог хутка, узрываўся, як порах.

— Слухай, манах,— сказаў Нікан, як заўсёды, громка, раскатлівым голасам.— Ты што такое ўсчыніў?

Заборскі не зразумеў і пакрыўдзіўся на строгі тон.

— Вялікі гасудар, гэта...— ён паказаў рукою,— мы прапануем для аздобы акон, а гэта — для парталаў, а гэта...

Нікан не даслухаў:

— А чаму паносны колер?

— Што? Як гэта?

— Дрысня ўсё гэта! — грымеў Нікан.— Басурманы і тыя цэрквы блакіцяць. Што ты ўсчыніў, манах? А ўзоры? Хто такія дробныя ўгледзіць? Ля тваіх кафляў душа ссохне!

Нікан у роспачы сеў на крэсла, што яму паставілі пасярод майстэрні, доўга сядзеў, утаропіўшыся на кафлі, цяжка ўздыхаў і час ад часу кідаў позірк на Заборскага. І сказаў спакайней:

— От я сяджу і думаю. Ты ж акурат немец. Немец, і не апраўдаешся! Майстар ты добры, але немец. Мне ўжо даўно неяк млосна рабілася пры табе. Душа адчувала.

— Вялікі гас...

— Маўчы! Ведаю, запяеш — толькі слухай. Во, даслухаўся. Кажу немец, значыцца, немец. Нядобра гэта. Не наш дух. Забяры хутка. Га! — закрычаў ён раптам. Майстры моўчкі пасабіралі раскладзеныя на падлозе кафлі і зноў пасталі моўчкі і нерухома. Заборскі збялеў што палатно, нават клацаў зубамі. Нікан заплюшчыў вочы, сядзеў так даволі доўга, потым ад-

крыў, абвёў усіх пранізлівым поглядам — так, што ў кожнага мурашы пабеглі па скуры. Спытаў цяжка:

— Усе тут такія?

Майстры маўчалі.

— Вы чулі, што я спытаў? Усе тут такія немцы ці ёсць нашы людзі?

Зноў маўчанне. Нікан пачаў пільна ўглядацца ў кожнага, узняў руку і тыкнуў у Міколку.

— Ты кажы. Ты таксама немец?

— Я печы рабіў. З ільвамі, арламі, раслінамі,— прамармытаў Міколка даволі ціха.

— Што?! — зароў Нікан.

— Праваслаўны я! — крыкнуў Міколка.

— О, так лепей. Ну ладна. А ты? — ён яшчэ ў некага тыкнуў.

— Вялікі гасудар, мы такога ніколі не рабілі. Тут павінна быць храмавая аздоба.

— Ну дык што?

— Не ведаем, як рабіць.

— Чаго ж вас тады чорт прынёс! Але ніхто не зробіць?

— Тут у нас,— азваўся нехта здалёк,— ёсць адзін. Сцёпка, Іванаў сын. Можа, той што зробіць?

— Сцёпка, кажы!

— Ды няма яго тут, вялікі гасудар...

— А дзе ён?

— Не ведаем.

— Як так? Ты, начальнік, манах,— да Заборскага,— дзе Сцёпка?

— Вялікі гасудар, Сцёпка ёсць. Але ён чалавек недастойны. Ён так напіваецца... Па ўдовах цягаецца... Яго ўжо і білі адзін раз. Ледзь адляжаўся. А зараз, мабыць, спіць недзе. Хто бачыў Сцёпку?

— Ды ён пад паветкай дрыхне,— адгукнуўся нехта.

— Падаць яго сюды! — загадаў Нікан.

Пакуль шукалі Сцёпку, Нікан зноў сядзеў з заплюшчанымі вачыма, відаць, у вялікім гневе. Увялі Сцёпку, яшчэ маладога дзецюка, валасы ўзлахмачаныя, вочы блакітныя вытрашчаныя, сарочка не падпяразана, порткі заплямленыя, ногі босыя, чорныя, што вар. Нікана той, відаць, бачыў упершыню і таму вылупіўся на яго, як на дзіва, і наогул стаў падобны на пудзіла. Нікан узняў вочы, разглядзеў Сцёпку і раптам зарагатаў:

— Божа мой! То нейкі палубес!

Сцёпка пасур'ёзнеў і заявіў:

— Я Сцяпан, сын Івана. З мястэчка Мсціслаўль.

— Ці ведаеш, навошта цябе прывялі?

— Не.

— Так ужо не ведаеш?

— Ну, можа, і ведаю.

— Што?

— Я ж той удавіцы нічога дрэннага не зрабіў. Яна ўсё Сцёпачка, Сцёпачка, а потым і збегла да мяне. Як скажаце, так і будзе.

— А старая яна?

— Такая, як я. Добрая бабка.

— І што, кахаеш?

— Не ведаю.

— Жаніць будзем?

— Ды не ведаю. У мяне ёсць. Павенчаны.

— Ну і палубес! — зарагатаў Нікан.— Усюды паспеў. Можа, ты і на храмавую аздобу паспееш?

— Чаго?

— Раслумачце яму.

— Ну зрабіць тое, што Заборскі робіць. Агульную аздобу,— сказаў нехта з майстроў.— Вялікі гасудар лічыць, што то — нядобра, трэба іншую.

— А,— сказаў Сцёпка,— зразумеў. Але як я магу?

У нас паважаны майстар Заборскі. Можа, не спадабаецца, што зраблю.

— Але зробіш? — спытаў Нікан.

— Чаго ж там. Можна.

Нікан з недаверам паглядзеў на Сцёпку, на яго смешную блазенскую фігуру.

— Ну, глядзі. Калі не зробіш — пойдзеш араць зямлю — на зямлю пасаджу!

— Ото і добра. Араць я люблю.

— Ты кафлі зрабі.

— А гарэлкі дадуць?

— Што? — грозна сказаў Нікан.

— Хоць бы адну кварту,— сказаў ранейшым блазенскім тонам Сцёпка.

— О, божа,— у прытворным спалоху сказаў Нікан,— многа вас такіх, як ён?

— Часам бывае,— азваўся нехта.

— Ну што ж, счакаем крыху,— спакойна сказаў Нікан і зірнуў на Заборскага.— Ты, манах, не вельмі перажывай. Справа такая. Не мая, усяго свету. Не я тут кірую. Ёсць вышэйшае. Заходзь пасядзець у сераду пад вечар, пагаворым.

## 17

У сераду вечарам ішла бяседа. Нікан, як звычайна, сядзеў у крэсле з высокай спінкай ля выявы Іерусалімскага храма і быў у лагодным філасофскім настроі. Толькі што зайшоў Заборскі.

— Здаецца,— казаў Нікан,— я пачаў разумець адну ісціну. І гэта датычыць непасрэдна цябе, манах,— звярнуўся ён да Заборскага.— Ды ты сядай. Частуйся спачым. Мне гэтыя дні тое наша здарэнне не давала спакою. Я хацеў зразумець, чым выклікана мая любоў і павага да цябе, а па-другое, чаму твая сутнасць нямец-

кая — ну ў тых кафляных аздобах. Ты, манах, добра там усю справу паставіў. Але на нямецкі лад. Ці магчыма па-іншаму, па-нашаму? І ты, відаць, здорава перажываў. Прабач, манах. Да цябе асабіста я не маю аніякіх прэтэнзій. Ты — мой лепшы сябра,— ён замаўчаў і раптам крыкнуў: — Нікіфар, пакліч сюды Бязбожніка! — так ён ахрысціў старога лацініста.— Разумееш, манах, ты частка маёй душы. Не перабольшваю. Дакладней, ты мая частка, якой мне заўсёды не хапала. Я магу толькі гойсаць па сваіх немагчымых відовішчах. Нават старац Арсеній без цябе — бездапаможнае дзіця. А ён умее вунь як многа. Ты можаш гэтыя мыслі разлічыць і перавесці ў камень, дрэва, золата, зрабіць існуючымі на зямлі. Гэта мяне ўразіла. Цябе я палюбіў, як самога сябе. Бо мне такога наогул не дадзена. А я ведаю, што ў цябе не проста майстэрства. То вышэйшая якасць чалавека. Так я цяпер разумею. О, бачыш, у гэтым пакоі столькі тваіх рэчаў. З кафлянай палівай, бронзавыя, сярэбраныя, драўляныя. Ну лічы, усё начынне гэтага пакоя. І падсвечнікі, і лампады, і чарніліцы, і розныя скрыначкі. І мне яны падабаюцца. Іх формы, узоры, зручнасць. Угадзіў ты мне, як самому сабе. Мне добра і прыемна з імі, як і з табой, хоць ты крыху і з'едлівы чалавек. Я табе раней такога не казаў — ды і сам не вельмі думаў пра гэта. А пасля той нашай сутычкі задумаўся.

Увайшоў стары ў доўгім выцвілым чорным плашчы-накідцы. Твар яго быў вельмі стары і ссохлы, доўгая сівая барада стырчэла прама і цвёрда. Пастава была прамая і гордая.

— Заходзь, Бязбожнік, сядай, частуйся. Мы тут размову вядзём. Пра Заборскага. Я хачу зразумець, чаму ён мне падабаецца. І ўсе гэтыя яго рэчы. А калі я раптам убачыў яго карычневыя нямецкія аздобы і ўразумеў, з чаго ідзе яго парадак, мне сталася нядобра.

І мне падумалася: няўжо я нічога разумець і бачыць не магу? Не можа ж такога быць. Я за ўсё жыццё так не памыляўся. Слава богу, мне дадзена разуменне. А тут, з Заборскім... За вякі мы высахлі самі па сабе, змардаваліся. А калі яшчэ немчыны падпусцяць нам сваёй сухоты — то канец будзе. Я нічога не маю супраць немчынаў. Я даю ім прытулак. Хто не ведае майго Альбрэхта? Паважаны і ветлівы чалавек, вельмі чэсны. Але я зразумеў канчаткова: немчынскі дух нам не да ладу. Сэрцам чую. Там ёсць толькі розум, а сэрца не хапае. Гэта страшна. Не разумееце? Я сам ледзь разумею. Так мне пачало падавацца. Калі многа розуму, а сэрца замала, каб ахапіць яго сваёй спагадай і шчырасцю... Розум, што бесурманскі джын, з бутэлькі яго трэба выпускаць пакрысе, каб сэрца ахапіла яго сабой. Бо ён будзе рабіць, што пажадае. І добрае, і дрэннае. Яго нішто не стрымлівае. Сэрца павінна ім кіраваць. Вы сочыце за маёй думкай? У нас ёсць манахі, яны пішуць, што Русі яшчэ не трэба пісьменнасці. Во тут адно мне прыслалі. Эй, дзяк, вычытай!

Дзяк Палішчук узяў са століка згорнуты ў трубачку манускрыпт, разгарнуў.

— Усё чытаць?

— Не, там ёсць такое: «Брація, не высокамудруйце».

— Ага, ёсць,— і завыў: — «Брація, не высокамудруйце! Калі спытаюць цябе, ці ведаеш філасофію, адказвай: елінскіх борзкасцей не тэкох, ыторскіх астрономаў не чытах, з мудрымі філосафамі не бывах, філасофію нават у вочы не відзёх; вучуся па кнігах жыватворнага і благачыннага закону, каб можна было маю грэшную душу ачысціць ад грахоў. Ашчэ не вучон словам, але не розумам, не навучан дыялектыцы, рыторыцы, філасофіі, але розум Хрыстоў у сабе маю».

— Уразумелі? — працягваў Нікан, перабіўшы дзя-

ка.— Заставацца непісьменнымі? I што мне, патрыярху, рабіць з такім? Выпальваць ці прыхінаць? А што сказаў бы паважаны наш пан Бязбожнік? Як там твае мудрацы пішуць?

Стары лацініст з найвялікшай цікавасцю сачыў за ніканаўскай думкай, хоць знешне быў неўстрывожаны, недатычны, як заўсёды, нібы то сама вечнасць сачыла, ён павярнуў у бок Нікана белую гордую галаву, гледзячы ва ўпор, і сказаў павольна і спакойна:

— Вялікі гасудар і патрыярх, дазволь мне сказаць кароткае слова. Мы тут часам збіраемся, гаворым пра розныя рэчы. Але сёння, вялікі гасудар, ты падышоў да ўсведамлення глыбейшай ісціны.

— Ты так гаворыш, паважаны, нібы ведаў пра яе,— сказаў Нікан.

— Ведаў,— проста адказаў стары лацініст.— Гэта адна з даўніх ісцін усходніх мудрацоў.

— Што ж ты мне пра яе раней не казаў? — грозна спытаў Нікан.

— А то, вялікі гасудар, было б бескарысна. Ты не ўбачыў бы яе.

— Чаму гэта? — самалюбіва.

— Па таму ж закону, які ты сёння адкрыў! На гэту ісціну ў цябе не было яшчэ сэрца.

Нікан зірнуў на старога лацініста, крыху падумаў і паківаў галавой.

— Твая праўда, паважаны Андрэй Быхавец, ой праўда! I многа яшчэ такіх ісцін на свеце?

— Многа,— стары лацініст кіўнуў сівой галавой.— Вельмі многа. Можа, занадта многа. Будуць ісці стагоддзі, а людзі будуць іх пазнаваць і пазнаваць. О, наш шлях нават не на пачатку гэтага пазнання мудрасці.

— Што ты кажаш? Праўда? — Нікан здзіўлена глядзеў на старога лацініста.— I ты не ведаеш гэтых ісцін?

— Некаторыя я знаю, але не разумею, бо таксама не хапае на іх сэрца. Яны для мяне мёртвыя.

— О-о! — працягнуў Нікан.— Відаць, гэта ісціна пра сэрца, якое ахоплівае нашы веды, вялікая?

— Так, вялікая. Але мы толькі яе адкрылі зноў. Яна толькі-толькі распачынае свой рух. І пройдзе не менш як сто гадоў, перш чым яе зразумее адна наша будучая царыца, і не менш як трыста гадоў, покуль яе пачнуць спасцігаць лепшыя людзі, але яшчэ не ўвесь народ. А каб народ спазнаў — тысячу гадоў трэба. Ісціна нарадзілася і тысячу гадоў ідзе да людзей.

Нікан:

— Мне адзін час падавалася, што я сапраўды вялікі чалавек. Ды бачыў, сярод сучаснага народа — я сапраўды вялікі. А ў бегу часу...

Стары лацініст:

— То не шкадуй, вялікі гасудар. Вялікія людзі ва ўсе вякі былі і застаюцца. Вялікіх людзей вылучае вялікае сэрца, якое можа ахапіць многа ведання. Але, на жаль, сэрца вялікае рэдкая з'ява. Мы не навучыліся вырошчваць вялікія сэрцы, а нашы жанкі нараджаць дзяцей з вялікім сэрцам. То трагедыя людская, што веды прыходзяць да людзей хутчэй, чым сэрца. То вельмі нядобра. Веды нашы большаюць. І ў якім часе, ужо зусім блізка, можа так стацца, што толькі імі і будзе жывіцца чалавек, і тады многа зла наробяць людзі адзін аднаму, ой многа! Нашы жахі і трагедыі пададуцца ім толькі першай прэлюдыяй сусветных кашмараў. Ты правільна робіш, вялікі гасудар, ты жадаеш расціць чалавечае сэрца.

Нікан усхвалявана ўстаў і пачаў хадзіць па пакоі.

— Божа мой, божа,— прагаварыў ён,— такія простыя ісціны і такія глыбокія, недаступныя. Звярынства многа — не хапае сэрца. Веды на злыдзенства ідуць, а не на дабро. Праўда, праўда, веданне без сэрца

шкодзіць людзям. Вельмі шкодзіць. Разумею цяпер, разумею. І нашаму Заборскаму не хапіла сэрца. Разумею. Занадта многа ён ведае. Сэрца развівалася слабей. Добра развівалася, але слабей,— Нікан спыніўся ля Заборскага, які не падымаў вачэй.— Прабач мне, манах. У нас адна справа. Слушна сказаў стары лацініст: развіваць сэрца. Дзіўна, што я толькі зараз гэта зразумеў. А мне трэба было разумець з малых год...

## 18

Эгей, каралі! Ці добра чутно вам?!

## 19

Галаву ламаю: навошта Мельнікаў усё ж дзьмухнуў на сваю паўсферу?

## 20

Ішла будоўля, аж гудзела.

## 21

І акурат тады, калі Нікану падавалася, вось-вось будаўніцтва сабора ўзляціць на недасягальныя вышыні, два-тры крокі, і ўзнімецца тое, што бывае толькі ў марах, адбылося змарненне. Ці сурочыў хто будоўлю (які іншы кароль), ці з іншай якой прычыны, але найшло змарненне. Стала работа, пачалося згасанне велізарнейшай справы.

Сціплы золак, што пачаў разгарацца па прыездзе майстроў на Істру, згас. Сталася цемень, і зноў грымелі касмічныя бліскавіцы.

Здавалася, што мулярам? Кладзі цагліну, як то спазналі і разлічылі старац Арсеній і Заборскі па ніканаўскіх жаданнях — і ўсё табе, атрымаеш патрэбнае. Але, як заўжды бывае ў такіх выпадках, змізарнелыя муляры рабілі аніякія сцены. І хоць былі яны патрэбнай таўшчыні, выкладзены дакладна па паперках, выглядалі паважна і акрэслена, але бясплотныя былі. Кранешся, а там няма нічога. Сцены — здані. Нават цагліна, калі з апалу, з горна, здавалася пустой, а калі муляр браў яе ў рукі — і таго болей: бы нахапаў форму, у якой паветра не было. Не ўзнікаў нават паветраны палац. У муляроў ад невядомага змізарнення рукі апускаліся. Часам можна было бачыць — усё пазасынала на велізарнай будоўлі. Стаялі ля вазоў з цэглай фурманы, стаялі коні, стаялі на памосцях муляры, той-сёй, здаецца, цэглу трымаў, каня паганяў альбо нешта прыбіваў, але з сякераю, цэглай, пугай у руцэ заміралі, не ў сілах давяршыць пачатае.

Было падобнае на Белай Русі, калі да будаўнікоў з'явілася Фрося. Магутнае трымценне спыніла людзей. Але тады пазаміралі ад энергетычнага перанапружання, калі ж зварухнуліся — гэтулькі сілы было, крамянёвыя велькапамерныя цагліны лёталі, што матылі. А зараз згаслі людзі. Старац Арсеній прынюхваўся па ўсіх кутках, імкнуўся ўлавіць хоць слабы серны дух, які ён добра ведаў. Але дарэмна. Паветра было чысцюткім. І нідзе не было відаць д'ябальскіх пасланцоў у выглядзе таго ж велізарнага рудога казла. Толькі вельмі свежы пах азону, што ішоў ад безупынных касмічных віхур.

Але такое змарненне было толькі спачатку, а далей сталася зусім нядобра. Акрыялі людзі, але як! Хай бы лепш спалі. Робіць, напрыклад, муляр, робіць і не ведае калі, але раптам застаюць яго за недарэчным занняткам: сцены ломіць! Бярэ ломік і адкалупвае цаглі-

ну за цаглінай. Каб адзін такі. Амаль усе. І самі не жадаюць. І калоцяцца потым і каюцца. Падобнае было і ў цаглянай майстэрні, і ў дрэварытнай, і ў багамазаў. Нешта находзіла на людзей. Шчапалі іконы, білі паліваную кафлю, абклады. І нельга было ні паспадзявацца на каго, ні даць самую страшэнную клятву. Вочы зацягвала туманам, а потым і весела станавілася...

Калі сяляне валілі лес, то рабілі гэта неахайна, утвараліся пераблытаныя засекі, расцягнуць было немагчыма, а калі патрэбен быў лес, то набіралі бярвенні з дзялянак, дзе такія завалы прараслі і пагнілі. У кар'ерах фурманы замест гліны кідалі на воз што прыйдзецца — і жвір, і каменне, толькі зверху прыцярушвалі некалькімі лапатамі гліны. А мясільшчыкам гліны было ўсё роўна, што рыхтаваць, а тым, хто абпальваў, нават прыемна было, што цэгла ў печах ірвецца. Ля цагельных заводаў раслі горы зямлі, бітай цэглы — яны паглыналі горны, даводзілася выкладваць новыя... Ды ўсюды так. Калі хто хацеў залатаць дзірку ў страсе, то рабіў новыя. Кароў, авечак, свіней кармілі нейкай гніллю, тыя дохлі, трупы своечасова не выкідвалі, і смярдзенне ішло па істрынскіх пагорках. А між людзьмі ўсчаліся свары, бойкі.

Дакладна невядома, што адбылося, але ўзбаламуціліся ніканаўскія суседзі — нібыта Нікан іх землі пазабіраў і сена косіць на іх лугах, і жыта сее на іх нівах. Слалі чалабітныя цару, скардзіліся. Іван Сацін, напрыклад, даносіў, што ніканаўскія служкі ў яго самога стралялі, хацелі спаліць яго жытло.

А акольнічы Раман Бабарыкін, у якога ў свой час Нікан купіў вотчыну пад манастыр, не адну скаргу адбіў цару, па якіх розныя, як зараз кажуць, высокія камісіі Нікана затузалі, бо баярын патрабаваў такі куш, што Нікану не адкупіцца было б і ўсім манастыром, як

ён сам казаў. Але былы «собінны сябра» Нікана, цар Аляксей Міхайлавіч, стаў на бок баярына і прысылаў новыя камісіі з многімі людзьмі, паддзякамі і стральцамі. Нікану прапанавалі, каб ён добраахвотна прымірыўся з Раманам Бабарыкіным. Але Нікан адказаў, што «ён Раманавай зямлёю не валодае, а валодае сваёй купленай, і Раман дарэмна ўклёпваецца». Тады пасланнікі, як яны казалі, па загаду цара адмежавалі зямлю баярыну. Нікан узбурыўся і пасля малебна пачаў громкім голасам чытаць розныя клятвенныя словы, выбіраючы іх з 108 псалма, дзе паміж іншых былі такія: «да будуць сыновы яго сірыя і жонка яго ўдава, да будуць чады яго пагубленыя». Бабарыкін прысутнічаў на тым малебне і данёс цару, што Нікан яго пракляў, яго жонку і дзяцей. Цар яшчэ больш узлаваўся на Нікана, прыслаў да яго газскага мітрапаліта Паісія, што быў на той час у Маскве, каб дэталёва даследаваць, што адбылося. Гаварылі цэлымі днямі і начамі, сварыліся, Нікан, як пісаў Паісій, «часта патрасаў палкаю і стукаў ёю моцна аб падлогу, хваляваўся, грымеў, адзін супярэчыў усім. Мы выйшлі з яго келлі зусім спалоханымі...».

Па Маскве і Вялікай Русі ішла доўгая бясконцая валтузня, якую ўзняў цар Аляксей Міхайлавіч, аб нізлажэнні Нікана з патрыяршаства.

Нікан упершыню ў жыцці спалохаўся. Такое найшло на Русь!.. Ён разумеў, што аніякія асвячэнні, непаведзі і крыжы не дапамогуць, а што патрэбна — гавядома. Хоць бы крышачку спазнаць, з чаго так. Галоўнае, менавіта тады, калі гэты знак, сабор, пачаў ужо ўвачавідкі праступаць, ужо было чуваць яго высокае радаснае гучанне. Такое ўражанне: чым болей вышыні было ў новым саборы, чым святейшы ён рабіўся, тым

з большай жорсткасцю нейкія чорныя сілы ішлі на яго знішчэнне. Нібы іх гэтая вышыннасць раздражняла, яны побач з ёй нядобра сябе пачувалі — не папрок, а велізарная стрэмка проста ў сэрца...

Пасяджэнне ў нікanaўскай келлі ішло ад раніцы — амаль безупынна.

Цяпер Нікан жыў у мураваным двухпавярховым дамку, што паставілі ў заходняй частцы за манастыром. Тут былі высокія столі, вокны са шклянымі шыбамі. Пасярод келлі шырокі стол з заморскімі прысмакамі — нават зараз Нікан не адмяніў даўняй завядзёнкі. Выява Іерусалімскага храма стаяла ля сцяны, а па сценах віселі старцавы фантазіі сабора, што паказвалі яго знадворку і ўсярэдзіне. Скрозь вокны заглядвала вясёлае сонца, але яно нікольki не радавала, а рабіла само паветра ў келлі яшчэ больш трывожным і напружаным. Усе сядзелі моўчкі, выцягваліся, нібы святыя на іконах, ніхто не паласаваўся аніякім заморскім пачастункам, галовы былі нібы ў тумане, прыдаўленыя грандыёзнай скрухай.

Нікан узняў быў руку, яна дрыжэла, ён апусціў яе з нейкім сорамам. Пасядзеў крыху, каб супакоіцца, сабрацца з духам, потым зноў прыўзняў руку. Але і цяпер яна крыху дрыжэла, ён зноў прыціх, сканцэнтраваўся, і калі праз колькі часу прыўзняў руку — яна трымалася цвёрда. Тады ён падняў вочы, выправіў горда, як заўжды, галаву, аглядзеў прысутных. З усіх толькі стары лацініст трымаўся прама, яго выцвілыя вочы з бясконцым колаварчэннем думак глядзелі адкрыта. О, ён быў высока, намнога вышэй, чым Нікан. На недасягальнай вышыні! Нікан адчуў моцнае жаданне падысці і даць у морду гэтаму напышліваму, які, здаецца, ім, Ніканам, пагарджае. Каб той умомант зля-

цеў і стаў як трава, аб якую можна выцерці ногі. Нікан ледзь адолеў дзікае жаданне. Вельмі здзівіўся яму...

Занадта высока ўзляцелі!

І вельмі нізка ўпалі...

Часам душыць пачынае чалавека ўся гарката і нясладнасць жыцця, і так крыўдна — пазайздросціш самай апошняй былінцы, апошняй мошцы і жучку. Ото — ні клопату, ні бядот ім. Надыдзе навальніца — прыгне да зямлі, а прыгрэе сонейка — бестурботна, бяздумна зноў ускінуцца над светам. А чалавек у пачарнелых, абадраных да крыві думах не ведае ні спакою, ні збавення ні ўдзень ні ўначы. А калі на тую бяду нешта высокае, велічнае паўстала над ім... Ужо табе! Мне не жыць, але і яму нож! Я гол як сакол, а ты высокасцю выхваляешся? З аднаго дрэва і лапата, і ікона!.. Збіць, зруйнаваць, стаптаць!

Нікан думаў з напружаннем. Цяжка было думаць. Ён адчуваў прыблізнасць, недакладнасць думкі і не мог, як бывала з ім, выйсці на лёгкую, імклівую, што палёт птушкі, дарогу. У галаве таўкліся цяжкія вобразы, заміналі. Ён прыплюшчыў вочы, зацішыў думкі, каб аслабаніць галаву і даць месца няясным зданям-адчуванням — і яны шалёна абрынуліся на яго. Ляцелі кашмары Альбрэхта Дзюрэра, Урса Графа, Іераніма Босха, Брэйгеля Мужыцкага... Выпучаныя вочы, перакручаныя рукі, адрэзаныя языкі, выбітыя сківіцы, касматыя пачварныя д'яблы. Істоты не вытрымліваюць напружання, мочацца, гадзяць, ірвуць зубамі, рукамі адзін аднаго, матляюцца сляпымі па свеце, кідаюцца ў бездань, іх жруць, іх ператвараюць у напаўптушак, напаўзвяроў, напаўстрашылішчаў. Пекла на зямлі! Празмернай платай трэба плаціць за бездакорную, ясную, чысцейшую нямецкую лагічную лінію!.. Змрочны германскі геній...

А Русь плоціць змарненнем. Нікан перадужаў самога сябе, адкрыў вочы і спытаў у старога лацініста:

— Паважаны і шаноўны наш філосаф Андрэй Быхавец! То і гэта вядома табе?

Уздыхнуў стары лацініст. Сядзеў доўга, нічога не гаворачы, высока трымаючы сівую галаву.

— Было,— сказаў.— На зломе эпох і народаў. Справа звычайная і даўняя. Было не раз і будзе яшчэ. Кожны народ жыве сваім царствам. На сваіх рэках і пагорках. Са сваімі багамі. Паўбяды, калі адзін народ не павучае другі, як трэба жыць, калі адзін народ не бярэ шлюб з другім, калі ва ўласным народзе не з'яўляецца нястрыманае жаданне перайначыць сваё жыццё, пусціць яго па іншым, новым кірунку. Яно паўбяды. Але бывае і бяда. Тады нараджаюцца народы-кентаўры, народы-страшыдлы. Сатыры, драконы, фенікеы. І іншыя звяругі — страх нават казаць. Змеі, што жруць саміх сябе, пачынаючы з хваста, істоты, што ласуюцца ўласнымі дзецьмі, ядуць свае вантробы, адрываюць самі сабе дзетародныя члены, выколваюць сабе вочы. Анігіляцыя. Паміраюць тады народы. Можа доўга цягнуцца агонія, але смерць надыходзіць.

— І ніхто не можа адратавацца? — са спалохам спытаў Нікан.

— Народы паміраюць, а людзі застаюцца. З цягам часу з попелу нараджаецца новы народ — з новымі звычаямі, багамі.

— Але растлумач, чаму ў нас змарненне?

— Хто ведае, можа, больш за ўсё ад святасці. У вас схільнасць: шанаваць асобныя рэчы так, што святымі яны падаюцца. Нават думку святой робіце. О, вы шануеце думку, як Біблію. Яно нішто, калі думка адцягненая, завоблачная. Каму такое шкодзіць? Але прыйшла думка-практыка з Белай Русі — на яе вы пачалі маліцца. А яна — як жыццё: смяротная, грахоўная. Ты, га-

судар, шанаваў кожнае слова Заборскага, а потым упаў у гнеў, пабачыўшы яго кафлі. Нарадзіліся цынізм і змарненне...

— Але ж...— Нікан недагаварыў. Скалануўся. Бліснула ўнутраная здрыготка. Голая першабытная праўда. Жорсткая. Пра яго асабіста. Можа, яшчэ не ўся цалкам — толькі здалёк, здагадна... Як ён толькі ні хаваўся і ні пазбягаў яе, якія хітрасплеценыя сілагізмы ні выстаўляў! Ён думаў, забыўся на яе, а яна, што Гора-Злашчасце, выкапала, выцягнула душу яго з-пад кучы святасці, святла, бліскучых і розных мудрагельных і містычных думак. Ён са стараннем і клапатлівасцю нагрувашчваў, узводзіў вакол сябе, над сабой, пад сабой гэтую ахову...

Заняло дух. Але раптам і адпусціла. Як прыступ страшэннай смяротнай хваробы, што грозна папярэдзіла... Нікан з палёгкай і нервова ўздыхнуў.

— Але ж... паважаны філосаф, што можа нарадзіцца з нас?

— Цяжка прадбачыць,— стары лацініст гаварыў высока і недатычна.— Мяркую, што птушка-фенікс. Бо многа бачу попелу.

— Фенікс? То па-нашаму — сірын! Паважаны філосаф! Вельмі добра! Сірын — райская птушка, шчасця і дабрабыту птушка,— Нікан з сілай утварыў у сваёй душы радасць. Ён быў халодны і ўстрывожаны, але цела яго радавалася.— Паважаны філосаф! То вельмі добра!

Нервовая пераўзбуджанасць...

## 22

Думаю, была прычына, чаму Мельнікаў так рашуча дзьмухнуў на сваю паўсферу. Ён кіраваўся ў сваім жыцці і рабоце гранічна чыстай логікай. Але з цягам часу...

...Мельнікаў расказваў мне аднойчы пра сваё жыццё. Як быў малым, вучыўся, па-заліхвацку перамагаў сапернікаў. І як строгае лагічнае мысленне прывяло яго да парадаксальнага светаўспрымання. Тут пачалася яго няпэўнасць. У яго доўгім расказе я лавіў сумненне. Нейкі больш магутны дух лунаў над яго строгай лагічнай яснасцю, замінаў яму ўпівацца сваёй бездакорнай і бясконцай праўдай...

Урэшце ён і кропку паставіў. Калі скончылася размова з маім невядомым маўчаннем, ён крыху разгублена, занепакоена сказаў:

— Не ведаю, ці спатрэбіцца ўсё гэта каму-небудзь...

Аднак гэта не так проста. Нельга на двух танах, як паказаў, нешта зразумець. Мельнікава, канешне, павяло са сферы чыстага розуму ў сферу агульначалавечую, людскую, няпэўна-мроістую, у пачуццё, што ён пазнаваў і непасрэдна праз людзей, і праз іх духоўныя тварэнні — вершы, музыку, архітэктуру, і праз прыроду. Мне здаецца, наша сучаснае паветра пачало здорава павяваць водырам галубкінскіх часоў. Але зноў жа паўтараю, працэс гэты вельмі складаны, бо ён ідзе як рэакцыя на вельмі шырокае развіццё рацыяналізму, і ідзе гэты працэс паралельна развіццю рацыяналізму, дакладней, нібы з гэтага рацыяналізму і вынікае, бо чым больш бездакорным і пануючым становіцца рацыяналізм, тым больш глыбяцца галубкінскія плыні...

Таму што на зямлі часам свежай траўкі не застаецца, як было яшчэ пры Галубкінай, з неба блакіт знік, загінулі абалокі, перасталі спяваць ліпы. Толькі раўнютка сцелецца надзвычай трывала, гарманічна і разумна арганізаваныя бетон, сталь, шкло, метал.

Ужо табе!..

## 23

Ну ці ж можна так?

Спяваў Сцяпан Палубес, ці, лепш сказаць, гарлапаніў. Ад раніцы наладжваўся — ды ўвесь дзень буяў. Вакол скруха, знічэнне, можна сказаць, хаўтуры, а ён гарлапаніць. Як такое людзям бачыць і чуць?

— Ты хоць Нікана пашкадуй ды старца Арсенія,— казалі часам яму.

Суціхне на хвіліну, а потым, забыўшыся, што той дурань, зноў за сваё. Часам так разыдзецца — ляшчыць наваколле, па ўсіх пагорках гойсаюць дурныя блатныя песенькі пра нейкіх Манек, Адарак, пра мужычка, што, падвыпіўшы, бярозу пераблытаў з кабетаю.

Рабіў ён пад паветкаю, хоць ужо халаднавата было. Вып'е кілішак і рэжа. А калі хто падыдзе, каб уціхамірыць, то пачне скірызавацца, плявузгацца дурнымі словамі, плюне чалавек і адыдзе. Палубес, ды і толькі! Ён на мянушку ахвотна адклікаўся, нібы на самой справе паўбесам быў. Заборскі хацеў загнаць яго ў якую хату. Аднойчы нават, калі Сцёпкі не было, перанеслі ўсё яго пачынне ў асобны дамок. Але як прыйшоў Сцяпан — зноў пад паветку, нават не заўважыў, што яго дошкі павыносілі. Выпіў запаветны кілішак, дастаў з-за халявы разец, выбраў з паляніцы больш зручнае палена, каб кіянкам было, а другое, таўсцейшае, на форму ўзяў, умомант сякерай выцесаў патрэбнае і закрычаў, гэта значыць, запеў так галасіста, што вароны ўзняліся цэлай зграяй над дрэвамі, а потым апусціліся ля Сцёпкі, пасталі наўкола, пазаміралі, слухаючы, нават дзюбы раскрылі, дзівячыся. Ім уставіць сваё «кар-р» не было куды, бо Сцёпка роў безупынна на самых высокіх галасах. То, відаць, падабалася варонам, можа, вучыліся такому бесаўскаму спеву. А той часам крыўляецца — робіць пачварныя морды. То

дзеўку, ашалелую ад шчасця, вытварыць, то крывога і гарбатага чалавечка, то поснага манаха, то нейкага суровага і дэманічнага чалавека, у якім можна прызнаць самога Нікана.

Рэзаў ён па-заліхвацку, трэба прызнаць. Разец быў увішны, хуткі, дакладны і нібы торгаўся сам сабою, выбіваючы пахучую карычневую цвёрдую стружку. Але і тут дзіўна паводзіў сябе Сцяпан, не па-людску, не ашчадна, а як той разбойнік. Біў дошкі. Далібог. Рэжа якую дошку цэлы дзень, так выгаблюе, выскрабе — любата. Якая-небудзь мудрагельная завітулька — з птушкамі, звярыма. Адціснe ў форме гліну. Суціхне на хвіліну ад сваіх дурных песень, а потым як дасць кіянкай па дошцы — з усёй моцы — тая ўшчэнт. Людзі хадзілі і збіралі потым тыя дошкі, кафлі рабілі і іх дзівосныя. Словам, Сцёпка толькі добрыя грушавыя дошкі марнаваў ды сваімі апантанымі спевамі наваколле палохаў. Заборскі раздумваў, як спыніць такую разбойную дзейнасць. А тут яшчэ прынёс Сцёпка аднойчы нейкія зусім недарэчныя гліняныя квадратныя адбіткі. Не зразумець, што было там. Хаатычныя пукліны, жалабкі, дугі — і ўсё буйное, як падалося Заборскаму, неахайна выробленае, а галоўнае — недарэчнае. Што да чаго?

— Ты зусім, Сцёпка, здурэў,— сказаў сурова і спачувальна Заборскі.— Божа, чаго ты нарабіў, дурань!

А Сцёпка пакорна мудрага манаха вытварыў на сваёй фізіяноміі і кажа ціхім ялейным голасам:

— Айцец святы, прабач мне, мнагагрэшнаму, з'яві міласць вялікую, абпалі гэта ў печах сваіх. Хрыстом богам клянуся, калі не выйдзе нічога — схіму прыму, валасяніцу надзену, вярыгі ланцуговыя трохпудовыя ўскладу, у дзень па тысячы паклонаў буду адбіваць — не відаць вам тады свайго Сцёпкі Палубеса. Прашу цябе, паважаны айцец святы...

Сунулі некуды ў горан Сцёпкаву брыдоту, а калі

Сцёпка забраў з горна — ніхто не бачыў, ды не турбаваліся. Але ў той жа дзень прыйшоў Сцёпка да Заборскага і кажа:

— Пакліч, святы айцец, патрыярха Нікана, зроблена справа.

— Зноў лухту мелеш, дурань,— накінуўся Заборскі.

— Усур'ёз кажу.

— Які твой сур'ёз — усім вядома. Ніякага патрыярха клікаць не буду, няма чаго выстаўляць сябе на ганьбу. Баламут ты! Сышоў бы куды і не азываўся.

— Ну не хочаш, святы айцец, дык ён сам ідзе, вунь за пагоркам. Яшчэ не відзён. А я пайду. Не буду азывацца. Бо змэнчыўся ■ тваёй работай. Даўно да кабет не хадзіў. Нап'юся! Толькі лес загудзе!

Але Заборскі не даслухаў. Ён, устрывожаны, глядзеў на пагорак, а там сапраўды паказалася постаць рослага манаха ў чорнай мантыі. У ім прызнаў Заборскі Нікана. Ішоў Нікан проста да паветкі, дзе працаваў заўсёды Сцяпан. І як глянуў туды Заборскі — самлеў. Нават перахрысціўся, бо там няйначай святое з'яўленне — ззяла блакітам так нясцерпна, уся паветка агнём занялася, на паўнеба пажар быў. Не дзіва, што Нікан з далёкага манастыра ўгледзеў. І людзі туды, як пабачыў Заборскі, прабіраліся з усяго наваколля, нават сяляне з акаляючых вёсак.

Нікан падышоў да Сцёпкавай паветкі і застыў, не верачы, што такое зрабіць магчыма. Схоплена за хвост птушка-Сірын!

На сцяне пад паветкай былі прыладжаны блакітныя кафляныя аздобы, шырокім магутным поясам, узор склаўся з велізарных маладых і тугіх завіткоў, нібы папараці-кветкі ці срабрыстых касмічных віхур, што зусім нядаўна бушавалі вакол. Але ўтаймаваны былі тыя

віхуры, пазаганяны ў кафлі, што ззяла немагчымым блакітам і так нагадвала хвост казачнай птушкі.

— Сцёпка? — сказаў Нікан.— Гэй, Палубес! Вылязай! — гаркнуў Нікан, але Сцёпка не азываўся.— Зноў уцёк? Не дачакаўся нават патрыярха? Прывесці перад мае вочы!

Майстры не зварухнуліся.

— Немагчыма, вялікі гасудар. Сцёпка казаў, каб не шукалі. Усё роўна не знойдуць. Сказаў, на неба да сонца паляціць, даўно не быў.

— Што? — патрыярх раскрыў рот.

— Так казаў, мы не ведаем.

— Скуль ён сонца ўзяў? — грозна.

— Казаў, як падняцца высока, то і сонца відаць. Казаў, што адтуль узоры прывалок.

— Што?

— Не ведаем, то ён так казаў, але верыць яму...

— Калі з'явіцца са свайго сонца, то адразу да мяне! Вельмі патрэбна! — Нікан яшчэ раз аглядзеў немагчымае блакітнае ззянне казачнай птушкі, пахітаў галавою.— Бач ты, толькі дурным і шчасціць на гэтым свеце, як у той казцы!..

## 24

Калі адважыцца хоць адзін у палёт — паляціць чарадою ўвесь гурт.

Пра гэта і турбот цяпер няма, хоць Нікана і ўразіла даўняя дзіцячая казка. І сапраўды, гэта было зусім не тое, на што ён спадзяваўся на гэты раз. Лічыў адзіна магчымым шляхам, каб дасягнуць вышэйшага чалавечага гарту: змірэнне, пакора перад Верхнім Небам, доўгае і цяжкае вымольванне ў яго вышэйшай спагады і прыхільнасці. Яно давала гэта час ад часу. Але зараз, калі ён паставіў на кон усю сваю святасць і чысціню...

Не ўміласцівілася Верхняе Неба, не ахінула сваёй шчырасцю. Зразумела, нельга на яго скардзіцца і папракаць — там вышэйшыя сілы. Але Нікана пакрыўдзіла, што не яму выпала доля першаму ўдарыць крыламі, нават не старцу Арсенію, які можа адпраўляцца ў магутны палёт. А Сцёпка, вахлак, дурань, п'яніца, бабнік, перасмешнік — ну, акурат Івашка-дурачок! — менавіта ён ускрыліў. Загадкава. Нібы звышнатуральнае натхненне-асяненне, што не можа чалавеку давацца вось гэтак проста...

Але Сцёпка не з'яўляўся. Відаць, надоўга паляцеў да сонца, прыбыў толькі на трэці дзень. За гэты час Нікан разам са старцам Арсеніем прасяніў яшчэ адну ісціну. О божа, гэтых ісцін паваліла! Нездарма ж казана: а ў дні нешчаслівыя — у роздум ідзі. Нікан нават здзівіўся, што сістэма чалавечых ісцін такая бяздонная.

Сцёпкавы кафлі перанеслі ў манастыр, прыладзілі на знадворнай сцяне ніканаўскай келлі. І тут яны палымнелі з нясцерпнай моцай — ахінулі святлом усё наваколле: і будоўлю велізарнага сабора, і людзей, што раптам ажылі і ўзяліся нарэшце за кельмы. Цагліны лёталі ўсё шпарчэй і шпарчэй, а сцены набывалі незвычайную трываласць, нібы з літай скалы. І не толькі з далёкіх гарызонтаў было відаць гэтае блакітнае пажарышча і не толькі ў далёкіх вёсках наўкола мужыкі раптам цверазелі і спраўна рабілі — як след аралі і касілі, а нават за сотні вёрст святло бачылі, і, галоўнае, сыходзіла з людзей нязнаная ліхаманка, спакайнелі яны, за розум браліся. І што было ў тых Сцёпкавых кафлях — то тайна вялікая. Нікан у радасці быў незвычайнай, але старац Арсеній непакоіўся. І нездарма. Дні праз два ўсеагульная ўзбуджанасць перарасла ў такі напал, што пачалі паміраць людзі. Вынесці не маглі. Кладзе які муляр цэглу — шпарка і лоўка, але

аднойчы нешта шчоўкае ў яго нутры, рухі яго даходзяць да такой імклівасці, што цагліны не могуць перамяшчацца ў паветры, бо само паветра становіцца цвёрдым, што зямля — такі ляск ідзе, як ад гарматы. І мёртвы ляжыць муляр. Тры чалавекі так забіла. Тэрмінова паклікалі Нікана і старца Арсенія. Нікан затросся і як закрычыць:

— Амінь, амінь, амінь! Усім на зямлю!

Збеглі ўніз будаўнікі.

— Канец работам! — сказаў Нікан.— Па хатах, па хатах!

Разбегліся ўмомант. І добра, што на той час дома жанкі былі, пад вечар то здарылася, бо невядома, што ад такой пераўзбуджанасці і натварылі б людзі. А так толькі значны прыбытак стаўся — праз колькі дзён пачалі ў кабет жываты пухнуць, ды ў такой нябачнай акругласці, што бабкі-павітухі толькі са спалохам галовамі круцілі. Але абышлося. У каго па два блізняткі знайшлося, у каго па тры, а ў некаторых нават па чатыры. І па пяць! Далібог, па пяць! Што дзівам было на той час. А хадзіць немаўляткі пачыналі дні праз два.

Нікан тэрмінова загадаў зняць са сцяны Сцёпкавы кафлі, пакласці блакітам на зямлю, каб суцішыць бляск. Дапамагло крыху, але трава, што апраменілася блакітам, стала так расці — разы па чатыры на дзень касілі, а яна ўсё лезла, цэлымі абозамі вазілі па ўсёй Русі духмянае, як казалі, Сцёпкава сена. Нават на Волагдзе пра гэта сена ў тыя гады ведалі — бо і сваё гэтак жа буяць пачало. Так і казалі, нават не ведаючы чаму: Сцёпкава сена касіць пайшлі. Каровы пааб'ядаліся ды распладзіліся, малака, праўда, разліўнога мора не было, а рачулкі невялічкія плылі, далібог, хто хацеў, той чэрпаў і піў уволю, сыроў панарабілі, масла панабівалі — бочкі! З тых часоў нават мянушку такую далі самаму лепшаму маслу на свеце: валагодскае.

Нікан тэрмінова склікае нараду, сабор, як у тыя часы казалі. Пабіць ды закапаць у зямлю тыя кафлі няможна, тады зноў вернецца змарненне, як усе лічылі. А вось прытушыць бляск варта. Рознае паспрабавалі. Крапілі святой вадой — тая толькі шыпіць ды парам зыходзіць. Хадзілі вакол святым шэсцем — гараць кафлі! Пасталі вакол на калені, паклоны да зямлі білі — гараць! Праўда, нехта дасціпны незвычайнае заўважыў. Калі паклон б'е Заборскі, то кафлі нібыта мігцяць і прытухаюць. Нікану далажылі. І той умомант усёк.

— Бяжыце па кафлі, што рабіў Заборскі!

Тут трыццаць дзецюкоў сарваліся і праз якія паўгадзіны прывалаклі здробненыя карычневыя, вельмі акуратныя, проста нямецкія кафлі, што рабіў Заборскі, і на якія так узгневаўся Нікан. Абклалі імі вакол блакітаў — ад тых аж трэск пайшоў, празрысты дым з вельмі свежым пахам азону — людзей вакол захітала. Але трава дурэць ды буяць перастала. Вось так і было зроблена найвялікшае адкрыццё з'явы, якую сучасны патэнтавед ахрысціў бы эфектам Палубеса-Заборскага.

Ну а прыстасаваць знойдзеную сістэму да сабора хоць і было не так проста, але на тое ён і вялікі дойлід старац Арсеній, каб выкруціць з усяго гэтага дакладную, стабільную, са значным уздымам угору арганізацыю. Праз колькі дзён ён і зробіць такое, проста ў ніканаўскай келлі, як і мінулы раз, калі вынайшаў першыя агульныя абрысы сабора. Як звычайна то было. Гаварылі пра ісціны, якія адкрываў Нікан і абвяшчаў стары лацініст, і старац Арсеній сумліва слухаў, а аднойчы ён сказаў:

— Дазволь, вялікі гасудар, правесці ў тваім пакоі пару ліній.

Выцягнуў з кішэні вугалёк, разгарнуў чысты ліст, усё з тым жа адчуваннем, што робіць не ён, і пачаў крэмзаць.

Магутную гладкую без акон ратонду ён аздобіў высока ўгары толькі вузенькай палоскай з маленькіх галовак анёлаў, што выраблены былі Заборскім, ад чаго ратонда стала падавацца яшчэ больш грунтоўнай, манументальнай, яна нібыта вылезла з зямлі, яшчэ падобная на зямлю, але ў ёй ужо дух — вось гэтыя маленькія галоўкі высока ўгары, аднак нясмелы, першы, механічны і вельмі начотніцкі дух, які лічыць, што толькі строгі рытм і геаметрычная правільнасць ёсць сутнасць вышэйшая. Так матэрыя пачынае мысліць і адчуваць. Яшчэ многа матэрыі і мала духу. Але ён упарта, непарыўным ланцугом апярэзваў матэрыяльную сутнасць і вылучаўся ў навакольную прастору. Над ратондай матэрыя пераходзіла ў агромністы шацёр са шматлікімі вокнамі, што нібыта луналі ў паветры, але мелі гэткі ж, як і галоўкі анёлаў, строгі, лагічны, мужчынскі рытм. Цвёрдая мужчынская пабудова.

Царква, што прымыкала да ратонды, злучаная з ёю непарыўна, мела ўсхваляваныя пачуццёвыя формы, тут былі разнавелькія аб'ёмы з некалькімі капрызнымі зломамі, гнуткім станам, маленькай галоўкай на прыгожай доўгай і тонкай шыі. То кабета была ў росквіце лепшых гадоў. Старац аздобіў гэтую царкву найбольш пышна, дэталёва, рознарэгістрава, што і адпавядала зменлівай і ззяючай жаночай сутнасці. І тут усё пачыналася з зямлі, ад яе нутраных, стыхійных і матэрыялістычных глыбінь. І таму парталы, карнізы, ліштвы ўнізе старац аздобіў тымі ж карычневымі, з дамешкам зялёных, дробнаўзорыстымі кафлямі Заборскага. Але нідзе не было аднолькавасці. Кожны партал, ліштва мелі свой узор, дзіўна карункавы, як і тыя бясконцыя, дробныя і мілыя жаночыя норавы-дзівацтвы. Аднак тут

жаночая сутнасць, што здаецца нам, мужыкам, часам не толькі не вартай увагі, але і нікчэмнай, выпадковай, на якую можна не зважаць, нават зняважаць,— тут гэтая сутнасць набывала прывабную вечную сілу, станавілася неад'емнай і вельмі патрэбнай часткай нашага людскога свету — без чаго і свету поўнага няма. Але старац угледзеў болей таго — дзіва ўгледзеў ён. Углядзеў, што толькі тут чалавек можа ісці ў палёт. Не дае такога жорсткая мужчынская логіка, строгі мужчынскі розум. Толькі гэта — жаночая, няпэўная, нелагічная, зменлівая сутнасць, што ўскрыляла бог ведае якімі невядомымі шляхамі. Унізе, дзе кафлі Заборскага, было толькі прадчуванне палёту. Зямныя думкі і пачуцці ўзвышаліся, афармляліся ў зменлівыя структуры. Яны рыхтавалі палёт. Ім станавілася цесна ўнізе, яны імкнуліся ўгору і тут лёгка і вольна ўзрываліся дзівоснымі Сцёпкавымі блакітамі, што не мелі шырыні і межаў. Менавіта яны бачылі дарогу ў нязнаныя і высокія сусветы і паказвалі кожнаму, як трэба лётаць.

Дзіва!

І гэтыя дзве царквы ўтваралі жаноча-мужчынскае адзінства, яны не маглі існаваць адна без адной, а разам былі тым, што завецца высокай сутнасцю чалавека.

— Выдатна,— сказаў Нікан, які пільна назіраў за работай старца.— Я ўсё зразумеў. Словамі не скажаш. Выдатна, дойлід!

## 25

Дні праз тры з'явіўся Сцёпка. Зляцеў усё ж са свайго сонца. І цяпер ускудлачаны, русавалосы, з нявіннымі блакітнымі вачыма — анёл! — стаяў перад Ніканам лёгка, бясстрашна, нават, як падалося Нікану, не-

пачціва. Нікан грозна глянуў на Сцёпку, але той і вухам не павёў — быў непадуладны, вядома, лётае самастойна ў касмічныя сусветы, за ручку з анёламі здароўкаецца, балакае з імі, можа і пра маладзіц, і апошнюю, нязнаную анёламі асалоду — во спакуснік! Нікан весела ўсміхнуўся.

— Ну, Сцёпка Палубес! Не ведаю, злавацца на цябе ці маліцца. І скуль ты такі дзіўны ўзяўся? Ніяк не магу зразумець, як такое тварэнне магло ўзрасці на зямлі? Га? — Нікан яшчэ раз пільна аглядзеў Сцёпку. Але той ніяк не ўключаўся ў ніканаўскую сістэму жыцця і думак, быў па-ранейшаму вольны і самастойны.

— Відаць, такая воля табе дапамагае?

— Ды ўжо, відаць, вялікі гасудар.

— Ведаеш, пра што я хачу знаць. Не столькі пра волю тваю, колькі пра тое, як ты такія кафлі зрабіў? Здаецца мне, без нябеснага азарэння тут не абышлося. А скуль яно ў цябе? Як жа ты, грэшны, дабіраешся да яго? То для мяне найвялікшая загадка.

— Няма загадкі, вялікі гасудар,— адказаў Сцёпка.— Каб спазнаць неба, я на самім сабе расту.

— Што?

— Як растлумачыць? Неба высока. І хоць ты тройчы будзь птушкай — не даляціш да яго за адзін раз. Ну дык я памосці будую, ну нешта на дрэва падобнае — дрэва жыцця. Адарваўся ад зямлі, перасеў на бліжэйшую галінку. Да неба далёка. Але я гойсаю, пакуль не навучуся з зямлі лёгка падскокваць і садзіцца на галінку. А каб на дрэве мясцовыя паўдэманы ды птушкі не задзяўблі мяне, чужынца, то я іх рознымі прымаўкамі забаўляю і куляннем. І ім весела, і мне. А потым крыху вышэй ускочу, потым яшчэ вышэй. Скок, скок — і да самога блакіту. І крылы лётаць не патрэбны. Можна сказаць, на жартах лячу. Галоўнае, не баяцца, каб не падалося табе аднойчы, што на самай высокай галін-

цы сядзіш. Неба ж велізарнае, высачэннае, няма яму краю і вышыні, аж страшна робіцца.

Нікан уважліва слухаў.

— Але... Як жа ты неба спазнае́ш, а ў граху жывеш?

— То не грэх, вялікі гасудар. То зямля. І якая прыгожая! Дзеля яе і блакіты здабываю.

— Ты ад зямлі пачынаеш скакаць? — Нікан разумеў, што пытанні дурныя, як уся гэта размова, што не ён уцягнуў Сцёпку ў сваю паважную і сур'ёзную арбіту, а Сцёпка ўвалок у блазенства.

— Дакладна так,— з сур'ёзнай дурасцю адказаў Сцёпка.— Правільна зразумелі. Я ля сваёй жонкі спакойна засынаю. Ніякія нябёсы мяне не хвалююць. Тое, што звычайнае — не будзіць чалавека. Я вам скажу, калі доўга з якой бабай вядзешся, яна так пачынае крылы апутваць, часам ледзь уцячэш... Што ж гэта мы насуха размаўляем? Глынуць трэба.— Сцёпка выцягнуў са сваёй шырокай світкі пляшку гарэлкі, крыкнуў: — Нікіфар, дай кубкі! — Нікіфар кубкі ўнёс, Палубес наліў, Нікан механічна ўзяў кубак. «Каб такое было калі са мной?» — Будзьма здаровы,— сказаў Палубес, і яны абодва з задавальненнем выпілі.— Ага, дакладна так,— расказваў Палубес.— Але, пра што я гаварыў?

— Што баба крылы путае.

— Ото, дакладна так. Разумееце, жанчыны могуць лётаць і скакаць яшчэ лепш за нас. Але яны спакой любяць. Ой, надта ж любяць. І новага, нязвыклага, палохаюцца. Які слабы мужык сам можа жанчынай стаць. І чым болей у цябе жанчыны, тым меней у цябе авантурнага духу, і ніякае неба табе не патрэбна. Ой, блытаюць крылы!

— Але ж без жанок нельга?

— Нельга, вялікі гасудар. Можна сказаць, дзеля іх і блакіты здабываю.

— Як так?

— Я ж паабяцаў блакіт прынесці адной Адарцы. Дык у яе пяцёра блізнятак адразу нарадзілася. Але лез па блакіт, можна сказаць, не шкадуючы сябе. Мужчынскі гонар заеў. Паабяцаў.

— А зорак не абяцаў?

— Абяцаў, але яшчэ не ўдалося ні адной свіснуць. Ну дык яшчэ па адной? — Сцёпка наліў кубкі, і яны выпілі.— Варта моцная.

— Якая варта?

— Ну, там, высока. Анёлы сцерагуць. Сам бачыў, падлятаў. Як замахалі на мяне крыламі — бура паднялася. Я ім крычу: «Свой», а яны не чуюць. А можа, там заўсёды вецер? Не чулі часам?

— Але ж,— Нікан здзівіўся,— ты казаў раней, што толькі скачаш, а цяпер, кажаш, і лётаеш?

— То я, вялікі гасудар, і так і гэтак раблю...

Нікан з сілай адарваў сябе ад Сцёпкавага блазенства і вярнуўся ў свае звычайныя сусветы. Сцёпка балбатаў. У яго былі ясныя, блакітныя нявінныя вочы, як далёкія недасягальныя нябёсы. А ці не прабіў гэты Сцёпка нават верхняе неба, якое змалку палохае Нікана? Ён не баіцца, быццам яно, грознае, для яго не існуе. Вось з такімі блазенскімі жартачкамі... Але, відаць, у яго іншае неба, яшчэ паганскае, населенае не высокімі багамі, а свойскімі духамі, з якімі можна пасяброўску кепікі разводзіць — забыты Ніканам, незразумелы свет, які валодае нечуванай блакітнай энергіяй, вулучае яе лёгка з непачцівымі жартачкамі...

Ходзіць яшчэ адна незразумелая Нікану ісціна, якая не даецца яму, нават і стары лацініст не дапаможа, тут нешта па-за людскім разуменнем...

— То я пайду, вялікі гасудар?

Нікан узняў вочы.

— Але ж...— раптоўна заняло дух, і зноў Нікана, як не так даўно, скаланула прадчуванне смяртэльнай душэўнай хваробы. І адпусціла. Ён са страхам прыплюшчыў вочы, потым люта выдыхнуў. Не да Сцёпкі...

— Ідзі, Сцяпан,— сказаў ціха.— Не я табе суддзя. Не ведаю, хто табе суддзя. Чый ты — анёльскі ці д'ябальскі?..

— Людскі я, вялікі гасудар, людскі,— і зноў глянулі на Нікана ясныя нявінныя вочы, глянулі подыхам невядомых сусветаў.

— Можа, я ў цябе павінен шукаць спагады,— загадкава і змрочна сказаў Нікан.

26

Але ж... Што пад гэтым блазенствам? Яно маска, сутнасць? Нечуваная вышыня ці нечуванае падзенне?

Упала ж паўсфера...

27

Згарэў майстар.

Ён ляжаў на жорсткім валасяным ложку ў цемнаватай келлі, ляжаў нерухома, нават гаварыць не мог, анямелі ўсе яго мышцы, косці, суставы. Ясна і пакутліва свяціліся толькі вялікія вочы, і ў кожнага, хто заходзіў у келлю, прасілі прабачэння. Служка-манах, грубы чалавек, абыходзіўся з ім, як з жывёлай, лаяў, часам нават біў, калі даводзілася мяняць смярдзючую пасцелю, а то пакідаў у дзярме, нібы для пакарання. Заборскі ўсё разумеў, але што ён мог? Скардзіцца ён наогул ніколі не скардзіўся, пераносіў стойка, як усё пераносіў у сваім жыцці. Часам заходзіў патрыярх Нікан. Пасядзіць ля ложка, паглядзяць адзін аднаму ў

вочы, суцішыцца, супакоіцца душа Заборскага. Нікан пастаянна адчуваў сваю віну перад Заборскім, а той супакойваў яго поглядамі, бо ён жа сам, Заборскі, абраў сабе такі лёс-гарэнне. Дома ён бы жыў. Там была раўнавага магчымасцей і задач, запатрабаванняў і рэалізацыі, фантазіі і практыкі, словам, гармонія, жыццё ў разумнай сярэдняй сутнасці, не было немагчымых парываў, што завуцца ўжо подзвігамі і патрабуюць ад чалавека ахвяравання ў адзін момант усёй яго фізічнай і духоўнай моцы, патрабуюць уздыму ў недасягальнае, магутнейшага і адчайнага палёту, што не вытрымліваюць яго крылы.

Будоўля пайшла. Былі яшчэ заняпады, нервовыя пераўзбуджэнні, дарэмныя парывы і інш., што вызначае маладую птушку, якой трэба ляцець. Усё ж аднойчы яна наважылася і паляцела роўна, старанна, а потым, як адчула, што яе нехта знізу падымае, пайшла спакойна, размашыста, велічна.

Калі будоўля ідзе — усё ідзе. Завяршаліся сцены, аркі, узляталі парусы, разгортваліся барабаны, нібы з самага нутра сцен вынікалі каштоўныя кафляныя аздобы — то дробным чоткім забораўскім бісерам парталаў, карнізаў, ліштваў, то шырокімі размашыстымі палубесаўскімі блакітамі. Людзі cноўдаліся, што мурашы. Абпальвалі цэглу, адціскалі і крылі эмалямі кафлі, рэзалі ўзорыстыя дзверы, кавалі мудрагелістыя краты, залацілі іканастасы. Гэта была такая вялікая, несціханая, няўрымслівая будоўля, што яна буяла ад уласнага ўсведамлення свайго будаўніцтва і з кожным днём узмахвала ўсё больш безаглядна, буйна, грымотна. Нікан быў у найвялікшым задавальненні.

А вялікі майстар Заборскі згасаў. І не столькі старыя гады гнялі яго дух. Розум яго быў, як заўжды, спакойны, прасветлены, ён мог даць любую параду па будаўніцтве ў любых работах: і кафляных, і дрэварыт-

ных, і каменных. Але на дух і цела насоўваліся вечныя прыцемкі. І чым больш дужэў сабор, тым горай станавілася Заборскаму. Падымалася ратонда, а ў яго выпадалі зубы, узляталі парусы, а ў яго горлам ішла кроў, кладліся па барабане палубесаўскія шырокія блакіты, а ў яго адымаліся рукі.

Нікан са старцам Арсеніем прапануюць нябачаную велічную ратонду — Заборскі палохаецца нават і знаку такога разгону, але старанна, як немец, разлічвае, дзе і як пакласці кожную цагліну. Старац Арсеній вымалёўвае нябачны шацёр над ратондай, а Заборскі ўбірае галаву ў плечы, нібы гэты шацёр насадзілі яму на галаву, сядзіць начамі і дэталёва разлічвае немагчымае збудаванне. Сабор ірвецца ў неба, няма, здаецца, такой арыфметыкі, каб спазнаць яго зямной матэрыяй, а Заборскі дакладна ўказвае, як рабіць з цэглы, вапны, дрэва, металу, кафлі...

— Ды гэта немагчыма, ніяк немагчыма, васпане! — крычыць у адчаі Заборскі ў той знакамітай Ніканаўскай келлі.— Лухта гэта! Такое ніколі ніхто не рабіў і не зробіць! Бо такое нішто не вытрымае, нават жалеза! Гэта смех адзін. Адзін смех!

— Што скажаш, дойлід? — спакойна Нікан пытае ў старца Арсенія.

— Ніхто не рабіў, але, відаць, можна.

— Божа, мой божа,— стогне Заборскі.— Каб ведаў, што тут дойдуць да такога вар'яцтва!.. Далібог, то сапраўды вар'яцтва! Чалавек ужо не можа такое, толькі Бог, толькі Бог!

— Слухай, манах,— казаў Нікан сваім грамавым голасам.— Ды не, ты паслухай мяне, манах. Слухай сюды! Маўчы і слухай! Ты сябра мне ці не? Сябра. Я твой брат да смерці. Чуеш? Я, патрыярх усяе Русі, брат табе. Ты чуеш? Уразумей гэта! Я не магу штурхаць цябе на кепскае, нягоднае. Я ведаю, гэта не зробіць на

ўсёй зямлі ніводны чалавек. Ніводны! А ты зробіш. Ты не можаш, але зробіш. У цябе хопіць сіл і ўмення. Такое ўжо і старац Арсеній не можа. Ён можа, як і я, толькі ўзлятаць. А нам жа трэба палёт перакласці на матэрыю. Разумееш? На цэглу, на кроквы, на... Маўчы, маўчы, манах! Я знаю, зробіш!

Чарнеў найчарнейшай хмарай Заборскі, здаецца, цямнець ужо не было куды, а ён цямнеў і цямнеў, пераходзіў у чорны, і з чорнага адліваў сінявой, фіялетам, а потым пачынаў упадаць аж у блакіт, немагчымы, звонкі, напружаны, а адтуль пераходзіў у яшчэ больш немагчымы белы — страшэннага напалу, што і ў самым магутным горне не зробіш.

— Слухай сюды, манах! Я скажу табе, як брат. Хочаш, стану на калені перад табой? Брат мой, прашу цябе!

І Заборскі кранаўся сваёй белай напаленай рукой рукі Нікана, ледзь шапталі яго збялелыя вусны:

— Добра, вялікі гасудар, добра, брат мой, зраблю.

І не ведае ён, як уставаў. Хто падымаў і вёў у келлю. І хто саджаў яго за стол, і хто клаў яму на стол паперу, і хто ўкладваў у яго руку грыфялёк, і хто рабіў яго рукамі пасы над выявамі, што натхнёна былі намаляваны старцам Арсеніем. І Заборскі адчуваў, як прылівалі да яго рук незразумелыя хвалі ўзнёсласці, як пачыналі свяціцца на паперы, у паветры, па ўсёй келлі нечуваныя спалохі-ззянні. І ён рабіў немагчымыя перакладанні, нібы той пярэварацень, які добры, але хутка старыцца. З'яўляліся незвычайныя цагляныя вузлы, няўрымслівыя драўляныя карункі гіганцкіх крокваў. Рабіў і рабіў. Бясконца. Сілы выходзілі з яго. Ён марнеў і вытойваў да апошняй магчымасці, так што рука не магла ўтрымаць грыфялёк. Не помніць, хто адводзіў яго да ложка, ухутваў цёплай коўдрай, клапатліва адпойваў лекавымі зёлкамі. Дні са тры, а то і цэ-

лы тыдзень ён быў у непрытомнасці, марудна вярталіся да яго сілы, але не ўсе — акрамя тых, што ён аддаў навечна. І выпадалі зубы, адымаліся рукі, ногі...

Ён кляў сваё жыццё, благаслаўляў сваё жыццё. Ён знаў, што хутка, вельмі хутка Нікан зноў давядзе яго да напалу-гарэння, да немагчымага самаспальвання.

Згараў Заборскі! Трапіў у сонечныя пратуберанцы. Ну скажыце, што ж будзе, калі мы, зямныя, трапім у сонечныя пратуберанцы?

Не ведаю дакладна: ці добра гэта наогул? Рысакоў, відаць, таму і прывучаюць да прыстойнага, бясконцага, магутнага рысістага бегу, што гэты бег і ёсць бясконцы і магутны і ратуе ад празмернасцей галопу. Смерць на крыжы дзеля ўзнясення на неба?..

І аднойчы прыйшоў трагічны і сумны час. Яшчэ раз ірвануўся ў нябёсы сабор, а сэрца майстра спынілася.

Згарэў майстар...

28

Скаланула...

І адчувае ён усёй істотай, як велізарная чорная, што звяруга, газнічка, на якой ён з'явіўся ад лесу, налятае на збялелага хлопца — то на яго самога, якім ён быў на пачатку веку ў вёсцы Быкі пад Добрушам на Гомельшчыне. Робіцца яму страшна, і ліхаманкава шукае ён, адзіна дастойнага чалавека, выйсця з такога становішча...

29

Ото!

Трапіўся!

Адчувае Нікан, як услед за Заборскім уваходзіць у яго душу і цела лютая хвароба...

Усе дні і ночы праводзіў ён цяпер у саборы і каля сабора — нібы ў яго апошняга шукаў спагады і аховы. Маліўся, можна сказаць, безупынна. Узводзіў, нагортваў вакол сябе празрыстую і зданлівую субстанцыю — з паклонаў, гарачых малітваў, службаў, змірэння. Наклаў на сябе эпітым'ю, пасціўся — сядзеў толькі на вадзе і чэрствым жытнім хлебе, хадзіў у чорнай простай манаскай мантыі, спароў з яе нават чырвоныя адзнакі — «істочнікі», схуднеў, аслабеў. Ніколі не выказваў свой гонар, не ўзвышаў, як звычайна, да грамавых вышынь голасу. Не пазнаць было... Нібы хаваўся... Каб яно збілася з панталыку і не магло знайсці яго сярод мільёнаў, што рассеяны па зямлі. Схаваўся, што душа таго Кашчэя Бессмяротнага — за трыдзевяць зямель, у гарах непрыступных, за шалёнымі безданямі расце дуб магутны, на тым дубе вісіць скрыня каваная, у той скрыні — заяц, а ў зайцы — качка, а ў качцы — яйка, а ў яйку — іголка... Дабярыся!

Але ж...

Аднойчы прачнуўся ён у халодным поце, з моцным сэрцабіццём, хапаючы ротам паветра. Бо раптам ясна да драбніц, да млоснасці ўявілася яму жанчына немагчымага відовішча, прашалясцела шаўкамі, праззяла, прамчалася, вёрткая, што змяя, блудлівая, як сука. Ён азірнуўся на яе — на адно імгненне! — а сабор прапаў, знік, вырваўся з яго душы і цела, як сударгава ён ні трымаўся за яго, паплыў, светлы, уоддаль уласнай сілай і моцай.

Не азірайся!

Такая ўжо існуе прыкмета ў тых, хто шукае скарбы. Даўняя і верная. Не раз было. Скарб перад вачыма — працягні руку. Але акурат у гэты час нешта гукае, прабягае спалох, чалавек прыслухоўваецца, а скарб знікае — навекі.

Не азірайся!
Канец.
Так ён адчуў.

Ён баяўся адысці ад сабора і нават спаў у сваіх патрыяршых пакоях пры саборы, і калі прачынаўся — зноў пачынаў хадзіць ля сабора, па саборы, трапляючы з адной царквы ў другую, прабіраючыся цёмнымі вузкімі галерэямі, спыняючыся ля кожнага іканастаса — станавіўся на калені і маліўся, маліўся, кладучы глыбокія паклоны да зямлі, як ён рабіў толькі ў маладосці, калі быў у паўночных манастырах. Але, блукаючы па саборных лабірынтах, якія, як ён адчуваў, яму ўжо не належалі (ён нават рукамі кранаўся сцен, абмацваў забораўскія і палубесаўскія іканастасы і не хацеў адымаць ад гэтага рук), Нікан з натугай імкнуўся зразумець, чаму ж для яго раптоўна знік гэты сабор? Ён хацеў глянуць на яго знянацку. Яму здавалася, гэты вышэйшы ўзлёт яго душы адначасова і тупік — адсюль няма выйсця. Сюды незразумелым чынам пранікла, мінуючы яго жаданне, нельга сказаць бязбожнае ці д'ябальскае, але незразумелае, іншае, што ён ніколі, ніякім чынам не можа прыняць, бо гэта і азначае — той самы канец, які абрынуўся на яго! І ён са спалохам адхопліваў рукі ад саборных сцен, але само саборнае паветра было насычана злавеснымі ядавітымі дурманамі.

Адзін Сцёпка Палубес чаго варты! А буйны іканастас, што рэзаў Клім Міхайлаў? А гэтыя нечуваныя храмы старца Арсенія? Усё, здаецца, даведзена да апошняй прыгажосці, дасканаласці, дакладнасці, святасці... І — быццам менавіта ад гэтага ўзнікаў крах-тупік.

Ото сука-змяя! Нікан лаяўся апошнімі мужыцкімі словамі, яму здавалася, калі б ён выгнаў першы раз

княгіню ■ кавалерамі, усё зрабілася б па-іншаму, і не набыў бы сабор таго, што мае зараз, што немагчыма аддзяліць, вылучыць з яго, бо гэтым усё пранізана, прашпігавана, нават найдрабнейшая рэч...

— Слухай, дойлід,— пытаў часам Нікан у старца Арсенія.— Ці то я чмурэць пачаў? Неверагодныя кашмары сняцца. І наяве адчуваю. І зараз. Нібы адрынуты ад сабора. А ў саборы вышэйшай святасці няма...

Яны стаялі на манастырскім двары побач з саборам, які і цяпер будаваўся і ніяк не мог дабудавацца. Бо пару гадоў назад Нікану раптам стукнула ў галаву: які ж сабор без званіцы? І тэрмінова прыраблялі высокую стромкую званіцу — збоку, там, дзе ратонда пераходзіла ў царкву, хоць гэтым і парушалася ясная і выразная сіметрыя сабора. Але, уласна кажучы, Нікан загадаў яе ставіць таму, што агульныя абрысы сабора падаліся яму празмерна правільныя, строгія, нежывыя — ішло на змярцвенне! І ён нерваваўся, пакуль не прыйшло асяненне: званіца. І свае пакоі патрыяршыя ён загадаў прыбудаваць да сабора не таму, што не мог абысціся без іх. Унутры яго нешта трыбушылася і клекатала: узарваць благачыннасць і прыстойнасць! І па жывым целе сабора — то была яго асалода! — ляпілі новыя сцены, збіваючы кафляны рытм, што з такім стараннем наладжаны старцам Арсеніем і Заборскім. Не іх работу ён рушыў — сваю ўласную, тое, што здавалася яму спачатку адзіна правільным, але праз колькі год зразумеў ён ісціну змярцвення... І цяпер будоўля гудзела.

Безупынна ішлі фурманкі з цэглай, лесам, па хісткіх мастках цягнуліся наверх людзі — за плячыма ў іх былі «козы» з дошак, на якія накладвалася цэгла, муляры бясконца плёскалі вапнай — недзе ўжо высока ўгары, вышэй крыжоў падземнага храма, весела перагаворваліся, адпускалі смачныя жарты.

Старац Арсеній пільна агледзеў наваколле, яшчэ больш пільна новыя храмы, дзеля чаго ён моцна нахіляўся, вывёртваў убок галаву, потым выцягнуў з кішэні невялічкае люстэрка, прыставіў да вачэй, разглядаючы ў яго сабор. Адказаў сур'ёзна:

— Што я табе скажу, вялікі гасудар. Канешне, у храмах няма толькі вышэйшай чысціні, толькі канцэнтрату горняга духу. Ды я думаю, калі б мы ўзгадавалі толькі верхні горні дух, то мы настолькі аддаліліся ад зямнога чалавека, што сабор быў бы для яго пустым гукам. Нішто. Як воблака, « негавыя вяршыні. Я думаю, моцi не замнога гэтага верхняга мы ўклалі ў сабор. Можа, прыцішыць трэба?

— Ой, не! — спалохана ўсклікнуў Нікан і сказаў ціха і горка: — Гэты сабор, як я марыў, стане выказванем толькі чыстага горняга духу. Я не пушчу туды нічога з жывёльнага, што ёсць пры мне і людзях... Я загадваў табе падціскаць два пальцы. Бачу, вельмі мала таго, каб прыціснуць чорныя сілы. Можа, і дзіцячая забаўка. Бо як мы ні імкнуліся... Як гляну на гэты сабор — то адразу ўяўляецца мне сука-змяя ў шапацячых шаўках, яе зменлівая ўсмешка — толькі адзін падман бачу зараз у ёй. І хачу дакрануцца да гэтых змяіных вуснаў... Неадольная цяга... Я баюся, што і ў кожнага чалавека, які будзе ля гэтага храма, з'явіцца такое ж пачуццё... Не да горняга духу ён памкнецца, а да гэтай...

Старац Арсеній глядзеў на сабор яшчэ больш пільна. Нават клаўся на штабель цэглы, вымаў зноў люстэрка, трывожна ўглядаўся і не знаходзіў хібаў, пра якія казаў Нікан.

— То, відаць, вялікі гасудар, ты намнога перабольшваеш. Я не магу знайсці такога нізкага, як ты кажаш. Трэба прыняць пад увагу, ці такое ўжо нізкае ўсё ў той жанчыне? Я асабіста не магу сказаць. Ты, вялі-

кі гасудар, залішне грызеш сябе сумненнямі. Як мне здавалася і здаецца, жыццё больш цнатлівае, чымся чысты горні дух. Колькі жыцця паклаў гэты горні дух, а колькі яшчэ знішчыць? Ці варта прыносіць яму гэтулькі ахвяр? Я шмат думаў пра гэта, вялікі гасудар, і не ўпэўнены, што ўсе нашы думкі і пачуцці павінны быць накіраваны на здабыванне горняга духу. Бо дзеля гэтага горняга духу ўсіх людзей можна вынішчыць. Я думаю, што змаганне за чысты горні дух прыносіць больш шкоды. Вышэйшы дух павінен быць людскім...

Але не слухаў Нікан вялікага дойліда, які так красамоўна і доўга гаварыў, можа, першы раз за жыццё. Нікан узбураўся ўсё больш і больш.

Ото — сука-змяя! І прыгнала яе на пагібель!

Масква разрывалася ад плётак аб ім, Нікане, бушавала, што тыя наўгародцы. Лілі столькі бруду, што хапіла б на цэлую дзяржаву. І болей за ўсіх мянташылася княгіня Ядвіга. Хоць бы пераспаў з ёю. Нібыта ён дабіваўся яе, валяўся ў нагах, вымольваў каханне, не шкадаваў нават сваёй свяцiцельскай шапкі за шэсць тысяч рублёў. А яна адмовіла яму, дала аплявуху — Нікан з'еў і зноў валяўся ў нагах...

Сука-змяя! Як сэрца чула. Яна зрабіла апошняе ўдасканаленне яго душы і яна, як біблейская рыба-кіт, заглынула яго душу. Нельга было абысціся без гэтай жанчыны, а ўпусціўшы яе ў душу, трэба рыхтавацца да смерці... Во якая дурная і дзікая ісціна, якую ён не мог прадугледзець. Дакладней, адчуваў, але на вяршыні ўзнёсласці не лічыў гэта сур'ёзным, не мог дапусціць, што менавіта тут тоіцца крах, які ўсё жыццё ён абыходзіў, рабіў выгляд, што і знаку няма такой з'явы...

Нехта зламаў іголку душы — з таго яйка, што было клапатліва захавана. А можа, ён сам, як то робяць

страшыдлы, пра якія казаў стары лацініст, прывязваючы адзін канец вяроўкі за нагу, а другі за дзетародны член. І — канец.

Ён спрабаваў яшчэ раз за разам сцвердзіць сябе. Даваў волю бушаваць свайму целу, як было раней, штучна ўзбуджаў яго, каб яно ўзгарэлася, узнялося, расхрыснулася на паўнеба найгарачэйшым агнём-полымем. Каб было як заўжды, калі ён весела, здзекліва і грымотна перайначваў лёс і свой, і людскі. Не зашкодзь! Але ж... Можа, не хапала ўнутранай сілы ці нешта збоку, нейкія іншыя больш магутныя сілы холадна, са здзекам, паглядвалі на яго...

Ездзіў у Маскву мірыцца [illegible] царом — і не быў дапушчаны да царскіх вачэй. Нахабна ўвайшоў ва Успенскі сабор Крамля, каб зноў стаць патрыярхам.

«Раптам загрымелі паўночныя дзверы, і ў царкву з шумам рушыла шмат людзей; паперадзе ішлі «напралом і з вялікім бясстрашшам» людзі ў «служылым адзенні», за імі старцы, за старцамі неслі крыж, а за крыжам ішоў патрыярх Нікан з кіем у руцэ. Крыж паставілі ў царкве ля Спасава абраза, супроць патрыяршага месца; а Нікан узышоў на патрыяршае месца і аддаў свой кій аднаму са старцаў, узяў кій святога Пятра, што там стаяў...» Правіў службы як патрыярх. Але ўзгневаўся цар Аляксей Міхайлавіч незвычайна, устрывожыўся ўвесь Крэмль — нібы воўк трапіў у псярню, усчаліся такія валтузня і лямант, што «Нікан узнегадаваў і, схапіўшы кій свяціцеля Пятра, хутка спусціўся з патрыяршага месца і, ледзьве пакланіўшыся іконам, бягом выйшаў з храма».

Аднойчы Нікан, пераапрануўшыся казаком, спрабаваў збегчы ў Літву, але царскія стральцы перапынілі яго і вярнулі назад.

Памёр любімы майстар Заборскі, і ніхто не мог пакіраваць будоўляй велізарнейшага шатра над ратондай. І той застаўся недабудаваным. Гэта Нікан пастаянна адчуваў, нават калі не бачыў шацёр. Магутна ішлі думкі — падымаліся знізу, ад самай зямлі, імкнулі ўгору, але раптам заміралі, абрываліся на самым абрыве руху ў неба шатра. Вышэй была пустка, нішто. Найвялікшая яго намысленнасць не знаходзіла завяршэння.

Уява і сны згубілі прароцкую моц. Нікан не хацеў прызнаць, што стаў звычайным чалавекам. Ён пнуўся вярнуць мінулыя прароцтвы. Але калі яны ўзмоцненым токам і пачыналі кружыць у ім, то гналі яго жыццё ў адваротным кірунку, у такое агаленне...

Ото — сука-змяя! Трэба ж — бразнуў Захад аб Усход!..

Але Нікан знаў — гэты крах пачаў рабіцца значна раней, чым прыйшлі майстры. У часы Смуты. І яшчэ раней... «Русь, навошта табе захацелася нямецкіх учынкаў і звычаяў?» Даўно сталася. Нешта пагнала яго, Нікана, з далёкай мардоўскай роднай вёскі. Ніякія то не людзі з Белай Русі. Самім захацелася. Ды так моцна — нішто спыніць не магло. Праз усе перашкоды! Адмянілі, адкінулі ўсе абмежаванні, забароны, забабоны. А ён, Нікан, асвячаў гэты бруд, імкнуўся ахінуць яго неўміручым і высокім верхнім небам. Ён сам верыў, што робіць святасць. Нават калі жонку сваю каханую саслаў у манастыр, дзе яна так мучылася — на смерць, на пагібель зняволіў...

Усё яго верхняе неба — лухта і зман! Быў ён не лепшы ад тых хцівых купцоў, што матку родную прададуць, абы прыбытак, абы звінелі грошы. Грошы ў яго не звіняць? І грошы звіняць, яшчэ як! Ні ў якога баярына няма гэтулькі прыгонных вёсак... І Авакума ён прадаў, і Паўла, мітрапаліта каломенскага, і многіх ін-

шых, каго закатавалі, саслалі ў Сібір, бо яны яму заміналі. Не Русі. Яму асабіста — вырвацца на гэтую вольную купецкую прастору. Ён жа дрыжэў ад прагнасці. Гэтыя мітры, дарагія рызы, вёскі з мужыкамі, манастыры... Усё болей і болей! У яго нечуванае самалюбства... Ён лічыў, што павінен быць самы першы і найпершы!.. Толькі адгаворка, што Бог, а за ім і патрыярх павінны быць найпершыя ў дзяржаве. То асабіста яму патрэбна было, як таму купцу, каб ніхто не замінаў дзешавей купіць, у тры разы даражэй прадаць. Вось ад чаго смерць яго — ад гэтай ганебнай купецкай сквалыжнасці...

А сабор ён ставіць... Каб высокім прыкрыць свае чорныя справы...

Смерць — то лепшае выйсце з такога становішча...

Не азірайся!

Канец.

## 30

Яшчэ цёмна было, ён накінуў чорную старую расу і выйшаў з сабора. За ім павалокся Нікіфар, незадаволена буркатаў, што ўскруцілі сярод ночы. На двары была густая дзягцярная цемень, яна лезла ў нос, вушы, вочы, забівала валасы, абмотвалася, што ціна, вакол пальцаў, ахінала цела. Ліхтар са свечкаю, што нёс папярэдзе Нікіфар, хутка перастаў свяціць, бо забіўся мяккімі густымі пасмамі. Не прайшлі яны і пяці крокаў, як прапаў сабор, невядома, у якім ён баку. Яны выйшлі ў цёмны, змрочны, бязлісты лес, скрозь каленчатыя галіны прасвечвалі яркія зоркі, недзе далёка на высокіх пагорках узнімаліся вычварныя замкі. Вочы прызвычаіліся да паўзмроку, і можна было бачыць, што ў гэтым лесе там-сям стаяць каралі. Хто ў кароне, хто ў мітры, а хто і ў бабровай шапцы-вушанцы. Па ад-

ным, па два, тры. Кожны быў дастойны і высакародны. Той-сёй трымаў на выцягнутых руках зіхатлівыя дзіўныя паўсферы, але не заўсёды пад шклянымі паўкапамі разгортваліся вясковыя ідыліі з пейзанамі і пейзаначкамі, прыгожанькімі кароўкамі і авечкамі. Дзе-нідзе пад шклом скакалі цэлыя атрады коннікаў з пікамі, грымелі гарматы, выпускаючы клубы дыму, як з цыгарэткі. А былі такія каралі, што паглядвалі за алькоўнымі прыгодамі сваіх фаварытаў і весела, смачна хіхікалі.

Нікан заклапочана шукаў некага ў велізарным лесе. Нарэшце ўбачыў і падышоў. У таго караля, як і ў Нікана, быў просты сялянскі твар, грубаватых невыцвічаных формаў, але кароль ён быў, як і Нікан, законны. Трымаў на выцягнутых руках нейкую плоскую, змятую вялікую бляшанку, ад якой зыходзілі рэшткі слабага ззяння. Нікану стала шкада паўсферы.

— О, брат мой ласкавы, навошта ты так?

Чалавек узняў вочы — у іх скакалі чорцікі, акурат як у вачах таго Сцяпана Палубеса.

— Ведаеш што, брат мой ласкавы: не стрымаўся. Яны там не раз памянуць мяне як ваўкалака, бо я і быў такім усё жыццё. Бавіўся гэтымі механічнымі жалезнымі цацачкамі, што яны толькі і вартыя ўвагі. Але раптам... Як табе, ветлівы брат мой, і сказаць? Уразумеў адну простую ісціну. Гэтыя чалавечкі, аказваецца, валодаюць немагчымай духоўнай бясконцасцю. Разумееш? Пачуццём найглыбейшым, думкай найшаноўнай. Музыка, вершы, дзіўныя, прымхлівыя звівы душы...

Уздыхнуў Нікан.

— Праўда, шаноўны брат мой. Прыкра. Кніжнікі мы. Нядобра людзі пра нас кажуць: «І якім бы розумам яны ні валодалі, амаль усе яны, ап'янелыя ўласным напышлівым красамоўствам, адурманеныя сістэ-

мамі і адцягненымі паняццямі, забыліся на сапраўднае жыццё, а гэта вельмі небяспечна...» — Памаўчаў крыху.— Спагадлівы брат мой! Ёсць адно далікатнае пытанне,— сумеўся, але падняў галаву і сказаў, як заўжды, проста і адкрыта: — Дадзена мне была прароцкая моц, але аднойчы згубіў яе, таму дакладна ведаць не магу. Ды ўсё пра тую жанчыну немагчымага відовішча... Не дагледзеў, прапусціў... Што выйшла з гэтай гісторыі? Сэрцам чую: нядобрае, каюся!

— О, брат ласкавы мой! Ты каешся, а што мне казаць? Бяда! Бяда! Невядома, што і рабіць. Усе мы заднім розумам моцныя...

— Тое і яно, шаноўны брат мой, тое і яно! Але скажы...

Нетаропка ідзе гутарка. Там часу многа, і можна гаварыць бясконца. Ах, якія нечуваныя ісціны можна адкрываць! Вечны паўзмрок, вечная прахалода...

Чутно далёкае рыпенне колаў — недзе па ўскраіне лесу рухаецца абоз, палахліва адбіваецца на дрэвах дрыготкае факельнае полымя. На вазах разнастайны струмант, няхітры хатні скарб, сядзяць жанкі, дзеці, крочаць каржакаватыя барадатыя людзі — майстры. Шлях нядоўгі — да падмаскоўнага сяла Каломенскага, там у царскім двары стаяць ужо сцены новага драўлянага палаца. Цар Аляксей Міхайлавіч спадзяецца, што беларускія майстры, якія выбудоўвалі Нікану Нова-Іерусалімскі манастыр, здольны вырабіць з палаца восьмы цуд свету. Восьмы — дык восьмы. Што майстрам — што загадаюць, тое і робяць...

## 31

Рыпяць колы.

Я зноў сядаю на воз да старога лацініста — у яго вечны рух. Хто ведае, дзе гэта? Шлях. Можа, і сібірскі.

Вялікая Расія! Стары лацініст недатычны і прамы, што зямная вось, у выцвілых вачах — безупыннае колаварчэнне ісцін. Доўга маўчыць.

— Ісціны, ісціны,— кажа, нарэшце, буркатліва.— І не проста ісціны ім давай, але ісціны-палёты, ісціны-галопы!.. Куды рвецеся? Вы ж бачыце, што здараецца ад такога дзікага галопу. Вы ўжо дакаціліся са сваімі ведамі да таго, што здольны спаліць увесь зямны шар. Ніхто не здолее ўтрымаць вас ад такой катастрофы, акрамя сэрца. Але вы забываеце на яго. Пра сэрца думайце! Ісціны — потым... Узвышайце сэрца!

Рыпяць колы, палахліва дрыжыць факельнае полымя.

Сэрца, сэрца, сэрца, сэрца...

# ЗМЕСТ

Говар В.

Г57 Пялёстак і крышталь. Раман/Маст. У. А. Бойка.— Мн.: Маст. літ., 1990.— 309 с.: іл.

ISBN 5-340-00425-2.

Говор В. Лепесток и кристалл: Роман.

Цяжкі саборны звон б'е з мінулага. Наш імклівы навуковы і тэхнічны век адчувае яго прызыўныя ўдары... І наша мінулае — з намі. Не на шкоду руху ў будучыню, але ў развіццё і ўзбагачэнне.

Такое біццё думкі і пачуцця мастацка-гістарычнай і публіцыстычна-мастацтвазнаўчай кнігі Віктара Говара. Аўтар займальна расказвае аб гістарычных падзеях XVII стагоддзя, аб жыцці і рамястве вядомых беларускіх майстроў таго часу.

Г $\frac{4702120201-103}{М 302(03)-90}$ 9—90 ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

ГОВОР Виктор Антонович

ЛЕПЕСТОК И КРИСТАЛЛ

Роман

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

ГОВАР Віктар Антонавіч

ПЯЛЁСТАК І КРЫШТАЛЬ

Раман

Рэдактар А. П. Рыбак. Мастацкі рэдактар М. Я. Шкурпіт. Тэхнічныя рэдактары М. Ц. Папкова, Г. П. Тарасевіч. Карэктар Т. В. Трубач.

ІБ № 3219
Здадзена ў набор 25.08.89. Падп. да друку 19.03.90. АТ 01575. Фармат 70×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 13,65. Ум. фарб.-адб. 14,01. Ул.-выд. арк. 13,54. Тыраж 13 400 экз. Зак. 2868. Цана 1 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная. 23.